# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ

ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ
САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ Б. С. С. Р.

**КНІГА ПЕРШАЯ**

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК 1933



**Міхась Лынькоў**

# СЬВІТКА

(апавяданьне)

— Ну, дык пішы!

— А што будам пісаць?—і дзелавод Мартын прывычаеным рухам высунуў шуфлядку стала, доўга поркаўся, шукаючы сярод старых казённых блянкаў чыстага кавалка паперы, і знайшоўшы марудна, бяз сьпеху, разгладжваў шурпатай далоньню пажоўклую, сатлелую па краёх паперыну, саскроб прыліплага да яе даўно высахшага пруса, абмакнуў пяро, паспрабаваў на кіпець. І ўрэшце прыняў той звыклы для яго выгляд, калі наведнікі-сяляне прыціхалі свае бясконцыя гутаркі,—аб зямлі, ільне, аб калгасным то клопаце,—і падміргваючы да начальніцкага стала, усьміхаліся ў рудыя, шэрыя, як жыцейка тое неўрадлівае, вусы...

— Ціху хіба... пісар піша...

— Увага, Мартын піша...

Зязюлясты наярвае...

І сапраўды, ня піша Мартын—імшу правіць. На паперу дзьмухне, вокам здалёк зірне, скасавурыцца, падмагне языком:—«нешта літара і ўтрапёнаю скача»—і старанна, з націскам пастаўўшы кропку, такога фэрта пяром закруціць, што другога хлапца якога аж у скокі пацягне.

— Ну й піша... важнецкі піша... Другі гэта тырк-пырк, як верабей з канапелінай, а наш Мартын, уга... з розумам піша, з паняцьцем... Дзіва-то, яшчэ калісьці ў міравога ці то земскага за паганятага быў...

— Якога там паганятага... Ён, брат, казённыя пакеты разносіў... Тады-ж і да пісаньня прызвычаіўся.

Мартын сядзіць, насупіўшы бровы, чакае. Натапыраныя вожыкам валасы. Востра напятыя плечы. Мутнаватыя з старэчай асьлізласьцю вочы ўглядаюцца ў куток стала, дзе—от падшываньцы-ж ліха на іх,—няйчай нясьмелай рукой накрэмзана, не шкадуючы казённага атраманту, такая-ж зьнявага: «Мартын, зязюлькін сын». Мартын саскрабае кіпцем «сына» і старанна перарабляе Зязюлькіна на Зязюлястага. І раптам страпянуўшыся, кідае праз плечы глухое і выжыдальнае:

— Ну?

— А ты, брат, ня нукай... Ты от скажы раней, куды ты паперу падзеў, тую, што з Рыка прывёз з надоечы, чыстую... Колькі то было, а цяпер зноў на ашмотках пішам. Ізноў хіба на сшыткі пусьціў ці на курава?

— Як сказаць, пане—старшыня... Па-першае, не ў паперы справа, а ў жызьні, можна сказаць. А жызьня...

— Пашоў, пашоў...

— А жызьня, я кажу, ня мудрашчая...

— Ты мяне на агітацыю не бяры, я сам стрыжаны...

— А па-другое, ты можа на чыстай паперы халодны бюракратызм разводзіць будзеш, лічбіны тыя прастаўляць, а дзіця—яно напіша з паняцьцем, папера яму ў навуку пойдзе... А па-трэцяе, калі й на курава: з чыстай паперынай і самасей куды духавістая табака...

— Ты пагавары ў мяне больш, я ўжо навучу цябе акуратнасьці, спрыту... пішы от...

Старшыня ходзіць па пакойку сельсавету, і крокі яго важкія, мерныя. Ды сяды-тады спатыкаецца аб сукаватыя гарбылі масьцін, то думае старшыня. І ў Мартына сваё: «Думай, думай, Костка, чамярыца цябе вазьмі... Ні табе будзён, ні табе сьвята, то-ж чалавек неўтаймованы... Цяпер пад ячмень бы ўзараў, а тут сядзі з табой, з міністрам сельсавецкім»...

— Та-а-а-к...—дыктуе старшыня...—У Рык, значыць... копію ў Райком... Рапартую, гэта я, значыць, Костка... Т-а-а-к... Што пасеўная ў разгары... Калгасы, як сьлед... Ёсьць, праўда, калгасьнікі, якія бузуюць... І нядоімка, можна сказаць, поўнасьцю спагнана... Пішы, на сто працантаў,—гэта па падатку... Рублёў, можна сказаць, на якую сотню рэчаў тых, барахла адабралі за нядоімку... Сьвітку—на тры рублі, андаракаў колькі ды іншага чаго з амуніцыі. Таму ня плацяць, іншыя, калі жыўцом ня возьмеш, дык ён табе траяка якога няшчаснага і таго не аддасьць... А возьмеш—у зубах прыцягне. Таму акуратнасьць, дысцыпліна павінна быць і ніякіх... Пастой, пастой, ты, брат, там пра амуніцыю ня дужа... Пра сьвіткі ня пішы... Дужа там у галаў каму андаракі гэтыя... пішы наогул і ўсё тут... Т-а-а-к... яно, брат, акуратнасьць, дысцыпліна... А ежалі...

— Ну, дык хіба падпісвайся!

Не сказаць, каб любіў старшыня падпісвацца. Бо было гэта ў труд. І расставіўшы крыжыкамі ногі, грамоздка нахіліўшыся на стол, Костка старанна выпісваў кожную літару паасобку—сваё прозьвішча.

— Т-а-а-к... Фамілія ў мяне цьве-ё-рдая... з дысцыплінай... акуратнасьцю... Сказаў і кропка.

— А мне што, абы падпісана... От я на яе нумярок.., на тваю цьвёрдасьць... Па сакрэтнай хіба?

— Гані так!

— Вялікі, то клопат...

Сказаць, каб то Восіп жалкаваў, дык не.

Узялі, ну дык і ўзялі—дзе-ж ты дзенешся. Ізноў-жа дзяржаве плаціць трэба. Бяз гэтага не абыйдзешся. Таму, па закону ўсё. Раз ты супроць, дык не цалаваць-жа цябе. Ды й, скажам, свая дзяржава, павінен кожны разумець, што і да чаго. Ды й толькі таго клопату, падумаеш, сьвітка... Дзе яна дзенецца, аднясу траяк—насі на здароўе.

І калі жонка, завіхаючыся ля чыгуноў, прабубніла, ачмурыла голаў, Восіп вінавата, нібы нехаця, апраўдваўся.

— Ну, сьціхні ты... Ну, дай-жа рады... І цана ёй у красны дзень мо' траяк які...

— Як жа... У цябе траякамі хата клеяна... Траяк... Вось трасі цяпер пузам перад людзьмі, ня бачылі закарэлага...

— Дужа там...

— От табе і дужа... У людзей, як у людзей. А ў цябе ўсё навыварат. Калгас, знацца... Паспыталі, наеліся... Як-жа, расьпяразвай пуза... Няшчаснага таго траяка, дзесяць раз заробленага ня могуць даць табе, каб нядоімку тую старую аднесьці... К-а-л-гас... У-у... зышоў бы з воч, папусьцішель ты мой...

Як распачалася зьвяга ад самае раніцы, дык от таўчэ і вярзе, і супынку таго нямашака. На парасятах і на тых злосьць спаганяе— «аюсь вас, шалудзівыя... па гаспадару ўдача»...

Зьлявагі такой ня зьнёс і, бразнуўшы клямкаю, пасунуў на двор, на вуліцу. І ў думках: «яно, канешне, мае баба некаторую рацыю... Траяк ён і ёсьць траяк, нявелікія, можна сказаць, грошы... і прасіў-жа колькі, просам прасіў у калгасе: да дайце вы драбязу гэтую, каб ня лезьлі сьліцаю ў вочы сельсаветчыкі. Дык дзе там... «Ня лезь»—старшыня кажа—«з дробязьзю ты гэтай... От падлічым, тады ўсё, што належыць, і мець будзеш. Парадку не парушай з траяком сваім». От табе й траяк... Зьняславілі, збэсьцілі...

Дзе гэта відана, каб за гэткае глупства ды перад дзяржаваю прыступнікам быць... ды людзям у вочы глядзець сорам...

Сядзеў і разважаў на прызьбе. Пахла ад яе прэлай кастрой, кіслай асінай ды леташнім лісьцем кляновым, што нападалі за восень, зьлежыліся, счарнелі. Поўзалі пад імі казюркі чырвоныя, бегалі, сыходзіліся парамі...

— Вясну чуюць... Сонца... А сказаць—насякомае...

І ўвачавідкі шэрхла зямля пад сонцам, курылася за гародамі, ды шарэлі стрэхі гумён, пасьцілаліся параю. Нібы дым от той, што па восені, з ёўняў. Стары певень пясок карпануў, мармытнуў нешта сваё, курынае, незразумелае і ўставіўся вокам шкляным, нязьмігнёным. Глядзіць, дзівіцца, чырванее грабянямі абвіслымі.

— А кыш ты, пудзіла... бач ты, лупаты...

А з хаты: «папусьцішель ты мой, яму певень пашкодзіў». І шкода зрабілася сябе. Да чаго-ж шкода. Аж плюнуў, у самую каляю патрапіў, што разбэхалі вуліцай, возячы гной. Трохі нібы палегчала.

І можа яно абышлося-б усё ціха ды любамірліва. Можа і жонцы напрыкучыла-б языка мяньціць, калі-б пабег наўцёкі які гаршчок у печы і кінуўшыся да яго, узгадала-б яна пра сьняданьне, узгадала-б і сэрцам адышла. Бразнуўшы ў шыбку, паклікала-б:

— Хадзі ўжо хіба, сербані чаго.

Дык не... Трэба-ж было ў гэты час куму патрапіць старому, колешняму, шчэ за царом пупла хрысьціў, да папа вазіў. І скуль яго ліха ўзяло, гэтага крывога Сабасьцяна.

Шоў Костка, і крокі яго былі важкія, размераныя. Важкія крокі, а дарога ўсё-ж нібы бегла, пасьцілалася пад ногі—лёгкая была хада, спрунжыністая.

То засталося ў яго 'шчэ ад арміі, ад дваццатага, ад чырвонае коньніцы. Як і зялёная гімнасьцёрка—шанаваная памяць—якую адзяваць хіба толькі ў сьвята, у дні такія выключныя, перад якімі сорам у звычайнай адзежыне, у барахле тым будзёнашным. Праўда, прыстол сёньня. Як ніяк—опіум...

Але каму прыстол, а мне пленум сельсавету праводзіць трэба. А для пленуму не шкадуй гімнасьцёрку...

Звычайная гімнасьцёрка, а колькі з ёю успамінаў. У вольную хвіліну Костка і раскажа, аб чым толькі не нагаворыць:

— Эх, бра-а-т... дз-я-л-оў было, ну й дзялоў... Па конях, бывала ды «полк, а-а-аррш....», ну і пашло крышыць, пашло паварачаваць... Балаховічу, Калчаку ілбы мацаць. Дзялы-ы...

Ішоў Костка, у суседнюю вёску сьпяшаўся, на пленум. Насустрач народ трапляўся—старэнькія бабулькі замшэлыя, бабы, дзяўчаты. Дзе ні дзе траплялася мужыкі, «днём добрым» віталіся, з старшыні жартавалі:

— І куды цябе, непаседу, так рана ліха гоніць?

— Мяне? Мяне то от у сельсавет, пленум-жа мы ў вас сёньня праводзім... А вось, куды вы?

— Гэта, канешне... Дзялы твае начальніцкія, гасударственныя дзялы, брат... Нам што... Мы от на прыстол, нам, старым, на папа глянуць ды чарку, скажам, там добрую—усе нашы і справы...

— Справы жа вашы—з старымі бабамі лапці чырыць. Унь колькі іх і вас колькі... Пасядзелі-б лепш, паслухалі, аб чым сёньня гаварыць будам...

— Уга! А што вы, маладыя, рабіць будзеце тады?..

Што ты з імі, старымі, гаварыць доўга будзеш, хіба зговорышся. І разыходзіліся. Старыя думкамі перакідаліся, думкамі важкімі, як снапы, ды, як стары бор абамшэлы, глухімі, закарэлымі нягнуткімі...

— А ты не кажы... Хлопец акуратны...

— Што казаць, з галавою хлопец, дзялок—чалавек...

— Справядлівы, галоўнае... Што ўжо што, а справядлівасьць ён любіць, 'шчэ як паважае...

— Добрая справядлівасьць—у чалавека вунь апошняга коніка адабралі, з гаспадаркі выкурылі...

— Эге-э... куды ты хапіў... Ты, брат, не абараняй... Хоць і сват ён табе, але-ж выжла быў, сусьветная выжла... Колькі то ад яго паплакалі...

— Ды што там... Талковы чалавек Костка... Гарачы, праўда. Калі што, дык хоць ты запалку да яго, загарыцца... Калі дапякуць яго, дык адразу: «Руржжы ў козлы і ніякіх гваздоў... Выбіралі—скідайце»... Га-а-рачы... Але-ж і адыходлівы. Накрычыць, накрычыць і адыйдзе...

А ў Косткі былі свае думкі. Аб прыстоле, аб гарачай вясьне, аб вялікіх нязьежджаных межах. Не аб тых, што толькі на полі. Падаліся тыя. Шмат з іх зруйнавалася. Але ёсьць яны, межы, і другія.

Ідуць, плывуць яны, межы, жывыя, па дарогах, па днёх тых сьвятошных ад хат старых да згрыбелых царковак, пасьцілаюцца гэтыя межы старымі прымхамі ды забабонамі, злыбядою старою, якая лезе на дыбкі з новым, упіраецца, праўляе свой голас. Унь вазьмі старых баб... Даліся яны ў знакі Костку, калі той на царкву наступіў, прыцісь папа за хвост... Праўда, пагарачыўся тады Костка, сёе-тое зрабіў ня так, і шыю намылілі—законнасьць парушыў... Няхай... Але-ж бабы, шабеты старыя...

Завязаў-бы ў торбу ўсіх ды ў пролубку... А то за мяжу: ці ня трэба вам сушаных... У Францыю, скажам, на расплод, балазе француз на расплод ня здольны...

Сердаваў на старых...

Толькі неба копцяць, порхаўкі...

Быў Сабасьцян вясёлы. І тварам шырокім, барадою—лапатай, як сонца тое ў дзень ясны, пякучы. Праменіцца аж барада, рудая, агнявая. І голас той:

— Га-га-га... Хо-хо-хо... Ці не ад бабы—упрочкі падаўся? Людзі добры то ў царкве, людзі добрыя то за бліцамі ў хаце, а ты, куме, прызбу сушыш. Ды пазіраеш так, нібы кабылу ўкралі.

І на табе, вытыркнулася, у вакно тое замурзанае:

— У яго, кумок, ня краўшы—выкрадуць... Ён жа і атопка таго ня варты... У людзей, як у людзей, а ў яго апошнюю сьвітку ўзялі...

— Ат жа, згары ты з ёю, засіліся ты з сьвіткаю тою...—і да кума:—Пойдам, брат, не магу... Без нажа рэжа... От да самага горла так і падступае...

І пасунуў Восіп. Як быў бяз шапкі, без апранахі, так і пашоў. Балазе кумава хата блізка. Дапякло ўжо занадта, растрыбушыла. Ня сьвітка тая дапякла, а зьвяга тая жончына ды позіркі тыя людзкія, што чулі.

— Кожная костачка аж трымціць, як тым шылам прастромлена, жалезам прыпечаная...

— Та-а-ак... Не кажы... Жызьня, брат...

Вясёлы кум Сабасьцян. Рудая барада агнявая двaіцца, праз зялёнае тое шкло праменіцца. І на валісінках тых агнявых сонейкі коцяцца—у кроплях тых ды з-пад чаркі што на шырокае логава рудае, кашлатае, капаюць. Аж прыжмурыў вока Восіп, бо яно замуцілася.

— Пацалуймася, брат!

— Як сказаць...

— За бараду, брат, тваю пацалуймася... Таму—дужа яна гарачая, зыркая...

— Не ў барадзе, кум, жызьня... Барада што, на яе і плюнуць можна... Яе і абстрыгчы можна... І вырваць і абскубсьці... І скубуць, брат...

— Уга, 'шчэ як скубуць... Ск-у-буць і дыхаць не даюць—згадзіліся госьці Сабасьцянавы. Паважаныя такія госьці, саматныя... У хаце хіба. А на людзях—лісьлівыя, галасы шапаткія, мядовыя,

парным лісьцікам да цябе прыліпаюць. Прыстольныя госьці Сабасьцянавы.

— Так, брат, не ў барадзе...

— Канешне, куме, ня ў ёй... У цемрадзі, можна сказаць, нашай, праз яе марнеем,—сказаў Восіп і задумаўся, галаву нахіліў на край стала і ўсё дзівіўся, чаму гэта твары людзкія ды такія выцягнутыя, як лычы тыя. І от зыбаюцца ўверх, уніз... Расплываюцца плямамі...

І аднекуль здалёк, здаецца, чуецца голас, гундосіць:

— У цемрадзі, кажаш? Як сказаць... Быў калісьці ў мяне млынок і няма млынка... І коняй парка была—дзе ты бачыў яе цяпер... А стаеньнікі былі... Лейчыкі тыя ўмэнт напал, напужай, дык усё ўдрабязіну... І ўжытку таго—і ў засеку і ў хляве... На ўсе паставы, можна сказаць, жызьня йшла... А ты—це-емрадзі... Не, брат, ня тут загвоздка, ня тут, браце, зашчапкі тае шукаеш, ня тут яна адмыкаецца... Праўду не ў барадзе шукай і ня ў цемрадзі...

— У сельсавеце яна,—падказаў нехта.

— Вось гэта дык так... Патрапіў, дацяў... У самы раз нацэліў.. Яна там шылахвостая...

— І дзе там, курта-а-тая.

— Сельсавецкая...

І пашло—хі-хі-хі, ха-ха-ха... і пад самаю стольлю гудзела яно, разьлівалася. Ды як коні тыя стаённыя—што вожкі ўмэнт—го-го-го, гі-гі-гі...

— Го-го-го... Сельсавецкая... куртатая... Як сьвітка твая, небарака.

Пачуў. Раскалупіў боль, адвярнуў яго з мясам, нібы прыскам тым прыгарнуў, апаліў—аж засмылела ў душы, сэрца сьцялося, спраглося, зьбеглася сукравіцай кроў, зьмерзлася, аж жылы нібы храснулі.

Кулаком па стале. Дзынкнулі шкляпкі, пераміргнуліся госьцейкі—«дзівіся ты на яго!»

— Пайду шукаць!

— Сьвітку?

— Праўду пайду шукаць. Знайду!

— Гэта ты верна... Шукай, брат, падмогам... Го-го-го... падмогам... Мы, брат, шмат каму падмогаю служым...

І пашлі шукаць. Ці то сьвіткі тае, ці то праўды тае. У сельсавет, да Мартына таго Зязюлястага. Ішлі—і ішоў рогат той гогат па вуліцы, галасы шырокія, разьліваныя, загагаістыя. І думкі: і шырокія, і цьмяныя, як вечары веснавыя, глыбокія, хмялявыя. Ішлі, гаманілі.

Прыслухаўся народ да гоману, прылучаўся народ, прыстольны. Прыстольныя думкі, як сьляпое мярэжава—дзе ты іх разблытаеш, дабярэш канца. Бабы пра андаракі галасілі, пра тыя, што ткаліся ў дванаццаць нітоў—«гэтакую-ж шэрсьць на ўток, колькі тае воўначкі спляжыла»... На дванаццаць нітоў, а ўзятыя за траяк... «Ім што ...ня іхныя рукі ткалі, ад ніткі тае пальцы ня смылелі... Ня іхныя сьпіны сугорбіліся, ня іхныя ногі плюскатыя ад панажоў, ня іхныя вочы сьляпіліся начамі восенскімі, зімавымі... Ім што... Нашармака»....

Бруілася злосьць. Расла. Сьпела. Высьпявала і лопалася пухірамі—чорнымі, злавеснымі, атрутнымі. Бо паілася і карміласяі ўзыходзіла

на дражджох тых хмельных, агнявых, на прыстольных дражджох, на сьвятошных. І кожная кропля крыўды ўздымалася хваляй, агалялася зіхцянаю ранай. І кружыла галовы. Ды подшапты тыя, як калючкі разучыя: «Вось яно, прычакаліся». «Апошнюю скуру зьдзяруць, абрасьцеш, і тую здымуць...» «Айда да іх».

Прышлі. Гурмаю ў дзьверы рынулі. На парозе спыніліся. Сядзеў Мартын Зязюлясты на месцы сваім, перад ім чарнільніца, у руцэ асадка, і сам ён такі шэры, будзёнашны. Пытае:

— Чаго?

— Піша Мартын, наярвае сукін сын...—прашло пошаптам па радох, ды да Мартына:

— Халера-б на цябе, пішаш? У сьвята, можна сказаць?

— Пішу. А што?

— Бач ты яго, што... штокала—то бабскія галасы, візготныя, задзірыстыя.

Маўчалі. Нязрушна крыху было. Не з гаманлівых Мартын, вочы яго ўсё ўнутраныя, глядзіць на цябе, а думае, здаецца, аб сабе.

Сьвежы вецер па тварах пашлыкатаў. Мільганула думка тая ў Восіпа.

— Як-жа гэта будзе?

— А з чым?

— З сьвіткай як яно будзе?

— З праўдаю, з андарачнаю, каго апранаць будзеш?—бабы далі, замітусіліся.

Устаў Мартын, ад стала адышоў... Асадка ў руцэ. Важнецкі гэтак, паважна:

— Грамадзяне! Па-першае, як ёсьць я должнасная асоба, дык ня турбуйце мяне. А па-другое, знаць я нічога ня знаю, ведаць ня ведаю... А па-трэцяе, апячатана сьвітка, за пячацямі яна цяпер... Ізноў-жа і андаракі... Па-чацьвертае, ачысьціце зараз-жа памяшканьне... І па-пятае, пашлі вы да ліхой матары.

Сказаў, як адсек.

— Ну й адрэзаў!—заварушыліся ды на вуліцу. Дзе-ні-дзе сьмяшок прасьлізнуў.

— Гэта, брат, загнуў!

— Ён скажа, ён чалавек адукаваны. Усё па парадку: і першае і другое... Не гаворыць, а паперу піша... Дужа ў яго акуратныя паперы выходзяць...

— Не ў паперах справа...

— Ты пра паперы не гавары... От бы памыліць шыю Мартыну, тады-б ведаў... альбо ў дыхавіну...

— Хто гэта-б ведаў? Каторы гэта там?

Рудая барада і на ёй сонца вячэрняе. І плюскаты твар з весялушкай—кірпацінкай. І словы такія—ліплыя, мядовыя.

— Вы што гэта? Каб бунтаваць? На Мартына ісьці? Пры чым Мартын? Ён чалавек гасударсьцьвенны, ты гэта разумей, міл-чалавек, га-а-су-да-а-рсьцьвенны. Ты яго паспрабуй, крані... Вялікі яму клопат пра тваё спадніцы каторыя... Падумаеш,—спадніцы...

Ї цішэй—сюды, туды:

— Калгас, мiл-чалавек... от яно дзе...—а сам ды госьцейкі тые бачком, бачком—дзе ты вечарам убачыш—і падаліся да хаты па вуліцы. Нібы хто сугорбіў іх, ногі падбіў. Ї ў думках: «А ну іх, няхай самі расхлёбваюць...».

А што той калгас—ідзі ты тут, разьбярыся ў народзе. Гудзіць ён, гармідарыць. Кожны крычыць, кожны лемантуе, хоча, каб толькі яго, словы, ягоныя выслухалі. Ї багата слоў, калі галава кружыць, калі ногі захмеленыя ня ходзяць, здаецца, а плаваюць. А крыўда якая,—як вага тая чыгунная—скінуць-бы яе хутчэй, людцом выкласьці, няхай глядзяць, сьлязьмі прамываюць. Ї багата слоў, гоману таго людзкога, хмельнага ды гундосага.

— Конікі-ж там... Да свата, каб зьезьдзіць—прасіў, дык дзе там...

— Уга, самі затое...

— Тады, дык «кось-кось», а як забрыталі, дык чырвонца ня выпрасіш...

— Дзе чырвонца, калі траяк... Траяк няшчасны... Мазалём набыты... Дык сьвітку за яго ў чалавека ўзялі... Апошнюю, можна сказаць...

— Даволі, нечага там... Айда па коні, па плужкі, каторыя... Былі без яго, абыйдземся і цяпер... Без калгасу, значыць...

— А закон?

— Закон? Закон, браты, у нас бяз прымусу: хочаш—будзь, хочаш—бывай здароў... Каціся, значыцца, да божай... Калгас—гэта, брат, не гасударсьцьвеннае...

Абчаскае. Ня хто іншы, як мы...

— Дык тады што-ж?

— Па коні айда, па плужкі...

Пашлі. Уподбежку, з прыскокам, з прысьвістамі. Зачырылі падалы па зямлі, завіхурылі пылам. Ї пад пылам тым вохі бабскія, сьмехі, лаянка. Каб-жа хутчэй, каб дасьпець, каб управіцца.

— Бач ты яе, лапаціць Салманіда, аж пыл курыць!

— У-у-, пяхцер стары! Калі што, дык і дыхавіца яму, а цяпер, дзівіся, які портскі стаў, і гады ні па чым...

— Нічога, Солма, з кім, з кім,—з табою, спраўлюся...

— Їдзі ты, югідкік...

Вось і стайня тая абчаская, калгасная. Ля дзьвярэй Анціпка шпак варту нясе, коняй беражэ—дабро калгаснае, са старою берданкай.

Забожкалі бабы, завойкалі:

— Шчэ ўцэліць гад, з арудзіі прыпячэ!—і назад, за мужыкоў хаваюцца, туляцца.

— Ня ўцэліць... Без патронаў ён, для відзімасьці. Їзноў-жа ружжо, не арудзія... Шчэ калі мы былі на ярманскай...

— Пачаў...

Шчэ здалёк бачыў Анціпка—бегма бяжыць народ, аж зямля тая дрогае, сьцены трасуцца. А куды—невядома.

— На пажар хіба?

Вышаў, голаў задраў. Сюды, туды...

— Не... Чаго-б гэта?

А калі кінуліся да дзьвярэй—зьбялеў, затросься аж, як тое лісьцейка восенскае, пажоўклае пад сверкам, пад пякучым. Малады яшчэ Анціпка, самыя то гадкі камсамолістыя. Ды й сам камсамолец. І думка тая маланкаю: «Разьбяруць, разьнясуць»... «Як верабей, да дзьвярэй кінуўся, да засаўкі. Нахохлены, напяты, расхрыстаны:

— Ку-у-ды гэта?

Дзе ты голасу таго ўчуеш у гармідары гэтым? Хапаюць за засаўку. Тады кінуўся вобземлю, да дзьвярэй, прышыўся да іх.

— Ня пушчу... От скажу дзядзьку Костку, будзеце ведаць. Айда. адступіся каторы, страляць буду!—і голас зламаўся, чуецца плач у ім, горкі плач той дзяцінны.

— А ты, Анціпка, ціху... Ты, Анціпка-ціпка ня дужа... Ты, Анціпка, з бярданам ня рыпайся... Шчэ калі мы былі на ярманскай...

— Ды што там разгаворы разгаварваць... Бяры яго, дурасьлівага... От зьдзяром штаны ды жыгучкаю... ці пяску насыплем...

Гэта бабы так, пра жыгучку, пра штаны тыя Анціпкавы нямудроныя, палапленыя, сямікалерныя.

І не штаноў шкадуе Анціпка. Ня імі сьвет жыве, абыходзіцца. А зьнявага... Так то і даўся ім у рукі, бабам, можна сказаць, ды сваім шчэ, сялчанскім.

Вужакай высьлізнуў у бок, адскочыў.

— Пачакайце, знайду я на вас управу!

А ў думках: «от бы дзядзьку Костку, таго паслухалі-б, не рабілі-б дуроты. Ды дзе-ж ты... Ага... От-жа дурыбала я... Ён-жа пленум праводзіць, і старшыня з ім там калгасны». І схаваўшы бярдана ў бярвеньне, кінуўся праз гароды, на цянькі, да суседняе вёскі. Бег, аж духі захватвала, захліпаліся грудзі.

«А мо' пасьпею».

А ў стайні вэрхал нясусьветны наладзіўся. Крычалі, іржалі. Не разьбярэш, дзе то людзі, дзе коні. Цемрадзь.

— От цяпер да!..

— Чаго?

— Ды нічога...

— Эге-э... Ды ты-ж, дзядзька Панас, чужога каня засіліў! Твой-жа сівы, а ты, гнедага падчапіў!

І дзе ты тут разьбярэшся! Абы хвост...

Пленум быў у разгары.

Костка лічбы даводзіў, пасеўныя пляны калгасныя, вясковыя. Ішоў фронт, наступаў—сонечны, веснавы. Каб штыхамі—лемяхамі сустрэць, трэба й лічбінаю ўзброіцца, ды кожную лічбіну мазгой працерці, на жывыя тыя сілы, сілы-рукі ўзважыць. Каб промаху ня было, каб разам усё, каб пайсьці вясьне на падмогу, дужай зрабіць яе, бальшавіцкай. Прабіраў сельсаветчыкаў, упаўнаважаных.

— Ты ў мяне каторы ня сьпі... Кожнага бачу... во!

Гэта значыць, як свае пяць пальцаў.

— Раз каманда пададзена—не зявай... Тут ня жарты... Раз фронт—дык фронт. Дысцыпліна—во! Акуратнасьць—во!

І толькі гэта Костка, прыплюшчыўшы вока, прадэманстраваў усім палец вялікі, як бразнулі дзьверы, і спатыкнуўшыся аб чабаты, пад самы прэзыдыум падбег Анціп, засопшыся, расхрыстаўшыся.

— Бяда, дзядзька... Дзьдзька Костка, хутчэй...

— Ціху ты, ня бачыш хіба—пасяджэньне...—і ўжо цішэй:

— Айда от сюды ды кажы: што там, чаго ты?

Адвёў у бок, ад стала, у кут.

— Коняй бяруць... Што ўступілі па восені, тыя... А можа й рабуюць... Ня ведаю, ці то стайня там цэлая... Мяне пабіць хацелі.

— Ну?

— Дык я не даўся...

— Асілак... Ты не вярзі, чаго ня сьлед... Ды крый назад... Я зараз-жа...

І кінуўшы намесьніку, каб канчаў без яго, бяз Косткі, і пазваўшы калгаснага старшыню Зьмітру, падаўся назад, на сяло. Неяк расклеіліся думкі. Цяжка было сабраць іх да месца, да аднаго. Ды штосьці гняло, націскала цяжарам стопудовым.

— Вось яно як... ты думаеш адно, а яно ў цябе часам выходзіць другое... Але-ж чаго ім трэба? І хто? Хто-б там пастараўся? Чые-б то сьвярбелі рукі?

Спахмурнеў, як чорная хмара, набрыняў злосьцю вялікаю, ад якой усхадзіліся сківіцы, на зубах скрыгітаньне ды напяліся кулакі, аж хруснулі пальцы.

— Пастой-жа... Ужо дабяруся, раскапаю начыста... Разьнясу, скрышу ў прасьвятую тую маць траяручыцу...

Было людзям і багом...

А стайня сустрэла пустымі варотамі—стаялі напята, сьцераглі цішыню прыглушаную. Навастры вуха, прыслухайся—дзе—нідзе трэсьне саломіна, ускудлачаная, капытамі тымі конскімі папрыбітая, прылямчаная. Выпроствалася саломіна, будзіла цішыню, старожкую, хзаравітую.

Ішоў назад да сяла. Ня шлі, падгіналіся, спакваля насуваліся ногі—от-жа чабаты сталі цяжкія, нібы цьвікоў тых насадзіў задужа. Усьлед дльбаў Анціпка, сапеў нешта пад нос. Адстаў. Зьмітрона пасёлак, што пад калгасам—спаць пашоў. Дзесьці брахалі сабакі на сяле, і брэх той быў палохаючым—нібы вылі ат па нябожчыку.

А ля самых колаваратаў, у бок ад дарогі, тупаў чалавек ля каня. Трымаючы за аброць, намагаўся ўскарыскацца на сьпіну, хапаўся за грыву, упрашваў:

— Тпру, ліха на цябе... Ды пастой-жа ты... Як-жа мне ды пешкі па вуліцы. Кось, кось, кось... Няйначай, зьдзічэў.

«Кось» віляў хвастом, спрытна кідаўся ў бок, і босы, бяз шапкі, чалавек заходзіў ізноў, кульгаючы і сьлёзна просячы:

— Ды пастой-жа ты,ваўкарэзіна... Ня дурыся, гад. Ну, дай-жа я цябе пацалую...

Костка падышоў бліжэй, прыгледзіўся. І раптам праняў яго рогат.

— Пацалую... А каб на цябе чамярыца! Во п'яныя вочы!

І суровей:

— Куды гэта ты, Восіп, майго каня цягнеш?

Той павярнууся і ўсё яшчэ трымаючы аброць у руцэ, пачаў заікацца, блытацца.

— Як гэта твайго, калі гэта мой конь... З калгасу вяду... Даволі, значыцца...

— Што даволі?

— Даволі, каб гэта...

— Ага... Вось яно ў чым... Ну, ідзі ты да хаты... Ідзі, брат, да жонкі, прасыпіся, голуб, потым вочы прамыеш. Ідзі, ідзі, а каня пушчай... Голуб, сьпёр ты яго з калгаснай стайні. Без карысьці, брат.

І ўсё, што было цяжкае на душы, разьвеелася, растала.

— Дык вось яно ў чым... Прыстол... Напіліся, каб на іх немач. Падзудзіў нехта... Але-ж пастойце, дабяруся я да ўсіх, абкарнаю... Кожнага бачу наскрозь, як вылітага.

— Ужо-ж дабяруся...

Раніцою гародамі, пазагуменьню вялі ўпотайкі коняй. Назад. У калгасную стайню. Пільнаваліся, каб ня сустрэцца разам, цікавалі адзін за другім і, моўчкі прывязаўшы каня ў стайні, стараліся адыйсьці неўзаметку, каб ад стайні далей, далей ад сораму таго, учарашняга... І сустрэўшыся дзе нечакана, бегалі вачмі па бакох, ніякавата глянуць у вочы адно другому і перакідваліся словам, другім, нехаця, для адчэпу.

— Надвор'е, брат!

— Самае што ні на ёсьць, на ворыва... Зямелька чакае...

— Чакае...

— Яна, брат, чакае-е...

— А ў цябе, брат, самасейка... На цыгарку-б даў...

— Бяры, брат, закурвай... Не табака, а самагнёт—сьлязой праймае... Пяршыць от толькі хіба крышку... Але дарма... Мацавітая табака...

Закурвалі. Разыходзіліся.

Дзядзька Панас прабіраўся таксама з канём. Ля самае стайні напароўся на Анціпку. І ніякавата неяк адчуў сябе дзядзька Панас, да таго прыкра, што не павярнулася нага на сьцежку тую да стайні, павёў сівога паўз плот, нібы от на поле папасваць. Глядзеў Анціпка ўсьлед, і сьмех яго ўзяў—да таго-ж Панас ступаў нязвычайна,—ногі ставіў неяк напята, задужа і рукой—што без аброці—размахваў дзіўна. Нібы рука тая драўляная. Нібы кожным крокам сказаць хацеў: «Гэта я так сабе, выпадкова да стайні патрапіў... Вяду вот на поле каняку»... А каняка аброць тузала, натурылася—назад каб.

Глядзеў, глядзеў Анціпка, не сьцярпеў:

— Дзядзька Панас!

— Чаго табе?

— Ды ня хітруй-жа ты, дзядзька! Калі веў ужо, дык вядзі... У стайню...

Стаў той. Нерашуча патупаў. І адразу аброслы твар усьміхнуўся шчацінай ад барады да самых вушэй. Ды бровы тыя насупленыя разышліся, прасьвятлела пад імі, цяплынёй такой апанасаўскай заструменіла.

— Ай ды хлапец-жа ты да здагадлівы... Прайдзісьветы, ліха на вас... У стайню, няхай у стайню... Вялікі клопат... Ці я ад людзей горшы... Гэта я, канешне, хіба хацеў... Шчэ калі мы былі на ярманскай...

— А чаму, вы, дзядзька, учора?

— Учора? Ты, браток, лепш не гавары... Няхай яго лепш ня будзе, учора таго... Дык от, як былі мы на ярманскай...

Анціпка слухаў пра ярманскую, спагадліва дзядзьку галавой ківаў, а сам думаў. І думкі тыя прарываліся ў голас:

— Прывядуць, ня будзь я Анціпка Шпак, прывядуць...

— Ты гэта чаго?—недаверліва кідаў Панас.

— Кажы, дзядзька, кажы... Гэта я так сабе...

— І от, бац мне фэльдфэбель у самую нюхаўку—паху з таго часу ня чую—я й заліўся... Ах-жа ты, думаю, падла, пастой, я-ж цябе прычакаю, на мушку злаўлю... І злавіў... Пад Рыгаю самай... Дык от на ярманскай...

— Прывяд-у-ць... Ня дзе дзенуцца...

— Та-а-а-к... дапяклі...

Сяргей Костка на ячэйцы сядзеў, як на шыльлях. Тахцела сэрца, так білася пад гімнасьцёркай зялёнай, таго і глядзі—замрэ або выскачыць. Гэта-ж трэба, колькі то стараўся—і такая абраза!

— Сэкратар партыйнай ячэйкі—стары саўгаскі рабочы Мацей—казаў прамову. І што ні слова—цьвік, што ні слова—дык камень. А каторае, як жалезам пячэ. І ўсе па ім, па Костку. Ды па старшыні калгаснаму, Зьмітру аднавокаму.

— Ганьба... Сьмяяцца з нас трэба ды пальцам паказваць... Гэта называецца камуністы... Сьвіткай той, траяком няшчасным хацелі калгас разбурыць... Дагаварыцца не маглі, рубля таго не змаглі пералічыць адзін другому... Давялі да чаго...

— А за падаткі ты-б адказваў? Каб не сабраў...

— Галава ў цябе, як відаць, мураваная стала, чамусьці... А такі-ж здаецца хлапец... Хто гэта супроць падатку... Ты нядоімку сыскваў?

— Нядоімку.

— З былых аднаасобнікаў?

— Так...

— А чаму ня мог дагаварыцца з праўленьнем, з Зьмітром, каб адтуль перавесьці разам... Яны-ж па восені ў калгас уступілі, маюць і грошы зробленыя...

— Маюць...

— Дык от... ма-а-а-юць...

І ўляпілі абодвым па вымове суровай і «калі другім разам— з партыі вон».

Як мядзьведзь рынууся да стала Сяргей.

— Гэта мне, Костку?.. Што стараўся?.. Што ночы ня спаў, сьвету таго ня бачыў? Каб мне, ды вымову? Ды суровую? Мо' за п'яніц тых, учорашніх? Са сьвіткай чэпяцца... Згары яно ўсё, праваліся. Ды, каб... Ды што-б... Ды... Ружжы ў козлы і ніякіх болей... Выбіралі, скідайце... Каб я больш...

— Ты скончыў? Ну от... А цяпер сядзь... Сядзь, кажу... Пра ружжы ты кінь... Ружжы ў козлы ўсякі паставіць зможа... Гэта справа ня дзіўная і не цяжкая... Даў промах? Даў. Цяпер яго выправілі. От тады будуць і ружжы... А так нечага рыпацца, камуніст-жа ты, ня хто іншы... Ды работку трэба сякую-такую правесьці... Гэта ўжо ячэйкай усёй. Бо ня ў п'янстве адным справа тут учора. Іначай, другія будуць работку праводзіць і, як відаць, спрабавалі ўчора... Гэта мы ўжо дасьледуем... Да рэчы, завёў ты Мартына там нейкага...

— А што табе Мартын? Акуратны чалавек... Пры маёй грамаце...

— У тым і справа, што пры тваёй грамаце...

Ішоў да хаты Сяргей дужа ўзрушаны. Аж бакі балелі—нібы пахадзілі па іх цэпам дубовым. Дужа-ж крыўда вялікая. Гэта за тваю стараннасьць. За клопаты твае... Вялікая крыўда. Але-ж дыхаць лягчэй неяк стала пасьля сходу, пасьля завірухі той на ячэйцы. І дзесьці варушылася думка, як зерне тое макавае, невялічкая і назольная, надакучная. Зерне тое расло, разрасталася, палаініла ўсе думкі, здагадкі. І сам ужо да сябе гаварыў з дакорам:

— Эх, Сяргей, Сяргей... І фамілія ў цябе гэткая цьвёрдая... Ня хто небудзь там, а Костка Сяргей—старшыня сельсавету... І гэтак абмішуліцца, гэтак прамазаць...

— У яблычка тое ды не патрапіў...

**Вясна 1932 г.**
**Крупскі раён.**

Пятро Глебка

## ПРА ВЯСНУ І РЭВАЛЮЦЫЮ

Гэта вы,
мне здаецца,
нядаўна сказалі?
Ці то ваша суседка,
з паднятым брывом?
Адным словам,
я чуў
кагадзе ў гэтай залі,
Што вясна ня прыносіць
ні дум,
ні трывог.
Я
лічыў-бы за жарт
гэтай прыкрасьці выраз,
каб напоперак думкам
і волі самой
аж спадыспаду дзён
у вялізманны вобраз
ня вырас
дзень маленства майго
і вясновых самот.
Я згадаў,
як гайсала
галоднае рэха
па парожных сьвірнох...
І каб толькі пражыць —
узьдзіралі на корм
абымшэлыя стрэхі
перад тым,
як пачнуць
аплываць капяжы.
Я зьбіраў басанож
крапіву каля плоту
Перад тым,
як зямля
наліецца цяплом...

Можа вы
і ня ведалі
гэтых клапотаў,
а для нас яно —
нашым
маленствам было.
І таму
хлапчукамі
ў сямнаццатым годзе,
занядбаўшы забавы,
ня знаючы сну,
мы галодную восень
пры сьцюдзёнай пагодзе
сустракалі
як лепшую
нашу вясну.
Ды нашто перагортваць
бапонкі гісторыі,
калі чара сучаснасьці
поўна да дна?!
Я хачу расказаць,
як няўгойнае гора
залячыла надзеяй
вялікай
вясна.

Дзесьці блізка зусім
адзінокая маці
абабіла парогі
пастарункаў і гмін...
Засталася на ўцеху
вяроўка у хаце,
бо на векі засуджаны
быў яе сын.
І яна,
што сваю
аднастайную сьцежку
пратаптала
праз горэ,
нядолю
і жвір,
І яна —
загубіла
апошнюю ўсьмешку,
без каторай нікому
ня суджана жыць.

І на цягу начэй, —
да вар'яцтва
бяссоных,—
калі месяц над полем
асьнежаным
стыў.
Яна білася ў роспачы —
дзікай!
шалёнай! —
і чытала на памяць
ад сына лісты:

— Сынку!..
Сынку!
Ты пішаш:
„Мужайся!“
Абяцаеш вярнуцца
дваццатай вясной...
Покуль тая паводка —
паводкаю жалю
Захлынецца жыцьцё маё,
добранькі мой!
Хіба выцерпіць
гэтае
маці пакорна,
доляй выкляты,
любы мой сын! —
І зьвіваючы рукі,
рыдаючы горна,
яна доўга глядзела
кудысь ў далячынь.

Так было,
калі краем
хадзіла зіма,
калі біліся
цені
і вецер
у хату,
калі дрэвы,
падняўшы
галіны на ўзмах,
вартавалі дарогі
ў адзеньні кашлатым.

А пазьней,
на прадвесьці,
калі уначы
варушыліся дрэвы,
зьбіраліся ў сад,
калі бразгалі звонка
вясьнянак ключы,
сын да маткі
таемна пісаў:

— Маці!..
Матанька!..
Надзялі мяне сілай!
Дай мне дужасьць
разьбіць
мураваныя сьцены!
Я сягоньня пачуў,
калі ты галасіла...
Галасі-ж,
галасі,
каб рыдала каменьне!
Бурны подых вясны
мне прыносіць
твой голас,
і ці знаеш,
як жудасна
хочацца жыць,
калі скрозь
наліваецца
сілаю поле,
калі скрозь
аплываюць
са стрэх капяжы.
Станеш
вечарам,
клічаш-клічаш
праз
турэмныя краты
сваю маладосьць,
і яна,
з далячынь,
быццам гул навальнічны,
адгукаецца рэхам
і прыходзіць,
як госьць.



Значыць,
вырасьце
— чую —
такая адвага,
што на волю
з каменных муроў
правядзе!
Вельмі просты наш плян,
і з халоднай развагай
мы рыхтуем
сваё вызваленьне
штодзень.
Бяз ключоў адамкнём
заржавелыя дзьверы
перад тым,
як зусім
аплывуць капяжы,
і прыду да цябе,
поўны сілы і веры,
каб ізноўку
за волю змагацца
і жыць.

—

Гэтак сын абяцаў
на мінулым прадвесьні,
і ніхто не разважыў,
што гэта вясна
напляла дзікіх плянаў,
каторых ня зьдзейсьніць,
пра каторыя
вязьні
адно толькі сьняць.
Але-ж сталася штосьці
на сьвеце
такое,
што навалай шумяць
на прадвесьні лясы,
і самотная маці
з халодным спакоем
і дагэтуль чакае,
што вернецца сын.
Дзе-ж ёй ведаць,
старэнькай,
што ня шэнціла сыну
перайсьці цераз сьцены
Лукіскі вастрог,

і што сын
вось за гэты
вар'яцкі учынак
быў павешан
у ліку
другіх чатырох.

Так бывае...
А вы мне
нядаўна сказалі,
Ці то ваша суседка,
з паднятым брывом....
Адным словам,
я чуў
кагадзе ў гэтай залі,
Што вясна ня прыносіць
ні дум,
ні трывог.
Я
жыцьцём
бязыменным сваім
пратэстую,
і надзею,
як тая
матуля,
рашчу,
што мы стрэнем яе,
вясну маладую —
рэвалюцыю сьвету,
каторай ня ўшчуць.
Яна прыдзе
пасьля
баявога прадвесьня,
яна стане
на ўсіх
скрыжаваньнях дарог,
яна будзе гучэць,
як магутная песьня,
поўным голасам дум
і вялікіх трывог.

**Верасень 1932 г.**

**Міхась Зарэцкі**

# ВЯЗЬМО

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### 1

Цімахвей Міронавіч Гвардыян сядзіць на сваім адмысловым троне і маленькаю чарачкаю п'е нарзан. Яшчэ з найясьнейшае пары свайго перабываньня на пасадзе кур'ера высачайшай камісіі па такіх-та і такіх-та справах абсмакаваў Цімахвей Міронавіч гэты цудоўны шляхетны трунак і ўжывае яго ў хвіліны найвялікшых узрушэньняў свае чулае далікатнае душы. Мабыць з асаблівае пашаны свае да гэтага трунку ён заве яго не «нарзан», а больш гучнаю і выразнаю назваю— «тарзан» і, глыбока ўпэўнены ў яго жыватворчай моцы, п'е яго, як гарэлку—размашыста, зухавата—і адчувае пасьля яго лёгкае прыемнае ап'яненьне.

Але сёньня чамусьці «тарзан» не бярэ сілы. Цімахвей Міронавіч выпівае ўжо пятую ці шостую чарку і адно чуе, як цудадзейны трунак асядае ў жываце халодным нязрушным цяжарам, не даючы нутру жаданага разгарачэньня. Такі зварот справы Цімахвея Міронавіча нават пужае, і ён з падазронай уважлівасьцю разглядае пляшку, шукаючы ў ёй прычыны дзіўнага зьявішча. Ён успамінае, што гэтая пляшка адкаркована з тыдзень таму, калі ня болей, што яна магла дасюль вытхнуцца, і пасьля доўгіх ваганьняў, здаўшыся на тое, што сёньня выключны па сваёй трывожнасьці дзень, адважваецца на рашучы, блізкі да самаахвярнасьці ўчынак: не дапіўшы пачатае пляшкі, распачаць новую.

Як за звычай, Цімахвей Міронавіч устае з свайго трону з наўмысьнай млявай цяжарнасьцю, якая на яго думку дае чалавеку асабліва станавіты выгляд, але раптам чуе, што яму й сапраўды цяжка ўстаць з крэсла. Тады ён сядае назад і ўстае ўдругое—ужо скорынька, без станавітасьці. Здаецца нічога... Троху заспакоіўшыся, ён бярэ недапітую пляшку «тарзану» і падаецца да дзьвярэй у чорную палавіну хаты, але па дарозе няўмысьля трапляе вокам у вялікае люстра ў кутку, і, зьбянтэжаны, супыняецца на паўкроку.

---

[1]) Гл. пачатак № 1, 2, 3, 4. за 1932 г.

З люстэрка на яго глядзеў мізэрны, змардаваны і—што асабліва ўразіла яго—перапалоханы чалавечак. Голы пэргамінавы твар пасінеў, завастрыўся і выцягнуўся ня проста ўдаўжыню, як ткі й належыць у падобных выпадках людзкаму твару, а наўскасяк, накшталт старой, перахіленай на бок, драбіны. Усё было крывое: вострая барада драпежна накіроўвала ў бок сваю дзюбку, тонкія апруцянелыя вусны разыйшліся туга сашчэмленымі куточкамі—адным угару, другім уніз, вока адно было куды меншае за другое і нават касьцявы гузаваты лоб і той нібыта блішчэў адным сваім гузам ясьней і сіней, чым другім.

Твар быў жудасна-няпрыгожы і страшны.

Цімахвей Міронавіч доўга ўзіраўся ў люстэрка з тупым неўразуменьнем, пакуль ня суняўся разьбеглымі думкамі на заспакойлівым тлумачэньні:

— Ужо другую ноч вокам ня зьвёў.

Ён пацiху абмацаў рукой твар, нібы хацеў паправіць яго, надаць яму звычайную форму. Потым паспрабаваў сам сабе ўсьміхнуцца і, калі усьмешка вышла досыць прыстойная, ён пачуў, што сяка-такая сіла усё-ткі ў ім ёсьць. Яму закарцела тады, як-небудзь паказаць гэтую сваю сілу—зараз-жа, неадкладна,—праверыць дзейнасьць яе на якім-небудзь аб'екце. Замест таго, каб ісьці па нарзан у чорную хату, ён вярнуўся назад, зважна асеў у сваё пышнае крэсла і, цішком адкашляўшыся, крыкнуў гучна і валадарна:

— Матрёна!

На яго вялікае дзіва адказу не пачулася. Ён ведаў, што жонка ў хаце—толькі вось чуў ён яе гаспадарчую там мітусяніну—і ён крыкнуў яшчэ больш гучна і валадарна дадаўшы ў голас пэўную дозу законнага гневу:

— Матрёна!

Зноў ані гуку.

Цімахвей Міронавіч з хвіліну сядзеў нярухома, з глыбокім зьдзіўленьнем і трывогаю ўслухваючыся ў зманлівую цішыню.

Няўжо ён не пачуў, як яна вышла?

Гэтага ня можа быць. Ён ня мог не пачуць. Ён латвей мог прапусьціць міма вуха гук раптоўнага стрэлу ці нязвычайны сярод зімы ўдар пяруна, чымся хоць найцішэйшы бразгат дзьвярэй. Бо-ж ён ужо трэція суткі з нечалавечай напружанасьцю чакае гэтага страшнога фатальна нямінучага бразгату. Ён чакае яго так, як чакае асуджаны на сьмяротную кару злавеснага скогату іржавага турэмнага замка.

Цімахвей Міронавіч яшчэ раз—ужо ня так сьмела і ўпэўнена—паклікаў жонку і, яшчэ раз не пачуўшы адказу, парыўчата ўсхапіўся з крэсла і, працяты незразумелым страхам, кінуўся ў чорную палавіну хаты.

Маленькая молепадобная жанчына стаяла нездалёк ад качарэжніка, прыхінуўшыся худзенькім плячом да сьцяны і застаўшы ў маляўніча-журботнай і таму дужа сьмешнай паставе. Як увайшоў муж,

яна страсянулася ўсім сваім дробным целам, але на яго не азірнулася.

Цімахвей Міронавіч грозна застыў на парозе.

— Матрёна! Ты чула, як я цябе гукаў, ці не?

«Матрёна» набрала духу і прапішчэла з трагічнай рашучасьцю:

— Чула...

— Ну?

Ён лічыў, што гэтага «ну» зусім будзе досыць, каб ачуліць жонку і вярнуць яе да ранейшай пакорнасьці, аж памыліўся—маленькая молепадобная жанчына не зварухнулася з месца.

Гнеў у Цімахвея Міронавіча зьмяшаўся з няўцямнасьцю, і ён запытаў без асаблівай жорсткасьці, нават з прыметным ваганьнем у голасе.

— Матрёна! Ты, будучы, чуеш, што я кажу?

Замест адказу яна зрабіла так, як рабілі ў падобных выпадках усе гэраіні чытаных ёю калісьці раманаў: заламала болесна рукі і, утаропіўшы ў печку поўныя беспрасьветнае роспачы вочы, гучна прашаптала:

— О, божа! Калі гэта кончыцца ўсё!..

Цімахвей Міронавіч асалапеў. Ён ня ведаў, як далей ставіцца да жонкі, бо яшчэ ня ўпэўнены быў, што яна звар'яцела. Каб не зрабіць часам непапраўнае памылкі, ён ўсё-ткі рашыў абыходзіцца з ею пакуль што, як з прытомнай. Ступіўшы некалькі крокаў наперад, ён сьціснуўся ўвесь у цьвёрдай каменнай злосьці і выдушыў з сябе жудасна-ціхім пераджабленым голасам:

— Матрёна! Падумай, будучы, што ты робіш?

І з яшчэ большай гразой перапытаў:

— Што ты робіш?

Маленькая молепадобная жанчына зноў страсянулася ўсім сваім дробненькім целам—і зноў не паддалася. Ломячы рукі і з роспачу гледзячы ў печ, яна войкала і стагнала:

— О, божа! За што гэтыя мукі! За што я пагубіла жыцьцё сваё? За што я страціла сваю прасьветлую маладосьць? Што я бачыла ў гэтым жыцьці? Што я мела з гэтага праклятага багацьця, якое выпіла з мяне ўсю маю гарачую кроў?.. Куды я пайду цяпер? Дзе я дзенуся, няшчасная? Хто прытуліць мяне? Выпіў кроў маю, высушыў мяне, згубіў маю прасьветлую маладосьць! О, божа мой, божа!

Цімахвей Міронавіч перажываў страшныя хвіліны. Ён зразумеў, што жонка не звар'яцела, і гэта спужала яго больш, чымся магло-б спужаць яе праўдзівае вар'яцтва. Найцяжэй было адчуваць, што ён ня мае над ёю абсалютна ніякай улады, што ён ня можа нават суняць гэтых яе жорсткіх пякучых дакораў. Увесь непахісны аўтарытэт яго, увесь страх, які яна скрозь адчувала да яго, уся яе трапятлівая пакора—усё гэта трымалася на няпэўным грунце яго пустой надуманай вялічнасьці і ўсё гэта ўраз разьляцелася, ці толькі калыхнулася гнілая будыніна яго дабрабыту.

Дзе-ж яго сіла? Дзе-ж яго воля над гэтай ціхай вечна слухмянай жанчынай, якая дасюль ня важылася зірнуць яму ў вочы, ня важылася сказаць яму лішняга слова? Няўжо ён ня здольны скарыць яе, вярнуць да ранейшае ціхасьці?

Яму здаецца, што ад таго, ці патрапіць ён зараз даць рады сваёй узбаламучанай жонцы, залежыць лёс цэлага яго жыцьця, і ён гатоў пайсьці на ўсё, гатоў ужыць які-хоця спосаб, абы ўціхамірыць яе, паказаць сваю сілу над ею, сваю перавагу. І тут яго раптам асьвятляе цудоўна-простая і ясная думка: ён-жа—што-б там ні было,— а ўсё-ткі мужчына, ён фізычна дужэйшы за яе, ён можа сьцерці ў порах гэтую нікчэмную паскудную гадзіну!

І сьціснутая ўнутры злосьць Цімахвея Міронавіча, знайшоўшы выйсьце, ураз абарачваецца ў шалёнае парываньне. З тонкім нечалавечым віскам кідаецца ён у качарэжнік, хапае там нейкі ражон і замахваецца ім на жонку.

Але жонкі ў гэты момант пад рукой не знайшлося. Убачыўшы нечаканы і цалком выразны замер свайго грознага мужа, яна пырхнула ад качарэжніка і, беспарадна махаючы рукамі, як падбітая перапёлка крыльлямі, борзьдзенька пераляцела ў другі куток хаты. Там забілася за вялізны дубовы стол і шырока лыпала вачыма, асалапелая ад страху. Адылі ўбачыла, што Цімахвей Міронавіч нерашуча суняўся, зьбянтэжаны, пэўна, сваёй абмашкай і зноў вярнулася да свайго маляўнічага трагізму. Набраўшы поўныя грудзі паветра, яна апошнюю адвагаю чалавека, які ў роспачы кідаецца ў вір галавой, пляснула аб стол рукамі і, парыўчата схіліўшы на іх галаву, забілася ў істэрычным плачы.

Цімахвей Міронавіч, пэўна ўзяўшы на ўвагу, што ляжачага ня б'юць, прайшоў паўз яе ў хмурым пагардлівым маўчаньні і дэманстрацыйна ляпнуў дзьвярымі ў чыстую палавіну хаты. Усьлед яму ляцела мэлёдычнае рыданьне асьмялелае жонкі, скрозь якое прабіваліся горкія балючыя нараканьні:

— Божа мой, божа!.. За што я такая няшчасная? Дзе мая доля, дзе маё шчасьце? А я-ж была маладая, а я-ж была прыгожая... У гімназыі вучылася... Дзе маладосьць мая? Дзе маё харaство? Хто згубіў мяне, хто ссушыў мяне, ня даў мне ўбачыць у жыцьці яснага сонца? О, божа мілы! Калі гэта скончыцца ўсё?..

Гэта быў першы і апошні бунт маленькае молепадобнае жанчыны супроць грубой волі свайго суровага мужа. Памалу рыданьні яе заціхалі, пераходзячы ў ціхае жаласнае хліпаньне. Нарэшце яна ўзьняла са стала галаву, шырокім гэстам прыклала да цемя руку і, прыжмурыўшы вочы, як у забыцьці, прашаптала:

— Гэта—кашмар... чэснае слова...

У гэты момант з чыстае палавіны пачуўся абыклы, штодзённы, глыбока ўрослы ў нутро яе воклік:

— Матрёна!

І трагічная гэраіня старых напоўзабытых раманаў, борзьдзенька абцёршы кулачком астатнія сьлёзы, дробна патупала да свайго мужа— бязьмежна ціхая і пакорная.

Цімахвей Міронавіч сядзеў на сваім троне горды, але літасьцівы. У руцэ ён, як кляйноды ўлады трымаў спопрыску ўхопленую ў качарэжніку чапялу. Ён убачыў жончыну пакору і зьвярнуўся да яе тонам у меру строгім, але такім, які даваў разумець, што ён занядбаў яе нядаўную дурасьць і ўсё ідзе па-ранейшаму.

— Матрёна! Прынясі мне сьвежую бутэльку тарзану!..

«Матрёна» неўзаметку ўздыхнула, але пашла выконваць загад ахвотна. Яна, як і яе муж, адчувала глыбокую пашану да цудадзейнага трунку, хоць ніколі яго ня піла.

Шчасьліва разьвязаны інцыдэнт з жонкаю і сьвежы нарзан падмацавалі троху Цімахвея Міронавіча Гвардыяна, і ён вальготна адкінуўся на сьпінку свайго трону, глыбока ўбіраючы ў сябе чароўную слодыч збавіцельнага спакою. Ён да таго асьмялеў, што адважыўся нават—хоць і з патаемным трапятаньнем у сэрцы—зрабіць сабе нібыта спакойнае зусім, нібыта зусім бястурботнае запытаньне;

— Чаго ён уласна баіцца?

Адылі зрабіўшы гэтае запытаньне, ён доўга ў тупой, наўмысна нагнанай на сябе, бяздумнасьці стаіць перад чорнай заслонай глухога нявыразнага страху, што затуляе ад ягоных вачэй пэрспэктыву, і доўга ня важыцца адхіліць хоць маленечкі крайчык гэтае заслоны, хоць адным вокам зазірнуць за яе. Каб падрыхтаваць сябе да страшнога відовішча, ён пачынае блукаць сьцеражлівымі думкамі па абходных сьцежках меркаваньняў, якія аднак пры ўсіх сваіх сьмелых прыпушчэньнях ўсё роўна не даюць ані найменшага ўяўленьня аб тым, што сунецца на яго за дымавой заслонай чорнага страху.

... Адбяруць каня... Кароў... Усіх, ці не?

... Можа накладуць які штраф... Кольк.? За вошта?..

... Няўжо і збожжа таксама возьмуць?..

... Мо' які вялікі непадужны падатак?..

Цімахвей Міронавіч сам разумее добра, што ўсе гэтыя меркаваньні—прытульныя, але няпэўныя закутачкі, у якіх да пары хаваецца яго палахлівая сьвядомасьць. Ён, праўда, ведае й тое, што большага быць ня можа—прынамсі, цяпер, пакуль што,—што ён нарыхтаваў сябе да найгоршага, і разам з тым чуе, што страх ня ў гэтым, а што страх зусім ня мае нічога супольнага з гэтымі яго прыпушчэньнямі—страх ідзе асобна, сьледам за імі, большы за іх і глыбейшы...

Чаго-ж ён уласна баіцца?..

Нарэшце Цімахвей Міронавіч Гвардыян упяршыню за двое сутак свайго мардаваньня набіраецца адвагі, каб блізка, усутыч падыйсьці да свайго непазбыўнага страху, сьмела прыглядзецца да яго, абмацаць яго рукамі. Ён нарэшце бярэцца за крайчык заклятае таемнае заслоны і сьцеражліва, з апаскаю падымае яго.

За заслонаю—зіркатая насьмешлівая пустата.

Цімахвей Міронавіч дагадваецца, што гэта проста—гульня, што гэта страх строіць з ім хітрыя сваволныя штукі. Выходзіць, што няма чаго й баяцца? Выходзіць, што ён дарма толькі мардуе сябе?

Ён добра ведае, што гэта—самаспадаман, што страх яго быў недарэмны. Ого! Цімахвей Міронавіч Гвардыян ня будзе дарма баяцца! Але самая думка аб магчымай бязгрунтоўнасьці ўсяго яговага страху дужа пацяшае яго, і ён, напружана перагнуўшыся наперад, нібы ў яго раптам закалола ў жывот, пачынае сьмяяцца дробным сакатлівым сьмехам—першым сьмехам за ўвесь час, як пашла па сьвеце гэтая страшная згубная замятуха.

У меру насьмяяўшыся, ён хоча нарэшце суняць свой сьмех і з жахам пераконваецца, што ня можа, ня мае сілы гэта зрабіць. Яго сьмех нібы адлучыўся ад яго, абярнуўся ў цалкам самастойную істоту, якая жыве сваім асобным жыцьцём, маючы на яго нейкую сваю, зусім незалежную ад Цімахвея Міронавіча, падставу. Бо Цімахвею Міронавічу ані ня сьмешна—наадварот, кожны гук гэтага дзікага сьмеху-сакатаньня аблівае яго лядовай хваляй жудасьці.

У Цімахвея Міронавіча маланкай бліскае страшная думка, што ён звар'яцеў. Гэта думка пераходзіць ува ўпэўненасьць, калі раптам ён заўважае, як сьмех яго дзіўна сплятаецца з густым гоманам нявіднага натоўпу, з цэлым хорам людзкіх галасоў, што няма ведама адкуль наляцелі і атачылі яго блытаным карагодам.

Адкуль гэты гоман? Адкуль гэтыя галасы?

Ага! Гэта—адтуль... Надышло ўжо... Падступіла...

Чаму-ж ня бразнулі клямкаю, а загаманілі там, за вакном? Ён-жа двое сутак, ня спаўшы, ня еўшы, чакаў гэтага раптоўнага-рэзкага, пякучага бразгату, ён-жа так прывык да яго ў гэтым напружаным чаканьні, што інячай ня мог уявіць сабе першага сыгнальнага гуку небясьпекі.

Замест—бразнуць клямкаю, загаманілі за вакном!

Гэта дык ужо па-праўдзе сьмешна, гэта можа ўвесьці і ня ў гэтакі рогат.

Замест клямкі—загаманілі...

І Цімахвей Міронавіч аж кладзецца ад вясёлага нястрымнага сьмеху, які нарэшце знайшоў сабе такое поўнае, такое слушнае апраўданьне.

... Як увайшлі ў чыстую палавіну, Цімахвей Міронавіч Гвардыян ужо перамог свой дзікі істэрычны сьмех. Ён стаяў перад люстэркам, трымаючы ў адной руцэ чарку нарзану, а ў другой—чапялу. Убачыўшы людзей, ён адышоўся да вакна, асьцярожна паставіў на ім чарку, потым перайшоў да свайго трону і чамусьці паставіў чапялу на самае сядзеньне, а тады стаў проста перад людзьмі і ўпяў свой атупелы погляд у адну кропку, якая адразу забрала ўсю ягоную увагу.

За гэтую кропку быў прыгожы чарнявы твар Андрэя Шыбянкова.

Усім здалося, што Цімахвей Міронавіч вельмі спакойны і стрыманы, і ў іншых нават зьявілася да яго мімавольная павага—але гэта было чыстае непаразуменьне: Цімахвей Міронавіч проста асалапеў.

яму левую руку. (У правай ён трымаў загостраны з абудвых канцоў чырвона-сіны аловак).

— Бачыў, што робяць?—палажыў старшыня перад ім паперку.

— Зараз,—сказаў той і сьпяшаўся дачытаць пакрэсьленую дзе ня дзе чырвоным алоўкам паперу.

— Дрэнь-паперы,—сказаў ён праз хвіліну, адкладваючы паперу ўбок.

— Ты гэта пра што?

— Ды пра Дымаўскую скаргу. Нікога там не ўхаўтурылі?

— Двух у бальніцу палажылі. Будуць жыць, здаецца...

— А я сёньня знаёміўся з заявай, што мядзьведзіцкія яшчэ ў сакавіку падалі ў земаддзел. Людзі просяць, каб ім для беднаты прырэзалі зямлі, хочуць на пасёлкі выходзіць. У гэтым яшчэ нічога дрэннага няма, цікава толькі, што, шукаючы прырэзкі, яны ўпарта б'юць у адно месца — у саўгас. З заявы відаць, што й Рахлюк ім абяцаў нешта ў гэтым сэнсе.

— Гэты Рахлюк наробіць нам, што мы пасьля і не расхлёбаем.

— Ты-ж яго абараняў калісьці.

— Чорт яго зразу разьбярэ. Мне паказалася...

— Справы ў яго, між іншым, страшэнна запушчаны. Вось і гэта мядзьведзіцкая заява—валяецца пяты месяц. І нічога-б такога ня было, каб сваячасова яе разгледзець, ды растлумачыць людзям, як належыць. Я думаю паставіць яго справаздачу на бюро. Мусіць прыдзецца пашукаць другога на яго месца.

— Не, ты пачытай вось гэта!—падсунуў старшыня прынесеную паперку.

— Ну як табе? Не пахне самагонам?—спытаўся ён, калі той прабег вачыма паперку.—Гэта без Рахлюка таксама не абышлося.

— Я, пакуль што, нічога не разумею? Дзе ты гэта ўзяў?

— Адабраў у Жагулы.

— Як гэта адабраў?

— Ды вельмі проста. Прынёс — тыц мне пад нос, а з рук ня пускае. Кажу: «Дай сюды», а ён у кішэнь. Калі ўбачыў, што я жартаваць ня зьбіраюся, нехаця аддаў.

— А што там у яго за культура такая?

— Апрача самагону, ніякай, наколькі мне вядома. Звычайная кулацкая гаспадарка. Але, як я надоечы даведаўся, у яго ня раз выпіваў Рахлюк, а з ім часамі і працаўнікі з АкрЗУ. А вынік—у цябе ў руках.

— А я нічога ня ведаў пра гэта,—з лёгкім дакорам сказаў кучаравы.

— Я таксама толькі заўчора даведаўся. Але, калі нават адкінуць гэты выпадак з п'янкай, дык павінен табе прызнацца, што я на-

огул ня зусім разумею, што ў нас робіцца ў галіне зямельнай палітыкі. Повен раён кулачча. Пахаваліся за ахоўныя граматы, за максімальныя нормы і жывуць сабе, як у хрыста за пазухай. Вынесеш пастанову аб высяленьні якога-небудзь былога панка, што мае дзесяцін шэсьдзесят—восемдзесят, а ён табе праз два тыдні тыц у нос ахоўную грамату: не чапай яго, ён культурны гаспадар. Агарадзіліся кругом наркамземаўскімі законамі—укалупні, яго, папрабуй. Часта нават зямельнай плошчы цалкам выявіць не ўдаецца. Нашы сельсавецкія працаўнікі часамі мераюць гэту плошчу навока, вераць што ім скажуць альбо й сьвядома пакрываюць кулака. Вось і выходзіць, што бедната адно другому насы скусваюць за зямлю, а ў раёне яе лішкі ёсьць.

Кучаравы закурыў і разоў два моўчкі прайшоў па пакоі, прапешта думаючы.

— Прызнацца табе, сам я ня раз думаў пра гэта. Чамусьці, калі мне прыходзіцца гаварыць на гэту тэму, дык я адчуваю сябе няёмка, апынаюся ў нейкім фальшывым становішчы. Падумаўшы, я знашоў прычыну гэтага. Гэта проста таму, што шмат у чым я ня згоден з загадамі Наркамзему. І ня гледзячы на гэта, павінен цярпець правядзеньне гэтых загадаў у сваім раёне. Больш таго, я павінен забясьпечваць на месцы хутчэйшае правядзеньне ў жыцьцё пастаноў цэнтральных органаў савецкай улады, а значыць і загадаў Наркамзему. І тут я вымушан ісьці на кампраміс з самім сабою. Вось чаму ў мяне заўсёды паршывае адчуваньне, калі я стыкаюся з гэтым пытаньнем. Можа там у цэнтры і ня так відаць ненармальнасьць, проста я-б сказаў шкоднасьць гэтых загадаў, але тут на месцы, дзе гэтыя загады ператвараюцца ў сапраўднасьць, дзе яны зьяўляюцца перад намі ў выглядзе жывых людзей і іх учынкаў, ды калі іх праводзяць у жыцьцё такія старанныя працаўнікі, як твой Рахлюк (старшыня пры гэтым паморшчыўся), гэта ненармальнасьць асабліва кідаецца ў вочы. Я пробаваў гаварыць пра гэта з некаторымі партыйнымі працаўнікамі іншых раёнаў. У некаторых такія-ж самыя думкі. І вядома, як член партыі, як адказны працаўнік за правядзеньне лініі партыі ў раёне, я не магу, ня маю права маўчаць пра гэта. І я буду гаварыць пра гэта ў акругкоме. Няхай мне дапамогуць разабрацца ў гэтым. Калі я памыляюся, няхай мне растлумачаць; калі памыляюцца савецкія органы, трэба гэту памылку выправіць.

— Гэта ўсё правільна. Тут я зусім з табою згодзен, апрача таго, што Рахлюка ты канчаткова і назаўсёды лічыш маім.

Кучаравы засьмяяўся.

— Гэта я проста ў тым сэнсе, што ён загадчык аднаго з тваіх аддзелаў.

— Добра. Але-ж пакуль будуць рэальныя вынікі, можа працягнуцца добры кавалак часу. Мы-ж ня можам увесь гэты час сядзець злажыўшы рукі, ды глядзець як яно само будзе рабіцца. Мы

павінны нешта рабіць, а ня выпускаць лейцы з сваіх рук, каб іх падабраў нехта іншы. Але каб рабіць, мы павінны мець нейкую пэўную лінію. І пра гэту лінію мы павінны з табою дагаварыцца, каб паміж намі ня было ніякіх непаразуменьняў.

— Вось я-ж пра гэта сёньня сам хацеў з табой пагаварыць. Сёньня якраз таму, што гэта мядзьведзіцкая справа гаворыць, што пэўны самацёк у нас тут ёсьць, і самацёк вельмі небясьпечны. Памойму так: калі мы з табою думаем, што некаторыя наркамземаўскія пастановы няправільныя, дык мы павінны паклапаціцца пра тое, каб як найменш шкоды яны нам зрабілі. Адгэтуль: з хутарызацыяй ні ў якім разе не сьпяшацца. Земляўпарадкаваньне вёсак, якія выходзяць на хутары, праводзіць у апошнюю чаргу. Ня гледзячы на пярэчаньне АкрЗУ, больш націснуць на высяленьне былых панкоў. Ніякага патураньня кулаку. Трэба прыняць усе меры, каб выявіць утоеную імі зямельную плошчу. Знойдзеныя лішкі неадкладна абрэзаць і вызваленую такім чынам зямлю раздаць малазямельным. Максімальную норму для кулакоў можна рэальна значна зьнізіць, пакідаючы ім у лік нормы зямлю няўдобную, а найбольш удобную адводзіць беднаце, каб малую кольчасьць намагчы якасьцю. Праўда гэту нашу лінію могуць расцаніць як сабатаж на практыцы дырэктыў цэнтральных органаў і калі-б выявілася, што мы тут памыляемся, то тагды-б нас па галоўцы не пагладзілі. Але мы павінны мець адвагу праявіць тут сваю ініцыятыву і ўзяць за яе адказнасьць. Тут мне прыходзіць на памяць вайсковы статут. Там гаворыцца, што кожны вайсковец абавязан праяўляць сваю ініцыятыву з мэтай выкананьня пастаўленай перад ім баявой задачы. Калі ён такой ініцыятывы ў патрэбны момант не праявіць і тым пашкодзіць справе, тагды ён адказвае па ўсёй строгасьці вайсковага закону, але калі ён і праявіць ініцыятыву, дык ня так, як трэба, дык ён зноў за гэта адказвае. Гэта, каб чалавек ня стаў пешкай, сьляпым выканаўцам загаду зьверху, а каб меў сьмеласьць думаць пра тое, што ён робіць, і рабіць належныя вывады. Я думаю, што гэта правіла вайсковага статуту для нас у даным выпадку цалкам падыходзіць. Праўда, зрабіць тое, пра што я кажу, мы ўдвух з табою ня зможам. Трэба, каб у самай гушчы вясковай быў актыў беднаты, на які-б мы сьмела маглі абаперціся. Трэба, каб у склад сельсаветаў не пралазілі людзі, якія ходзяць на павадку ў кулака. І таму нам да перавыбарчай кампаніі трэба падрыхтавацца—во!

— Выходзіць, таварыш Саламонік, мы з табою змоўшчыкі супроць Наркамзему?—падмігнуў, сьмяючыся старшыня.

— Ніякія ня змоўшчыкі. Ты-ж сам здароў разумееш, што ставіць гэта пытаньне афіцыйна і выносіць некія пастановы мы ня можам. Мы можам гэта праводзіць толькі ў парадку практычнай працы. А вось такія выпадкі, як у Мядзьведзічах, нас на гэта падштурхоўваюць.

— Так... Ды што-ж мы з Мядзьведзічамі думаем рабіць?

— Мядзьведзічы мы з табой проста прамаргалі. У гэтым трэба адкрыта прызнацца. Жыве вёска? Жыве. Спакойна ўсё знадворку, дык і ладна, а вось чым яна дыша, гэтым мы не пацікавіліся. І твой старшыня сельсавету, як відаць, ходзіць—язык на плячо.

— Сам ён хлопец, сказаць, ня дрэнны, але склад сельсавету нікуды ня варт. Сам ён мне скардзіўся... У цябе-ж там у Мядзьведзічах, здаецца, ячэйка была?

— Якая там ячэйка. Ніводнага партыйца. Ёсьць, праўда, камсамольская ячэйка, ячэйка ня дрэнная, наколькі мне вядома, ды ў такой абстаноўцы ня так лёгка разабрацца. І наогул наш камсамол яшчэ мала аддае ўвагі гаспадарчым пытаньням.

— Прыдзецца нам каму небудзь паехаць туды.

— Так, трэба паехаць.

— Можа мы Шулейку пашлём?

— Гарачы ён надта для такіх выпадкаў. Накрычыць, натупае, толькі нездаваленьне выкліча. Ведаеш, я думаю сам паехаць. Як ты глядзіш на гэта?

— Добра зробіш. Там па дарозе можа ў сельсавет заглянеш?

— Абавязкова. Я яго, сукінага ката, з сабой пацягну. Няхай там пасьвеціць вачыма.

## ЧАМУ ГЭТА Ў ВАС НОС ЗАВЯЗАНЫ?

Трывожна было гэтыя дні ў Мядзьведзічах. Чакалі нечага страшнага. Прагукацяць колы па вуліцы, усе кідаюцца да вакон—ці ня едуць ужо? Яшчэ толькі з лесу на дарогу хурманка пакажацца—падоўгу ўглядаюцца, зрабіўшы руку паветкаю, пазнаюць, аж пакуль у вёску ня ўедзе—ці не з раёну гэта?

Тодар Пошта бегаў па хатах жвавей, як звычайна. Сам ад страху млеў і другім пуду паддаваў:

— Дымаўцы ў Менск езьдзілі скардзіцца. Кажуць, цэлую роту чырвонаармейцаў прышлюць? Усю вёску перавяжуць, на вазы, і—гайда.

— Гэта-ж усё праз цябе. Нябось, будзе табе цяпер!—страшыць яго Галаскок.

— Як гэта праз мяне?—тапырыцца Тодар.

— Вядома праз цябе. А хто-ж першы бойку пачаў, калі ня ты? Хто касу дымаўскаму хлопцу парваў?

— Во! Дык я-ж незнарок.

— Каго ты дурыш! Быццам ніхто й ня ведае.

— А што за гэта можа быць?—зразу прыціхшы, пытаецца Тодар.

— Расстраляць гатовы, што ты думаеш,—робіць яшчэ больш сур'ёзную міну Алесь.

— Ну?!—дзівіцца ўстрывожаны Тодар, заміраючы на момант. Твар яго бялее і рукі калоцяцца.

Бяжыць з пуду ў другую хату:

— Прыедуць! Сёньня ці заўтра няпрыменна прыедуць... Я дык баюся, каб мяне не расстралялі. А што-ж, чорт ім і верыў. Скажуць— ты першы пачаў. І адгаварыцца · няма як—хіба-ж · гэта ніхто ня ведае?

Прыяжджала міліцыя. Напісалі доўгі пратакол, дапыталі з дзесятак сьведак. Зачытвалі паказаньні дымаўцаў, каб спрытней выкрыць хлусьню некаторых сьведак. Але справа заставалася ўсё-ж вельмі няяснай. Вінаватага цяжка было знайсьці. Дымаўцы сьведчылі, што бойку пачаў шчуплы белавусы мядзьведзіцкі чалавек, якога Поштай дражняць, але ніхто ня бачыў, каб ён каго небудзь выцяў. Тодар не таіўся, што ён парваў касу, але казаў, што зрабіў гэта незнарок: хацеў папрабаваць, ці добра косіць, ды не заўважыў у траве купіны. Мядзьведзіцкія ўсе сьведчылі, што першым згроб за карак Тодара дымаўскі хлопец. Хацела міліцыя высьветліць, хто вёў Мядзьведзіцкіх на Забродзьдзе, але выходзіла, што ніхто ня вёў, усе самі йшлі. Першага, хто падаў голас, каб ісьці дымаўцаў праганяць, таксама ня было. Тодар сьведчыў, што першыя пабралі косы мужчыны «з таго канца». Ён бажыўся, што сам на свае вочы гэта бачыў, як звычайна, забыўшыся, што яму намякнуў пра гэта Каржакевіч. А мужчыны з таго канца казалі, што яны нават ня ведалі нічога, пакуль не падышлі да іх мужчыны з другога канца і не паклікалі.

— Хто рэзнуў дымаўскаму чалавеку па руцэ, таксама ніхто ня мог сказаць. Гэтага ня ведаў нават і сам паранены. Праўда, некаторыя мядзьведзіцкія цішком гаварылі, што ў Соміка была запэцкана каса ў кроў, але пэўна ніхто нічога ня ведаў, бо Сомік і сам парэзаў трохі руку, схапіўшыся за нечую касу—мог такім чынам і сваю касу запэцкаць у сваю кроў.

Міліцыя паехала, але трывога ня ўціхала. Ня верылася, каб гэта яно так абышлося, думалася, што гэта яшчэ ня ўсё, што самае страшнае яшчэ наперадзе.

Сьмяецца, аж захліпаецца Алеська на Шурыных каленях. Нагамі перабівае, твар і шыю рукамі стараецца закрыць—так несьцярпліва казычацца травінка, якою ласкоча Шура ля вуха. Перастане— у Алеські твар закрыты яшчэ рукамі, але яна хітра глядзіць праз шчылінку між пальцаў. Шура ўжо забылася на яе, гаворыць нешта з яе маткаю. Алеська зноў пераходзіць у наступ: туліць твар да пругкага дзявочага Шурынага жывата, мерыцца ўкусіць, аж пакуль

зноў травінка ня прымусіць яе хаваць твар і трапятацца ад рогату. Радасна Алесьцы ад шчодрых сонечных праменьняў, ад цёплай Шурынай ласкі і яшчэ ўдвайне ад таго, што маці шые ёй такую прыгожую спаднічку: палоскі—чорная, зялёная, бурачковая. Дыхнуць ня дала мацеры, пакуль тая ня ўзялася за даўно абяцаную спаднічку. І цяпер, пакуль насохне сена, Аўдоля зьбірае складкі ў паясьніцы ў прыгожы гармонік.

— Ах, ну й пагода, пане ты мой!—падыходзіць Сьцяпан Варанец да Грамабоевага воза.—Проста як дым. Гэта-ж сьвежыя пракосы разьбіў я ля рэчкі, дык увачавідкі млее трава.

— Шанцуе сёлета на сена, пакуль што. Бог ведае, як далей будзе,—мялва гаворыць Грамабой, лежачы дагары на пакошы і засланіўшы шапкаю вочы ад сонца.

Яначка задзірае на сонца кучаравую русую бародку. Шавеліць за пазухай рукою і думае нешта сваё. Твар яго худы і васковажоўты.

— Аўдоля!—гукае Сьцяпан.—Ідзі, брат, закуры! Што ты ў гэту работу вельмі ўбіваешся.

— Зараз трэба сена варочаць.

— Няхай насыхае, яшчэ рана.

— Добра-б было Аўдолі закурыць у гаварковага Сьцяпана жоўтага мацаку-бесарабскага, паслухаць якую небудзь байку ці пра якое небудзь здарэньне, якіх у Сьцяпана заўсёды шмат у запасе, але ня хоча яна ісьці да Грамабоевага воза. Пасьля таго, як плюнула ў магазыне Міколу ў твар, ды яшчэ як пасварылася на бурвалку з самім Грамабоем, яна зусім з імі не гаворыць.

Насунуўшы нізка хустку на вочы, ледзь разьбіраючы праз балючыя шчыліны сьцежку пад нагамі, пашла на Аўдолін голас Марыська.

— Дзе ты тут, Аўдолька?

— Сюды, цётка Марыся, сюды.

— Дык гэта-ж ты тут і не адна, гэта-ж, здаецца, Шура Рыгорава з табою? А я чую, што з некім ты гамоніш тут, але не пазнала, добра ня чуваць адтуль... Маё ты дзіцятка, дай-жа я хоць разок гляну на цябе, гэтак-жа даўно я цябе бачыла,—нагнулася яна да самага Шурынага твару.—А засіверала-ж, загарэла! Чорненькая, як цыганачка ўсёроўна. Няхай табе бог дасьць здаровейка.

— ... Як мне ўжо, мае родненькія, пакута! Ніхто ня ведае,—скардзіцца Марыська.—Сонейка, дзякаваць богу, так ясна сьвеціць, дык я нічагусенька ня бачу. А боль-жа—стрываць нельга.

— Чаго вам, цётка Марыся, было сюды ехаць? Вы-ж бы дома ў цяньку там што зрабілі. Мусіць жа Ціхон вашу зямлю ўзяўся ўрабляць?—пытаецца Шура.

— А маё ты дзіцятка! Хто яго ведае як яно тут выходзіць. Як той казаў: кось-кось, пакуль у ваглоблі,—прыцішыла Марыська го-

лас.—Як утаваравaліся, дык усё добра было: і рабіць мы нічога ня будзем, і глядзець яны нас будуць. А цяпер кажа: «Калі вы на поле ня будзеце выходзіць, дык падумаюць, што я зусім вашу зямлю сабе забраў ды яшчэ ў фонд адбяруць». А нам—хто яго ведае—усяляк думаецца. «Едзьце, кажа, хоць пасядзіце ля воза». Гэта-ж праўда! Нехта будзе рабіць, а я ля воза буду сядзець! На мяне-ж бы, здаецца, усе людзі пальцамі паказвалі. «Я, кажа, гэта толькі памагаю вам, як брат родны». А тут хто яго ведае, як яно выходзіць. Конікам нашым робіць, кароўку нашу доіць, парсючка ў свой хлеў перагнаў, і мы ў яго як бы на ласкавым хлебе. Надоечы іду я па дварэ, а яны ў адрыне ўдвух, ня бачаць мяне. Сын і пытаецца: «А як жа яны, пойдуць на сена ці дома няхай?» Гэта пра нас з Яначкам. А бацька адказвае: «А што-ж, дарэмна хлеб будуць есьці?» А мы-ж хлеба яго яшчэ й не каштавалі, у нас жа, дзякаваць богу, свой хлябок дагэтуль быў.

Рада Марыська, што хоць знашла каму сваю крыўду выказаць, што яе слухаюць і шкадуюць.

— ... А то з вясны яшчэ... Запрог сын каня. «Садзецеся, кажа, дзядзька з цёткаю, да доктара павязу». А мой ты, кажу, Міколка! Карысьці, кажу, што ты павязеш? Былі-ж ня раз ужо. Што яны за помач, гэтыя дактары?» «Не, кажа, цяпер вельмі важны доктар у мястэчку. Я папрашу, дык ён вас добра агледзіць. Павінен памагчы». Паехалі мы, родненькія. Праўда, аглядзеў ён нас, выслухаў. усё як мае быць, а лякарства ніякага ня даў. Так і паехалі мы дадому, ня ведаючы, чаго й прыяжджалі. Адно-ж, родненькія мае, дачуваемся, мы ад людзей, што гэта ён нас на агляд толькі вазіў, каб доктар паперку даў, што мы рабіць ня можам. Па гэтай паперцы і падатак жа зьнялі, што на нашу зямлю прыпадаў. А мы-ж і ня ведалі раней, што на гэта ўвагу могуць мець, ды кожны год плацілі. Каб ня гэты падатак, дык мы-ж бы сёлета можа самі рабілі. А то-ж ён падручыўся быў і падатак за нас плаціць...

Раз по-разу паглядае Сьцяпан у той бок, дзе спынілася хурманка і сабралася ля воза кучка людзей. Аж зарадаваўся, калі падышоў Галаскок з граблямі на плячы,—есьць у каго запытацца.

— Што гэта, Алесь, там за хурманка?

— З раёну прыехалі.

Сумятліва прабягае Ганскі поперак палос ад воза да воза.

— Мужчынкі. Можа-б вы падышлі вунь да тае хурманкі, што на маёй палосе? Чалавек пагаварыць хоча.

— Сама што цяпер і гаварыць,—гіранізуюць «мужчынкі».— Прысьпічыла яму якраз, а сена няхай ня прыбранае будзе.

— Што-ж ты, братка, зробіш? Навечар адкласьці, дык пакуль папрыяжджаюць ды ўходзяцца, то й ноч агорне. Калі-ж той сход зьбіраць? Гэта ня доўга, на паўгадзінкі ня больш. Пакуль сена браць, дык і ўходзімся.—Заусёды ўгодлівы, ён і цяпер баіцца

хаця-б на яго не пакрыўдзіліся, што адрывае ад работы. Гэтак ва ўсіх сельсавецкіх справах ён заўсёды баяўся, хаця-б каго не пакрыўдзіць. Саромеўся сказаць чалавеку праўду ў вочы, адмовіць у чым небудзь. Карысталіся людзі з яго дабраты, але не паважалі, падсьмейваліся цішком. А колькі зямлі ды жывёлы ўтаілі ад абкладаньня! Колькі даведак ад сельсавету дасталі пра беднасьць нават і зусім ня бедныя!

— Дык не марудзьце-ж, мужчынкі. Самі сябе затрымліваеце.

Кучаравы ў вайсковай гімнасьцёрцы сядзіць на біле, зьвесіўшы ногі, і чакае, пакусваючы каліва мятліцы. Няўцішаная яшчэ трывога і нязвычайныя абставіны сходу на сенажаці, куды прыехала начальства, падштурхоўвае мядзьведзіцкіх. Каля воза натоўп усё расьце і гусьцее. Ціха гутараць, закурваюць, паглядаюць крадкам на кучаравага сакратара райкому адны дапытліва, другія недаверліва. Побач з сакратаром—нявысокі, чарнамазы стаяў з папкаю пад пахай—старшыня сельсавету. Ён паглядаў на мядзьведзіцкіх строга і дакорліва: «Што-ж вы тут, сукіны сыны, нарабілі без мяне!»

Сакратар райкому ня меў на ўвазе дабівацца ад мядзьведзіцкіх якой небудзь пэўнай пастановы. Ён проста хацеў растлумачыць, адкрыць ім вочы на тое, што ў іх робіцца, а разам з гэтым паглядзець, «чым яны дышуць», і можа намацаць тыя сілы, якія штурхнулі вёску на няправільны шлях. А таму ён палічыў за лепшае фармальнага сходу не наладжваць, а правесьці лепш гутарку, каб сялчне адчувалі сябе вальней і сьмялей.

— Ну, я прыехаў, каб трохі пагаварыць з вамі,—сказаў ён седзячы на біле па-ранейшаму.

— Давайце пагаворым, таварыш Саламонік,—фарснуў Алесь тым, што ведае прозьвішча сакратара райкому.

— Дык пра што-ж мы будзем гаварыць?

— Пра што хочаце.

— Вам лепш відаць,—адказалі з натоўпу.

— А я думаю, што вы добра ведаеце, пра што я думаю гаварыць.

Апусьцілі вочы, каб ня сустрэцца з дакорлівым поглядам сакратара.

— Ну вот я ў вас, дзядзька, хачу запытацца...

Пятрусь Кухар аж сеў раўней, нарыхтаваўшыся адказаць на запытаньне.

— ...Чаму гэта ў вас нос завязаны?

Нехта хіхікнуў. Пятрусь зьбянтэжана мацнуў за нос:

— Некая балячка села... Скула ці якое ліха,—зачырванеўся ён.

— Чаго ўжо хлусіш? Прызнаваўся-б нечага,—параіў нехта з натоўпу.

— Гэта яму ад дымаўцаў гасьцінец невялікі,—адказаў за Петруся Сьцёпка.

— Колькі-ж вы хаця сена наваялі?

— Ай, ці ёсьць пра што гаварыць. Коп са тры асакі няшчаснай. Пятрусю нястрывана крыўдна было і за тое, што ён у бойку ўмяшаўся, і за разьбіты нос, і за гэтыя тры капы асакі, калі іншыя па добрым возу мурагу ўзялі.

— Дык хіба-ж гэта мы адбіралі зямлю ў паноў, на франтох за яе гінулі, дзеля таго, каб зноў за яе біцца паміж сабою? Ці можа гэты дымаўскі, якому вы руку пакалечылі, можа ён пан які недабіты ды вы надумаліся яго дабіць?

— Пан! Гэтакі, як я княгіня,—адказала за ўсіх Аўдоля.—Адну карову мае і тую за хвост падымае. Хацеў сена гэтай карове накасіць, дык яму й касянулі. У іх жа з сенакосам яшчэ цяжэй, як у нас.

— Але, скажы ты, гэта-ж трэба было ісьці біцца?! Як чорт падаткнуў усёроўна,—каяўся Сьцяпан Варанец.

— А каб вы папрабавалі пашукаць гэтага чорта між вас? Я думаю, што ён тутэйшы, свойскі.

— Шукалі. Міліцыя прыяжджала. Нікога й вінаватага няма.

— Мне вось цікава—хто-ж гэта першы надумаўся зямлю ад саўгасу адбіраць?

— Адбіраць ніхто ня зьбіраўся.

— Спадзяваліся, што па-добраму аддадуць.

— Ці не Андрэй гэта першы намякнуў пра гэту зямлю?

— Во! Дзіва што я ні ў якія справы не хачу ўмешвацца. І тут я вінават! А памятаеце, калі дэлегацыю ў саўгас выбіралі, ды я казаў, што з гэтага нічога ня будзе, што трэба пакінуць і думаць пра гэта? Дык жа не паслухалі мяне.—Рудыя вочкі бегалі па бакох, баючыся глянуць кучараваму проста ў твар. А той глядзеў на Каржакевіча, ня мігаючы, быццам хацеў наскрозь праняць сваім поглядам.

— Праўда, казаў ты гэтак,—пацьвердзіў Сьцяпан Варанец.

Юзік сядзеў, абхапіўшы калені рукамі, і рубчыкі яго вушэй гарэлі. Прыемна было, што ён адкаснуўся ад пасёлка і ад гэтай зямлі, што адзін з нямногіх не пашоў на Забродзьдзе, але недзе падыспадам пад гэтым прыемным адчуваньнем ныла раскаяньне, што ён адразу горача быў узяўся за гэту справу, нават зьбіраў подпісы па хатах і хадзіў дэлегатам у саўгас.

— Я даўно казаў: каб гэту зямлю, што ў саўгасе, ды раздалі на гаспадароў, дык дзяржаве куды-б больш карысьці было-б. Аднаго падатку колькі можна было-б сабраць. А саўгас—што ён вельмі дае? Парабак парабкам патом—ня вырабіць таго, што гаспадар.

Сказаў гэта Грамабой нібы сам сабе, але знарок так, каб чуў сакратар райкому.

— Чулі мы гэтакія гутаркі, дзядзька—падхапіў той.—Чулі яшчэ й такія, што заводы і фабрыкі дзяржаўныя нікуды ня варты, што, каб яны ў гаспадароў былі, дык бы куды больш тавараў выраблялі. Ведаем мы, што гэтыя гутаркі азначаюць. Гэта значыць: падзялі,

савецкая ўлада, саўгаскую зямлю паміж «добрымі» гаспадарамі, аддай фабрыкі ды заводы зноў жа прыватным гаспадаром (старым ці новым—гэта ўсёроўна) і застаніся сама з голымі рукамі. А тагды гэты самы гаспадар ўбярэцца ў пер'е ды скажа: «Пашла ты, савецкая ўлада к чортавай матары, ты мне толькі перашкаджаеш». І гэта зразумела, бо гаспадар жа без эксплёатацыі рабочых ня можа абыйсьціся, а савецкая ўлада зусім хоча зьнішчыць усялякую эксплёатацыю разам з эксплёататарамі. Каб савецкая ўлада раздала зямлю і фабрыкі гаспадаром, што-ж бы сказалі на гэта рабочыя ды батракі? Вы не дагадваецеся часамі? Саўгасаў мы ня думаем аслабляць. Наадварот, усялякімі спосабамі стараемся іх умацаваць, даць ім машыны, памагчы стаць цьвёрда на ногі, каб яны давалі прыклад і сялянам, як трэба на зямлі гаспадарыць.

— То на пасёлак гоняць, то ўжо кепска што зямлі людзі патрабуюць. Ты, калі гоніш, дык дай жа, каб было на чым разгарнуць гэты пасёлак,—бурчэў нехта ў натоўпе, схаваўшыся за плечы.

— Вось, як я чую тут адным вухам, нехта там кажа, што савецкая ўлада вас на пасёлкі гоніць,—падхапіў рэпліку сакратар. Ці праўда гэта?

— А траха што й праўда.

— Вядома, праўда. Што-ж тут у хованкі гуляць,—вылучыўся звонкі голас Соміка.

— Ды прыяжджаў-жа тут і з раёну, і вось старшыня наш ня раз ганяў нас...

— Каб гналі, дык бы загналі, а вы-ж не на пасёлках,—сярдзіта буркнуў старшыня сельсавету.

— Дык я вам вось што скажу на гэта, мужчыны.—Сакратароў спакойны голас адразу ўтаймаваў завіруху ўзбуджаных выкрыкаў.—Не растлумачылі вам, як мае быць, гэтай справы. Вы, мусіць, чулі прыказку: загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е. Калі сапраўды вас хто небудзь гнаў на пасёлкі, дык да яго гэта прыказка вельмі падыходзіць. Ад іхных малітваў часамі і на нашым ілбе гузы нахапляюцца. А для савецкай улады зусім не канечне, каб былі пасёлкі. Для нас цяпер найважнейшая справа—падняць нашу гаспадарку. Вы-ж ведаеце, што засталося нам пасьля вайны, пасьля немцаў, палякаў ды ўсялякіх бандытаў, гаварыць вам пра гэта доўга ня трэба. Зямля спустошана, заводы і фабрыкі сталі, шмат якія разбураны. Цяпер мы па-трошку пускаем іх у ход, бо працоўным патрэбны тавары, вы гэта добра па сабе ведаеце. Але для заводаў і фабрык патрэбен сырэц, а шмат які сырэц можа даць толькі сельская гаспадарка: лён, пянька, бульба,—усяго не пералічыш. Зноў жа: для заводаў патрэбны рабочыя рукі, а яны-ж хочуць есьці. Хто ім дасьць хлеба, калі ня сельская гаспадарка? А вам тавары трэба купляць? Трэба. А за што вы іх будзеце купляць, калі ў вас ня будзе лішкаў? Скажэце-ж, трэба нам падымаць сельскую гаспадарку?

— Дык хто-ж гэта кажа, што не?

— Вось савецкая ўлада і дае ўсе магчымасьці, каб падняць гэту гаспадарку. Адгэтуль і пасёлкі бяруцца. Бывае, бачыце, часам так: вёска вялізная, палос па дваццаць нарэзана ды вузенечкіх, ды знаходзяцца некаторыя за некалькі вёрст. Вось і ўрабі ты тут зямлю, як мае быць. Альбо бывае, што частка гаспадароў хоча засеяць папар, а другая хоча пасьвіць сьвіньні на папары, адны хочуць сеяць канюшыну, сэрадэлю, садзіць буракі на поле, а другія ня хочуць гэтага; адны хочуць, прасьцей кажучы, падымаць гаспадарку, а другія трымаюць іх за ногі. Ня можа савецкая ўлада трымаць іх разам за чубы, калі яны хочуць разысьціся на пасёлкі. Але калі можна і без пасёлка абыйсьціся, то яшчэ й лепш. Я-ж кажу: у савецкай улады самае галоўнае цяпер—падняць гаспадарку.

На чым ты яе тут вельмі падымеш тую гаспадарку? Вось абы гаварыць...

— Дарэмна ты стогнеш, дзядзька Васіль.—Крыўдна было Юзіку, што Крываножка лічыць пустою гаворкаю тое, што ён з такім захапленьнем слухаў.

— Нічога я не стагну, гэта як праўда.

— А вось скажы, колькі вазоў канюшыны ты сёлета ўзяў?

— Што ты маю лічыш! Сваю палічы,—абразіўся той.

— Я палічыў, пяць разоў прывёз.

— Ну, а я на раз болей, дык прычым тут што?

— Як пры чым што? А раней ты шмат накошваў?

— Вось вярзе чалавек! Як жа я мог накошваць, калі і ня сеяў яе ніколі?

Галаскок зарагатаў:

— Дык пра гэта-ж, дзядзька, і гаворка йдзе. Гэтаю-ж канюшынаю ты лішнюю штуку зімою прахарчуеш. Вось табе й падняцьце гаспадаркі.

— А на доўгіх за дарогаю колькі ты жыта нажнеш сёлета?—не адставаў Юзік.

— Колькі захачу, а табе што за дзела!—дарэшты раззлаваўся Крываношка.

— Коп чатыры нажнеш, я думаю. А пакуль лубіну ня сеяў, пуставала скрозь. А ці мала ў каго была спустошана зямля, пакуль на вайне былі? Паглядзі, патрошку папраўляюцца патом жа.

Сакратар закурыў і з цікавасьцю слухаў Юзікаву спрэчку з Крываношкам. «Даходзіць патроху»,—здаволена падумаў ён.

— Яшчэ я ў вас, таварыш, хацеў запытацца,—гарачы яшчэ ад спрэчкі з Крываношкам зьвярнуўся Юзік да сакратара.—Добра, паднімаем мы гаспадарку, пойдуць заводы і фабрыкі. А далей што? Ці гэта вёска так і застанецца, як цяпер, ці як іначай будзе?

— Не, ня можа яна так застацца. Тагды мы і вёску будзем перабудоўваць на сацыялістычны лад, а пакуль ёсьць свая ўласная

гаспадарка, датуль ня будзе сацыялізму, датуль мы ня зьнішчым эксплёатацыі.

— Дык на што гэта адкладаць надоўга? Зразу-б і гаспадарку падымалі і сацыялізм на вёсцы заводзілі,—сказаў Алесь.

— А вось запытайцеся, хто з тых, што тут сабраліся, згодзен заўтра ў камунуісьці? Давайце на тую спробу. Хто згодзен заўтра ў камуну, няхай падыме руку.

— Я першы,—падняў высока руку Алесь.

Мужчыны некаторыя сярдзіта адвярнуліся, другія паглядалі зьбянтэжана адзін на аднаго, ня ведаючы, на праўду гэта ці жартам.

— Ну што, аднагалосна?—засьмяяўся сакратар.

— Ня хочуць,—пачухаў патыліцу Алесь.

— А гэта значыць, што ў нас з вамі яшчэ ня ўсё гатова для таго, каб масы сялян у камуну пашлі. Трэба, каб тыя, што ўжо ёсьць, камуны і арцелі, так гаспадарку наладзілі, каб кожны бядняк і серадняк на свае вочы ўбачыў, што ў камуне жыць лягчэй і выгадней. Ды зноў жа, нас ня можа задаволіць такая камуна, у якой-бы мы аралі сахою, баранавалі дзеравянаю бараною, малацілі цэпам. Перабудова вёскі на сацыялістычны лад пойдзе шпарчэй і з большым посьпехам, калі ў нас будзе высокая машынная тэхніка. Патрэбны трактары, сеялкі, веялкі, жняяркі, камбайны, касілкі— сотні тысяч. А ў нас іх яшчэ вельмі мала. Трэба, каб усе гэтыя машыны нашы заводы далі, трэба, як кажуць, падвесьці пад сельскую гаспадарку індустрыяльную базу.

— Доўгая гэта музыка,—пакруціў галавою Алесь.

— Вядома, адным махам ня зробіш. Паступова будзе рабіцца.

— А цікава, якім спосабам усё-ж вёска будзе перабудоўвацца? Зразу ў камуну, ці як?—дапытваўся Юзік. Яго даўно турбавалі усе гэтыя пытаньні. Сам ён блытаўся у іх, падоўгу думаў і ўсё-ж яны для яго былі вельмі туманныя.

— Я й сам яшчэ цяпер дакладна адказаць не магу, як яно якраз будзе. Але ў асноўным гэта павінна пайсьці праз каапэрацыю. Чулі вы напрыклад, што ў Піліцы ёсьць малочная арцель; у вас, казаў мне сёньня ваш член сельсавету, зьбіраюцца машыннае таварыства арганізаваць. Вось гэта й ёсьць маленькі пачатак вялікай справы— пераводу сельскай гаспадаркі на сацыялістычныя рэйкі. Я ўжо не кажу пра камуну ў Гадлеўшчыне, якую вы самі добра ведаеце.

Гэты адказ яшчэ ня цалкам здаволіў Юзіка. Ён яшчэ не ўяўляў канкрэтна, як гэта будзе рабіцца, але сёняшняя гутарка з сакратаром райкому адкрыла яму выхад з таго тупіка, у якім ён апынуўся, калі пачалася справа з пасёлкамі, асабліва пасьля наведваньня дэлегацыяй саўгасу. Цяпер ён хоць бачыў той агульны кірунак, у які накіроўвала вёску цьвёрдая і разумная воля бальшавікоў.

— А як жа ўсё такі з Бугайнікам і Забродзьдзем будзе? Гэта нам так і не дадуць зямлі?—у голасе Курыльчыка боль і смага згаладанага па зямлі чалавека. Дзесяткі вачэй глядзяць ня зьмігнуць, чакаючы адказу. Кучаравы адказвае не адразу. За гэтым напружаным чаканьнем ён наперад угадвае нездаваленьне яго адказам.

— Вас проста тут абдурылі,—гаворыць ён знарок рэзка, каб ні ў кога надзеі на саўгаскія прырэзкі не заставалася.—Няйначай, як кулацкая рука накіравала вас на саўгаскую зямлю. У раёне нямала ёсьць гаспадарак, што маюць лішкі зямлі. А колькі яе яшчэ ўтоена! А мядзьведзіцкія бедянкі разьбіваюць дымаўскім бедняком галовы за саўгаскую зямлю. Такіх прыкрых здарэньняў у нас ня будзе, калі бедната і серадняк ня будуць хадзіць у кулака на павадку. Вы павінны дапамагчы сельсавету выявіць усю ўтоеную зямлю, падлічыць усе лішкі. Я ўпэўнен, што абрэзаўшы іх, хопіць надзяліць зямлёю малазямельных. А туліць пад крылом кулака і адбіраць зямлю ў саўгаса—гэтага мы ніяк ня можам. Гэта вы самі павінны разумець.

Разыходзіліся кучкамі ў розныя бакі на свае палосы, абмяркоўвалі на скорую руку толькі што чутае. Забродзьдзе і Бугайнік—як вырваныя стрэмкі, пасьля якіх застаўся шчымлівы сьлед. У некаторых ныла думка пра далейшае: «Гэта не канец яшчэ. Не дадуць спакойна пажыць людзям».

Галаскок з Юзікам пералічвалі ўжо хутаранцаў навакол Мядзьведзіч і Дымаўкі, і колькі ў каго з іх лішняй зямлі. Грамабой гіранізаваў злосна і зьедліва.

•

— Тут у вас здаецца, рэчка недалёка павінна быць?
— А вунь, дзе тыя кусьцікі.
— Ня шкодзіла-б пакупацца.
— Хадзем, я пакажу вам добрае месца,—падахвоціў Сьцёпка.

Песьціць сонца вызваленае з-пад адзежы сасмаглае цела, жмурыцца сакратар ад яркага сьвятла і сонечнай ласкі, пацірае касматую грудзіну.

— ... Ёсьць у вас нядрэнныя хлопцы. Можна актыў скалаціць... Камсамольцы нашы ня прывыклі яшчэ гаспадарчымі справамі займацца. Спэктакль наладзіць, гэта яго справа, а гаспадарку наладжваць—няхай тата робіць. А кулаку гэта й лафа—вальней без камсамолу бедняка апутаць... Член сельсавету ў вас размазьня. Няўжо лепшага не знашлі!.. Не прасьпеце перавыбараў. Абмяркуйце загадзе кандыдатуры. Згуртуйце вакол ячэйкі бедноту, моладзь... Не папускайце серадняка пад кулацкі ўплыў, цягнеце на свой бок...

І неяк дзіўна не пасавалі гэтыя сур'ёзныя, амаль дырэктыўныя, парады і роля сакратара райкому з яго шчуплым голым целам, што песьцілася ў сонечных праменьнях. Здаравяк Сьцёпка лёгка мог бы загнуць яму «смардака» ці паставіць пару банек, але ён слухаў з па-

вагай сакратаровы парады і чуў у іх сабе дакор, што ячэйка шмат чаго не зрабіла, што кулакі з сваімі хітрыкамі на чыстую ваду ня выведзены, што здарылася бойка з дымаўцамі.

— Плаваць умееш?

— Пры рацэ жывучы, ды каб ня ўмець!—узрадаваўся Сьцёпка, што скончылася напоўафіцыйная нацягнутасьць.

— Давай навыперадкі на той бок і назад.

Разьлятаюцца, мільгацяць дыямэнтавыя пырскі, ускалыхваюць да самага пескавога дна сьветлыя хвалі Брадзянкі, і дзьве галавы— адна чорная і кучаравая, другая сьветлая, стрыжаная—гухкаючы, фыркаючы, набліжаюцца да кусьціка аеру на тым баку.

## „ПРАЎДА НАВЕРХ ВЫШЛА“

Булькоча вада каля каменя. Кружыцца, віруе над чорнай ямінай за каменем. Пескавыя жоўтыя бакі яміны трацяцца ў цёмным дне пад вадзяною тоўшчаю, якой ня можа праняць вока. Сядзіць дзед Агей без шапкі на камені. На такім камені яму малому і прылегчы можна-б было. Ды дзе там! Сядзіць і ня дыша. Ня мігаючы, глядзіць на плывок, на галачку хлеба, што гойдаецца на кручку ля самага дна. З цёмнага прадоньня яміны падплываюць часам на водмель галаўлі—таўстасьпінныя, тупарылыя, з чырвонымі, як жар, пёркамі. Вось—вось, каўтане дзедаву галачку, і дзед загадзе адчувае ў далоні жывое трапятаньне вудзільна. Ого, няма дурных! Нібы знарок, на прыкрасьць дзеду, праплывае каля самай галачкі і нават носа не заверне. Яшчэ быццам дражніцца: хвастом зьняважліва кране галачку і далей плыве—паважна, ганарліва. Але толькі шавяльне дзед вудаю, дзе ў яго тая й паважнасьць дзенецца—так вільне, толькі ты яго й бачыў.

У дзеда ўжо аж сьпіна атруцянела і рука анямела, ня кратаючыся. Плюнуў нарэшце ў самую яміну:

— А хоць вы павыпруджвайцеся! Трасцу, начаплю чарвяка, няхай акунь, альбо пячкур есьць, а вы аблізвайцеся.

Прыгравае сонца дзеду ў плечы. Намагаецца ён трымаць вочы расплюшчанымі, а павекі ўсё мацней зьліпаюцца, плывок, як у тумане, плаўна гойдаецца на хвалях і зусім зьнікае. Вярзецца—ня то сьніцца, ня то думаецца—Агею пра тое страшнае, што здарылася з ім у асеньнюю раніцу,, калі ўсе Мядзьведзічы ўзбуджаны былі пакражаю чацьвярых коняй. Як ён вышаў тагды з хаты раніцою і заўважыў, што на траве абагнаны іней і конскія сьляды пашлі ад купкі алешніку на сенажаці проста ў вароты яго хлявушка. Як ён адчыніў хлявушок і зразу ўпёрся ў азадак Баранковага каня. Усе чацьвёра коні былі папрывязваны да загарады, ледзь зьмясьціўшыся ў яго маленькім хлявушку. Агей стаяў атрупянелы і ня ведаў, што яму падумаць.

— Што асалапеў!?—крыкнулі недзе зьверху.

Лыпнуў тагды Агей угору, а з вышак зьвешваюцца чаравікі з жоўтымі гетрамі, далей—шчуплы стан і твар Уладзіка. Побач з ім—няголены, шчарбаты, са шрамам на шчацэ, ляжыць жыватом на дошках. Зьвесіўшы галаву ўніз, ён сіпіць вясёлым зьедлівым сьмехам. Агей спуду перахрысьціўся і стаў аступацца задам з хлявушка. Але Уладзік спрытна саскочыў з вышак, схапіў дзеда загрудкі і паднёс рулю нагана пад самы нос:

— А вось гэта бачыў?

Дзед зразу асеў і зажмурыў вочы, чакаючы наглай сьмерці.

— Памятай: калі ты толькі каму небудзь пікнеш, што бачыў тут коні, або мяне, тагды вось гэтага табе ўсёроўна ня мінуць.— Уладзік пастукаў зьлёгку халоднаю стальлю дзеду ў лоб.

Уночы коні з хлявушка зьніклі, праскочыўшы у намацаную на мяжы дзірку, а дзед Агей усё яшчэ адчуваў халодны дотык сталі да лба, як дотык самой сьмерці. З таго дня яго без перастанку мучылі—нявыказаная таямніца і страх за сваё жыцьцё. Колькі разоў ён памыкаўся сказаць, нават намякаў, але на памяць успывалі— зьедлівы шчарбаты сьмех і дотык рулі, і Агей адразу прыкусваў язык.

Цяпер, прадзіраючы на момант вочы, Агей бачыў плаўнае пагушкваньне плыўка, сонечнае мільгаценьне на хвалях, чуў вясёлае булькатаньне пад каменем. Ня было ні асеньняй раніцы з інеем на траве, ні халоднай рулі, ні зьедлівага сіпеньня шчарбатага гнілазубага рота: ня было каго ўжо баяцца і ня трэба было насіць у сабе цяжар вымушанага сакрэту. Вусны дзедавы складаліся ў ледзь значную ўсьмешку задаваленьня, павекі зноў зьліпаліся і нос пачынаў торкаць, як плывок ад пяшкурынай валтузьні з чарвяком. Ён ня бачыў перамены ў рацэ навокал сябе, ня чуў, што хвалі пад каменем булькочуць па іншаму—мацней і зласьней.

— Дзед!

— Дзед!!

— Дзед!!!

— На той надзет!—пахабнічае нарэшце Агей лыпнуўшы вачыма.

— Цягні, павяла!—крычаць з таго берагу і дзеда зьлёгку уражаюць іх вясёлыя галасы і звонкі сьмех. Але раптам сам страпянуўся ўвесь:

— Сынку, лаві! Вуду лаві! Вунь на бервяне паплыла! Багром, багром яе! Эх, недарэка! Трэба было за бервяно чапляць.

У сумятлівасьці абярнуў бляшанку з чарвямі і яны, ружовыя і патанчэлыя, выцягваюцца ў струны, распаўзаюцца ў розныя бакі па гарачым камені, шукаючы сабе халадку і вільгаці, каб схавацца ад сьпёкі. Брадзянка набухла і пацямнела. Закруціліся вадзяныя віхры. Імклівa і заклапочана, як на трывогу, бягуць па ёй таўсматыя камлістыя, ялíны, стройныя стрынгалявятыя красуні хвоі, паблісквaючы

мокраю і чырвонаю карою. Стукаюцца, як сьляпыя, галовамі ў зацягнутыя ля берагоў адкосы, адхінаюцца на сярэдзіну, імчацца далей, падштурхваючы, падганяючы адна адну. Схлупяцца ў цесным месцы на заломе, стануць шчыльна, ціснуцца бок да боку, аж пакуль не падбягуць плытнікі і не разарвуць залом бусакамі.

Вада плюскоча і віруе аж ля самых дзедавых ног. Адгарадзіла яму выхад на бераг. Ён, лаючыся, скідае порткі, задзірае кашулю і аж па самыя худыя рэбры акунуўшыся ў імклівую прахалоду, брыдзе на бераг. Ня ведаў, што сёньня будуць прапускаць лес і ў саўгасе адчыняць застаўкі.

— Дзед, злавіў акуня?

— З каня...

— А мо' плотку?

— Хрэн табе ў глотку.

— Пакажы-ж сваю рыбу, дзед.

— Паглядзі пад хвост сабаку, дык ня будзеш воўка баяцца,— хуліганіць весела Агей, трапляючы нагою ў калашыну.

Плытнікі знарок дражняцца, ведаючы Агеяў нораў. Цяпер ён на кожнае іх запытаньне пра рыбу будзе адказваць трапнай рыфмаванай і нерыфмаванай пахабшчынай.

— Дзед, давай закурым.

— Табачок ваш, а бумажкі даш,—адказвае Агей, зразу паладнеўшы.

— Вось, сынку, казаў я тагды—выдзе праўда, наверх,—лагодна пыхкае Агей цыгаркаю.—Вось яна й вышла, на маім стала. Цяпер гэтага нашага рыжага—бяры попліску ды лупі, як таго сабаку. Дарэмна людзей нявінных няславіў ды па судох цягаў...

Агей кожнаму сустрэчнаму ахвотна расказвае гэту радасную для яго навіну, пра якую гаварылі ўжо ў кожнай мядзьведзіцкай хаце і якая вандравала ўжо па ўсім раёне, дзе Ўладзіка даволі зналі, і даволі пра яго чулі. Затое Андрэй хадзіў як прышыблены, стараўся на вочы людзям не паказвацца, у гурт да мужчын ня йшоў, каб часамі хто ня ўзьняў гаворкі пра гэта. Калі хто пра кабылу папытаецца, адказ падрыхтаваў: «Злосны быў Уладзік, што з гаспадаркі яму нічога ня прышлося. Сам з ім ня бачыўся ні разу з дваццатага году».

*

Вестка пра тое, што Ўладзіка злавілі прышла невядома адкуль, нібыта праз сялянскія вусны за шмат вёрст прышла яна з таго месца, дзе яго злавілі. Казалі, што чалавек з тае прымежнай вёскі сам на свае вочы бачыў і гаварыў пра гэта ў мястэчку на кірмашы. Хто чуў гэта на кірмашы ад чалавека, невядома, але чуткам паверылі зразу. Вестка гэта асабліва нікога ня зьдзівіла і ня ўстрывожыла: усе даўно чакалі, што ён калі небудзь пападзецца такі. Адзін Агей

асьцерагаўся яшчэ некі час, але, калі пачалі ўсе гаварыць пра гэта і ні ў кога ніякага сумненьня ня было, тагды і ён асьмеліўся: расказаў пра коні, як яно што было.

Гаворкі-ж у Мядзьведзічах пра коні было шмат. Найбольш дзівіла тое, што ўкрадзена была і Каржакевічава кабыла. Некаторыя хацелі адмахнуцца ад гэтага, казалі, што Агей ужо зьдзяцінеў на старасьць і сам ня ведае, што пляце, але такіх было ня многа. Агей расказваў з такімі падрабязнасьцямі і так хваляваўся, што не паверыць яму было цяжка. Успомнілі, што і тагды, пасьля суду Соміка з Наздрэйкамі, ён усё на штосьці намякаў, кажучы, што злодзея шукаюць ня там, і што праўда наверх выйдзе. Ведаючы Андрэяву спрытнасьць і хітрасьць, шмат хто думаў, што без яго ведама гэта не абышлося, але што ён з гэтага выскураў—чорт яго ведае. Затое пра Соміка думка была больш пэўная: гад, дарэмна людзей валаводзіў. А ён ляскаў зубамі, як зацкаваны воўк, і агрызаўся на кожны напамінак пра гэту справу.

А з Уладзікам у прымежнай вёсцы было ня зусім так, ці праўдзівей кажучы, зусім ня так, як пра гэта дайшлі чуткі да Мядзьведзіч. Невядома, ці наўмысьне хто перайначыў, пусьціўшы гэтыя чуткі, ці мо' пакуль дайшло да Мядзьведзіч, яно неўзаметку так зьмянілася, што жаданае выдавалася за сапраўднае. Ня так яно было якраз у самым галоўным...

Гналі пастушкі каровы на раніцу—трое хлапцоў. Вёска стаяла ў лагчыне, і калі яны вышлі з каровамі на ўзгорак, убачылі, што там, дзе новая шаша перакрыжоўваецца з чыгункай, сядзіць чалавек. У яго ў руках белае—няйначай папера. Але як толькі ён пачуў каровін рык і хлапецкі гоман, паперу зараз-жа схаваў і дастаў з кішэні нешта другое, пастушкі знарок прагналіся з каровамі каля самага гэтага месца, каб паглядзець, што за ён. Чалавек сядзеў на крушні, апранены ў палатаны, зрудзелы ад старасьці, некалі шэры, паліто. На галаве была старая, з зашмальцаваным акольшкам, чырвонаармейская шапка; лапці—мокрыя ад расы. Каля яго ляжала аброць, а сам ён паволі жаваў аржаную скарынку.

З узгорку далёка відаць было жоўтае пескавое палатно шашы, роўнае, як струна. У лагчыне яно працінала наскрозь невялікі лясок, а далей узьнімалася на суседні ўзгорак. Месцам кускі дарогі былі замошчаны, а найбольш па баках ляжалі крушні бітага каменьня.

Чалавек першы загаварыў да пастушкоў.

— Ці ня чулі вы, хлопцы, можа тут конь які прыблудзіўся? Ці можа бег па дарозе—гнеды з лысінкаю на лбе.

— Ня бачылі,—косячыся на чужога чалавека, адказалі пастушкі.

— Другі дзень шукаю. Нядаўна я купіў яго на кірмашы ў чалавека з гэтага боку...

Пастушкі з каровамі схаваліся ў кусты, мо' за паўкілёмэтра ад таго месца. Іх цюкнула, чаму гэта чалавек паперу схаваў, убачыўшы іх. Пачалі з-за кустоў цікаваць, што чалавек будзе рабіць далей.

Той устаў, паглядзеў у бок вёскі, агляпуўся кругом, зноў сеў і дастаўшы; разгарнуў паперу.

На здымку з дзьвюхвярстовай тапаграфічнай карты сіневатым алоўкам была адзначана новая шаша на працяту мо' пятнаццаці кілёмэтраў. Паабапал было нанесена усё, што магло мець ваеннае значэньне і чаго ня было на дзьвюхвярстоўцы: пасёлкі, што зьявіліся пасьля рэволюцыі (нават лічбай адзначана колькасьць хат), новая цагельня, збудаваная толькі ў мінулым годзе, асушанае балота, што на дзьвюхвярстоўцы адзначана, як непраходнае; нават асобныя дрэвы сярод поля і іншыя рэчы, якія могуць служыць арыентырамі. Адным словам, усё тое, што можа спрыяць альбо перашкаджаць вайсковай апэрацыі ў гэтай мясцовасьці.

Правізаваўшы на рог лесу, ёх хацеў нанесьці яшчэ некую дэталь, як заўважыў: то хаваючыся ў лес, то паказваючыся з лесу (мусіць там, дзе хвойнік быў занадта густы), у кірунку да вёскі бег хлапчук з торбачкаю на плячах. Сочачы вачыма за хлапчуком, Уладзік згарнуў, не сьпяшаючыся, карту і палажыў за пазуху. Пасьля ўстаў і падаўся ў лес па вузкай дарожцы. Ісьці ён таксама не сьпяшаўся: пастушку да вёскі бегчы заставалася кілёмэтраў паўтара, у вёсцы тэлефону няма, а да паграцічнай заставы кілёмэтраў чатыры. Калі самі пачнуць яго даганяць ды яшчэ ў лесе, дык ня вельмі ён і спужаўся. Так ацаніў Уладзік становішча і шоў сабе, насьвістваючы некі неадчэпны матыўчык. Нават калі неўзабаве пачуўся лёскат кол, дык гэта яго ня вельмі ўстурбавала: ведаў, што ў гэтай мясцовасьці яго ў твар ніхто ня знае.

З-за дрэў паказалася хурманка. Удвух сядзелі поруч. У вясковым адзеньні—тузаў лейцамі, падахвочваючы бегчы лядаштую цьвілую каняжыну, а другі, у кепцы і крамным запыленым паліточчыку, драмаў,. лыпаючы вачыма, калі трэсла на карэньні. Уладзік, заўважыўшы на сабе пільны погляд хурмана, прыпыніўся:

— Ці ня чулі, можа тут дзе конь прыблудзіўся?

Той, што драмаў, зразу прачнуўся і ўтаропіўся вачыма ўладзіку ў твар, а рука яго бяз яго ведама сьціскала моцна хурманова калена. Ніводзін не адказаў. Цяпер толькі ўладзік уважліва глянуў у твар таму другому і, ледзь усьміхнуўшыся, пашоў ад воза. Перад ім, як жывы, стаяў вучань гарадзкога вучылішча Хмялевіч—вуграваты асмуглы твар, белазорыя ўважлівыя вочы. Гады яго вельмі мала перамянілі А той, едучы, разоў са тры абарочваўся ўсьлед Уладзіку, а потым узяў з рук хурмана пугу і пачаў старанна падбадзёрваць каняжыну.

Уладзік зьвярнуў з дарогі ў лес.

Гэты буграваты і быў адзіным чалавекам, які (больш па голасе, як з выгляду) пазнаў Уладзіка ў прымежнай вёсцы. Першы-ж чалавек, каму ён сказаў пра гэта, быў начальнік заставы.

## ПУПАВІНА

Ідучы на поле, Якуб сустрэў на дарозе меншага свайго брата Косьціка. Той вёз снапы на Каржакевічавым гнедым. Гнедага кусалі мухі і авадні, што роем віліся каля яго, бзыкалі каля самай мысы, забіраліся пад самае чэрава, сядзелі кучаю на самым кволым месцы, дзе нельга было дастаць абагнацца. Гнеды заўзята махаў галавою, церабіўся хвастом і нагамі і ўсё прыбаўляў ходу, пераходзячы ледзь не на бег. Воз гойдала па карэньні і выбоінах, і ён кожную хвіліну гатоў быў перакуліцца. Косьцік напінаў лейцы ў сваіх малых руках, упіраючыся босымі, патрэсканымі ад закарэлай гразі нагамі ў гарачы пясок, але конь быў не закілзаны і мала зважаў на Косьцікава тпруканьне. Якуб узяў каня за аброць і прыпыніў:

— Чаму гэта ты снапы вязеш?

— Гаспадар наклаў ды сказаў везьці.

— А каровы дзе?

— У пастух пашлі.

— Чаму?

— Ён кажа, што цяпер, як пашлі па пакошы, і ў пастуха пад'ядуць.

— Ты-ж у яго за пастушка наймаўся?

— Ну дык што.

— А чаму-ж ён прымушае цябе парабоцкую работу рабіць?

— Ён ня прымушае, я сам захацеў. Вунь Казіку таксама чатырнаццаць год, а ён з бацькам усюды езьдзіць, на сена і па снапы.

— Дурное ты... Каню рады ня дасьць, а падручаецца. Аж засопся, зараз бы плакаў.

— Дзіва што! Хацяб не заплакаў!—У Косьціку загаварыў гонар, той самы, які падштурхваў яго езьдзіць з гаспадаром на сена і на поле. Праўда, што Каржакевіч ня прымушаў Косьціка ехаць на поле, але Косьцік не расказаў Якубу, як гэта так вышла, што ён падахвоціўся ісьці на цяжкую работу.

Аднаго дня ў Каржакевіча павінны былі жаць шэсьць чужых жней. Жнеі былі ўжо «заробленыя», аджыналі за вінаватае: таму бульбы паўасьмінкі даў вясною, таму мукі на хлеб—і цяпер Каржакевіч мог узяць іх, калі сам хацеў. Сваё пакідалі асыпацца, а да яго мусілі ісьці, каб ласкі ня страціць. Параіўшыся з жонкаю, Андрэй надумаўся разьбіць жней на дзьве партыі: так спарней работа, думаў ён, будзе ісьці, а то ў вялікім гурце больш гаворкі, будзе, ды замі-

нацьбудуць адна другой. З аднаею партыяй павінна была ісьці Андрэіха, а з другой Натальля.

— Калі пакінуць чужых жней адных, дык, як захочуць так і жаць будуць, а пры гаспадыні нябось пасоромеюцца,—сказаў Каржакевіч.

Але ў Каржакевіча й сена было яшчэ ў адным месцы на вазоў чатыры. трэба было падсушыць ды забраць. Вось тут і пад'ехаў Андрэў да Косьціка з сваімі хітрыкамі.

— Куды гэта ты зьбіраешся?—запытаўся ён, калі Косьцік узяўся за нож, каб адрэзаць сабе хлеба ў торбу.

Косьцік глянуў яму ў вочы няўцямна: кожны дзень ён рэзаў хлеб, і гаспадар сам добра ведаў, куды ён зьбіраецца.

— Яж каровы ў статак выпусьціў,—растлумачыў гаспадар.

Яшчэ больш зьдзіўлены, Косьцік глядзеў Каржакевічу ў вочы, апусьціўшы руку з нажом.

— Цяпер ім хопіць травы і ў статку,—адказаў гаспадар на зьдзіўлены Косьцікаў погляд.

— А мне што рабіць?

— Што хочаш. Гуляй сабе, калі хочаш. Парсюку тут замяшаеш, курэй з ячменю паганяеш, ды мяшай сабе кашку з маленькімі дзеткамі.

Косьціка моцна абразіла гэта гаспадарова прапанова, асабліва пра кашу з маленькімі дзеткамі. Ён стаяў насуплены ля вакна і вадзіў пальцам па шкле, гатовы заплакаць.

— Казючок вунь, равесьнік твой, на сена з бацькам езьдзіць. Бацька падае, а ён калі выверша воз, дык аж любата,—сказала Натальля.

— Дык то Казючок! Куды яму да Казючка, той жа дужы хлопец,—падражніў гаспадар.

— Я вашага Казючка аднаею рукою жмякну,—адказаў Косьцік, не адзарочваючыся ад вакна.—І на сене спраўлюся з ім.

— Ты адно хвалішся. Сена-ж ты і грэбці, мусіць, ня ўмееш, а ня то што воз таптаць.

— Вазьмеце-ж мяне сёньня на сена, дык пагдядзіце.

— Яшчэ бацьку скажаш, што я цябе прымушаю,—закінуў Каржакевіч.—Але калі ты ўжо так намогся, дык едзь сабе са мною на сена. Парсюку я сам замяшаю, як прывязу сена ўдзень.

Дні праз тры хлапчо нацешылася з работы і рада-б было аддыхнуць за каровамі. Цяпер пасьвіць ня цяжка: прыпусьціў дзе на ржэўнік на добрую траву ды сядзі сабе.

— Нешта нашы каровы галодныя прышлі,—сказаў ён вечарам.—У Пралескі дык аж бакі паўпадалі. У пастуху патом ня так пад'ядаюць. Можа каб заўтра зноў пасабе палнаў?

— А ці я не казаў, што з Казючком табе ня справіцца? Вось і нацешыўся ўжо з работы, а прасіўся—вазьмі мяне з сабою. Скар-

дзіўся вясною, што пасьвіць цяжка. Работу, брат, рабіць яшчэ цяжэй,—укалоў яго гаспадар.

Косьцік зачырванеўся:

— Дык хіба я што! Я гэта пра каровы клапачуся. А ад работы я й заўтра не адказан.

Каржакевіч гэта ня першы год так робіць. Згодзіць падлетка за пастушка, той пасе ўсю вясну, пакуль пачнуць касіць ды жаць, тагды, аж пакуль і адсеюцца, да самай восені робіць у Андрэя на сенакосе і на полі, як сталы парабак.

Якуб ішоў і думаў пра Косьціка. Шкода было брата, што той мардуецца на рабоце не па яго сіле, але шкадаваньне гэта было ня самым моцным з цяперашніх яго пачуцьцяў. Яно перакрывалася шчымліваю крыўдаю, быццам з яго самога хто небудзьназьдзекваўся, і ён не павінен гэтага дараваць. Не ўпершыню яму было тое, што Косьцік наймаецца да людзей,—ён ужо трэйцяе лета ня дома; неўпяршыню і тое, што Каржакевіч наймае пастушкоў ды пасылае на іншую работу, але дагэтуль Якубу гэта ў вочы ня кідалася. Цяпер раптоўная сустрэча з братам абудзіла ў ім гэта гострае адчуваньне крыўды й злосьці. Тое мала зразумелае яму слова—«эксплёатацыя», якое ён сустракаў у падручніку палітграматы і чуў зрэдку ў дакладах, цяпер упяршыню набыло ў яго сьвядомасьці свае яскравыя канкрэтныя формы ў выглядзе Косьціка з патрэсканымі босымі нагамі, з напятымі ў нядужых руках лейцамі, у выглядзе трох пудоў жыта, за якія згадзіў Каржакевіч Косьціка на цэлае лета. Якуб адчуваў, што ён тут нешта павінен рабіць, што апрача яго крыўды, тут справа кранае і яго самога, як камсамольца, але і што і як ён будзе рабіць, гэтага яшчэ выразна ня ведаў. «Вось каб Сьцёпка ці Шура,—тыя-б зразу ведалі, што тут зрабіць»,—думаў ён і хацеў сустрэць дзе небудзь Сьцёпку, каб пагаварыць з ім пра гэта, але да вечара таго нідзе ня сустрэў.

Вечарам у хаце для ўсяе сям'і была прыемная навіна. Учора бацька прывёз з млына мяшок мукі з новага жыта і сёньня на стале быў мяккі, сьвежы, пахучы хлеб. Маці ў градах знашла са тры агурочкі, папрасіла ў суседкі конаўку квасу, пакрышыла ў квас гуркі і прыправіла калівам кропу. Сям'я дружна акучыла міску з квасам. Спрытна хадзілі лыжкі. Хлеб кусалі папоўніцы і моцна сёрбаючы праганялі яго квасам. Віцік з Манькаю аж траха не пабіліся ўжо. У місцы заставалася крышаноў з пяць гурка, і Віцік намерыўся зачэрпаць самы большы крышан—носік. Але пакуль ён справіўся, носік апынуўся ўжо ў Маньчынай лыжцы. Віцік штурхануў яе локцем пад бок, а калі яна адказала тым самым, адвёў быў ужо лыжку, каб трэснуць па лбе. Маці якраз тут умяшалася, скубянуўшы яго за валасы.

Хлеб увачавідкі раставаў. Нават малое, седзячы на руках у маткі, сусьліла скарыначку і яшчэ выцягвала ручку да хлеба.

— Вось паўбаханкі як і ня было,—пашкадавала маці. Ёй ніхто нічога не адказаў.

Віцька, годзе ўжо!—нарэшце крыкнула яна злосна. Колькі таго хлопца, а есьць, як не ў сябе. Лопнеш яшчэ.

— Няможна нанач так наядацца,—сказала яна ўжо лагадней, бачачы, што той шморгае носам і ў яго навярнуліся сьлёзы.

— Няхай есьць, усёроўна ўжо...—сказаў бацька, кладучы лыжку.

Якуб сам еў ужо чацьвёрты кусок. Яму было балюча і сорам за гэту галодную прагавітасьць усяе сям'і і самога. На памяць зноў прышла сустрэча з Косьцікам.

— Я сёньня Косьціка бачыў,—сказаў ён ні да кога.—Дурны, каровы ў статак пусьціў, а сам снапы возіць.

— Ён жа ці цеперся ўжо. На сена-ж езьдзіў,—адказала нявыразна маці.

— А што-ж, няхай патроху прывучаецца да работы. Вельмі, думаеш, ён там увярэдзіцца?—Бацька адчуваў тут сябе вінаватым і гэтым хацеў апраўдацца.

— Тузаецца, рады каню ня дасьць, аж ледзь ня плача. Паблажаў нават за лета, толькі вочы блішчаць.

— Вядома-ж не сваё, што гэта гаварыць! Ці гэта-ж яму там догляд думаеш?—пашкадавала маці.

— Прывучаецца... Дзякуй яму за такую навуку,—ня суцімаўся Якуб.—Тры пуды на лета—дзе-ж гэта відана? Ды яшчэ работу ўсялякую рабі яму, як сталы парабак.

— Добра й хлеба дома ня есьць, а тры пуды таксама нідзе не валяюцца. Хто-б табе вельмі даў больш ды яшчэ наперад? Глядзі, якая подпірка была. Гэта ты аб аднэй цыбулі касіў бы, каб ня гэтыя тры пуды?

Маці маўчала. Розумам яна далучалася да бацькі, але ёй шкода было Косьціка.

— Ён мо' налета пуд табе дасьць, дык ты й на гэта згодзішся? Чаму ён у саюз ня йшоў умову рабіць, што-б яму там сказалі?

— Які гэта яшчэ саюз?

— Ёсьць такі, што глядзіць, каб гэтакія Каржакевічы нас не абдурвалі.

— Дык ён і ў саюз у твой ня пойдзе і пастушка наймаць ня будзе. Абыдзецца й без пастушка.

— А мы без яго таксама абыдземся.

— Языком. Ты разумны вельмі за бацькавым клопатам. Дык што-ж я па-твойму рабіць цяпер павінен?—У гэтым распачлівым бацькавым выкрыку чулася і прызнаньне Якубавай праўды, што сапраўды Косьціку цяжка ў Каржакевіча і з платаю Каржакевіч іх крыўдзіць, і жаданьне абараніць сваю праўду, што іншага способу няма, каб пракарміць сям'ю.

— Па-мойму Косьціка трэба сыскаць, а з Каржакевіча праз суд спагнаць таое, што ён па закону павінен заплаціць.

— Гэта праўда, зажыўлюся я вельмі! Буду я паскудзіцца з чалавекам, а на весну прыпрэ, дык ідзі зноў да яго прасіць, у сабакі вачэй пазычыўшы. У каго-ж ты вельмі ўхопіш? Табе абы языком хлебястаць.

— У камітэце ўзаемадапамогі возьмем, калі што якое.

— Ухопіш ты там.

— Як вы сабе хочаце, а на Каржакевіча я ўсёроўна заяўлю.— сказаў Якуб.

— Хіба-ж ты сам і гаспадаром ужо думаеш быць?—спытаўся бацька.

— Нашто мне гаспадаром. Я толькі не хачу, каб нас абдурваў кожны, каму захочацца.

— А я-жа таксама гэтак не хачу. Адна каманда павінна быць, а ня сто. Калі ты ўжо бярэшся камандаваць, дык камандуй, кіруй ўсяею гаспадаркаю. Няхай і каманда твая будзе і клопат. Мяне ўжо можна хоць на сьметнік выкінуць. Нашто, каб праз цябе ды людзі на мяне крыўдзіліся.

— Якуб, пакінь ты, не пераядай бацьку вантроб, яму й без цябе хапае,—умяшалася нарэшце маці.—Выдумаў чорт ведае што! Вельмі ты гэтым запаможашся! Ня мы першыя, ня мы апошнія. Нек перагаруе лета, ня так шмат ужо засталося.

— Не, няхай возьмецца, няхай папрабуе! Я хацеў бы, каб ён хоць год пакіраваў гаспадаркаю, паглядзеў, як гэта лёгка. Што-ж ён яшчэ бачыў? Хіба ён ведае, як з людзьмі жыць? Вось жыве за бацькаваю галавою ды выдумляе трасцу з хваробаю. Там яму нагавораць, падвучаць, а ён, дурны, і гатоў ужо. Я вось зараз век зжыву, ды нікому вока не запарушыў, а ён вельмі бярэцца замалада. Ты чалавеку цяпер прыкрасьць зробіш, а прыйдзе яго пара, дык ён табе ў дзесяць столак адплаціць.

Бачыў Якуб, што бацька ўжо ня скора сьціхне, пакрыўдзіўся што Якуб быццам лічыць яго за няздатнага гаспадара, які ня ўмее весьці гаспадарку і дзяцей сваіх не шкадуе ды аддае на зьдзек. З практыкі Якуб ведаў, што гэта саме балючае месца ў бацькі, што ён цяпер доўга будзе скардзіцца, будзе гаварыць жаласныя словы, ад якіх і злосьць, што бацька ня так яго разумее, і плакаць хочацца, бо шкода бацькі, хваравітага і змучанага жыцьцём. Каб ня чуць усяго гэтага, Якуб ускінуў на плечы бравper і вышаў з хаты.

Начлежнікаў яшчэ ня чуваць было едучы. Ён зьняў ля дзьвярэй пута з калка, якое павесіў рана, каб прасохла, вышаў на вуліцу і сеў на прызьбе.

У хаце чуваць была ціхая гамонка. Гаварыў больш бацька, а маці толькі калі-нікалі, устаўляла некалькі слоў. Не разабраць было што

гаворань, але Якуб ведаў, што гэта гавораць пра яго, пра яго нячуласьць, што ён не спагадае бацьку і яшчэ гатоў нарабіць клопату, заняўшыся з Каржакевічам. Жаль падкрадваўся пацiху да Якуба. На хвіліну нават выплыла нешта накшталт раскаяньня: а мо' ня варта было бацьку гнявіць? А калі Косьціка сарвеш ды з Каржакевіча нічога не спагоніш, тагды на бацькава выйдзе і заўсёды прыдзецца слухаць упікі. І чаму гэта так? Нават сын з бацькам неаднакава думаюць.

Яму прышоў на памяць зімовы выпадак, калі ён не ўстаяў проціў бацькі, пашкадаваў яго і паехаў у лес красьці хвойку. А назаўтра ля калодзежа як яму сорамна было перад Шураю! І як гадка было самога сябе! Тагды ён у думках дзякаваў Шуры, што яна не сказала Сьцёпку, што не разьбіралі гэтай справы на ячэйцы. Але калі другі раз ён скапыціўся, пусьціўшы Вольку да Піперманіхі, тагды Шура першая падняла гэта пытаньне на ячэйцы і першая галасавала за суровую вымову. А што-ж бы цяпер Сьцёпка з Шураю сказалі пра яго сёняшнюю гаворку з бацькам? Бясспрэчна яны-б былі за яго, а не за бацьку. Значыць ён правільна надумаўся рабіць, як і трэба камсамольцу. А калі ён яшчэ цьвёрда ня вырашыў, дык гэта толькі таму, што яго трымае нешта іншае, яму шкода бацькі: ці добра гэта крыўдзіць ды рабіць яму прыкрасьць? Шкадаваньне бацькі, гэта тая балючая пупавіна, якою ён прымацаваны да пагляду старога, хворага, запужанага змалку, пакорлівага бедака. Гэта пупавіна цягне яго ў другі бок ад Сьцёпкі з Шураю, ад ячэйкі, ад сваіх уласных пераконаньняў. Калі падавацца за ёю, дык ён заўсёды будзе ў супярэчнасьці з самім сабою, будзе блытацца ў самых простых пытаньнях, і ніколі ня будзе добрым камсамольцам, якім ён шчыра хоча быць. Ён зайздросьціў у гэту хвіліну Сьцёпку. Мяркуючы па тым, як Сьцёпка заўсёды гаворыць і робіць усё цьвёрда і ўпэўнена Якуб думаў, што ў таго ніколі такіх хістаньняў ня бывае.

А з хаты, упярэмяшку з плачам малога, усё яшчэ чуваць быў разьвярэджаны хваравіты бацькаў голас, які нудлівым болем адгукваўся у Якуба недзе пад сэрцам.

У канцы вёскі пачуліся, спачатку нявыразныя, галасы, якія, што далей, усё мацнелі і множыліся. Заржаў нечы конь. Некалькі галасоў нясьмела завялі песьню:

Арабі-арабінушка,
арабі-арабінушка,
раскудравае дзераўца...

Галасы сьмялелі і гучнелі, песьня мацнела і разьлягалася па вёсцы, пакрываючы рып жураўлёў і заклапочанае ноканьне. Гэтыя гукі прысьпешылі канец Якубавага роздуму. «Усёроўна-ж не падамся Каржакевічу»,—падумаў ён, апрануў браварку ў рукавы і пашоў у хлеў браць качя.

## НОВЫ КЛОПАТ

Шапка Юзікава—ссунута на патыліцу. З-пад яе выбіліся на лоб вільготныя пасмы валасоў. На іх густа асядае пыл. Рухі Юзікавы заложныя і рытмічныя, прынароўленыя да доўгай і цяжкой работы. Мерна ўзьлятае над галавой цэп, мерна апускаецца на пасад. Але біч не дае моцнага гуку: пасад толькі што насаджан і біч толькі шастае, падаючы на сухія натапыраныя гарашыны. З разлузаных пад бічам струкоў скачуць гарошыны, стукаючы ў сьцяну, у застаронак, раскочваюцца па таку—буйныя, жаўтавата-белыя.

Ня любіць Юзік гэтай работы. Не таму толькі, што яна вельмі цяжкая: няспорная надта. За пусьцяковыя вынікі трацішца чорт што сілы і часу. Гваздом сядзіць гэта думка ў Юзікавай галаве і яшчэ горш адбівае ахвоту ад гэтай работы. Але як пераможа сябе, раскалышацца, разагрэецца трохі, дык і гопкае, аж пакуль зноў які небудзь перапынак.

Прайшоў раз па пасадзе з канца ў канец, шчыльна кладучы на гарашынах удар каля ўдару, прайшоў другі раз назад, б'ючы таксама шчыльна, але накрыж з першым разам, пашоў трэйці раз і тагды аж пачаў даваць біч глухі гук, прыбіваючы да току абмятыя гарашыны Ад гэтага трохі лягчэй стала. Перавярнуў на другі бок, разоў пяць ударыў і раптам лёгка стала ў руках: біч адляцеў ад цапільна, узьляцеў высока над галавой і бразнуўся на ток. Узяў Юзік біч, пакруціў у руках і паставіў у куток разам з цапільнам. Ускінуў на плечы палітон і на хвіліну задумаўся.

Парвалася сырамятная прывязка, трэба было ісьці ў хату па нож, каб прарэзаць пяцельку. Палуднаваць было яшчэ трохі ранавата, але ісьці ў хату, а потым ізноў у гумно, а там пасад які зьбі ды на полудзень...

Зачыніў гумно і па загуменьню падаўся на канец вёскі, дзе гула малатарня. Гэты гуд з самага ранку турбаваў яго, яшчэ горш уцінаў яму рукі. Яго цятнула пайсьці паглядзець, як ідзе сёлета Каржакевічава малатарня, глянуць ёй у сталёвыя зубы барабана; узяць на пробу некалькі каласкоў саломы, пацерці на далоні—ці не пакідае зернят. А разам з гэтым трошкі пахваляваццa і памарыць. Вось яна—такая жаданая, блізкая і разам з тым, пакуль што, недасяжная.

Ці цеперся носіцца Юзік з сваім намерам. Хоць бы малатарню пакуль што ды арфу. Летась яшчэ зьявілася ў яго гэта думка пра машыннае таварыства і моцна прыліпла да яго потнай галавы. На сваёй скуры выведаў усю нявыгоднасьць малацьбы цэпам. Аж да каляд летась гопаў (калі адзін, калі з бацькам удвух), пакуль памалацілі. А малатарняю—за тры дні можна было ўхадзіцца. Асабліва акалот даўся ў знакі. Добра папабіраўшы, змалоціш капу за дзень. а жыта, калі чыста выкалачана, і пуда не намалоціш. Змалоцяць

колькі коп, зьвеюць, памераюць—тагды Юзік падлічвае, колькі выходзіць жыта на кожны рабочы дзень. Хунтаў каля дваццаці пяці ня больш выходзіла. У лес пашоўшы, куды больш можна-б было зарабіць. Але-ж шкода пакідаць немалочанае... дый людзі-б сьмяяліся... дый мышы-б салому ўсю сьцерабілі. Нехацелася наймаць у Каржакевіча малатарню, але намякнуў быў раз бацьку. Ну, той—ні блізка. «Аддай гэтулькі за малатарню, а потым сам цэлы дзень без работы хадзі. «Неяк памалоцімца па крысе». Пробаваў падбіваць сяго таго на таварыства, ды позна агледзеўся: некаторыя Каржакевічаваю малатарняю памалацілі, некаторыя цэпам да палавіны ўгопаліся—траха што й не знашлося ахвотнікаў. Затое сёлета ўзяўся яшчэ загадзе. Прыходзіў то да таго, то другога, пачынаў здалёк, пераводзіў гутарку на малацьбу, і тагды пускаў у ход дваццаць пяць хунтаў жыта, што летась прышліся яму на кожны рабочы дзень, і падлічваў бюджэт часу і вырабатку таго, з кім гаварыў, падлічваў, што заробіць Каржакевіч за зіму малатарняю. Чалавек некалькі згадзілася. Некаторыя яшчэ думалі, але ў Юзіка была ўжо ўпэўненасьць, што таварыства будзе. Цешыла яго й тое, што сёлета і Сьцёпка смолна ўзяўся за гэту справу. Летась ён неяк мала і ўвагі аддаваў гэтаму. Трохі саромеўся, што багацейшыя будуць зубы скаліць (колькі тае малацьбы, а й ён малатарню хоча купляць!), а трохі таму, што яму ня так і цяжка было перабіць за зіму сваю крыху. Але сёлета ён іначай глянуў на гэту справу. Ён скеміў, што гэта падарвала-б моц Каржакевіча, вызваліла-б шмат каго ад яго уплыву і тых сераднякоў, якіх удасца ўцягнуць у таварыства, паставіла-б нават напоперак Каржакевічу, як канкурэнтаў. Вось чаму Сьцёпка, асабліва пасьля прыезду ў Мядзьведзічы сакратара райкому, узяўся за гэту справу ня горш за Юзіка. Пробваў нават на ячэйцы гэта пытаньне ставіць. каб мабілізаваць камсамольцаў, але вынікі ад гэтага былі, пакуль што, ня вельмі вялікія. Справа ў тым, што самі камсамольцы непасрэдна ўзяць удзел у арганізацыі таварыства не маглі. З іх адзін толькі Сьцёпка і быў самастойным гаспадаром, у якога дома была толькі старая маці ды брат малодшы за яго на два гады. Самае большае, што маглі зрабіць камсамольцы, гэта агітаваць за таварыства, але не заўсёды гэта агітацыя мела посьпех, часамі прыходзілася пераносіць кпінкі і насьмешкі.

У Юзіка і самога было яшчэ далёка ня гладка. Дагэтуль ён яшчэ не ўламаў бацьку згадзіцца на таварыства. У таго быў свой погляд на гэту справу. Пра тое, што малаціць цэпам—ня варта шкурка вырабу, стары і слухаць не хацеў. «А якую-ж трасцу будзеш рабіць цэлую зіму?»—Такое чуў Юзік кожны раз на свае довад. Але калі ён пачынаў падлічваць, колькі Каржакевіч бярэ за зіму хлеба за малатарню, у старога гарэлі вочы нездаволенай прагнасьцю, і ён з гэтага рабіў свой вывад:

— Во, каб жа сабраўся ды купіў адзін, дык я ведаю. А гур-

тавое—чартавое,—гэта нехта ня дурны сказаў? Гэта яе глядзець будуць, як сам гаспадар? Там стукне, там грукне, папсуе, зломіць і вінаватага ня знойдзеш. А паправіць—як бог дасьць. Ды што гэта за выгранка вельмі? Калі-б і зарабіў што, раскінеш на гурт,— колькі там чаго прыдзецца?

Ведае добра Юзік, што ніколі таго ня будзе, ня купіць бацька адзін малатарні. Калі-б нават і ўдалося выціснуць з гаспадаркі патрэбныя для гэтага сто восемдзесят рублёў, дык ніколі ня хопіць у старога адвагі аддаць зараз гэтакую кучу грошай. Але яму люба пра гэта памарыць і пагаварыць, і яго зусім ня цягне ў «хвалёнае Юзікава» таварыства. Таму Юзік ведае, што на пай грошы ў бацькі цяжка будзе выдраць. І хоць першым запісаўся ў члены таварыства, ня ведае, дзе ён яшчэ дастане патрэбныя грошы. У пазыкі ісьці прыдзецца да каго небудзь, ды ня вельмі ў каго і ўхопіш.

«Утраціў аднаго пайніка»—падумаў Юзік, калі падышоў бліжэй і пазнаў што малатарняю малоціць Баранок. Колькі разоў ён пробваў сватаць Баранка. Той як бы крыху падаваўся нават, і раптам вось...

Ня змораныя яшчэ моцна коні ідуць зладжана і мерна, як гадзіньнік. За дышлем прыводу хлапчук-паганяты памахвае на іх доўгімі рукавамі бацькавай сьвіткі. Машына пераходзіць на высокія ноты, патрабуе злосным і прарэзьлівым гудам, калі Тодар мала дае ў яе зубатую пражэрную зяпу, і прыглушана прагна мармыча, калі дасьць ёй папоўніцы. Белыя Тадоравы вусы сталі зусім чорнымі ад пылу. Пыл навіс на брывах, на веялках, у ноздрах—хоць ты камінара запрашай. Вочы чырвоныя, паразьяданыя пылам. Пошта спрытна хапае пададзены Волькай на стол разьвязаны сноп, прывычным рухам разгортвае яго на стале і стараецца даваць у цапы раўнамерна, каб машына не давала перабояў.

— Сто-о-ой!—камандуе ён паганятаму, тармозячы машыну апошнім снопам ячменю.

Перапынак, сьціпта скончана.

— Закурвай!

Тодар адхарквае і плюе густою чорнаю сьлінаю. У Волькі толькі вочы блішчаць, рот і нават нос завязаны хусткаю. Яна сьпяшаецца на прыгумень, каб вольна падыхаць паветрам.

— Нямнога ўжо ячменю, капы паўтары засталося,—падбадзёрвае Баранок, выграбаючы амецьце.—Палуднаваць пойдзем ці будзем канчаць? Як машыністы скажа?

— Ды ўжо-ж трэба скончыць. Папалуднаваўшы, ячмень зьбераце з току, ды яшчэ аўса ўмалоцім трохі сёньня.

«Машыністы»—гэта Тодар Пошта. Для яго сёньня—павага і паслушэнства. І «пустым млыном» ніхто не абзывае. Ён сёньня— галоўны. Невялікая, праўда, спэцыяльнасьць у цапы пададаваць, але-ж на яго гаспадар млатарню давярэ. Ня любіць сам Каржакевіч пылу

глытаць. Малатарню ў заработкі пускае, але з нанятым «машыністым», якому плаціць падзённа.

— Колькі за малатарню ўзяў?—пытаецца Юзік, даючы Баранку прыкурваць.

— Пяць пудоў сказаў.

— За два дні ўходзіцеся?

— Дзе бачыў, тры дні зойме.

— Пятнаццаць пудзікаў,—падлічыў Юзік.

— Што-ж ты зробіш,—апраўдваецца Баранок.

— А я вам раіў, як зрабіць. Да гэтых пятнаццаці пудоў трохі прыкінуўшы, дык і свая малатарня была-б.

— Я падумаў—пакуль яно што будзе, а тут пагодка сухая, добра й змалаціць за пагоду... Ды й страх мяне нешта апанаваў. Каб адно малатарню, дык бы такая справа, а то-ж вы і яшчэ некія машыны думаеце купляць—сеялкі, веялкі. Улезеш у даўгі, тагды й гаспадаркаю не аплацішся.

— Збаяўся, дзядзька. А мы-ж думаем заўтра сход, а ў аўторак у Менск па малатарню ехаць.

— Едзьце здаровы. Калі ў вас добра пойдзе, дык і я можа потым далучуся.

— А колькі табе Андрэй плаціць?—запытаўся Юзік у Пошты.

— У мяне мера і вера: пуд у дзень давай,—пахваліўся Пошта.

— Не такая ўжо вялікая й мера,—засьмяяўся Юзік.

— Дай жа большую.

— А што ты думаеш, мы больш бы далі. Ідзі вось да нас у таварыства, дык плата платаю, а на пай ячшэ нешта прыпадзе.

— Э?—недаверліва глянуў Тодар.—А што-ж, каб узяў ды пайшоў. Сход у вас заўтра, кажаш, будзе? Прыду паслухаю... Вось Андрэю ня ў нос будзе!—Тодара пачынала захапляць пэрспэктыва лепшага заработку і навіна справы.

— І Грамабой-жа зьбіраўся, сёлета купляць здаецца?—спытаўся Баранок.

— Я чуў, што ня будзе,—адказаў Тодар.—Таварыства спужаўся. Купі, кажа, ды будзе стаяць без работы.

— Давайце малаціць, а то есьці хочацца,—увайшла Волька.

— А, прагаладалася!.. Вось зараз як фукнем, дык і ўсё будзе,—паабяцаў Тодар, становячыся да стала.

Ідучы дадому, Юзік убачыў у адчыненыя насьцеж вароты Аўдолю. Пераkінуў нагу цераз плот, падышоў.

— Памагай бог.

— Казаў бог, каб і ты памог,—у тон яму адказвае Аўдоля, не пакідаючы малаціць.

— Што табе памагаць. Ты й сама, як малатарня тая. Капы з паўтары выбіла сёньня?

— А каб ты згарэў!—сьмяецца тая.—Каровы няма чым падаслаць, дык вось снапоў з дзесяць на салому зьбіла.

— Колькі там у цябе малацьбы, а на паўзімы хопіць з цябе. Малатарняю-б—за адзін дзень.

— Няхай ён згарыць! Ня бачылася я пяць пудоў яму даваць!

— Ты да нас у хаўрус ідзі, дык мы дарэмна табе змалоцім,—закінуў Юзік вуду.

— Прымі бяз грошай, дык пайду.

— Бяз грошай, бач, малатарні не даюць.

— Дык залажы за мяне.

— Я сам ня ведаю, дзе ўзяць грошай на пай. Бацька-ж не дае.

— Што твой за бацька гэтакі! Узяў-бы ты яго за бараду ды скалануў добра,—жартуючы, раіць Аўдоля.

— Калаці—не калаці, грошай усёроўна ня выкалаціш. Табе дык і ў пазыковым таварыстве дадуць. Ты-ж—сама гаспадар. Гэта мне бяз бацькі не дадуць.

— Чорт яго, баюся ў даўгі залазіць.

— Прыходзь заўтра на сход, можа ты яшчэ за ноч і абдумаешся,—запрашае Юзік на ўсялякі выпадак.

## ХМУРЫНКА

Прышоўшы дадому, Юзік застаў у хаце Шуру. Яны былі толькі ўдзьвюх з Зосяю. Старыя яшчэ зранку паехалі ў мястэчка. Серада сёньня, кірмашавы дзень: старая павезла місачку масла і пару куранят, стары ўскінуў жыта з асьміну. Што купляць будуць, не казалі, але Юзік дагадваўся, што мусіць старой на чаравікі будуць набіраць. Ён падумаў, што ў Зосі таксама палатаныя чаравікі зараз зусім разьлезуцца, але без вайны з бацькам зрабіць іх ніяк нельга было, а пачынаць цяпер вайну за чаравікі яму не хацелася. Спадзяваўся, што зімо-о ў лесе здарыцца зарабіць.

Зося нешта шыла, а Шура сядзела з другога канца стала. Яна абышто гаварыла з Зосяю, гартала газэту, нібы пробавала чытаць, але ёй ня чыталася.

Уся яна сьвяцілася з нутра цiхай радасьцю, якая ёй не давала ні на чым спыніцца. Яна знарок чакала Юзіка, каб з ім разьвітацца і падзяліцца сваёю радасьцю. Прычыну для прыклепу выдумала.

— Насілу я цябе дачакалася. Запрацаваўся вельмі,—сустрэла яна Юзіка.

— А я сёньня больш гуляў, як рабіў,—адказаў Юзік.—Што ў цябе за патрэба такая пільная да мяне?

— Можа ты мае кнігі прачытаў?

— Адну прачытаў, а другую толькі пачаў яшчэ.

— Ну дык тая няхай застанецца, а другую я з сабою вазьму, можа яна там мне спатрэбіцца.

— А куды-ж гэта ты зьбіраешся?

— Заўтра ў Менск еду. Учора-ж мне паведамленьне прыслалі, што прынялі ў тэхнікум.

— Я бо гляджу, што дзяўчына, як сонца зьзяе—аж у хаце сьвятлей стала.

— Гэта-ж ад Зосі, мусіць. Ты не пазнаў. Ад мяне пацямнець павінна, я-ж чорная.

— Ці гэта-ж твая маці паправілася ўжо?—спыталася Зося. Яна знарок загаварыла пра другое.

— Як яна паправілася! Ходзіць трохі, ня так, як летась. Шкода мне яе пакідаць адну і чакаць няма куды. І так год утраціла. Зараз бабулею стану, дык і вучэньне не на ўме будзе.

Юзік крадкам глядзіць на жонку і на Шуру, мімаволі параўноўвае ў думках. Ловіць сябе на думцы, што, каб прышлося выбіраць між дзьвюх, дык невядома яшчэ, каторую выбраў бы. «Абедзьвюх забраў бы»—усьміхаецца сам сабе. Яму хочацца чуць Шурын голас, хочацца, каб яна глянула на яго.

— Вазьмі-ж сваю кніжку, каб не забылася,—дастае ён з трамы.— А можа й тую аддаць?

— Няхай тая застанецца. Калі небудзь перашлеш, як прачытаеш.

— Ды я й сам неўзабаве ў Менску буду, то магу прывезьці.

Зося ловіць яго доўгі погляд на Шурыным твары, хмурнее і ўстае з лавы:

— Абшэвак няма з чаго зрабіць. Трэба пайсьці пашукаць,— і выходзіць у сенцы.

Юзік глядзіць на Шуру з сумнаватаю ўсьмешкай:

— Значыцца, пакідаеш нас назаўсёды?

— Як назаўсёды! Мне-ж чатыры гады вучыцца. Кожнае лета буду прыяжджаць, памагаць вам вёску катурхаць.

— Скрозь так: толькі зьявіцца чалавек, які сам што небудзь разумее і другіх можа павесьці за сабой, як яго ўжо й няма ў вёсцы. Пырх і выляцеў.

— Вось правадыра знашоў!—засьмяялася Шура.—Ты так бядуеш, як быццам і сапраўды тут без мяне нікога не застаецца. А Сьцёпка, а Якуб, а ты, а ячэйка ўся, а сельсавет? Уцягвайце больш людзей у работу, штурхайце Мадзьведзічы пад бакі, каб яны ня спалі.

— Жанчыны нашы сіротамі застануцца. Хто цяпер цябе тут заменіць?

— А чаму-б і Зосі ня ўзяцца лепш за гэту работу? Я ёй сёньня казала пра гэта. Няхай у дзьвюх з Аўдоляю. Там баба ня дурная, каб большай граматы... Ну, мяне-ж дома чакаюць. Бывай здароў,— падала яна руку.

Юзік затрымаў яе руку ў сваёй, глянуў зблізку ў самыя вочы. А яна глядзела яму ў вочы проста і даверліва, чакаючы, можа ён яшчэ што скажа.

Насілу перамог сябе, каб не прыцягнуць да сябе не пацалаваць яе даверлівую ўсьмешку. Напэўна зьдзівілася-б, нават спужалася-б можа, замкнулася-б у халоднай няпрыступнасьці. А можа палічыла-б за звычайнае цёплае разьвітаньне?

Нехаця выпусьціў руку.

— Жадаю табе... чаго ты сама сабе жадаеш,—і пашоў у сенцы ўсьлед за ёю.

Зося стаяла над адчыненым куфрам і перабірала кусочкі паркалю.

— Ну, Зоська, будзем жывы,—падышла да яе Шура.—Можа не давядзецца ўбачыцца да ад'езду, заўтра-ж мы раненька выяжджаем. Не забудзься-ж, што я табе казала.

Узяла Зосіну руку і шчыра пацалавала ў вусны. Спынілася на момант вачыма на Зосіным стане.

— Глядзі, каб напісала, акцябрыць прыеду,—дадала з цёплай, трохі сарамлівай усьмешкай і вышла, мільгаючы, загарэлымі стройнымі лыткамі.

З Юзікавага твару яшчэ ня сышла зусім разьвітальная ветлівая ўсьмешка.

— Ну, я-ж палуднаваць прышоў,—падыйшоў ён да Зосі.

— Чаму-ж ты хоць не пацалаваўся на разьвітаньне?—спыталася яна, не адказваючы на яго словы.

— Чаму ты так кажаш?

— Так сабе. Заўсёды-ж разьвітваючыся цалуюцца.

— Ня так сабе. Бачу, што ты ўжо гневаешся за Шуру. Сьмешная ты, выдумала невядома што.

— Ня выдумала. Я не сьляпая, брат; бачыла, як ты ласа глядзеў на яе.

Юзік трохі здатынаваўся:

— А ты хочаш, каб я воўкам глядзеў на яе, ці мо' каб саўсім не глядзеў.

— Ну, прызнайся, Юзічак,—любіш ты яе трошкі?

Ён абняў яе за плечы.

— Дурненькая, глянь жа ты мне ў вочы, што яны табе кажуць?

— Брэшуць,—сказала яна, ужо сьмяючыся.

— А што-ж, можа ты мяне і ня любіш ужо, пачала яна памаўчаўшы.—Я-ж вунь якая стала, як капа ўсёроўна. На твары плямы некія зьявіліся. Куды мне да Шуры!

— Але што ты да мяне з гэтай Шурай прычапілася! Што-ж я такое зрабіў, або сказаў? Хіба я ўжо і гаварыць з ёю не павінен, што яна харошая дзяўчына?

Зося хвілінку падумала:

— Хто яго ведае, і гэта я адна такая дурная, ці яно так і трэба. Сама-ж я бачу, што й харошая яна, і разумная. Як падумаеш, чаму-ж яе не палюбіць, хоць бы, скажам, і табе? Каб я хлопцам была, дык больш, здаецца, нікога-б і не кахала, як яе. Але гэта толькі як падумаеш, а на тую пару дзе-тыя й думкі дзенуцца! Найлепшай прыяцельцы вочы выдрала-б. Калі тут, як ты кажаш, нічога-ж і ня было такога, а й то кальнула.

— Дык можа адлягло ўжо трохі?—засьмяяўся Юзік.

— Дай руку! Скоранька! Паслухай, што яно вырабляе,—прылажыла яна яго руку да жывата.—Гэта, брат, мая падмога: удваіх мы Шуру перасілім патом, быць ня можа!

— А пакінь ты ўжо пра Шуру. Ёй там недзе моцна ікаецца.

— Зайздрошчу я ёй. Шчасьлівая яна патом: маладая, вясёлая, вучыцца едзе. Усё ў яе наперадзе. А тут—жыві ды бойся, хадзі ды аглядайся, як між зьвяр'я між якога.

— Раскісла ты зусім. Можа табе нездаровіцца?

— Страх мяне бярэ, як падумаю, што мне зноў прыдзецца перацярпець. Яна-ж бы зьела мяне, каб прымела. Баіцца ўсё, каця-б гаспадаркі ў Піліпкі не адабралі. А па мне—няхай бы яно згарэла тут усё. Вочы-б мае не глядзелі.

— Не набірай сабе ў галаву. Цяпер-жа не дваццатыя год.. Я-ж з табою цяпер, у крыўду не папусьцімся.

— Баюся Юзічык. Вельмі ж мне зьнявер'ылася з першым дзіцем. Гатовы зноў управіць. Так і не агледзішся, як штуку ўстрояць. Ды апрыкрыла ўсё. Яшчэ як ня ведала, што можна й лепш жыць, дык думалася, так яно й трэба. А як наслухалася тваіх ды Шурыных гаворак пра новае ды пра лепшае, дык ніводнай хвіліны, здаецца, ня жыла-б тут. Выцягні ты куды небудзь мяне з гэтага пекла, а то я ня вытрываю.

— Куды-ж цябе выцягнуць? На лепшае, на гатовае? А хто-ж яго нам нагатаваў? Тут самім трэба рабіць лепшае, у гэтым пекле. Само пекле перарабіць так, каб яно ня было больш пеклам, каб нам ня прыходзілася хапацца зубамі за кожны лахман, жыць у вечным страху і клопатах—а што-ж будзе з нашым дзіцем, калі мы памром? Ці ня прыдзецца яму жабраваць ісьці? Чым больш мы будзем самі рабіць, тым хутчэй мы можам спадзявацца на гэта лепшае.

— А як ты яго пераробіш вельмі? Гэта сказаць толькі лёгка.

— Навучаць, пакажуць, накіруюць, толькі самім ня трэба гэтак рукі апускаць. Калі толькі нудзіцца па лепшым, а не рабіць яго, дык з гэтага нічога ня будзе.

— Зрабі, папробуй. Вось упёрся бацька, ня хоча хаўруснай малатарні, і што-ж ты яму зробіш?

— Зраблю. Калі наважыў, дык на сваім пастаўлю. Гэта з табою сёньня нешта некае сталася. Ніколі-ж гэтага ня было. Мусіць, што

Шура ад'яжджае. Думаеш, ёй бяз клопату ды бяз турботы само ўсё даецца? Ня сумуй, і наша яшчэ ўсё наперадзе,—прытуліў ён яе да сябе.

— Глядзі, добрыя табе з гэтага абшэўкі будуць?—глянула яна пераз плячо яму ў вочы, паказваючы кусок паркалю. Гостры сум, выкліканы непакоем за тое, што яна насіла пад сэрцам, і Шурыным ад'ездам, патроху раставаў ад бадзёрых Юзікавых слоў, ад цеплаты і дужасьці яго грудзей, да якіх яна прытулілася. Яна зноў варочалася да штодзенных дробных клопатаў, а разам з гэтым варочалася ёй звычайная для яе роўнавага і бадзёрасьць.

— Добра будзе,—адказаў Юзік, не ўглядаючыся вельмі ў тое, што яна паказвала.—Зачыняй куфар ды будзем палуднаваць.

*(Канец будзе).*

Паўло Тычына

# ВЕРШЫ

## ПЕРАД ЦЭРКВАЮ НА ПЛОШЧЫ

Перад цэрквою на плошчы
рэвалюцыя ідзе.
— Хай пастух!—усе гукнулі:—
атаманіць і вядзе:

— Шчасьця-долі, вольнай волі!
— Гэй, на коні, ўсе на шлях!
Закіпела, зашумела—
палыхнуў чырвоны сьцяг...

Перад цэрквою на плошчы
сумна мацерам старым:
ой ты, месячыку ясны,
асьвяці дарогу ім!

Пыл на плошчы ападае.
Зацiхае крок...
Вечар.
Змрок.

## ЯК УПАЎ-ЖА ЁН З КАНЯ

Як упаў-жа ён з каня,
на сьнег белы лёг:
— Слава! Слава!—крык далёкі
залунаў ля ног.

А як руку прытуліў
к сэрцу ён свайму.
Хоць-бы раз яшчэ пабачыць
гэтаку зіму.

І пасек-жа варагоў
сьмелы бальшавік!
Чорны крук сярдзіта каркнуў,
да грудзей прынік.

Трасянуў ва ўсе канцы—
скалануўся сьвет!
Паміраўшы ў чыстым полі,
шчыры слаў прывет.

## КАЖАМЯКА

Скуры Мікіта мяў—
прышлі к яму людзі,
прышлі ў сьлязах к яму людзі:
ой, гора, Мікіта, каб ты знаў,
гора, каб ты знаў!

Кароль-зьмей
горад абступіў—
ну што ты яму скажаш?
Памілую, як крыві нап'юся—
ну што ты яму скажаш?

Найшоў на Мікіту гнеў—
пахмура іх стрэў,
дванаццаць скур пад яго рукамі
трэсь! трэсь!

Прышлі к яму яшчэ раз:
і ў кожнага нос абрэзаны,
і ў кожнага вушы абрэзаны,
і ў кожнага губы.
І такое гугнілі штось:
ой, гора, Мікіта, каб ты знаў,
гора, каб ты знаў!

Найшоў на Мікіту жаль—
дурнямі іх абазваў:
от ужо дурні, дык дурні
і калі яны перавядуцца!

Прышлі к яму ў трэці раз:
і кожны перад сабою вёў:
жонку без галавы,
сына без галавы,
і так страшна,
так сьмешна ступалі ногі—
як у жывых...

Тут Мікіта рванууся—
вы ўсе безгаловыя!
Ну што з таго, што я вам памагу?
Вы тры разы ходзіце і такія-ж самыя—
якія няўцямныя!
Дзе вашы багатыя?

А!—пралунала—і стала маўчаньне.
Шырокія вочы—і стала маўчаньне.

— Чаму ім вушы не абрэзаны?
— Чаму іх сыны не пасечаны?

А!—разарвалася—стала маўчаньне.
Шырокія вочы—і ўсе зразуме—
(лінула з мёртвых кроў)...

Паклалі мёртвых асобна.
Жывыя сталі асобна.
Пашлі на багатага!
Мікіта на караля!

Аж закіпела зямля...

## ПЛУГ

Вецер.
Ня вецер—бура!
Крышыць, ламае, з зямлі вырывае...
За чорнымі хмарамі
(з бліскам! ударамі!)
за чорнымі хмарамі мільён мільёнаў
упартых рук...
Коціць. У землю ўразае
(ці то места, дарога, ці луг)
у землю плуг.
А на зямлі зьвяры, сады і людзі,
а на зямлі багі і храмы:
пройдзе, пройдзе над намі—
рассудзіць!
Такія былі, што ўцякалі
ў пячоры, вазёры, бары.
— Што там за сіла ўгары?—
пыталі.

І ніхто з іх ня рад, не сьпяваў.
Агнявога каня вецер гнаў—
агнявога каня—
ўночы—
На пастылыя іхнія вочы
ўпала раса.
Новага дню краса.
Мёртвыя вочы.

*Пераклад з украінскай Ю. Гаўрука.*

Аляксей Бабуноў

# ЛУГАНСКІЯ ЗАПІСКІ

(Нарыс пра Кліма Варашылава)

## У ГУШЧЫХІ

Тав. Багданаў, сакратар Луганскага гістпарту, паказаў мне фатаграфічную картку сухарлявай, старэнькай бабулькі ў пэнснэ. Твар у яе маленькі, спаласаваны мноствам ліній, маршчын—ён вельмі падобны на печаны сьпелы яблык. Але вочы ў старэнькай маладыя, строгія. Праз шклы пэнснэ яны глядзяць сьмела і неяк пранікальна. Яны з тых вачэй, якія не маргнуўшы ўмеюць глядзець проста на каго хочаш—не апушчаюцца ўніз, ня бегаюць па бакох.

На фатаграфічнай картцы відаць—што бабулька вельмі ўжо старэнькая.

— Нязвычайная бабулька,—гаварыў Багданаў.—Гэта так званая «падстаўная» маці Варашылава, былая, вядома...

— Як гэта—«падстаўная»?—заўважаю я.

— Так, бачыце... Клім нібы кватэраваў у яе. Бабулька сама прымала была ўдзел у рэвалюцыйным руху, працавала ў падпольлі. Памагала хлапцом ня мала. Калі, бывала, пасадзяць Кліма ў турму, яна і наведвае яго пад выглядам яго-ж роднай маткі. Наробіць такога гвалту, што жандары штодзённа пускалі яе пабачыцца з Клімам. Праз яе-ж ён і трымаў сувязь з воляй.

Прозьвішча гэтай бабулькі было—Гушчына. Вышла, што яна яшчэ жывая, жыве ў Луганску. Зразумела, я вырашыў, што-б там ня было, пабачыцца з ёю. «Ужо ў яе,—думаю,—я атрымаю шмат вестак аб падпольнай рабоце. тав. Варашылава, пра яго жыцьцё і юнацкія гады».

З Дзьмітром Канстантынавічам Паранічам я пашоў да Гушчынай, або, як тут называюць яе, да «Гушчыхі». Домік яе знаходзіўся ў вузенькім, глухім завулку, каля згарожы патроннага заводу. Домік невялікі, з чатырма вакенцамі, накрыты чарапіцай.

Адкрыла нам сама Ганна Лукінічна—так клікалі Гушчыну. Звычайна, па просту яна запрасіла нас у пакой, нібы чакала нас. У гэтым была яе даўнейшая прывычка прымаць заўсёды мноства незнаёмых ёй людзей. Калі даведалася, што з Масквы—абрадавалася, замятусілася, забегала.

— З Масквы? Можа ад Валодзі... Ну, што ён там, як?

— А мы вось да вас хочам сёе-тое даведацца пра яго.

— У мяне? Ну, што ў мяне... Гэта справа даўнейшая... Забыла амаль усё. А як ён у Маскве? Жывы, здаровы? Камандуе? О, ён камандаваць умее. Што-о? Юбілей? Пяцьдзесят год Валодзю? Ня можа быць! А я ўсё думаю, што ён яшчэ малады. Ах, як бяжыць час.

Ганна Лукінічна, сапраўды, як выявілася, нязвычайна старэнькая. Яна гаварыла, пытала, распытвала, адказвала і ўсё мятусілася, бегала па пакоі. Ня гледзячы на амаль сямідзесяцігадовы ўзрост, яна надзвычай рухавая, жвавая, і калі-б ня зморшчаны бабульчын твар— яе лёгка можна было-б лічыць за маладую. Па некаторым зьнешнім выглядзе нельга лічыць яе старэнькай,—так хутка і лёгка яна хадзіла.

— Я вось дрэнна бачу, чытаю толькі праз акуляры і спэцыяльнае павялічальнае шкло. Рука ў мяне параліжавана, а вось энэргіі яшчэ шмат. Зубоў няма ніводнага, а сілы яшчэ ёсьць і энэргіі ёсьць... Мне—каля сямідзесяці год, а я яшчэ працую ў таварыстве прэч няпісьменнасьць, у гарсавеце, з жанчынамі, на фабрыцы-кухні, у сякіхтакіх брыгадах. І нічога—трымаюся яшчэ, іншы раз і маладых падганяю,—гаворыць Ганна Лукінічна, рыхтуючы нам гарбату.

— Дзе-ж пакой, у якім жыў Клім Яфрэмавіч?

— Валодзяў пакой? А ня было яго. Увесь дом быў яго пакоем. Ён-жа бо жыў у мяне, як свой... Спаў на гэтым вось ложку,—паказала Ганна Лукінічна на просьценькі ложак з тоўстых жалезных палак.—Толькі пярыны ня любіў: скіне, бывала, і сьпіць на голым сяньніку. «Я, кажа не паненка. І на камені высплюся». Ну, сядайце піць гарбату. Вось тут сядайце, каля вакна. Тут заўсёды Валодзя сядзеў. Толькі глядзеце, стол не даламеце. Ён у мяне чуць трымаецца, а я яго ахоўваю...

Ганна Лукінічна падняла бераг абрусу і паказала адламаны, расшчэплены рог стала.

— Гарачы быў Валодзя, вельмі гарачы! Спрачаўся неяк з таварышамі пра забастоўку, крычаў, крычаў, а потым як стукне кулаком па стале,—ён і трэснуў. Рука ў Валодзі моцная была...

... Прыходзіць адчойчы муж і кажа:

«— У нас на заводзе ёсьць хлапец. Гаворыць ён вельмі добра пра палітыку, толькі я не разьбяруся ў ім. Разумны хлапец, наконт палітыкі ён больш разумней за цябе і гаворыць лепш за цябе».— А муж мой ведаў мяне, што я яшчэ дзяўчынай займалася палітыкай і пасьля замуства працавала далей у гэтым кірунку.

...Я гавару:

— Прывядзі яго да мяне, я хачу з ім пагаварыць.

Муж прывёў яго.

... З першага разу, калі яго ўбачыла, адразу склалася ўражаньне, што ён гарачы, запальчывы і ня стрыманы. Першыя яго некалькі слоў паказалі, што хлопец ён разумны. Будзе рабіць вялікія, патрэбныя справы, але вельмі гарачы. Праз меру гарачы. Бывала, загаворыць, адразу ўскіпіць, стукае па стале кулаком.

... Мне з першых дзён знаёмства прышлося яго стрымліваць.

«— Так нельга, пры такіх варунках, пры такой справе трэба быць асьцярожным»,—гаварыла я.

«— Ну, асьцярожным тут быць цяжка. Трэба з боем вырываць. Трэба біцца».

... Мяне ён крыху сароміўся. Але як толькі я, бывала, выйду ў другі пакой, або з дому, Валодзя пачынае крыць бязьлітасна, крыць так, што хоць сьвятых вынось.

... Пры першым разгаворы я называла яго Клімам. Потым ён мне сказаў, што яго партыйная клічка «Валодзя». Так я яго Валодзям і клікала ўвесь час.

... Успамінам пра гарачы, бурны яго тэмпэрамант застаўся ў мяне гэты стол. Бачыце, адбіты рог. Валодзя так ударыў рукой па стале, што край стала адляцеў.

«— Валодзя,—кажу,—хіба так можна? Стол-жа бо—ня жывая рэч».

... У мяне было такое ўражаньне, што Валодя хоча ўсіх зрабіць бальшавікамі за пяць хвілін. Меншавікі страшэнна баяліся Валодзі. Дый было каго баяцца.

... Меншавікі гаварылі:

«— Калі ў спрэчках прымае ўдзел Валодзька,—дрэнь справа! Лепш паменш гаварыць, ды пабольш слухаць».

Між іншым, горача ён спрачаўся ня толькі з меншавікамі і эсэрамі, але і з сваімі таварышамі: Антонам Нагіх, Верай Несьцеравай ды іншымі.

... Стол, між іншым, зламаў ён у часе спрэчак з Несьцеравай.

... Адной з уласьцівасьцяй Валодзі ў першыя часы была даверлівасьць. Ён тады мог давяраць таварышом з першага слова і тут мне прыходзілася стрымліваць яго, раіць быць асьцярожным.

... У мяне ён бываў вельмі часта. Мой дом Валодзя лічыў сваім, родным домам... Калі ён прыяжджае ў Луганск, перш за ўсё прыходзіць у Гушчынскі дом.

... Як толькі ён са мною пазнаёміўся, я проста яму сказала:—«Калі што-небудь трэба, патрэбна табе і тваім таварышом дапамога, сьмела разьлічвайце на мяне, я вам буду дапамагаць».

... З гэтай размовы ў маім доме забурліла падпольная работа.

... У маім доме былі паседжаньні камітэту, нарады, лекцыі, выносіліся важныя пастановы—словам, праходзіла работа падпольнай арганізацыі.

Мы сядзімо, п'ем гарбату. Тут-жа муж Ганны Лукінічны пэнсіянэр, сівы ўжо, але моцны яшчэ старэнькі. Ён—высока кваліфікаваны рабочы, мэталіст, ліцейнік медзі. Яму 74 гады. З іх ён 50 год прапрацаваў на заводзе. Сяргей Васільлевіч,—так клічуць яго—больш маўчыць і толькі іншы раз ціха кідае кароткія сказы:

— Маладзец быў Валодзя. Вось дык маладзец! Люблю такіх... Не, Валодзю можна было паважаць як чалавека. Хіба можна было не паважаць яго! Я вельмі паважаў. Ён хлапец: спуску нікому не дае...

Тут, у Ганны Лукінічны, была накшталт канспірацыйнай кватэры, яўка, месца сходак, паседжаньняў. Сюды прыяжджалі падпольшчыкі,

тут друкаваліся праклямацыі, рабіліся бомбы. У дварэ быў пабудаваны хітры тайнік у зямлі, у які можна папасьць проста з кватэры па цэлай сыстэме ходаў і завулкаў. У тайніку ня мала ратавалася падпольшчыкаў ад жандараў. У час вобыску ў тайнік з домiку ўцякала ўсё, чаму ня трэба было сустракацца з паліцыяй. А вобыскі ў Ганны Лукінічны былі вельмі часта. Але тайнік быў у надзейным месцы, яго так і ня выкрылі. Тайнік і цяпер яшчэ цэлы.

— Аднойчы я сказала,—гаворыць далей Ганна Лукінічна.—«Валодзя, вам патрэбны праклямацыі, а я ўмею рабіць гектограф».

...У іх, выходзіць, быў гектограф.. Яны прынесьлі яго ў мой дом і мы пачалі выпускаць праклямацыі. Спачатку мы працавалі на гэктографе, які прынёс Фёдар Мустафа,—добры, адважны, дзельны хлапец,—потым я сама рабіла гектографы, рабіла і ня менш 6—8 раз. На гектографах мы працавалі месяцы тры пакуль у Каменным Бродзе не арганізавалі сваёй падпольнай друкарні. На гектографе працавалі звычайна ўначы. Пры рабоце ставілі вартавога за брамай. Вельмі часта вартаваў ля варот мой сын Павал.

... Друкавалі на гектографе я і мае сыны Павал і Васіль. Арыгіналы пісалі самі. У мяне і Васіля з арыгіналу выходзіла 60—70 праклямацый, а з арыгіналу Паўла—100—110 праклямацый. Калі выходзіла 100, мы гаварылі:

«— Эх, Паўлік, ты штосьці не даклаў».

... Тэкст праклямацый прыносілі падпольшчыкі—Валодзя, Натальля ды інш.

... Бывалі выпадкі, калі ў гарачы час давалі з Камітэту толькі тэмы і Паўлу прыходзілася складаць праклямацыі.

... За ноч мы звычайна друкавалі на трох-чатырох гектографох ня менш 300 праклямацый. Іншы раз друкавалі да тысячы штук. Праклямацыі ляжалі ў мяне да раніцы. Раніцою прыходзілі да мяне таварышы Мустафа, Дудзін, Курэнеў, Гусараў і яны ўжо распаўсюджвалі. За тры месяцы мы выпусьцілі ня менш 6000 праклямацый.

... У справе складаньня і распаўсюджваньня праклямацый важакамі былі Варашылаў, Мустафа, Вера і Натальля.

... Арганізаваў у мяне ў доме справу па выпуску праклямацый Варашылаў—гэта яго справа. Аднойчы хлапец Гусараў «засыпаўся». Ён быў за вучня. Ён расклаў усе праклямацыі па скрынках у цэху і папаўся з апошнімі праклямацыямі. Яго злавіў вартаўнік:

— Што робіш?

— Ды я, дзядзечка, паперку знайшоў і паклаў яе.

... Хлапчука ўзялі і пасадзілі ў турму. Я назвалася яго цёткай і пайшла за яго хадайнічаць. Хлапчука вызвалілі.

... У 1905 годзе, аднойчы ў начы, расклалі мы два гэктографы і пачалі выпускаць 200 праклямацый. Працуем у траіх. Раптам—стук. Вокны былі завешаны чорным сукном. У мяне былі ў гасьцёх сястра з сынам. Яна спала і ня ведала, што мы працуем.

... Калі застукалі я разбудзіла сястру.

«—Сядзі, кажу, на крэсьле і маўчы, інакш і ты загінула і мы загінулі».

... У мяне быў белы халат. І былі ўсе рэчы і мэдыкамэнты патрэбныя пры радох...

... Пасадзіўшы сястру я завязала хусткаю галаву пляменьніку, росламу, 14-ці гадоваму хлапцу, паклала яму штосьці пад кашулю, зрабіла жывот, падобны на жывот цяжарнай жанчыны, яму сказала: «—Енчы!»

... Гектографы і праклямацыі паклалі на ложак паміж двума сяньнікамі. Рабілі ўсё гэта хутка, а ў гэты час з вуліцы стукалі. Калі ўсё было схавана, я адчыніла. Вобыск рабіў наглядчык Бурлакоў.

... Адчыніўшы ім, я папрасіла выбачэньня:

«—Выбачайце, што так доўга не адчыняла. У мяне ў доме павінна раджаць пляменьніца. Калі ласка, асьцярожна».

... Я ведала, што закон забараняе трывожыць парадзіху.

... Паліцыя зрабіла вобыск ціханька, нічога не знайшла і пайшла.

... Гектографы і праклямацыі былі выратаваны, сястра і пляменьнік так нічога і ня ўведалі, я сяк-так супакоіла іх, сказаўшы, што трэба закрыць рот і маўчаць. Так яны і маўчалі. Расказала я ім гэта ўжо пасьля рэвалюцыі.

... Варашылаў зьяўляўся да мяне кожны дзень. Ён начаваў у мяне, абедаў, вячэраў.

... Раніцою зьявіўся ён да мяне, я яму расказала аб вобыску. Ён гаворыць:

«— Ах, як добра, ах, як разумна! Гэта трэба быць з галавою!»

... Ён застаўся вельмі задаволены, задаволены былі і ўсе.

У Гушчынай здымалі кватэру амаль усе рэвалюцыянэры, якія прыяжджалі адкуль-небудзь. Яна забясьпечвала іх «ліпавымі» дакумантамі, выяўляючы ў гэтым вялікае вынаходніцтва, умельства. Іншы раз у гэтым доміку зьбіралася да пяцідзесяці падпольшчыкаў. Гаварылі, спрачаліся, слухалі даклады, а потым палавіна з іх заставалася начаваць. Тут заўсёды былі людзі. Сяргей Васільлевіч часта выпіваў і пацяшаў публіку.

— Ён палітыкай не займаўся, дый не разумеў у ёй нічога,—гаворыць пра мужа Ганна Лукінічна.—Мы за работу, бывала, а ён за чарку. Часта нап'ецца шмат, прыдзе і пачынае дзівачыць, перашкаджае хлапцом працаваць Але ўсе любілі яго за тое, што ніколі ні пра што ён не прагаварыўся, ніколі і нічога ня выдаў. Раз яго арыштавалі жандары, зьбілі да крыві, але нічога ад яго не дамагліся. Ён сваё пабоі нават ад Валодзі схаваў.

Ганну Лукінічну шэсьць раз арыштоўвалі, але яна спрытна выкручвалася.

Яшчэ ў 1878 годзе яна ўваходзіла ў адну з арганізацый «Земля і воля» пад кіраўніцтвам Веры Пучковай. Пад выглядам манашкі хадзіла ў народ, але «ўліпла». Павінна была быць ссылка, ганьба сям'і, і каб унікнуць гэтага, яна сама прапануе Гушчыну ажаніцца з ёю і ўцякаць.

Ганна Лукінічна доўга і з гумарам расказвае пра сваё далёкае мінулае. Мне ўвесь час прыходзіцца перапыняць яе, наводзіць размову наконт Кліма Яфрэмавіча, але яна зноў захапляецца, кранаецца дэта-

ляў і ізноў гаворыць пра сваё мінулае. Мне хочацца, каб яна расказала пра свае наведваньні тав. Варашылава ў турме пад выглядам яго маткі.

— У час рэакцыі папаўзьлі чуткі, што Варашылава хочуць злавіць. Гаварылі пра яго так:

«— Трэба Варашылава, сукінага сына, выслаць адгэтуль».

... Гэткія чуткі Паўлік перадаваў Варашылаву.

«— Валодзя, за табою сочаць, хавайся лепш».

... А ён хадзіў, не хаваючыся.

... Я гаварыла таксама.

«— Валодзя, у мяне ёсьць дакладныя весткі, што цябе арыштуюць. Не хадзі нікуды».

... Ён усё-ж такі пашоў. Я паслала ў сьлед Паўлюка. Варашылаў дайшоў да саду на Пушкінскай вуліцы. Тут да яго падышоў наглядчык з паліцэйскім, пагаварылі пра штосьці і ўзялі яго. Паўлік пашоў дамоў і паведаміў мне.

«Дахадзіўся такі!»—сказала я.

... Я захвалявалася, заклапацілася. Чужы чалавек, вызвалены з паліцыі, прынёс мне запіску ад Валодзі. У запісцы ён прасіў прыслаць яму харчы і пасьцель. Запіска была падпісана «Валодзя».

... Я адразу прыгатавала яму абед, падушку, коўдру і аднесла гэта яму сама.

«— Што, папалася, птушка?»—запытала я яго ў паліцыі.

— Гэта цікавая гісторыя!—з захапленьнем гаворыць яна.— Валодзю тут жандары ведалі, і ўжо калі пасадзяць яго ў турму, то прабаўца да яго вельмі цяжка. А ён тут—важак. Як-жа гэта без яго кіраўніцтва працаваць арганізацыі?.. Дык вось, арыштавалі яго, засадзілі ў адзіночную камэру, а сувязь з ім трэба мець да зарэзу. Я іду да жандарскага ротмістра Ярмалаева. Ніколі ня была артысткай, а тут такую драму разыграла, што хоць у сталічны тэатр на сцэну бяры мяне. Адкуль і сьлёзы ўзяліся—расплакалася я, разрыдалася, рукі ламлю. Ну Магдаліна, ды толькі! Пад вялікім сакрэтам як нешта вялікае, таемнае, расказваю яму, што быў, маўляў, у мяне ў маладосьці грэх, было дзіця і я падкінула яго аднэй вясковай жанчыне. Дзіцё гэта ёсьць арыштаваны Варашылаў, я яго сапраўдная маці, а тая, каго называюць яго маткай, проста чужая жанчына. Расказала яму, што я ня бачыла яго з дню нараджэньня, што ён мяне наогул ня ведае, а што я павінна бачыць яго што-б там ні было, таму што сама толькі нядаўна пераканалася, што ён і ёсьць мой сын... Адным словам, нагаварыла ротмістру гэтулькі таямнічага і драматычнага, так плакала, што ён дазволіў мне як матцы, якая пакаялася, штодзённыя сустрэчы з Валодзем, паведаміўшы пра гэта і ў турму. І там мне прышлося іграць трагэдыю пры сустрэчы з Валодзям. Добра хоць, што ён ня выдаў пры першай сустрэчы. Я падмігнула яму і ён здагадаўся такі, што тут ёсьць штосьці.

... З ротмістрам я гутарыла ў асобным габінэце, па вялікаму сакрэту. Мне далі пропуск. З таго часу я зрабілася маткаю Варашы-

лава. Я хадзіла да Валодзі кожны дзень бяз выключэньня. Я насіла яму сьнеданьне і абед. Сядзеў ён месяц ці паўтара.

... Я паставіла справу арганізацыі запісак ды інфармацыі, перадачу іх Валодзю і ад Валодзі таварышом. У турме ён трымаў сябе добра, спакойна. Мне гаварыў Валодзя:

« Вы мяне, мамачка, закорміце. Я ўсіх таварышоў кармлю вашай падачаю».

... Адзін раз прыходжу ў турму, мне гавораць—«няма вашага сына». Я спалохалася, ці ня здарылася, думаю, няшчасьця з ім? Тады-ж бо і забіць яго лёгка маглі. «У карцэры,—гавораць,—сядзіць. На цэлы тыдзень зарабіў». Наглядчыкі скардзяцца мне: «ну і сын жа ў вас, даруй божа! І ў турме ад яго спакою няма. Ня ўседзіць ён спакойна. І тут падняў гармідар, набунтаваў. Адчаянны ён у вас...» І сапраўды, Валодзя там нарабіў тарараму, зрабіў такі скандал, палаяў адміністрацыю, ну і зарабіў турму ў турме. Так некалькі дзён яго я і ня бачыла...

... Я пашла да ротмістра папрасіла яго скасаваць пакараньне карцэрам. Пакараньне скасавалі і выпусьцілі Валодзю з карцэра.

... У турме мы размаўлялі праз запіскі. Запіскі перадавалі, калі ля кратак хадзіў свой чалавек і калі падваротны быў свой. У турму мы яму перадавалі ўсё што трэба. Праз паўтара месяца яго выслалі. Ён быў сасланы ў горад Мэзэнь, Архангельскай губэрні. Адтуль, як толькі ён прыбыў, прыслаў ліст. Пісаў ён, што становішча цяжкае, зарабіць нельга, у той час у яго зарэзала цягніком бацьку.

... Усяго ён прыслаў нам тры лісты. Паслалі яму грошай. Я таксама паслала дваццаць пяць рублёў. Гэтыя грошы ён не атрымаў, таму што ўцёк. Грошы прышлі назад. Уцёкшы з ссылкі, ён з станцыі прышоў проста да мяне ў дом.

... Прыехаў ён з таварышом Барысам Раменьнікавым. Пражылі яны ў мяне, хаваючыся, тыдняў тры. Валодзя працаваў у арганізацыі. У першы-ж вечар Валодзя паслаў мяне да Пузанава па гарнітур і кажух. Пузанаў ня даў. Пашла я на другі вечар ужо з запіскай ад Варашылава. Мяне пытаюць Пузанаў і Залатун:

«—А дзе Валодзя?».

— «Я ня ведаю,—адказала я,—да мяне прышоў нейкі чалавек з запіскай ад Валодзі».

... Гарнітуру зноў не аддалі. Тады я пайшла да дружыньніка Ганчарова Трахіма.

«—Варашылаў,—кажу,—прасіў разам з табою схадзіць па кажух і гарнітур.

... Пайшлі ўжо з Ганчаровым. Кажух і гарнітур нам аддалі. Пузанаў вышаў і зноў пытае:

«— А дзе Валодзя?»

«—Табе сказаць можна, а Залатуну нельга»,—сказала я. Залатуна я баялася і адчуваньне маё спраўдзілася.

... Мне перадалі, што чакаецца ў мяне вобыск, што Варашылаў выкрыты. Прышлося Варашылаву і Раменьнікаву пайсьці ад мяне да.

маткі Раменьнікава. На трэці дзень мы іх праводзілі з Луганску. Я дастала ім дакуманты і яны з «ліпавымі» паехалі з Луганску.

... Тры-чатыры месяцы я ня мела ад Валодзі лістоў. Я наказвала яму ў Маскву, Петраград, Кіеў ня езьдзіць, там зловяць. Валодзя даў слова, што ў гэтыя гарады не паедзе. Слова гэтага ён ня стрымаў. Арыштавалі яго, як я потым высьветліла, у Петраградзе. Папаўся ён з-за гарачых спрэчак. І тут выявіўся яго запальчывы характар. Потым з таго-ж гораду Мезэню я атрымала ад яго ліст.

... Валодзя быў зноў сасланы, але ўжо не на год, а на два гады. Год прыбавілі за ўцёкі. Я адказала яму зараз-жа:

«— Высядзі ты гэтыя два гады і будзеш вольным чалавекам. Ня рыпайся пакуль».

... Пасьля гэтага я Варашылава не сустракала да 1917 году. Мела толькі ад яго ліст. У 1917 годзе ў Луганск ён прыехаў разам з жонкаю. Вядома прыехаў да мяне. Валодзя так і гаварыў:

«— Гэта ўтульнае гняздо, гэта родны куток. Тут я спакойны».

У свой час у Ганны Лукінічны была штаб-кватэра Кліма Яфрэмавіча і яго прыяцеляў, а сама яна,—адказны ад'ютант.

— Бывала прыбяжыць Валодзя з заводу, сьпяшаецца:

— «Ганна Лукінічна, трэба зрабіць тое і тое, пайсьці туды і туды, убачыць таго і таго»...

... То літаратуру выкупіць, то зброю, бомбы схаваць, то дакумант каму ліпавы патрэбен, ну я і бегаю, выконваю. Валодзю не паслухацца нельга было. Умеў загадваць.

Грошы добра зарабляў на заводзе, Ганна Лукінічна шыла—таксама зараблял а, але шмат сродкаў ішло на арганізацыю, асабліва на харчы вялікай масы людзей.

— Хлеба так шмат ішло, што надаела купляць. Я зрабіла ў сябе рускую печ і пачала сама пячы хлеб... Ішлі грошы і на выкуп літаратуры, на возьнікаў, дактароў, дапамога таварышом. Ды ці мала на што!..

Ганна Лукінічна весела сьмяецца і расказвае, як адбываліся вобыскі.

— Наляціць, бывала, паліцыя, а тут падыдзе выпіўшы муж—і ну пачне разыгрываць сцэны рэўнасьці. Крычыць бывала:

«— Што? Да' мае жонкі ноччу хадзіць будзеце? У спальню залазіць? Вон з дому. Вон, а то заб'ю».

Яна папарадку расказвае аб тагачасных бальшавіках, меншавіках, пра спрэчкі паміж імі. Гаворыць аб рэвалюцыйных прыяцелях, тав. Варашылава, прапагандыстку Анатолю, пра катаржаніна Чуркіна, пра Натальлю, якія жылі ў яе. Цэлая сэрыя арыштаў, вобыскаў, аблаваў у яе кватэры. Шмат каго выратаваў тайнік, шмат каго—кемлівасьць Ганны Лукінічны.

Паліцыя прыходзіць у яе кватэру арыштаваць Пятрова, Сідарава. Пятроў, Сідараў стаяць тут-жа, перад паліцыяй, і ўсё-ж яна ідзе ні з чым: Ганна Лукінічна пераконвае яе (паліцыю), што Пятроў, Сідараў толькі што вышлі ад яе і ня прыменна, абавязкова прыдуць зноў вечарам і тады яны—да паслуг паліцыі. Паліцыя выходзіць.

Абяцаючы прысьці вечарам, а Пятрова, Сідарава садзяць у тайнік, яны выратаваны.

У яе-ж часткова пражывала ў 1912 годзе Кацярына Давыдаўна, жонка тав. Варашылава, якая вярнулася з ссылкі.

Расказы Ганны Лукінічны—жывая гісторыя рэвалюцыйнага Луганску. Памяць у яе нязвычайная: яна памятуе добра надзвычай падрабязныя дэталі падзей, якім мінула сорак год.

— Калі-б цяпер уначы прышоў Володзя і стукнуў па свойму ў вакно, як стукаў раней,—адразу-б пазнала яго. Ён заўсёды стукаў так: тук-тук-тук. Тры ціхіх стукі ў шкло з вялікімі паўзамі. У кожнага таварыша—тады быў свой стук у вакно, і я заўсёды ведала, хто стукае, і заўсёды адрозьнівала свайго ад чужога.

Яна гаворыць пра таварыша Варашылава, і на губах у яе— такая добрая ухмылка.

— Валодзя вельмі вясёлы быў. Бывала, скажу яму:

«—Валодзя, а заўтра-ж бо твае імяніны. Я пірог сьпяку да гарбаты».

— «Імяніны? А навошта яны мне здаліся?.. Між іншым, пірог пячэце. Таварышоў паклічу, пасьпяваем...»

— Зьбяруцца яго прыяцелі, вып'юць па шклянцы віна, потым гарбаты, а потым—песьні. Сьпявалі больш за ўсё «Ох, полным полна моя коробочка». Володзя быў за запявалу і заўсёды сьпяваў з захапленьнем, «са сьлязою».

Старыя Гушчыны—дзіўная пара. Ён—даўні рабочы, яна—інтэлігентка. Яна—хоць і не аформіўшаяся выразна, але актыўная рэвалюцыянэрка. Ён—апалітычны. Вымушаны шлюб, сумеснае жыцьцё без свае волі, і ўсё-ж гэтая пара пражыла жыцьцё дружна, добра— «в мире и согласии».

— Любоў была да справы, а к табе—між іншым,—жартуе Ганна Лукінічна над сваім старым. Але тут-жа хваліць яго:

— Піў ён здорава, п'яны многа гаварыў, плявузгаў, але пра нашы падпольныя справы нікому ні гу-гу. Маладзец быў!

— Нікога не прадавалі і не прадамо. Лепш самі ў пятлю палезем. Валодзя гэта ведае,—гаворыць стары.

— Так, дарэчы,—перапыніла яго жонка:—я вось думаю цяпер, што Валодзю пяцьдзесят год павінна быць, здаецца, у 1932 годзе. Ці не памыліліся вы таварышы? Годы я яго добра ведаю.

У час грамадзянскай вайны Ганна Лукінічна ратавала яўрэяў ад пагрому, хавала ў сябе бальшавікоў, ваявала з казацкім рабаўніцтвам, выдаючы сябе за матку белага афіцэра—данца. Пры савецкай уладзе яна стварыла ў Луганску жаночы саюз. Пасьля па просьбе тав. Варашылава, яна распусьціла гэты саюз і палавіна жанчын уступіла ў партыю бальшавікоў.

Ганна Лукінічна просіць прыйсьці абедаць, застацца ў яе начаваць.

— Заставайцеся, палажу вас на Валодзявым ложку, пачастую яго ўлюбёным абедам. Ах, вы едзеце! Ну, вітайце Валодзю, кланяйцеся.

Скажэце, што жывая, маўляў, старая, працую яшчэ, ня лезе на печ, хацела-б я яго бачыць. Ну, ды я яму напішу. Скажэце, каб не забываўся на Луганск...

## У „СТАРЫХ"

У маленькім доміку на ўскраіне Луганску, у Івана Аляксеявіча Прыдарожкі, мы сабраліся вечарам пагутарыць за шклянкаю гарбаты. Накшталт маленькага вечару ўспамінаў пра Кліма Варашылава.

Мне хацелася сабраць усіх яго бліжэйшых прыяцеляў, сатаварышаў па рэвалюцыйнаму падпольлю. Але «іншых ужо няма, а тыя далёка». Дзесьці прапаў стары—Пузанаў, з якім Варашылаў стварaў у Алчэўску першы рэвалюцыйны гурток. Ня прышла старэнькая Гушчына— гаспадыня канспірацыйнай кватэры падпольшчыкаў, «падстаўная» маці Кліма: яна вечарам нічога ня бачыць. Сёй-той (Берашчанскі, Малчанаў, Глакаў, сястра Кліма) знаходзіцца ў Алчэўску.

За маленькім столікам, пакрытым пацёртай цыраткай, сядзяць усе трое старых. Менавіта старых: рэвалюцыйны стаж бярэ свой пачатак у 90-х гадох. Клім на іх вачох працаваў, рос, афармляўся ў рэвалюцыянэра-праваднра. А потым павёў іх за сабою.

Тут Прыдарожка, які блізка ведаў Варашылава і яго сям'ю ў самыя раньнія часы. Ведаў добра яго бацьку, сёстраў, маці, часта ў іх бываў, быў прыяцелям «дзеда Яфрэма». З Клімам падзяляў першыя яго рэвалюцыйныя крокі, арганізоўваў гурткі ў Алчэўску, наладжваў мітынгі, масоўкі.

— Тут Зьмітро Канстантынавіч Параніч, адзін з «ново обращенных» Варашылавым на шлях рэвалюцыі ў дні яго юнацтва, прыяцель і таварыш па першых днёх падпольля. Калі гавораць пра рэвалюцыйны рух на Алчэўскім заводзе, то ўсе падзеі тых год кружацца вакол трох-чатырох імён: Варашылаў, Параніч, Прыдарожка, Маўчанаў і яшчэ Пузанаў.

Тут Антон Нагіх, таксама катаржанін. Член Луганскага падпольнага камітэту РСДРП. Член сац. дэм. фракцыі II-й дзяржаўнай думы ад Луганскіх рабочых. Таксама сатаварыш Кліма па Луганскаму падпольлю, яго сакватарант.

У Луганску я шмат чуў пра Івана Нагіх—аднаго з выдатных рэвалюцыянэраў часоў падпольля на Луганшчыне. Пра яго гаварылі, як пра асобу, у той час вельмі нязвычайную. Як пра былога члена сацыялдэмакратычнай фракцыі II дзяржаўнай думы, а галоўнае—як пра бліжэйшага сатаварыша Кліма Варашылава па рэвалюцыйнай падпольнай рабоце ў Данбасе.

Я ўсё-ж такі знайшоў Нагіх і... вельмі быў зьдзіўлёны: я чакаў бачыць высокага, чарнавусага, з арліным поглядам, якім ён быў на фатаграфіі з Варашылавым, а перада мною стаяў прысадзісты, пажылы ўжо мужчына з падстрыжанымі бялявымі вусамі. І сам ён быў бялявы, і нічога «арлінага» ў ім ня было.

— Не падобны, кажаце?—ухмыляецца тав. Нагіх.—Няма нічога дзіўнага! Дзесятак арыштаў, турмы, дзесяць год катаргі—з чорнага зялёным зробяць. Справа-ж ня ў колеры вусоў...

Тав. Нагіх—з «старых». Падпольнай работай заняўся ўжо ў 1900 г. У 1903 годзе ўступіў у партыю. Член Луганскага падпольнага камітэту РСДРП, член ІІ дзяржаўнай думы ад Луганскіх рабочых. На катарзе—адзін з выдатных галоўных кіраўнікоў забастоўкі на Ленскіх золатарасцрацоўках.

На словы т. Нагіх скупы, пра сябе расказвае без ахвоты. Не асабліва шмат гаворыць і пра т. Варашылава.

— Даўно-ж бо гэта было. Хіба запамятуеш усё?

— А вы так памаленьку, пакрысе расказвайце, а ўжо мы там як-небудзь апрацуем.

Гаворыць тав. Нагіх добра, літаратурна. Адчуваецца даўнейшая, моцная палітычная падрыхтоўка. І словы ў яго выходзяць гэткія моцныя, важкія, пераканаўчыя. Твар сур'ёзны і неяк па асабліваму мужны. Адчуваецца стары «гвардзеец, катаржанін». Усёткі расскачаўся і пра Варашылава расказаў шмат.

— Ведаеце, у Астроўскага ёсьць п'еса «Лес», здаецца... У ёй вы ведзены два акторы—Шчасьлівец і Нешчасьлівец. Іх абодвых прагналі антрэпрэнёры. Шчасьлівец ішоў з Валагды ў Кастраму, а Нешчасьлівец з Кастрамы ў Валагду. Дарогай яны сустрэліся. Так было і ў нас з Варашылавым. Мяне ў 1902 годзе паліцыя прагнала з Гартманскага заводу і я паехаў на Алчэўскі завод. Варашылава—мы тады клікалі яго Валодзям—у той-жа час паліцыя прагнала з Алчэўскага заводу. І ён паехаў на Гартманскі ў Луганск. Праўда, мы дарогай не сустрэліся. Але ў Алчэўску, пачаўшы працаваць на заводзе, я папаў у падпольны гурток, які стварыў Варашылаў. А ён у Луганску паступіў у гурток, у якім быў я. Ня будучы знаёмы асабіста, мы шмат што ведалі адзін аб адным. Праз дзевяць месяцаў я вярнуўся ў Луганск і тут мы пазнаёміліся з Валодзям.

... Ён быў кранаўшчыкам. Я быў рамонтным сьлёсарам. Пазнаёміліся ў бібліятэцы. Я хацеў узяць кнігу Дабралюбава, і Варашылаў хацеў узяць гэтую кнігу. Разгаварыліся, ён паказаўся мне жвавым, вясёлым хлопцам. Мы сышліся, сумесна чыталі, спрачаліся, разьбіраліся ў прачытаным.

... Сярод іншых гурткоўцаў Варашылаў прыкметна вылучаўся. Варашылаў быў больш жвавы, больш кемлівы, лепш за ўсіх разумеў. Пасьля чытак па самаадукацыі, перайшлі да палітычных пытаньняў.

... У 1904 годзе на Гартманскім заводзе Варашылаў і я былі членамі выканаўчага камітэту. Усе хоць самыя малыя, але важныя справы на заводзе без Варашылава не вырашаліся.

Гурток, які быў на Гартманскім заводзе, быў нешта накшталт гуртка па самаадукацыі. Потым з яго вырасла партыйная ячэйка. Звычайна, усякія заняткі гуртка канчаліся палітычнымі пытаньнямі.

— Характары ў нас з Валодзям былі працілеглыя,—расказвае тав. Нагіх.—Ён быў, як гэта гавораць, сангвінік, а я—флегматык. Ён хутка падхапляў сутнасьць прачытанага і зараз-жа рабіў высновы,

робячы свой погляд. Я робіў усё гэта значна павальней, але прыходзіў да таго-ж, да чаго і ён. Ня гледзячы на гэта мы з Валодзям пасябравалі так, што толькі мой уваход у II дзяржаўную думу, а потым ссылка ў Сібір нас разьядналі... Жыў Валодзя на Гусінаўцы, у маіх сваякоў, а пасьля мы перайшлі ў Каменны Брод, дзе і нанялі домік папалам.

Таварыш Варашылаў, паводле слоў т. Нагіх, у той час меў характар вясёлы, бойкі, меў вялікае кола знаёмых сярод рабочых. На вечарынках, якія наладжваліся тады, «Валодзя» быў важаком, кіраўніком гульняў, хору, танцаў. Гэты яго ўдзел, шырокае кола прыяцеляў, вясёлы характар спатрэбіліся: у тых кватэрах, дзе наладжваліся вечарынкі, у 1903, 1904, 1905 гадох зьбіраліся нелегальныя гурткі рабочых.

Усё жыцьцё тав. Варашылава з 1903 па 1907 год, якое праходзіла на вачох у т. Нагіх, было сапраўдным рэвалюцыйным парываньнем. 1903—1904 год—арганізацыя рабочых гурткоў, прапаганда ідэй РСДРП. У 1905—1906 г. г. падрыхтоўка да забастовак, выступленьне на мітынгах, масавых сходах, падрыхтоўка да ўзброенага паўстаньня, паездкі ў Фінляндыю за зброяй, арганізацыя баявых дружын. Тав. Варашылаў—нязьменны член савета рабочых дэпутатаў на заводзе ў 1905—1906 годзе. У партыйнай арганізацыі—ён пастаянны член Камітэта РСДРП.

Успыхнула Горлаўскае узброенае паўстаньне. Мы пасылалі туды баявыя дружыны з Луганску і з Алчэўската заводу... Пасьля паўстаньня мы з Валодзям паехалі ў Горлаўку, каб вызваліць цяжка параненага важака паўстаньня Кузьняцова. Пад узмоцненай вартай ён ляжаў у Горлаўскай бальніцы. Пасьля выздараўленьня яму вядома пагражала пакараньне сьмерцю. Але ўкрасьці Кузьняцова не ўдалося. Яго вельмі ахоўвалі. Можаце сабе ўявіць шаленства Валодзі, калі мы ні з чым вярнуліся назад.

— «Як? Паехалі, і назад ні з чым едзем? Не павінна гэтага быць. Навошта-ж тады ехалі?»

... Шмат часу патраціў я, каб супакоіць Валодзю, які разбушаваўся. Ён прывык абавязкова дапамагацца усякай пастаўленай перад сабою мэты і ўсякая няўдача злавала яго. Праз некаторы час паранены Кузьняцоў быў выкрадзены ўжо з Харкаўскай бальніцы, дзе варта была больш слабей. Мы ўсё-ж дабіліся свайго.

У час трэцяй ліпеньскай забастоўкі т. Варашылаў быў арыштаваны, прасядзеў у турме чатыры месяцы. Нехта быў зрабіў праважацыйны стрэл у час забастоўкі. Але стрэл гэты прыпісалі Варашылаву: нібы ён страляў па паліцыі. Таварышы ўзялі яго на парукі, і ён прымае ўдзел у байкоце I-й думы, у падрыхтоўцы выбараў у II думу.

Ужо ў доме папярэдняга заключэньня т. Нагіх даведваецца, што чэрвеньская забастоўка 1907 г., пачатая на паравоза-будаўнічым заводзе, наўпрэкі пастанове арганізацыі і т. Варашылава, разгромлена, шмат хто з рабочых зволены, шмат хто арыштаваны, у тым ліку і тав. Варашылаў, які быў душою забастовак.

Са сьмехам расказвае Нагіх, як хваляваўся Варашылаў, што арганізацыя можа праваліцца, з-за анархіста піротэхніка, якога таварышы запрасілі для вырабу бомб.

— Піротэхнік сам быў падобен ні то на шрапнэль, ні то на не ўдалую зробленую бомбу. Ніжэй сярэдняга росту, худы, твар увесь прапалены рознымі прапаратамі, кіслотамі, рукі апаленыя, пакалечаныя. Капялюш дапатопнага фасону, а на летнім паліце ўсе колеры існуючых фарбаў. Калі ён праходзіў па вуліцы, на яго мімаволі ўсе азіраліся. Варашылаў хваляваўся:

«— Навошта гэтаму чучалу выходзіць на вуліцу? Сядзеў бы ў нарэ, пакуль іншую адзежу яму купім. Купілі яму іншую адзежу, але праз два дні адзежа зрабілася горшай за ранейшую. Піротэхнік так захапляўся сваею работаю, што ўваходзячы ў сваю «лябараторыю» садзіўся за работу проста ў адзежы, выціраючы аб яе рукі і інструманты.

... Аднойчы мы наладзілі вялікую масоўку ў сямі вярстах ад Луганску, за сялом Вяргунка. З масоўкі мы вярнуліся позна мабыць, а гадзіне дванаццатай ночы, калі не пазьней. Прышлі да нас дамоў галодныя, як сабакі. Пачалі ўсюды шукаць і нашлі ў каморцы маёй маткі цэлы чыгунок бараніных шкварак. Яна прыгатавала іх для піражкоў, якімі думала пачаставаць нас заўтра... Людзі мы былі маладыя, здаровыя, есьці маглі як сьлед і амаль увесь чыгунок спаражнілі. На раніцу цэлая драма: маці прыгатавала цеста для піражкоў, спахвацілася, а шкварак амаль няма, пячы піражкі няма з чаго.

«— Можа, каты зьелі?»—падморгваем мы.

— Ах, каб вас!.. І як вас не паразрывала, каты вы бясхвостыя!»— лаяла нас маці, а мы хапаемся за жываты, рагочам. Маці глядзіць на нас—і таксама сьмяецца.

... Неяк наш выканком пастанавіў абвясьціць мясцовым купцам: Гразеву, Нікалаеву, Тумасову, ды іншым байкот за адмаўленьне закрыць магазыны ў дзень протэсту супроць арышту Пецярбурскага Савету рабочых дэпутатаў. Валодзя асабліва заўзята працаваў над арганізацыяй і праявдзеньнем гэтага байкота.

... Байкатавалі два—тры тыдні. Рабілі гэта мы так. Нашпігуем сваіх рабочых—«валяйце, хлапцы, купляйце ва ўсю!» Усе вольныя рабочыя цэлымі днямі хадзілі па магазынах байкатаваных купцоў «купляць». Нібы народ раптам разбагацеў. Поўныя магазыны народу. Сапраўднаму пакупніку няма як дабіцца, яго адціскаюць да дзьвярэй, ён выходзіць. А нашы хлапцы набіваюцца ў магазын, мацаюць, прабуюць тавары, перабіраюць увесь магазын, набіраюць сабе цэлыя горы ўсякай усячыны. Ім з вялікай увагаю адмерваюць адважваюць, пакуюць, даглядаюць. У кішэні іншы раз у такога «пакупніка» і пяці капеек няма, а ён набірае на дзесяткі рублёў. Калі ўсё ўпакавана і трэба плаціць грошы ў касу, «пакупнік» раптам «успамінае»:

«— Ах, ды вы-ж пад байкотам! А я і забыў. Бывайце, нам ня з рукі ў вас купляць»...

... Купцы завылі. Для іх гэта—няпрыемнасьць. Самі не бярэм і пакупнікаў адпіхаем, адганяем. А тут яшчэ адрэзанае, адважанае кўды дзяваць? Яго ня кожны возьме. Мы так з тыдзень або больш патрымалі нашых аршыньнікаў у «страхе божием», тыдняў два, а потым пашкадавалі, наклалі на іх штрафік. На каго 500 рублёў, а на каго і 5000—гледзячы па капіталу. Сабралі такім парадкам шмат грошай, купілі сотню або дзьве браўнінгаў, берданак, бомбаў, патронаў...

Тав. Нагіх доўга расказвае пра тое, як паехалі яны з тав. Варашылавым на канфэрэнцыю ў Марыупаль. Прышлі па яўцы на кватэру, дзе павінна быць канфэрэнцыя, а кватэра правалена, частка дэлегатаў арыштавана. Прышлося ўцякаць і начаваць «дзе бог пакажа», таму што ніякіх дакумантаў з сабою ня было. Потым, тав. Нагіх расказвае пра тое, як вазіў тав. Варашылаў зброю з Фінляндыі, а яны прымалі яго і хавалі. Выпадкаў, здарэньняў, на цэлую кнігу хопіць, слухаеш і чутачку зайздросьціш: эх, цікава людзі жылі! Але прыдзе час, і ўнукі моцна будуць нам зайздросьціць, слухаючы нашы расказы: наш час—не паўтарымы.

У канцы гутаркі я жартуючы запытаў Нагіх, з кім-жа ён атожсамляе сябе і Варашылава: каго са Шчасьліўцам і каго з Нешчасьліўцам.

— Нешчасьліўцам?.. Тых няма. За граніцай яны. Вунь—меншавікі, эсэры, кадэты ды іншая зграя. Тыя нешчасьліўцы. Мы прагналі іх разам з антрэпрэнёрамі, у якіх яны працавалі...

Гэта тройка ў «рэвалюцыйных летапісах» Луганску і Алчэўску займае выдатнае мейсца. Усе ўтраіх бліжэйшыя саратнікі Кліма Варашылава. Яны сабраліся сюды па маёй просьбе, пагаварыць у прыяцельскай гутарцы пра яго самога, пра яго справы, успомніць, аднавіць разам далёкае мінулае з рэвалюцыйнага падпольля.

Спачатку гутарка штосьці дрэнна клеіцца. Кожны сядзіць і думае, успамінае перажытае.

— Мы вось сядзімо тут п'ем чай. Хочам гаварыць пра Кліма,—задумленна сказаў Нагіх.—А ён там зараз што робіць? За якім сталом і з кім сядзіць?

— Што робіць? Мабыць, на паседжаньні дзе-небудзь,—гаворыць Прыдарожка.—Адпачываць, браце, няма калі...

— Мабыць, дзе-небудзь робіць даклад і стукае як і раней кулаком па сталу,—сьмяючыся дадаў Параніч.

— Ну, што раней! Раней малады быў, гарачы быў.

— А цяпер, што пастарэў?

— Не пастарэў, а... няма сэнсу ўжо стукаць. Трэба справу рабіць, а ня стукаць,—мармыча Нагіх.

— Ну ясна, ясна!—згадзіўся Прыдарожка. —Раней і мы стукалі і нас стукалі. Ня толькі па сталу, а і па галаве. Крэслы на паседжаньнях ламалі адзін аб аднаго, што там!.. Час такі быў, а цяпер іншы. Няма сэнсу кулакі ў ход пускаць.

Наліўшы сабе чай Прыдарожка гаварыў далей:

— Няма нічога дзіўнага, што Клім гарачы быў, а вазьмеце яго бацьку, дзеда Яфрэма, таксама сьпічка быў. Гнуцца ніколі ня гнуўся. Чуць закрануў яго хто з старшых—кідае к чорту работу і ідзе. Усё

жыццё-ж бо ён вандраваў з работы на работу, нідзе доўга не ўжываўся. Усюды або яго праганялі за непакорнасьць, або сам ішоў, не хацеў з няпраўдай мірыцца. Самы-ж бо вялікі пэрыод яго вялікай работы на адным месцы была яго служба за будачніка на жалезнай дарозе. Цэлых тры гады дзед Яфрэм высядзеў на гэтым месцы. Для яго гэта нябывалы час.

— І то, мабыць, таму, што людзей кругом ня было,—уставіў Нагіх.—Будачнік адзін у полі. Няма каму што-небудзь дрэннае рабіць...

— Можа быць... Стары ўпарты, самалюбівы быў. На мазоль сабе нікому ня дасьць наступіць. Клім у яго адзін сын быў. Ну, вядома-ж— любіў яго бацька. Можа, і перадаў яму, прышчапіў свой характар, сваю непакорнасьць, свае вольнадумства. А тут яшчэ Рыжкоў, настаўнік Клімаў па школе, сёе-тое дабавіў яму. Таксама гарачы, вольнадумны чалавек быў... А тут пастаянная беднасьць у доме Кліма, клопаты аб кавалку хлеба. Кліма гэта прыгнятала, раздражняла.

Ён хацеў памагчы сям'і жыць сытна і ня мог. А галоўнае—ён духам рабочым наскрозь прасякнуты быў. Як-жа тут ня быць яму гарачым!..

Прыдарожка многа расказвае пра Клімавага бацьку, пра яго сям'ю, пра яе жыцьцё. «Вечны батрак»—так назваў старога Яфрэма адзін з Клімавых таварышоў.

— У 1894 годзе я пазнаёміўся з бацькам т. Варашылава і самым Клімам. Бацька яго быў за стоража пры канторы Родакоўскай капальні. Кватэраваў у казарме пры шахце № 7. Кватэра была на поўдзень вокнамі, на поўнач дзьвярыма. Дзьверы былі такія «вялізарныя», што калі не сагнешся—разаб'еш галаву.

У 1894 годзе, у красавіку, гадзіне а дванаццатай дня праходзіў я міма майстэрняў на коксавыя печы. Хацеў прайсьці ў стэп. Гляджу— сядзіць дзед Яфрэм—так клікалі, бацьку Кліма.

«— Дзень добры, дзед Яфрэм!».

«— Дзень добры, сынок».

«— Што ты тут робіш?

«— Ды чакаю Кліма».

«— А я вам, дарэчы, хачу навіну паведаміць; вас хочуць перакінуць кудысьці за стоража. Будзьце разам з Клімам».

«— Так, тады будзе добра. А я пра Кліма ўсё думаю. Ён-жа бо ў мяне адзін. Усе клопаты аб ім. Як-бы яго вывучыць, навучыць чаму. Аддаў яго ў Васільеўскую школу, да харошага настаўніка— Рыжкова. Вельмі, кажуць, настаўнік добры, шмат хто яго хваліць».

... Яны потым перабраліся. Як зараз памятую маленькую хатку, крыху ў баку ад дарогі.

... Не адзін раз прыходзілася бываць ў гэтай хатцы.

... Дзед Яфрэм—Клімаў бацька—заўсёды быў спакойны, бадзёры, упэўнены. Не паказваў нездавольнасьць нават тады, калі нас з Клімам выгналі з заводу. Стары быў незвычайны.

... Аднойчы, ратуючыся ад паліцыі, я узяў у доўг у дзеда Яфрэма тры рублі. Дзед кіўнуў галавою і гаворыць:

— «Эх, хлапцы, небясьпечную вы гульню думаеце пачаць. Мала вас-жа бо...

— «Пачакайце, дзядуня, нас будзе шмат,—кажу,—і тады мы пераможам».

... Памятаю такі выпадак, Клім мне сказаў:

— «Хутка я патурбую цябе з сваімі прыяцелямі».

... Тады ў яго на Алчэўскім заводзе ўжо былі прыяцелі. Хутка ён прышоў да мяне з таварышамі. Быў сярод іх і Параніч. Няхай Параніч прыпомніць, як яму прыходзілася нагінаць галаву, каб ня стукнуцца аб касяк дзьвярэй хаты. Гэта быў «рабочы габінэт», дзе выхоўваўся і працаваў нарком Варашылаў.

... Мы сядзелі і жартавалі над Клімавымі дзьвярыма, сьмяяліся. Потым я запрасіў Кліма і яго таварышаў на мітынг. Яны згадзіліся. Мітынг гэты адбыўся ў Арловай бальцы. Гэта была першая Клімава масоўка.

... Першыя масоўкі, дзе бываў Клім, былі ў Арловай, Васільеўскай, і Лазова-Паўлаўскай бальках. Тут Клім Варашылаў і прыняў першае падпольнае рэвалюцыйнае пачынаньне. Гэта было ў 1898 і 1899 гадох.

... Клім быў малады, але ўжо тады ён прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы палітычных пытаньняў. Варашылаў тады адразу высунуўся, як вельмі здольны працаўнік. Ужо на першых масоўках Клім пачаў вылучацца з радоў таварышоў.

... Уся падпольная работа ў Алчэўскай мясцовасьці, ідзе пад кіраўніцтвам маладога Кліма Варашылава. Працаваць у Алчэўску нам прышлося амаль поруч. Я быў у мэханічным цэху, а Клім у ліцейным. У нашым асяродзьдзі, сярод актыва, пра Кліма гаварылі, як пра вялікага палітычнага працаўніка. Кліма вельмі цанілі. Калі гарнякі на Шубаўскай рудні забаставалі, мы пачалі зьбіраць ім грошы. Сабралі каля трох тысяч рублёў. Прымалі ў гэтым удзел: я, Клім, Параніч ды іншыя.

... У сьнежні 1905 г. у Горлаўцы ўспыхнула ўзброенае паўстаньне. У Алчэўску паўстала пытаньне памагаць ці не памагаць Горлаўцы. У гэты момант атрымліваецца тэлеграма «Горлаўцаў зьбіваюць».

... Мы памяталі і хацелі што-б там ні было праводзіць у жыцьцё Варашылаўскія наказы: «Толькі са зброяй у руках рабочая кляса даб'ецца сваіх правоў».

... Мітынг выказаўся за тое, каб у тэрміновым парадку сесьці і паехаць на падмогу Горлаўцы. Пачалі ўзбройвацца хто чым мог. На працягу двух з паловай гадзін пракатны і мэханічны цэхі кавалі пікі для дружыньнікаў.

... Чатыры тысячы пудоў жалеза было выкарыстана на пікі. Атрады былі ўзброены пікамі, драбавікамі, часткова берданкамі, адабранымі ў стражнікаў у маёнтку князя Доўгарукава, у сяле Міхайлаўка.

... Клімаў бацька, калі не батрак, то няўжыўчывы, з вялікай павагай да сябе чорнарабочы, які цёнгле вандруе з сям'ёй з работы на работу. Пастух гавяды памешчыка Алчэўскага, батрак, стораж пры канторы, у капальні, жалезнадарожны будачнік—за каго толькі ня быў дзед Яфрэм. Яго зарэзала на рабоце поездам.

... У сям'і галеча, беднасьць. Старэнькая хатка замест жыльля; нішчымная харч—і лятуценьні старога вывучыць адзінага сына, вывесьці яго «у людзі». Мабыць, вянком усіх гэтых лятуценьняў было—дажыць да тых шчасьлівых дзён, калі сын яго даб'ецца да «чына» сельскага настаўніка. Стары, мабыць, і ня марыў пра тое, што той шлях, па якому пайшоў яго сын—небясьпечны рэвалюцыйны шлях—прывядзе да карэннай зьмены жыцьця ня толькі аднаго—двух чалавек, але і цэлай краіны, усяго сьвету. Яго не палохала тое, што сына яго за гэта праганяюць з работы. Ён толькі безнадзейна ківаў галавою і гаварыў:

— «Эх, рэбяткі, не па сабе вы справу ўзялі! Вялікая яна вельмі, а вас-жа бо мала».

... Але не перашкаджаў, не забараняў сыну займацца гэтаю справаю. Спачуваў яму і дапамагаў.

— Ня любіў стары начальства. Вельмі ня любіў,—сказаў Параніч.—Перадалося гэта, мабыць, і Кліму... Раней, бывала, прыстаў на заводзе—цар і бог. Ідзе, а яму гнуцца, кланяюцца. Баставаць мы бастуем, на мітынгах прамовы якія закатваем, кулакі сьціскаем, а ідзе прыстаў—здароўкаемся. Мімаволі неяк выходзіла так. А Клім, бывала, ніколі ня кланяўся. Паліцыя для яго нічога ня варта! Ідзе ў натоўпе рабочых, усе кланяюцца сустрэчнаму прыставу, схіляюць галавы, скідаюць шапкі, а ён глядзіць яму ў вочы і хоць-бы што. Галавою нават ня кіўне. Бывалі непаразуменьні з-за гэтага. Бачыце, непавагу начальству робіць... На заметку гэта бралі.

— Яшчэ-б ня браць!—усьміхнуўся Нагіх.—Аднойчы прыехаў у Луганск Кацерынаслаўскі віцэ-губэрнатар. Важны такі, ганарлівы. Шынэль у яго з чырвонай падкладкай.. Прышлося яму прыняць дэлегацыю ад Луганскага прафсаюзу па цэлым радзе пытаньняў. А прафсаюзам тады Клім камандаваў. Яму і прышлося ісьці на прыём да яго яснавяльможнасьці на чале дэлегацыі. Мы так і парашылі: абавязкова выкіне якую-небудзь штуку з генэралам. Так яно і было. Генэрал з такім трэскам, з гонарам выходзіць да дэлегацыі,—чакаючы, што ўсе вось зараз паклоняцца нізка перад ім, захвалююцца, забегаюць. А дэлегаты нават не ўсталі, не пакланіліся. Клім падгаварыў усіх гаварыць з генэралам толькі седзячы і называць яго не «яснавяльможнасьць» а проста «пан палкоўнік», хоць ён быў і генэрал... Яго «яснавяльможнасьць» вядома ўскіпеў.

«— Быдла, гады! Я і то стаю, а яны нават устаць ня могуць. Устаць! Устаць нягоднікі!

... Рэбята не падымаюцца. Клім патрабуе быць больш далікатным і гаворыць:

« — Хто-ж вам не дае? Сядайце і вы. Седзячы больш зручна размаўляць»...

«... Адным словам спрачаліся, лаяліся, а справу-ж усё распачалі. Генэрал папракае рабочых за непакорлівасьць, за забастоўкі, нападае на саюз.

— «Усё гэта вашы прафсаюзы нарабілі!.. Забастоўкі, хваляваньні, рэвалюцыя—усё гэта ад іх, ад вашых прафсаюзаў»...

«— Не, усё гэта ад вас, ды ад фабрыкантаў,—гаворыць яму Клім.—Вы нас прыціскаеце, а мы абараняемся. І таксама душыць будзем. Не прафсаюз, а вось народ гэты робіць».

... Закранулі пытаньні наконт беспарадку на заводзе. Генэрал дзівіцца, абураецца, што кагосьці з тэх. пэрсаналу, якуюсьці гадзіну, якую даўно задушыць варта было-б, рабочыя са сьвістам вывезьлі з цэху на тачцы.

— «Вы разумееце, які гэта зьдзек, як гэта дзіка, груба. Вазьмеце вы якую-небудзь культурную краіну, напрыклад Італію. Хіба магчыма такія дзікія ўчынкі ў Італіі».

— «А хіба магчыма—каб у Італіі ўжывалі столькі вяровак для народа як у нас?»—гаварылі мы тады...

... Генэрал вар'яцеў, пачырванеў увесь. Дэлегаты ўжо паразшылі, што дарога ім адсюль проста ў турму за такія Клімавыя прамовы. Ну, як-жа ня браць Кліма на заметку за непакорнасьць, за непавагу да начальства? Гэта «непавага» і зрабіла рэвалюцыю...

— О, на гэта Клім быў майстар!—падхапіў Параніч.—На зуб яму ніхто не трапляйся. Асабліва паліцыя. Душу навыварат вывярне сваёю едкасьцю. Гэта вось непакорнасьць, бунтарства маладога Варашылава чуецца ва ўсіх расказах пра яго. Маладосьць, задор, гарачая натура дапамагалі таму, што ўсё гэта ў яго бурна вырывалася наверх. Але, цікавейшая дэталь: ўсе гавораць пра яго, як пра гарачага, заліхвацкага бунтара. Але ні ў кога няма ніводнай ноткі, думкі пра тое, што гэта было проста бунтарства нічым ня стрыманае, не арганізаванае, без мэтаімкненьня, што ён быў гарачы ня ў меру, што сек з пляча.

Варашылаў—бунтар, упарты «непокорец», «задзіра», агонь хлопец, «порах»,—але поруч з гэтым і Варашылаў рэвалюцыянэр марксіст, Варашылаў—арганізатар, кіраўнік рэвалюцыйнага падпольля, Варашылаў—цьвярозы, асьцярожны палітык, упэўнена, сьмела вядучы за сабою масы да ясна-бачанай мэты.

— Гарачы ён быў—гэта правільна,—сур'ёзна гаворыць Нагіх.—Вельмі гарачы. Іменна—порах. Але заўсёды гэта яго гарачнасьць была там, дзе яна была небясьпечна. Ведаў, дзе можна гарачыцца... І наадварот, гэта была часта добрая, станоўчая гарачнасьць. Яна пераходзіла ў рэвалюцыйную палкасьць, а гэта перакопвала, падбадзёрвала іншых. Таму Кліма нельга было не паслухацца, нельга было не згадзіцца з ім, не пайсьці за ім. Мы ведалі: у Кліма—правільны нюх. Ён маху не дасьць. І верылі яму, слухаліся яго. Вялікага цьвярозага розуму, вялікага клясавага чуцьця ў Кліма не магла забраць гэта яго гарачнасьць.

— Ды чаго там!—робіць нецярплівы гэст Прыдарожка.—За гэта яго яшчэ больш любілі. Пачне, бывала, гаварыць—у душу залазіць...

— Мне ён іменна ў душу і залез,—перапыніў яго Параніч.—Сустрэўся я з тав. Варашылавым у Алчэўску ў 1906—1907 г. Яму тады было гадоў 16. На Алчэўскім заводзе мы з ім разам вучы-

ліся. Я быў за вучня ў чыгуна-ліцейным, а Клім паступіў на завод у 1896 годзе і вучыўся на кране. Пачаў працаваць за змасчыка. Ён зрабіў на мяне надзвычай добрае ўражаньне. Я быў сіратою і трапіў на далёкі, незнаёмы завод. Ён прыняў блізкі ўдзел ў маім жыцьці, увёў у сваю сям'ю, якая жыла ў Алчэўску.

... У тыя годы я сябраваў і рос з Клімам. Усе прыяцелі Кліма апынуліся потым у сьпісках неблаганадзейных. Яны-ж—нелегальныя, падпольшчыкі... Было ў нас чалавек сем баявых хлапцоў. Гэта сямёрка было потым членамі-устаноўцамі профэсіянальнага саюза рабочых завода Гартмана. За старшыню гэтага першага профсаюзу быў выбраны Варашылаў, а за сакратара Фрыдкін. Гэта ён тав. Варашылаў, быў прародзіч цяперашняга профсаюзу на Луганшчыне.

Памятаю, у 1905 годзе была апошняя забастоўка. Адміністрацыя пусьціла чутку, што завод будзе зачынены. Гэта зрабіла ўплыў. Мы, важакі, трымаліся невялікай кучкай, калі далі трывожны гудок, хтосьці правакацыйна стрэліў. Пачаўся разгром. Варашылава, мяне ды яшчэ некалькі рабочых арыштавалі. У жандармскай управе выдалі нам разьліковыя кніжкі. Кліма абвінавацілі ў замаху на гарадавога. За намі пачалі паляваньне. Калі-б нас тады не арыштавалі, то мабыць забілі-б.

... Сядзеў Варашылаў да кастрычніка 1905 году. Тады Луганскія рабочыя і рабочыя Алчэўскага заводу, дзе Саветам дэпутатаў кіраваў я, пачалі тэлеграфна патрабаваць ад губэрнатара і міністра юстыцыі вызваленьня Варашылава. Яго вызвалілі па патрабаваньню рабочых. Да турмы хадзіў вялізарны натоўп.

... Мы забастоўкамі здабылі ад дырэкцыі завода 100.000 рублёў. Несьвядомыя з рабочых патрабавалі падзелу грошай між усімі на рукі. Гэтыя несьвядомыя заявілі:

«— Тыя, хто здабываў грошы, сядзяць па турмах. Навошта нам організоўваць касу ўзаемадапамогі?»

... За гэты час Варашылаў пасталеў, вырас разумова, а галоўна палітычна далёка пашоў. Пасьля Стокгольмскага зьезду я жартуючы гаварыў Варашылаву:

— «Пусьцілі вас, чарцей, у культурную краіну, а вы і ну крэслы ламаць!

... Варашылаў мармытнуў нешта пра сябе, паказваючы гэтым нездаволенасьць маімі жартамі. А гэта-ж бо было: Клім, кажуць, сапраўды ламаў на Стакгольскім зьезьдзе крэслы. Мабыць аб головы меншавікоў.

... У 1907 годзе Варашылава лавіла паліцыя. Ён сядзеў у мяне. Нам паведамілі свае людзі, што паліцыя ўжо на Луганскай вуліцы. Нам трэба было хаваць Варашылава. Я даў яму адзежу жонкі. Ён адзеўся за жанчыну, далі яму кошык з бялізнаю, з ім поруч пашла жонка Даніла Валошына. Дзьве жанчыны—адной з якіх быў Варашылаў—пашлі на рэчку Луганка паласкаць бялізну ў тую мінуту, калі да дому прышлі паліцэйскія.

... Шукалі доўга. Я пытаю іх:

«— Чаго вы шукаеце? Каго шукаеце?

— «Бачыш, гад, ня ведаеш, каго шукаем! А дзе Валодзька?»

— «Які Валодзька?»

... Прышлося прыкінуцца ня ведаючым. Так Варашылаў і выратаваўся ў жаночай адзежы.

... У 1909—1910 годзе Варашылаў пад нейкім чужым прозьвішчам наведаў мяне ў Кацярынаслаўскай турме. Варашылава я запамятаў простым, шчырым. Ужо калі пастановіць ён што, дык застанецца на сваім. Хоць галаву яму сячы. Вельмі гарачы, парывісты быў хлапец.

Спачатку Параніч гаворыць бойка, весела, з блескам у вачох. Але потым задумаўся, замаўчаў. Вочы пакрыліся дымкаю.

— Цяпер ня тое,—гаворыць ён далей.—Цяпер нельга ўявіць сабе, які быў тады ліцейны цэх Алчэўскага мэталюргічнага завода. Там было пекла: дым, гарачыня, пыл, сырасьць, гразь і цемра.

... Я галадаў. З мяне, яшчэ маладога юнака, без усякай жаласьці, выцягвалі жылы непасільнай 12-ці гадзіннаю працай. Мяне білі... Але дзявацца ня было куды. Я плакаў і гнуў сьпіну ў сьмярдзючым ліцейным цэху. Я бачыў, як у час выдачы заработку ў канторы ліцейшчыкі, у якіх я быў за хлопчыка, атрымліваюць плату золатам. І я марыў: «Вось, зраблюся ліцейшчыкам, буду атрымліваць заработак чыстым золатам, назьбіраю шмат золата, разбагацею, вярнуся ў сваю вёску, дзе маці адпрацоўвала бацькаўскія даўгі, і зраблюся моцным гаспадаром». Я старанна чытаў «жития святых».

... Але вось у ліцейны цэх прыходзіць такі-ж, як я, падростак Варашылаў. Ён хутка знаёміцца са мною, распытвае, хто я і адкуль. Мяне як бяз родных, ён прывёў у сваю сям'ю і я аджыў. Мінулі дні цяжкай самотнасьці. Я кожны дзень быў у Кліма, або ў яго таварыша разам з ім. Аднойчы ён запытаўся у мяне:

— «Міця, ты любіш чытаць?»

... Я чытаў тады «сьвяты» хлам, паказаў яму кніжку, пра нейкага «угодника божиего». Клим расьсьмяяўся, кінуў кніжку ў кут. Ён даў мне іншыя кніжкі, якія раскрылі перада мною новыя, нябачаныя гарызонты, пра якія я і ня думаў.

... Жылося мне—дый усім нам—надзвычай цяжка. Я часта гаварыў аб гэтым Кліму. Тады Клім сказаў мне:

— «А жыцьцё-ж бо можна ўладзіць інакш. Так, што усім добра будзе».

... І ён многа расказаў мне як можна і трэба ўладзіць жыцьцё. Гэта захапіла мяне. Перада мною адкрыліся новыя, неабдымныя гарызонты, ад якіх захапляла дух.

... З той мінуты я перастаў верыць у цара, у бога, перастаў чытаць «жития святых», перастаў хацець зрабіцца моцным гаспадаром у сваім сяле. Жыцьцё здалося мне не такім безнадзейна цяжкім: уперадзе віднелася раньне, я зрабіўся пад кіраўніцтвам Кліма рэвалюцыянэрам падпольшчыкам, пачаў грызьці нелегальную літаратуру. Варашылаў, я і Пузаваў зьявіліся першымі організатарамі падпольнага гуртка.

... З рэлігійнага юнака я зрабіўся змагаром. Гэтаму навучыў мяне Клім, а я навучыў іншых. Усе маладыя годы—вясну майго жыцьця—

я правёў у сьценах турам і ў ссылцы ў Сібіры,—у катарзе. Але я не шкадую аб гэтым: усё гэта было не напрасным.

... Кім я быў да сустрэчы з Клімам? Забіты, загнаны юнак, які чытаў «жития святых», і які марыў ня раз пра моцную уласную гаспадарку тут, на зямлі... Голад-жа бо і холад, пабоі, у жудасным ліцейным цэху Алчэўскага заводу я пераносіў з-за таго, што марыў за ўсё гэта хутка атрымаць узнагароду для сябе, зрабіўшыся ў сваёй вёсцы багатым гаспадарчыкам. А прышоў Клім, і ўсё гэта паляцела к чорту: і «жития святых», і бог і рай, і мары пра гаспадарку... Мяне часта білі, я плакаў. А Клім гаварыў:

— «Кінь, Міця, Масква сьлязам ня верыць. Ня плакаць, а рабіць штосьці трэба. Жыцьцё інакш уладзіць можна».

... Замест «жытия святых» я пачаў чытаць Някрасава, Нікіціна, Пушкіна, потым—нелегальшчыну. Клім пазнаёміў мяне з рэвалюцыйным рухам, з профсаюзамі. Я зрабіўся падпольшчыкам, зрабіўся рэвалюцыянэрам. Клім зрабіў рэзкі перелом у маім мышленьні. Клім так даў мне шмат, што я пашоў па турмах, у ссылку, у катаргу, а рэвалюцыйнай работы ня кідаў...

Успамінаюць, як змагаўся Варашылаў за арганізацыю прафсаюзаў Луганску, касы ўзаемадапамогі для рабочых. І тут, кажуць, што бяз Кліма, без яго кіраўніцтва, ня было-б ні грошай, ні кас узаемадапамогі, ні прафсаюза. Ня дарам Варашылаў быў за першага старшыню прафсаюзаў. Не забыў ён і школы: завод атрымаў лепшую школу, лепшую бібліатэку ў Данбасе толькі дзякуючы Варашылаву: гэта ён пабег да настаўнікаў старай заводзкай школы, Рыжкову і Садашову і прапанаваў ім упісаць пункты аб школе ў патрабаваньнях рабочых перад забастоўкай. Школа і бібліатэка гэта яго роднае. Не адно пакаленьне сучасных рабочых паравоза-будаўнічага заводу, якія атрымалі у сваёй заводзкай школе належныя веды, мабыць і ня думаюць, што гэтым яны абавязаны Варашылаву.

Неяк выходзіць так, што пра якую-б галіну падпольнай рэвалюцыйнай работы не загаварылі—няма такой галіны, у якой Варашылаў не адыграў якой-небудзь кіруючай ролі. Падшуканьне конспірацыйных кватэр, яўкі, организацыя падпольнай друкарні, майстэрні для вырабу бомб, надрукаваньне проклямацый, масоўкі, дэманстрацыі, протэсты, забастоўкі, мітынгі, гурткі,—усё гэта неяк цесна перапле цена з Варашылавым. Слухаеш усё гэта і разумееш чаму іменна ён быў душою Луганскай падпольнай организацыі.

Вось яны—сядзяць тры «старых». Усе траіх былі ў ссылцы, у катарзе, уведалі ня мала турам. Ня мала баёў вытрымалі з самадзяржаўем. Гэта, сапраўдныя рэвалюцыянэры рабочыя, з завода, ад станка. Але, або зроблены яны некалькі з другога цеста, чым Варашылаў, або ня так моцна сшыты, скроены, не так закаменены. Яны ня вытрымалі да канца, і к часу Кастрычніцкавай рэвалюцыі шмат хто разгубіў з таго, чым у былыя гады заражаў, падбадзёрваў іх Варашылаў. Гэтыя «старыя» у тыя часы былі «фігурамі» у рэвалюцыйным падпольлі. Яны шмат чым кіравалі тады. А калі яны гавораць пра Варашылава таго часу—гавораць як пра старэйшага, як пра настаў-

ніка, кіраўніка, які шмат чаго ў той час навучыў іх. Ён, больш малады, чым яны—але-ж кіраўнік, а яны выканаўцы. Ён настаўнік, яны—вучні. Гэта чуецца ў кожным іх слове пра Варашылава.

Між іншым у іх вялікія рэвалюцыйныя заслугі, вялікі партыйны стаж. Актыўнае змаганьне з самадзяржаўем—падпольная работа, арышты, ссылкі, катарга. Але зараз яны—«маленькія людзі раённага маштабу», як сказаў адзін з іх, а таварыш Клім Варашылаў, зараз. Народны камісар па вайсковых і морскіх справах, член паліт. бюро ЦК УсеКП(б), нязьменны член Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту СССР.

*Пераклад з рускае мовы*

*Янкі Марукс*

Праф. Піотуховіч

# АСНОЎНЫЯ ЭТАПЫ Ў РАЗЬВІЦЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ ПАСЬЛЯКАСТРЫЧНІКАЎСКАГА ПЭРЫЯДУ

Кастрычнікаўская рэвалюцыя адчыняе сабой зусім новую эру ў гісторыі чалавецтва наогул і ў прыватнасьці ў гісторыі беларускай літаратуры,—эру вялізарных дасягненьняў і перамог пралетарыяту.

Напярэдадні Кастрычніка, у часы імпэрыялістычнай вайны, беларуская літаратура знаходзілася ў стане заняпаду. Вільня, якая зьяўлялася асяродкам беларускага літаратурнага руху, стагнала пад абцасам кайзэраўскіх акупантаў, амаль уся Заходняя Беларусь ляжала ў руінах вайны, большасьць яе насельніцтва ўцякала ў глыб Расіі, высьцілаючы сваімі касьцямі далёкія шляхі Волгі і Уралу. Агульны заняпад краіны, яе эканамічнае разбурэньне пацягнулі за сабой і крайні заняпад культурнага жыцьця, у прыватнасьці мастацтва і літаратуры. Гэты заняпад асабліва яскравае выяўленьне знайшоў сабе ў асьвятленьні падзеяў імпэрыялістычнай вайны, якія па рознаму адлюстроўваліся ў розных клясавых стылях. Для Максіма Багдановіча вайна—змаганьне за бацькаўшчыну; у яго Базыль на палёх бойкі канае за айчыну. Калі ў Багдановіча імпэрыялістычная бойня знайшла сабе буржуазна-патрыятычнае пераламленьне, дык у дробнабуржуазных пісьменьнікаў ёй даецца містычна-рамантычная трактоўка: Купала ў сваіх «Песьнях вайны» бездапаможна схіляецца перад тварам таемнага кону, апэлююючы да яго як нібыта да адзінай прычыны ваенных жахаў; для Бядулі імпэрыялістычная вайна гэта царства шатана сьмерці, або крывавы шлюб Юды, які абраў сабе за маладуху сьмерць.

На фоне такой ідэёвай бездапаможнасьці асабліва выпукла абрысоўваецца тое гераічна-ўздымнае, творча-бадзёрае, што прынесла з сабой у Беларускую літаратуру пралетарская рэвалюцыя; дзякуючы гэтай рэвалюцыі хаўтурнае requiem зьмяняецца ў беларускай літаратуры іншым лейтматывам, лейтматывам пралетарскай перамогі і будаўніцтва, але гэта, бясспрэчна,—толькі лейтматыў, асноўная мэлёдыя.

Зразумела, беларуская літаратура пасьлякастрычнікаўскага часу не выяўляе сабою чагосьці суцэльнага і маналітнага. Трэба з усёй рашучасьцю адкінуць шкодныя ўстаноўкі нацыянал-дэмакратычных крытыкаў, якія імкнуліся паказаць сучасную беларускую літаратуру,

як нібыта адзіны струмень, адзінае выяўленьне «душы беларускага народу». Літаратура эпохі пралетарскай рэвалюцыі ёсьць выяўленьне таго напружнага клясавага змаганьня, якое адбывалася на Беларусі; гэтым змаганьнем яна была абумоўлена, у працэсе змаганьня разьвівалася і мацнела. Беларуская літаратура зьяўлялася зброяй змаганьня ў руках розных кляс, якія па рознаму імкнуліся выкарыстаць яе ў сваіх мэтах.

У сваім паступовым разьвіцьці сучасная беларуская літаратура прайшла тры этапы; этап вайсковага камунізму, этап аднаўленчага пэрыяду і этап сацыялістычнай рэканструкцыі гаспадаркі і культуры. Кожны з гэтых этапаў мы разгледзім паасобку, улічваючы спэцыфічнасьць умоў клясавага змаганьня і адсюль спэцыфічнасьць літаратурнага руху на кожным з іх.

Як вядома, на этапе вайсковага камунізму клясавае змаганьне адзначалася асаблівай вастрынёю. Буржуазія на шматлікіх франтох грамадзянскай вайны са зброяй у руках выяўляла шалёнае супраціўленьне дыктатуры пралетарыяту, імкнучыся ў крыві і голадзе задушыць уладу працоўных і аднавіць уладу прыгнятальнікаў і экспляататараў. На Беларусі гэтае супраціўленьне ускладнялася тым, што мясцовая буржуазія мела тут непасрэднае падтрыманьне з боку чужаземнай буржуазіі: як вядома эпоха грамадзянскай вайны на Беларусі суправодзілася жахамі паўторных акупацый,—аднэй нямецкай і двух польскіх. У часы акупацый, калі пралетарыят вымушаны быў ва ўмовах бязьлітаснага тэрору пераносіць сваю чыннасьць у падпольле, асабліва актывізавалася буржуазная контррэвалюцыя, фармаваліся, апэрэтачныя урады, разьвінаў сваю агідную дзейнасьць беларускі нацыянал-дэмакратызм. Буржуазія выкарыстоўвала ўсе мажлівыя для яе сродкі змаганьня з пралетарыятам; адным з такіх сродкаў зьяўлялася для яе і мастацкая літаратура, у якой на дадзеным этапе быў вельмі моцны буржуазны контррэвалюцыйны кірунак. Цэлы шэраг пісьменьнікаў у тон акупанцкім гарматам, пад трэск кулямётаў і сьвіст бізуноў з пенай шаленства на вуснах накіроўваюць свае атрутныя стрэлы супроць дыктатуры пралетарыяту, супроць улады працоўных. Ядвігін Ш, ідэалёг капіталізаванага абшарніцтва, застаецца пэўным сабе, выступае, як пэўны вартаўнічы бард паміраючай клясы: член беларускай рады ў сваёй контррэвалюцыйнай практыцы, ён і ў творчасьці, у розных фельетонах, якія зьмяшчаліся ў брудных газэтках і часопісах «Вольная Беларусь», «Беларусь», «Звон», вылівае цэлыя цабры памыяў на Савецкую уладу. У тон Ядвігіну Ш. гучэлі контррэвалюцыйныя вершы Алеся Гаруна, пэўным акампанімэнтам да якіх была яго прамова ў гонар Пілсудзкага, дзе з падлізьніцкіх слоў лёкая, які валяўся ў нагах часовага «гаспадара», выглядае адначасна перакошаны ад злосьці твар арганізатара контррэвалюцыйнага беларускага войска.

На этапе грамадзянскай вайны, у пэрыяд асабліва напружанага клясавага змаганьня выявілася ўся хісткасьць і няўстойлівасьць дробнай буржуазіі, якая ў сваёй практыцы і ідэалёгіі цалкам сьцьвярджала вядомую характарыстыку Леніна. «Дробна-буржуазная стыхія,—

кажа Ленін,—няздарма завецца стыхія, бо гэта сапраўды штосьці найбольш бясформнае, неакрэсьленае, несьвядомае... зьбядненьне, галеча, цяжкасьці становішча выклікаюць хістаньні: сёньня за буржуазію, заўтра за пралетарыят. Толькі загартованы авангард пралетарыяту здольны непаддацца і супроцьстаяць хістаньням». (XXVI, 2 выд., ст. 347—348).

Ідэолёгамі гэтай часткі дробнай буржуазіі ў беларускай літаратуры зьявіліся тады: Зьмітрок Бядуля, Янка Купала, Якуб Колас і інш. Больш таго, у творчасьці гэтых пісьменьнікаў былі ў той час і моманты яўнай варожасьці да Савецкай улады. Купала не зразумеў сутнасьці Кастрычніка. Для яго пралетарская рэвалюцыя была паўстаньнем нявольнікаў, якія, зьнішчыўшы адну крыўду, на яе месцы нібыта паставілі другую («Крыўда»). Аглядаючы вачыма сівога дзеда рэвалюцыйныя падзеі, Купала, па сутнасьці, выказвае сваю рэакцыйную ідэю кругазвароту рэчаў; калісьці ў «Гусьляры» Купала выказаў думку аб тым, што нібыта ў гісторыі чалавецтва адбываецца зьмена замкнёных кругоў, у ёй няма паступовасьці, а ёсьць толькі таптаньне на адным месцы. Гэту наскрозь фальшывую ідэю Купала ўваскрошвае і цяпер, даючы вуснамі свайго дзеда рэакцыйную ацэнку Кастрычніка.

У творчасьці Якуба Коласа на тым этапе гэтак сама маюць месца моманты варожых выказваньняў супроць Савецкай улады і Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прыкрываючыся сымболікай пэйзажных вобразаў, Колас гераічную эпоху грамадзянскай вайны абмалёўваў як эпоху панаваньня жахаў, цемры і безнадзейнасьці («Цені страхі», «Звон шыбаў»).

У той-жа час, на этапе грамадзянскай вайны, другая частка дробна-буржуазных пісьменьнікаў, наадварот, займала рэвалюцыйныя пазыцыі. Гэта частка групавалася пераважна вакол газэты «Дзяньніца», якая выдавалася ў тагачасным Пецярбурзе. Асабліва значную ролю ў дадзенай групе адыгрывалі Цішка Гартны і Гурло. У творчасьці гэтых пісьменьнікаў выказваліся станоўчыя дачыненьні да Кастрычніка, выражалася бадзёрая ўпэўненасьць у канчальнай перамозе, аптымізм. Але асьвятленьне пралетарскай рэвалюцыі давалася ў гэтай творчасьці тыпова дробна-буржуазнае: рэвалюцыя успрымаецца як стыхія, як стыхійны бунт, пісьменьнікі не разумеюць вядучай ролі пралетарыяту, на першы плян высоўваецца імі сялянства, у іх усьведамленьні рэвалюцыя прышла «ад цяжкіх сох», на творчасьці дробна-буржуазных пісьменьнікаў адчуваюцца ў пэўнай ступені уплывы буржуазнага нацыяналізму, у іх творчасьці заўважаюцца вельмі часта, апроч таго, эстэцка-пасыўныя адносіны да рэвалюцыі, як да чагосьці «ўрачыстага».

На этапе грамадзянскай вайны гэтак сама фармуецца ў нас і пралетарская літаратура. Нельга лічыць, што адыходным момантам гэтай літаратуры зьяўляецца выключна Кастрычнік. Ленін зазначае: «У кожнай нацыянальнай культуры ёсьць хоць-бы не разьвітыя элемэнты дэмакратычнай і сацыялістычнай культуры, бо ў кожнай ёсьць працоўная і эксплёатуемая маса, умовы жыцьця якой нямінуча

нараджаюць ідэалёгію дэмакратычную, сацыялістычную» (XVI, 2 выд., 137). У беларускай культуры гэтак сама яшчэ ў нетрах капіталістычнага грамадзтва высьпявалі элемэнты культуры працоўных і эксплёатаваных мас—дэмакратычнай і сацыялістычнай культуры. Гэтыя элемэнты былі перадумовамі узьнікненьня ў нас пралетарскай літаратуры. Але ў пэрыяд грамадзянскай вайны гэтыя літаратура знаходзілася яшчэ ў працэсе першапачатковага станаўленьня. Выразным прадстаўніком яе зьяўляецца Міхась Чарот. У самых ранніх сваіх вершах Чарот выступае як пясьняр клясавага змаганьня, якое ён усьведамляе з пункту гледжаньня пралетарыяту: паэта бачыць перамогу працы над капіталам («Два»), радасна вітае і усьлявае гэту перамогу, упэўнены у канчальным яе замацаваньні, ён з вялікага «сёньня» ідзе ў «заўтра». Чарот у асноўным правільна раскрывае рухаючыя сілы рэвалюцыі, рысуючы нам кіраўніцтва пралетарыяту і яго саюз з сялянствам («На чырвонай дарозе»). Паэта ў сваёй творчасьці дае бой контррэвалюцыйнаму беларускаму нацыянал-дэмакратызму, выступаючы супроць яго гнілой рамантыкі мінулага, кідаючы кліч «годзе вам плакаць над Рагнедаю». Сумным песьням асуджанай клясы ён супроцьстаўляе бадзёрыя і узьнятыя песьні новай клясы. Але ў сваім змаганьні з нацыянал-дэмакратызмам Чарот на дадзеным этапе не вызначаецца яшчэ рашучасьцю і вытрыманай пасьлядоўнасьцю. У яго уласнай творчасьці часамі адчуваюцца яшчэ дробна-буржуазныя уплывы.

Апроч Чарота, пралетарская літаратура мела на этапе грамадзянскай вайны і іншых прадстаўнікоў, якія выступалі са сваімі творамі пераважна ў газэце «Беларускі партызан».

Такім чынам у пэрыяд грамадзянскай вайны ў беларускай літаратуры знайшла сабе яскравае адлюстраваньне пэўная расстаноўка сацыяльных сіл у клясавым змаганьні таго часу: контррэвалюцыйная роля буржуазіі, хістаньне дробнай буржуазіі і «мерная поступ жалезных батальёнаў пралетарыяту».

Другі этап у разьвіцьці пасьлякастрычнікаўскай літаратуры прыпадае на пэрыяд аднаўленьня гаспадаркі і культуры. Адгрымелі гарматы вайны, пралетарыят даў зьнішчальны адпор контррэвалюцыі. У краіне саветаў закіпела мірнае будаўніцтва, фронт вайны зьмяніўся фронтам гаспадаркі і культуры. Але і на гэтым фронце, зразумела, клясавае змаганьне не спынялася, яно прымала толькі іншыя формы. Тав. Сталін зазначае: «Нэп ёсьць не аднабаковы працэс аднаўленьня капіталізму, а двухбаковы працэс разьвіцьця капіталізму і сацыялізму, супярэчлівы працэс змаганьня элемэнтаў сацыялістычных з элемэнтамі капіталістычнымі, працэс перамаганьня элемэнтаў капіталістычных элемэнтамі сацыялістычнымі».

У працэсе перамаганьня капіталізму сацыялізмам расла і мацнела беларуская савецкая літаратура. Агромністым фактарам гэтага росту і узмацненьня зьявілася правільная палітыка камуністычнай партыі ў галіне літаратуры. Гістарычная пастанова ЦК ад 1925 году, паказ-

ваючы на неабходнасьць змаганьня з буржуазным кірункам, аднačасна давала дырэктывы аб усямерным падтрыманьні пралетарскай літаратуры і аб стварэньні спрыяльных умоў для разьвіцьця спадарожніцкага кірунку.

Паступовы рух наперад знайшоў сабе ў беларускай літаратуры знадворнае выражэньне ў арганізацыі і росьце літаратурных аб'яднаньняў. У канцы 1923 году заснавалася аб'яднаньне «Маладняк», якое паставіла сабе мэтай шуканьня новага зьместу і новай формы. у сваёй дэкларацыі высоўвала задачу «ідэі марксызму і ленінізму ператварыць у мастацкія вобразы». Але «Маладняк» не выяўляў сабою маналітнага цэлага, у яго дзейнасьці знаходзіла сваё выражаньне тое напружанае клясавае змаганьне, якое адбывалася ў краіне: унутры «Маладняка» ішло змаганьне розных клясавых стыляў, пачынаючы ад пралетарскага, працягваючы спадарожніцкім сялянскім, якія на тым этапе зьяўляліся найбольш моцнымі, і канчаючы буржуазным, кулацкім. У выніку гэтага змаганьня, якое паступова нарастала па меры узмацненьня сацыялістычнага сэктару гаспадаркі, у 1926 г. адбыўся першы раскол «Маладняка». Частка яго сяброў (Бабарэка, Пушча, Дубоўка, Кузьма Чорны, Крапіва і інш.), вышаўшы з «Маладняка», заснавада новае аб'яднаньне «Узвышша». Ужо ў самой дэклярацыі «Узвышша» выразна праглядвалі тэндэнцыі нацыянал-дэмакратызму і эстэцкага фармалізму. У літаратурнай яго практыцы асноўны тон задавала правае крыло (Бабарэка, Пушча, Дубоўка), якое ад спадарожніцтва ва ўмовах абвастрэньня клясавага змаганьня сыходзіла ўсё больш і больш у балота буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі. Але і «Узвышша» не выяўляла сабою адзінага цэлага. У ім было гэтак сама левае крыло (Глебка, Кузьма Чорны, Крапіва і інш.), якое ў асноўным стаяла на спадарожніцкіх пазыцыях. Дзейнасьць «Узвышша», такім чынам, як і дзейнасьць «Маладняка», абумоўлена была клясавым змаганьнем, і тут таксама адбывалася сутычка розных клясавых кірункаў.

Паглыбленьне клясавага змаганьня ў канцы аднаўленчага пэрыяду цягне за сабою далейшую яшчэ больш вострую дыфэрэнцыяцыю літаратурных сіл. У 1927 г. засноўваецца новае аб'яднаньне «Літаратурна-мастацкая Камуна», сацыяльнай базай якога зьяўлялася гарадзкая дробная буржуазія і якое імкнулася механістычна перасадзіць на глебу Беларусі прынцыпы футурызму. У тым-жа 1927 годзе адбыўся другі раскол «Маладняка». Частка яго сяброў (Зарэцкі, Чарот, Александровіч, Дудар) увайшлі ў новае згуртаваньне «Полымя». Гэта згуртаваньне таксама ня было чымсьці суцэльным, у ім таксама адбывалася змаганьне розных клясавых тэндэнцый, але асноўным тонам у згуртаваньні было імкненьне аб'яднаць пісьменьнікаў старэйшага пакаленьня, так званых «Нашаніўцаў», з пісьменьнікамі маладшага пакаленьня на пляцформе беларускага контрэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму.

Ужо вонкавая гісторыя літаратурных аб'яднаньняў на Беларусі такім чынам выяўляла сабою непасрэднае выражэньне клясавага змаганьня, якое прыводзіла да пэўнага расьпластаваньня пісьменьнікаў.

утвараючы ўнутры кожнага аб'яднаньня процілеглыя і нават антаганістычныя тэндэнцыі. Адсюль было-б глыбока памылковым разглядаць сучасную беларускую літаратуру выключна па аб'яднаньнях,—прыём, які набыў у эклектычнай крытыцы пэўны ўжо штамп. Паколькі адыходным момантам для літаратурнага аналізу павінна служыць клясавае змаганьне, зразумела, і самы разгляд літаратурнага працэсу павінен рабіцца па клясавых стылях, а не па аб'яднаньнях.

На этапе аднаўленчага пэрыяду гэты працэс характарызуецца змаганьнем стыляў буржуазнага, дробна-буржуазнага (у яго сялянскім і спадарожніцкім разгалінаваньнях) і пралетарскага.

Нэп акрыліў пэўныя колы надзеямі на капіталістычную рэстаўрацыю, буржуазія і частка дробнай буржуазіі зразумела новую эканамічную палітыку выключна як адступленьне, як «спуск рэвалюцыі на цiхiх тармазох». Не усьведамляючы таго, што нэп,—гаворачы словамі т. Сталіна,—толькі «пачаўся адступленьнем, але ён разьлічан на тое, каб у ходзе адступленьня зрабіць перагрупоўку сіл і павесьці наступ», беларуская буржуазія вельмі актывізуецца, фармуецца контррэвалюцыйная ідэалёгія нацыянал-дэмакратызму, сутнасьць якога і заключаецца ў мэтаімкненьні да рэстаўрацыі капіталізму на Беларусі. Гэтаму мэтаімкненьню падпарадкаваны ўсе іншыя рысы нацыянал-дэмакратызму: тэорыя бясклясавасьці беларускай нацыі, тэорыя самабытнасьці гэтай нацыі, рамантыка прошласьці, арыентацыя на буржуазны Захад і г. д. Усе гэтыя рысы ёсьць вытворныя ад асноўнай накіраванасьці нацыянал-дэмакратызму супроць дыктатуры пралетарыяту ў мэтах аднаўленьня дыктатуры памешчыкаў і буржуазіі.

Ідэалёгія нацыянал-дэмакратызму знайшла сабе яскравае выражэньне ў беларускай літаратуры. Па лініі гэтай ідэалёгіі змыкаецца з буржуазіяй частка дробна-буржуазных пісьменьнікаў. «Дробная буржуазія, зазначае Ленін, у жыцьці залежыць ад буржуазіі, жывучы сама па-гаспадарску, а не па-пралетарску (у сэнсе месца ў грамадзкай в ы т в о р ч а с ь ц і), і ў вобразе думак яна ідзе за буржуазіяй» (Ленін, XX, 2 выд., 115). У палоне нацыянал-дэмакратызму апынуліся на тым этапе і такія пісьменьнікі як Янка Купала, Якуб Колас, Бядуля і інш.

На этапе аднаўленчага пэрыяду шырока разьвіваецца спадарожніцкая літаратура. Разьвіцьцю гэтай літаратуры, як зазначана вышэй, спрыяюць посьпехі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва і правільная палітыка партыі у галіне літаратуры. На глебе такіх спрыяльных умоў ў сярэдзіне адбудавальнага пэрыяду (1924—1925 г.) адбываюцца вялізарныя зрухі сярод дробна-буржуазнай інтэлігенцыі. «З міжнароднага пункту погляду,—пісаў Ленін у 1921 годзе,—цікава тое, што мы імкнемся акрэсьліць дачыненьні пралетарыяту, які трымае дзяржаўную ўладу ў сваіх руках да апошняй капіталістычнай клясы, да глыбачэзнай асновы капіталізму і дробнай уласнасьці, дробнага вытворцы. Гэтае пытаньне цяпер практычна паўстае перад намі. Я думаю, што мы зможам вырашыць

гэту задачу» (XVIII, ч. I, I выд., 325—326). I сапраўды, пралетарыят разьвязаў задачу кіраўніцтва дробнай буржуазіяй, стварэньня ўмоў для яе ідэалёгічнай перараобкі і набліжэньня да пралетарыяту. Частка дробнай буржуазіі, якая ў пэрыяд вайсковага камунізму і ў першыя гады нэпу, займала варожыя пралетарыяту пазыцыі, змыкаючыся з контррэвалюцыйнай буржуазіяй, цяпер пераходзіць ні пазыцыі набліжэньня да пралетарыяту, на пазыцыі спадарожніцтва рэвалюцыі. Дробна-буржуазныя пісьменьнікі тэматычна і ідэёва набліжаючыся з контррэвалюцыйнай буржуазіяй, цяпер пераходзіць на пазарнае гістарычнае значэньне Кастрычніка, разгортвае антытэзу Савецкай і Заходняй Беларусі, усьпявае савецкую моладзь, спрабуе даць вобраз камуністага і г. д. («Безназоўнае»). Якуб Колас абмалёўвае героіку грамадзянскай вайны («На рубяжы»); ён усьведамляе, што Кастрычнік выяўляе вялізарную творчую сілу, імкнецца адлюстраваць Савецкае будаўніцтва, вялізарныя зрухі на вёсцы, дае вобразы сучаснай вучнёўскай моладзі і г. д. Зьмітрок Бядуля ўсьпявае ўжо ня містычна-забабонную Беларусь прошласьці, а новую Беларусь, якая «зрабілася партыйкай маладой», якая, будуе новае жыцьцё («Буралом»), ён прабуе нават адлюстраваць сацыялістычную тэндэнцыю ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі абмалёўваючы будаўніцтва камуны на руінах былога маёнтку («У ясных крушнях»); сваёю «Чырвона-чорнай жалобай» паэта адгукаецца на гора ўсіх працоўных—сьмерць Леніна.

Але пры наяўнасьці вялізарнейшых зрухаў у творчасьці дададзеных пісьменьнікаў у параўнаньні з папярэднім этапам, усё-ж гэта творчасьць несла ў сабе груз дробна-буржуазнай абмежаванасьці, палоўчатасьці і няўстойлівасьці «Дробны буржуа,—зазначае Карл Маркс,—абагатварае супярэчнасьці, бо ў супярэчнасьці ўся яго сутнасьць, увесь ён—жывая, дзейная грамадзкая супярэчнасьць». (Ліст П. В. Аненкову ад 28/XII—1846 г., Маркс і Энгельс, творы, V, 1929, 294). Творчасьць спадарожнікаў на дадзеным этапе мае вялікія супярэчнасьці. У сваім мастацкім мэтадзе яны ня могуць вызваліцца ад ідэалізму—адсюль вынікае ў іх эмпірычна-паверхоўны падыход да рэчаіснасьці, часта назіраецца ў іх сыходжаньне нават на варожыя пазыцыі. Так, напрыклад, Янка Купала вітае ў сваім «Безназоўным» Савецкую Беларусь, і адначасова ў яго гучаць парой зьменавехаўскія ноткі, выяўляецца захаваная гіронія на адрас савецкай улады (верш «Пазвалі вас»...), у значнай ступені ажываюць настроі нацыянал-дэмакратызму («Сын і маці» і інш.). Якуб Колас у сваім паказе Савецкага будаўніцтва выяўляе неразуменьне асноўных рухаючых сіл гэтага будаўніцтва: не заўважаючы кіруючай ролі пралетарыяту і камуністычнай партыі, ён надае гэту ролю беспартыйнай дробнабуржуазнай інтэлігенцыі. Зьмітрок Бядуля ў сваім падыходзе да савецкай рэчаіснасьці ня можа вызваліцца ад хадульнай рамантыкі і рытарычнай патэтыкі.

Вялікія супярэчнасьці заўважаюцца і ў творчасьці іншых спадарожнікаў.

Цішка Гартны больш арганічна ўспрымае савецкую рэчаіснасьць, як Купала, Колас і Бядуля; у яго параўнальна менш на дадзеным этапе ідэалёгічных зрываў. Творчасьць Гартнага вызначаецца вялікай актуальнасьцю тэматыкі, якая ўбірае ў сябе паказ грамадзянскай вайны, адлюстраваньне працэсаў будаўніцтва («Трэскі на хвалях»). У сваім рамане «Сокі цаліны» пісьменьнік дае вялікае палатно, на якім зарысаваны падзеі буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі: паказана клясавае распластаваньне вёскі, змаганьне кулацтва і бядняцтва, адлюстраваны пэўныя моманты рабочага рэвалюцыйнага руху ў горадзе. Але як у апавяданьнях, так і ў рамане Гартны дае тыпова дробна-буржуазнае асьвятленьне актуальнай тэматыкі. Творчы мэтад пісьменьніка ў асноўным ёсьць мэтад мэханістычны. Адсюль вынікаюць усе заганы творчасьці пісьменьніка: панаваньне эмпірыкі, мэханістычны разрыў паміж грамадзкім і асабовым (вобраз Рыгора Нязвычнага), абстрактная падача псыхалёгічных канфліктаў, прымат у гэтых канфліктах падсьвядомага, зрыву ў эротыку, якія даходзяць у паасобных месцах да апяваньня стыхіі родавага палу, і г. д. Значныя супярэчнасьці ёсьць і ў творчасьці Нёманскага, які звычайна ў асьвятленьні актуальнай тэматыкі (падзеі рэвалюцыі 1905 г., рост сьвядомасьці рабочых, уздым змаганьня) упадае ў шкодны аб'ектывізм, для якога характэрны пасыўна-сузіральны падыход да рэчаіснасьці, эпічна-супакойны, sine ira et studio тон у яе абмалёўцы.

На этапе адбудавальнага пэрыяду ў беларускую літаратуру прыходзіць цэлы шэраг пісьменьнікаў малодшага пакаленьня, выхаваных ужо ў умовах пралетарскай рэвалюцыі, непасрэдна народжаных гэтай рэвалюцыяй. З гэтых пісьменьнікаў значная частка займае спадарожніцкія пазыцыі (Кузьма Чорны, Глебка, Кляшторны, Маракоў, Моркаўка, Лужанін, Хадыка, Вечар і інш.).

Найбольш выдатным прадстаўніком спадарожнікаў у шэрагах малодшага пакаленьня пісьменьнікаў зьяўляецца Кузьма Чорны. Чорны ўжо ў сваіх раньніх творах дае сатыру на абывацельшчыну і мяшчанства («Мяшчанін у густой пары», «Ня пі густога чаю»), ён вясковай абмежаванасьці супроцьстаўляе шырокія прасторы гораду («Срэбра жыцьця»). Але ў сваім адлюстраваньні рэчаіснасьці Чорны стаіць у асноўным на пазыцыях фізыялёгічнага матэрыялізму; з гэтых пазыцый вынікае ў яго цяга да асьвятленьня так званых «адвечных» тэм (каханьне, зайздрасьць, сьмерць), аднабаковы біялёгізм, абстрактны псыхалёгізм, ухілы ў бок мэтафізычнага гамлетызму (раман «Сястра»).

Спадарожніцкі кірунак, як і ўсякі іншы, у сваім разьвіцьці быў абумоўлены клясавым змаганьнем. Дробная буржуазія зьяўлялася чулым баромэтрам гэтага змаганьня. Па меры таго, як клясавае змаганьне на глебе росту сацыялістычнага сэктару гаспадаркі абвастралася, частка спадарожнікаў пачынае рабіць усё большы і больш ухіл у бок буржуазнай ідэалёгіі. Падобную эвалюцыю перацярпела творчасьць Дубоўкі, Зарэцкага, Пушчы, Дудара і інш., якія паступова ўжо на рубяжы аднаўленчага і рэканструкцыйнага пэрыяду пачыналі пакідаць пазыцыі спадарожніцтва, адыходзячы ў лягер контр-

рэвалюцыі. Дубоўка трапляе ў палон нацыяналістычнай рамантыкі, здаровыя элмеэнты, што былі ў яго ранньняй творчасьці (паэма «Студэнт» і інш.) усё больш і больш выпустошваюцца фармалізмам і эстэцтвам. Зарэцкі разгортвае антытэзу «моцнага» буржуа і слабога размагнічанага «камуніста» («Ворагі»); выразна выступае ў яго ўпадніцкая рамантыка, рэтраспэктыўнасьць, падмена клясавага змаганьня змаганьнем чалавека з прыродай. У сваёй насычанай эротыкай аповесьці «Голы зьвер» (1926 г.) Зарэцкі дае сумесь вульгарнага дарвінізму і эпігонскага ніцшэанства. «Філёзофія Ніцшэ, гаворыць Ленін, з яе культам звышчалавека, для каторага ўся справа ў тым, каб забясьпечыць поўнае разьвіцьцё сваёй уласнай асобы, якому ўсякае падпарадкаваньне ягонай пэрсоны якой-небудзь вялікай грамадзкай ідэі здаецца пошлым і ганебным, гэта філёзофія ёсьць сапраўдны сьветапогляд інтэлігента, яна робіць яго зусім непрыгодным да ўдзелу ў клясавым змаганьні пралетарыяту» (VI, 2 выд., 256—257). Зарэцкі з яго культам «моцнага» буржуазнага звышчалавека, якога ён дае ў вобразе Яроцкага, з яго імкненьнем стаць «па той бок дабра і зла» гэтак сама ўсё больш і больш адыходзіць ад клясавага змаганьня пралетарыяту, дапамагаючы ў гэтым змаганьні буржуазіі.

У асноўным тая-ж амплітуда хістаньняў характэрна і для сялянскага кірунку на этапе аднаўленчага пэрыяду. Ужо на тэтым этапе назіраецца пэўная дыфэрэнцыяцыя сялянскіх пісьменьнікаў, якая вызначаецца асаблівасьцямі дыфэрэнцыяцыі сялянскіх мас у эпоху пралетарскай рэвалюцыі. «Гэтыя асаблівасьці, зазначаецца ў пастановах XV партзьезду, заключаюцца ў тым, што ў працілегласьць капіталістычнаму тыпу разьвіцьця, які выражаецца ў паслабленьні («у вымываньні») с я р э д н я г а сялянства пры р о с ь ц е к р а й н і х груп беднаты і кулацтва,—у нас, наадварот, ёсьць у наяўнасьці працэс ўзмацненьня групы серадьнякоў пры некаторым пакуль што росьце кулацкай групы за кошт заможнай часткі серадьнякоў і пры с к а р а ч э н ь н і г р у п ы б е д н а т ы, з якой некаторая частка п р а л е т а р ы з у е ц ц а, а другая, больш значная частка паступова пераходзіць у групу серадьнякоў». У Беларускай літаратуры выступае цэлы шэраг сялянскіх паэтаў і пісьменьнікаў, з якіх найбольш выдатнымі зьяўляюцца Паўлюк Трус, Васіль Каваль, Крапіва, Гурло і інш. Паўлюк Трус у першы пэрыяд сваёй творчасьці выступае як прадстаўнік рэвалюцыйнага сялянства: ён з вялікім уздымам рысуе новую вёску пасьлякастрычніцкаўскага часу, дае ваяўнічыя вобразы змагароў, яго творчасьць прасякнута бадзёрым аптымізмам. Для апавяданьняў Каваля характэрным зьяўляецца паказ сутычкі старога і новага жыцьця вёскі; пісьменьнік цалкам на баку гэтага новага, ён адштурхоўваецца ад мёртвай коснасьці вясковага быцьця. Крапіва афармляецца як сатырык з надзвычайна разнастайнай тэматыкай; стрэлы сваёй сатыры ён накіроўвае супроць рэлігійнай забабоннасьці, някультурнасьці і адсталасьці вёскі, мяшчанскага быту, кар'ерызму, змагаючыся за новы савецкі побыт і за новыя формы сьвядомасьці. Але ў творчасьці сялянскіх пісьмень-

нікаў яскрава выяўляецца дробна-буржуазная абмежаванасьць сьветапогляду і адсюль вузкая эмпірычнасьць творчага мэтаду. Паўлюк Трус успрыймае рэвалюцыю пераважна як разьюшаную стыхію; ён ня здужаў ускрыць яе заканамернасьць і паказаць кіруючую ролю ў ёй пралетарыяту, на першы плян высоўваецца ім сялянства. У Каваля сутычка старога і новага ў жыцьці вёскі падаецца як эмпірычная дадзенасьць, адарваная ад клясавага змаганьня на вёсцы; вобразы «кансэрватараў» і «наватараў» выступаюць у яго як абстрактныя псыхалёгічныя катэгорыі; у значнай ступені ў пісьменьніка, асабліва ў яго першым зборніку («Як вясну гукалі»), назіраецца ідылічнасузіральны падыход да вёскі, яго вабіць да сябе фальклёрная рамантыка, паэзія легенд і казак.

Рэакцыйныя моманты асабліва ўзмацняюцца ў творчасьці сялянскіх пісьменьнікаў на этапе абвастрэньня клясавага змаганьня на рубяжы аднаўленчага і рэканструкцыйнага пэрыяду. У гэты час у Паўлюка Труса заўважаюцца пэўныя ўпадніцкія настроі, у значнай ступені выяўляюцца ўплывы нацыянал-дэмакратызму: на зьмену вобразаў рэвалюцыйнай вёскі, і вобразаў змагароў прыходзяць сумныя вобразы роднага краю, па-урага лірніка, жабракоў, сіраты Алесі і г. д. У Крапівы яскрава праглядвае ідэалізацыя моцнай індывідуальнай гаспадаркі, і адначасова ўзмацняецца недаацэнка гораду. прыкметная ў раньніх яго творах. У некаторых сялянскіх пісьменьнікаў, як напр. Гурло, наглядаецца пэўная ўжо змычка з беларускай буржуазіяй па лініі нацыянал-дэмакратызму: у іх на першы плян выступае апяваньне бацькаўшчыны ў адраджэнцкім духу.

Асабліва яскрава поступ наперад беларускай савецкай літаратуры на этапе адбудавальнага пэрыяду выявіўся ў разьвіцьці пралетарскай літаратуры. Калі ў пэрыяд вайсковага камунізму гэта літаратура знаходзілася толькі ў стадыі першапачатковага свайго станаўленьня, дык цяпер яна набывае ўжо характар досыць шырокай плыні. Рабочая кляса, пасьля перамогі ў грамадзянскай вайне, апіраючыся на сялянскую беднату, у саюзе з серадняцтвам, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі разгарнула пасьпяховае гаспадарчае і культурнае будаўніцтва. Гэта кляса моцна выяўляе сябе і ў літаратуры, высоўваючы цэлы шэраг таленавітых прадстаўнікоў, носьбітаў яе ідэалёгіі і змагароў з варожымі пралетарыяту плынямі. На этапе аднаўленчага пэрыяду пралетарская літаратура робіцца фактарам, які ў значнай ступені ўплывае ўжо на спадарожніцкую і сялянскую плыні, у сваю чаргу ў некаторых момантах, праўда, падпадаючы яшчэ пад уздзеяньне гэтых дробна-буржуазных кірункаў.

На дадзеным этапе, у першую чаргу, досыць шырока разгортваецца творчасьць Міхася Чарота, які выяўляе свае мастацкія здольнасьці ў рознастайных жанрах: лірыцы, паэмах і апавяданьнях. У сваёй лірыцы паэта яшчэ больш паглыбляе матывы клясавага змаганьня, дае вобразы камсамольцаў, абрысоўваючы іх ролю ў змаганьні і будаўніцтве, абмалёўвае новую вёску і г. д. Але асабліва важнае значэньне маюць паэмы Чарота. Паэма «Босыя на вогнішчы» прадстаўляе сабою твор epochenmuchend: у гэтым творы ў сапраўды

мастацкіх малюнках паэта паказвае дынаміку змаганьня і перамогі пралетарыяту ў грамадзянскай вайне, ён дае вобразы контррэвалюцыі, наносіць зруйнавальныя ўдары беларускаму нацыянал-дэмакратызму, раскрываючы яго контррэвалюцыйную сутнасьць. Абмаляваўшы рэвалюцыйныя падзеі ў межах Беларусі, паэта ў далейшым досыць шырока ставіць праблему сусьветнай рэвалюцыі, ён рысуе абвастрэньне сацыяльных супярэчнасьцяй і нарастаньне рэвалюцыйнай сытуацыі ў капіталістычных краінах («Чырвонакрылы вяшчун»); з вялікім творчым уздымам Чарот раскрывае рухаючыя сілы рэвалюцыі, паказваючы гераізм мас у змаганьні («Марына») і даючы вобраз правадыра ў ёй («Ленін»). Але паэта ўсьведамляе, што змаганьне вядзецца ў імя будаўніцтва, адсюль ён лёгічна пераходзіць да паказу працэсаў гэтага будаўніцтва, абмалёўваючы змычку гораду і вёскі («Беларусь лапцюжная»), і земляўпарадкаваньне яўрэйскай беднаты («Карчма»).

Зусім новыя матывы ўносіць у беларускую літаратуру паэта Андрэй Александровіч. Ён выступае пераважна як песьняр горадзкага руху і дынамікі; з вялікім замілаваньнем паэта ўжо на першым этапе сваёй творчасьці дае вобраз гарадзкіх рабочых і іх працы, малюючы фабрыку, завод. Для Александровіча ўжо на дадзеным этапе яго творчасьці характэрна актыўнае ўспрыняцьце рэвалюцыі, патас змаганьня, палкая нянавісьць да клясавага ворага, дынамічная напорыстасьць вершу.

Побач з пралетарскай паэзіяй яшчэ больш шырока разьвіваецца пралетарская мастацкая проза, прадстаўленая творчасьцю Лынькова, Галавача, Мурашкі, Ліманоўскага і інш. Кожны з гэтых пісьменьнікаў пры агульнай ідэёвай накіраванасьці мае свой твар, выяўляе пэўныя творчыя асаблівасьці.

Цэнтральная праблема творчасьці Лынькова—гэта перароблка чалавека, антытэза капіталізму і сацыялізму. Пісьменьнік паказвае, як калечыць чалавека капіталізм; з-пад маскі знадворна-эўрапэйскай культуры ён прыадчыняе агідную сутнасьць драпежніцтва і гвалтоўніцтва («Чыгунныя песьні»); з вялікай мастацкай пераканальнасьцю Лынькоў разьвенчвае шэрае і нуднае мяшчанства, якое махровай кветкай расквечваецца на гнілой капіталістычнай глебе; у дадзеным выпадку Лынькоў выразна адпіхіваецца ад буржуазнай літаратуры, дзе давалася ідэалізацыя мешчаніна («Голы зьвер» Зарэцкага). Вобразам драпежнікаў і мяшчан Лынькоў супрацьстаўляе вобразы новых людзей, якія сьпеюць ва ўмовах сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэтых новых людзей пісьменьнік пераважна паказвае сярод чырвонаармейцаў («Над Бугам») і ў асяродзьдзі працоўнага насельніцтва яўрэйскага мястэчка («Гой»).

Платон Галавач распрацоўвае антырэлігійную тэматыку, паказвае гаспадарчае будаўніцтва на вёсцы.

Асноўная праблема творчасьці Ліманоўскага на дадзеным этапе—праблема суадносін грамадзкага і асабовага калектыўнага і індывідуальнага. На фоне зарысоўкі падзеяй грамадзянскай вайны пісьменьнік паказвае, як служэньне рэвалюцыі, падпарадкаваньне вялікім грамадзкім мэтам вядзе за сабою росквіт асобы, як зьніто-

ванасьць з калектывам абуджае ў чалавека яго творчыя сілы, і наадварот, пісьменьнік выяўляе, як адрыў ад калектыву, замыканьне ў сьвет асабістых інтарэсаў звужае асобу, ператварае яе ў пошлага і нікчэмнага абывателя. Вобразы творцаўЛіманоўскі супроцьстаўляе вобразам мяшчан з іх індывідуалістычнай замкнёнасьцю і эгаістычнай пустатою.

У творчасьці Мурашкі стрыжнёваю лініяй зьяўляецца раскрыцьцё дачыненьняў біалёгічнага і сацыяльнага ў розных клясах і клясавых групоўках. Пісьменьнік паказвае, як у прадстаўнікоў узыходнай клясы момант біалёгічны падначальваецца моманту сацыяльнаму («Максім-Каваль», «Вінчэсьцер»); наадварот, у прадстаўнікоў буржуазнай клясы, асуджанай на пагібель, пісьменьнік расчыняе панаваньне зьвярыных біалёгічных інстынктаў: на шырокім палотнішчы аўтар дае малюнак унутранай контррэвалюцыі, выводзіць доўгую галерэю «былых» людзей, рысуючы іх распад і шкодніцтва («У іхным доме»).

Як мы бачым, пралетарская літаратура, дзякуючы посьпехам сацыялістычнага будаўніцтва і правільнай літаратурнай палітыцы камуністычнай партыі, ужо на этапе адбудаванага пэрыяду мела значныя дасягненьні. Яна, паказваючы нам у мастацкіх вобразах працэсы рэвалюцыйнага змаганьня і будаўніцтва, тым самым раскрывала істотныя бакі рэчаіснасьці, тым самым яна служыла зброяй змаганьня ў руках рабочай клясы. Але гэта зброя яшчэ была недастаткова адточана марксысцка-ленінскім сьветапоглядам, недастаткова загартавана мэтадам дыялектычнага матэрыялізму. Ня трэба забывацца на тое, што працэс фармаваньня ў нас пралетарскай літаратуры быў вельмі супярэчлівы. Ён адбываўся пад значным ціскам дробна-буржуазнай стыхіі. «Расія, зазначаў Ленін у 1917 годзе, найбольш дробна-буржуазная краіна з усіх эўрапэйскіх краін.

Гіганцкая дробна-буржуазная хваля заліла ўсё, прыціснула сьвядомы пралетарыят ня толькі сваёю колькасьцю, але і ідэйна яна заразіла, захапіла вельмі шырокія колы дробна-буржуазнымі поглядамі на палітыку (XX, 2 выд., 115). Дробная буржуазія ў значнай ступені ўплывае і на некаторыя элемэнты беларускага пралетарыяту. Адсюль вынікаюць пэўныя супярэчнасьці ў творчасьці пралетарскіх пісьменьнікаў. Усім пралетарскім пісьменьнікам на дадзеным этапе ўласьціва ў рознай ступені схематыка і эмпірыка,—дзьве крайнасьці, якія вынікаюць з неразуменьня дыялектыкі агульнага і адзінакавага. Але гэтыя істотныя заганы ў творчасьці паасобных пісьменьнікаў ускладняюцца яшчэ іншымі момантамі. Так, у творчасьці Чарота адчуваецца некаторае неразуменьне сутнасьці нэпу, яму ў шырокай ступені ўласьціва рэвалюцыйная рамантыка, наглядаюцца ўхілы ў бок стыхійнасьці і касмізму. У Александровіча назіраецца павярхоўнаімпрэсыяністычны падыход да гораду, часткова прыкметна ў яго лефаўская фактаграфія. Лынькова вабяць да сябе балотныя агнькі дробнабуржуазнай рамантыкі, прыўносячы ў яго творчасьць пэўныя моманты эстэцтва. Мурашку моцна трымаюць у сваіх абцугох вузкія асадкі фізыалёгічнага матэрыялізму, адсюль вынікае ў яго надзвычайна

аднабаковы паказ клясавага ворага, асабліва ў аповесьці «У іхным доме», зрывы ў эротыку. У Платона Галавача моцна выяўляецца суха рацыяналістычны падыход да рэчаіснасьці, засільле крайней схэматыкі, неразуменьне дыялектыкі агульнага і адзінкавага. Істотнымі недахопамі творчасьці Ліманоўскага служыць мэлёдраматызм, ухілы ў бок прыгодніцтва і сымболікі.

Але, зразумела, усе гэтыя заганы выяўлялі сабою ў пралетарскіх пісьменьнікаў хваробу росту, яны не зьмянялі іх агульнай ідэалёгічнай накіраванасьці. Беларуская пралетарская літаратура ўжо на этапе аднаўленчага пэрыяду заваявала досыць моцныя пазыцыі, ужо былі створаны перадумовы для яе далейшага росквіту ў рэканструкцыйны пэрыяд.

Пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі адчыняе сабою працэс асабліва шпаркага і бязупыннага росту беларускай савецкай літаратуры, які абумоўлены агульным творчым уздымам краіны, яе сацыялістычнай гаспадаркі і культуры. Мы канчаем чацьверты завяршальны год першай пяцігодкі,—канчаем з балянсам вялізарных, нячуваных у гісторыі посьпехаў і дасягненьняў. Закладзены фундамант сацыялістычнай эканомікі. Беларусь з адсталай аграрнай краіны магутнай воляй пралетарыяту, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву камуністычнай партыі, ператвараецца ў краіну індустрыяльна-калгасную. На прасторах Беларусі, якія ў мінулым агалашаліся енкамі скаргаў і стогнаў абяздоленага ратая высяцца цяпер такія гіганты прамысловасьці, як Асінбуд, Гомсельмаш, Бабруйскі камбінат і інш.; гэтыя прасторы агалашаюцца бадзёрымі прызыўнымі клічамі фабрычных гудкоў. З вялікімі посьпехамі на сацыялістычныя рэйкі пераводзіцца сельская гаспадарка; бядняцка-серадняцкія масы сялянства рашуча сталі на шлях калектывізацыі. На базе суцэльнай калектывізацыі адбываецца ліквідацыя кулацтва як клясы. Ужо выразна абрысоўваюцца пэрспэктывы другой пяцігодкі, пяцігодкі ўтварэньня бясклясавага грамадзтва.

На грунце ўзмацненьня сацыялістычнай гаспадаркі шпаркімі крокамі пасоўваецца наперад культурная рэвалюцыя. У Беларусі, якую царызм засуджаў на няпісьменнасьць, на жудасную бяскультурнасьць, будуецца цяпер сапраўдная культура сацыялістычная зьместам і нацыянальная формаю. Ліквідуецца няпісьменнасьць, расьце сетка школ пачатковых, сярэдніх і вышэйшых, шырока разгортваецца савецкі друк, навукова-дасьледчая праца і г. д. і г. д.

Але вялікія посьпехі і дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва адбываюцца ў абставінах напружанага і вострага клясавага змаганьня. Буржуазія—беларускі кулак і нэпман—робяць шалёнае супраціўленьне сацыялістычнаму будаўніцтву, ужываючы ўсялякія сродкі змаганьня, пачынаючы ад узброеных тэрарыстычных актаў і канчаючы захаваным шкодніцтвам і агітацыяй. На этапе сацыялістычнай рэканструкцыі асабліва актывізуецца беларускі контррэвалюцыйны на-

цыянал-дэмакратызм, вялікадзяржаўны шавінізм, як галоўная небясьпека, і шавінізм іншых колераў.

Абвастрэньне клясавага змаганьня выклікае рэзкую дыфэрэнцыяцыю ў шэрагах дробнай буржуазіі. Некаторая частка яе, змыкаючыся з буржуазіяй, пераходзіць у лягер контррэвалюцыі; другая, значна большая частка яе ў працэсе разгорнутага сацыялістычнага наступу рашуча перабудоўваецца, але яшчэ канчальна ня зжыла пэўных ваганьняў; нарэшце, пэўныя элемэнты дробнай буржуазіі на глебе вялікіх посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва, сьціела набліжаюцца да пралетарыяту, робяцца яго саюзьнікам.

Адначасова этап сацыялістычнай рэканструкцыі адзначаецца асабліва вялікім уздымам энтузіязму рабочых і шырокіх працоўных мас, якія, разьвіваючы сацыялістычныя мэтады працы—ударніцтва і спаборніцтва—будуюць сацыялізм, даюць рашучы адпор клясаваму ворагу.

Напружанае клясавае змаганьне знаходзіць сабе яскравае адлюстраваньне і на літаратурным фронце, як у галіне тэорыі, так і ў галіне практыкі літаратурнай чыннасьці.

У літаратуразнаўстве і ў літаратурнай крытыцы ў нас мелі месца выразныя апартуністычныя і іншыя варожыя плыні. Тэарэтыкі «Ўзвышша» (Бабарэка, Пушча) працягвалі ідэйкі варонічыны аб непасрэдных уражаньнях у паэзіі, аб інтуіцыі, як яе аснове і г. д.; на старонках часопісі «Ўзвышша» была падхоплена і старанна прапагандавалася бухарынская ідэя аб свабоднай канкурэнцыі ў літаратуры. У нацыянал-дэмакратаў утварыўся пэўны стык з контрэвалюцыйным трацкізмам па лініі адмаўленьня пралетарскай культуры і літаратуры (Байкоў, Гарэцкі). У нас адкрыта абвяшчаліся прынцыпы фарсоцаўства, мэханістычнага спалучэньня мэтадаў сацыялістычнага і фармальнага (гл., напр. бюлетэнь 1-й канфэрэнцыі «Маладняка», рэзалюцыі канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі). На буржуазным вучастку літаратурнай крытыкі знаходзіць сабе прытулак гэтак сама і меншавіцкая мэтадалёгія Пераверзева (Куняцэвіч, Зубко).

Але ў найбольшай ступені Беларуская літаратурная крытыка была атручана контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам; у ёй праявіліся ідэі адзінага струменю нацыянальнай літаратуры, творы ацэньваліся з пункту гледжаньня раскрыцьця ў іх беларускай «душы», пад кутом зроку беларускай самабытнасьці, заўважаўся вялікі пангерызм у дачыненьні да нацыяналістычных пісьменьнікаў і ганебнае аплёўваньне пралетарскіх. Найбольш выразнымі прадстаўнікамі такой нацыянал-дэмакратычнай крытыкі былі Дзяржынскі, Гарэцкі, Байкоў, Касьпяровіч, Куньдзіш і інш.

Пралетарыят вёў і вядзе рашучае змаганьне з гэтымі варожымі плынямі. Вялікую працу ў гэтым кірунку прарабіла Беларуская Асацыяцыя Пралетарскіх Пісьменьнікаў (БелАПП), у якую пасьля значнага змаганьня ўнутры аб'яднаньня, рэарганізаваўся «Маладняк». БелАПП аб'яднала навокал сябе пралетарскія літаратурныя сілы і найбольш блізкія да пралетарыяту спадарожніцкія элемэнты.

Пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі БелАПП праводзіла змаганьне з нацыянал-дэмакратызмам, пераверзеўшчынай, эклектызмам, у літаратурнай тэорыі і з рознымі нэо-буржуазнымі праявамі ў самой літаратуры. На старонках часопісі «Маладняк» наносіліся моцныя ўдары па канкрэтных носьбітах гэтых плыняў (гл. напрыклад, артыкулы белапаўцаў Галавача, Звонака, Бэндэ, Гальперынай і інш.) БелАПП гэтаксама праводзіла значную масавую працу па кіраўніцтву літаратурнымі гурткамі на прадпрыемствах, па арганізацыі літаратурных дыскусій і г. д. Узятая ў цэлым разнастайная праца БелАППу вялася такім чынам у кірунку змаганьня за гегемонію пралетарскай літаратуры, за чыстату марксысцка-ленінскай тэорыі.

Вялікія посьпехі, якія здабыты ў гэтым змаганьні зьявіліся вынікам правільнай палітыкі камуністычнай партыі ў літаратуры. Партыя нязьменна ўдзяляла і ўдзеляе вялікую ўвагу літаратурным пытаньням.

Вялізарнае значэньне для правільнай арыентыроўкі ў канкрэтных задачах літаратурнага руху меў гістарычны артыкул т. Сталіна ў рэдакцыю часопісі «Пралетарская рэвалюцыя». Гэты артыкул мабілізаваў увагу савецкай грамадзкасьці на неабходнасьць большай пільнасьці ў змаганьні за партыйнасьць ва ўсіх гістарычных навуках і ў літаратуры супроць праяваў гнілога лібэралізму, якія мелі месца ў час на літаратурным фронце (выданьне шкодных нацдэмаўскіх твораў, прымірэнчыя адносіны да варожых выпадаў у літаратуры і г. д.). У межах БССР асаблівую бальшавіцкую пільнасьць у пытаньнях літаратуры нязьменна выяўляў ЦО КП(б)Б—газэта «Зьвязда». «Зьвязда» звычайна сыгналізавала аб небясьпецы варожых твораў, давала ім правільную марксысцкую ацэнку (крытыка твораў Пушчы, Дубоўкі, і г. д.), газэта праводзіла рашучае змаганьне за чыстату марксысцка-ленінскай лініі ў беларускай крытыцы (напр., раскрыцьцё памылак у працах паасобных белапаўцаў—Бэндэ, Кучара і інш.).

Паколькі праца БелАППу ў асноўным адпавядала патрабаваньням партыі, яна (БелАПП) мела, як мы бачылі вышэй, вельмі значныя дасягненьні ў змаганьні за гегемонію пралетарскай літаратуры. Але ў гэтай працы былі і свае пэўныя недахопы. У БелАПП, асабліва ў апошнія часы, пачала заўважацца групаўшчына, паасобныя сябры дапускалі лявацкія загібы ў практыцы спадарожнікаў, сыходзячы на пазыцыі няправільнай пастаноўкі пытаньня «або саюзьнік, або вораг», у той-жа час назіралася недастатковае разгортваньне самакрытыкі ў межах аб'яднаньня. БелАПП праводзіла невыстарчальную працу па кіраўніцтву літгурткамі на прадпрыемствах, па кіраўніцтву ўдарніцкім літаратурным рухам. Недапушчальным промахам у чыннасьці БелАПП, як і ўсяе ВОАПП, зьяўлялася тое, што яны вельмі мала чаго зрабілі ў справе канкрэтнай рэалізацыі шасьці гістарычных умоў т. Сталіна. Паміж тым, шасьць умоў тав. Сталіна даюць правільнае бальшавіцкае кіраўніцтва для перамогі на ўсіх франтох гаспадаркі і культуры і ў тым ліку і на фронце літаратуры.

Новая абстаноўка высоўвае новыя задачы і патрабуе новых мэтадаў і маштабаў працы. У выніку буйнага росту савецкай літаратуры, рамкі існаваўшых літаратурных арганізацый на сёньняшнім этапе сталі не адпавядаць задачам і патрабаваньням далейшага перазможнага разьвіцьця літаратуры. Вось чаму зусім своечасовай зьявілася гістарычная пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23/IV—32 г. аб ліквідацыі ВОАПП і РАПП. Гэта пастанова адзначае: «У сучасны момант, калі пасьпелі ўжо вырасьці кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, выявіліся новыя пісьменьнікі, мастакі з заводаў, фабрык, калгасаў, рамкі існуючых пралетарскіх літаратурна-мастацкіх арганізацый (ВОАПП, РАПП, РАМП і інш.) становяцца ўжо вузкімі і тармозяць сур'ёзны размах мастацкай творчасьці». На аснове пастановы ЦК УсеКП(б) і пастановы ЦК КП(б)Б была ліквідавана Беларуская Асацыяцыя пралетарскіх пісьменьнікаў (БелАПП) і створан оргкамітэт саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР. У пастанове адзначана «ЦК канстатуе, што пралетарскія літаратурна-мастацкія арганізацыі, у тым ліку і БелАПП, якія на пэўным этапе, калі ў літаратуры быў яшчэ значны ўплыў варожых элемэнтаў, што асабліва ажывіліся ў першыя гады нэпу, а кадры пралетарскай літаратуры былі яшчэ слабыя,—адыгралі станоўчую ролю ў сэнсе ўзмацненьня пазыцый пралетарскіх пісьменьнікаў, у сучасны момант становяцца ўжо вузкімі». Гэтыя гістарычныя пастановы адкрываюць шырачэзныя пэрспэктывы далейшага росту беларускай савецкай літаратуры, яны утвараюць надзвычайна спрыяльныя ўмовы для заваёвы гегемоніі пралетарскай літаратуры, для канчальнай перабудовы спадарожнікаў, для шырокага разгортваньня дзейнасьці ўсіх пісьменьнікаў, «што стаяць на пляцформе савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве».

Так посьпехі і дасягненьні беларускай савецкай літаратуры на этапе рэканструкцыйнага пэрыяду абумоўлены пераможным ходам сацыялістычнага будаўніцтва і правільнай палітыкай партыі ў галіне літаратуры.

У сьвятле гэтых фактаў разгледзім змаганьне паасобных клясавых стыляў у пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі гаспадаркі і культуры.

У гэты пэрыяд пралетарская літаратура ва ўсім СССР і ў тым ліку і ў БССР дасягнула вялікіх посьпехаў, яна знаходзіцца на шляху да заваёвы гегемоніі. У беларускай літаратуры пралетарскія паэты і пісьменьнікі уздымаюцца на вышэйшы узровень сьветапогляду, найбольш шырока і глыбока ажыцьцяўляюць у сваёй творчасьці мэтад дыялектычнага матар'ялізму. Падамо канкрэтныя ілюстрацыі гэтага творчага росту. Творчасьць Міхася Чарота, праўда, колькасна не вялікая, у якасных адносінах—значны крок наперад. Чарот раскрывае контррэвалюцыйную сутнасьць нацыяналдэмакратаў і з вялікім абурэньнем ганьбуе яго ў сваім моцным вершы «Суровы прыгавор падпісваю першым», дае шэраг твораў, дзе адлюстроўвае працэсы індустрыялізацыі і калектывізацыі.

Непараўнальна больш шырока і глыбока на гэтым этапе разгортваецца творчасьць Александровіча. Гэта творчасьць набывае вялікую палітычную завостранасьць, актуальнасьць і бальшавіцкую незамірнасьць да клясавага ворага. У сваёй лірыцы Александровіч разгортвае пераважна антытэзу двох сьветаў: капіталістычнага і сацыялістычнага. Сьвету заняпаду, сьмяртэльнага крызісу, беспрацоўя і галечы ён супроцьстаўляе наш сьвет творчага уздыму, гаспадарчага і культурнага росту, панаваньня працы і няўхільнага павышэньня жыцьцёвага узроўню шырокіх працоўных мас. Фашыстоўскай Польшчы, якую паэта ганьбуе як «фабрыку сьмерці», як краіну шыбеніц і бязьлітаснага тэрору, ён супроцьстаўляе Савецкую Беларусь,—краіну, якая красуе ў рыштаваньнях будаўніцтва новага жыцьця. У яшчэ большай ступені ідэёвай насычанасьцю адзначаюцца эпічныя творы Александровіча. Яго «Паэма імя вызваленьня» дае ў сьціслай форме паэтычны рапарт аб дасягненьнях БССР за дзесяць год; «Цені на сонцы»—паэма вялікай бальшавіцкай ненавісьці і злосьці супроць клясавага ворага. Паэта разгортваючы цэлую галерэю вобразаў шкоднікаў, нацдэмаў, хамелеонаў, падхалімаў і бюракратаў, зрывае маску з клясавага ворага, паказвае яго ў аголеным выглядзе як капіталістычнага драпежніка і рэстаўратара. У рамане «Нараджэньне чалавека» Александровіч ставіць праблему перабудовы чалавека. Ён паказвае рост сьвядомасьці работніцы ў працэсе рэвалюцыйнай практыкі, зжываньне ёю індывідуалістычнай мяшчанскай абмежаванасьці, зьяднаньне яе з пралетарскім калектывам. Калі ў рамане гэты калектыў толькі намечаны, галоўная ўвага адводзіцца ў ім абрысоўцы паасобных пэрсонажаў, дык у сваім апошнім ужо драматычным творы «Напор» Александровіч шчыльна падышоў да абрысоўкі рабочага калектыву, ён здужаў паказаць героіку працоўных мас на фронце будаўніцтва, іх уздымны энтузіязм. Але пры ўсім бясспрэчна вялізным росьце Александровіча ў творчым мэтадзе яго яшчэ ня зжыты пэўныя недахопы: у яго назіраюцца пэўныя ўхілы ў бок вузкага тэхніцызму («Паэма імя вызваленьня»), у бок лефаўскай фактаграфіі і апісальнай статычнасьці («Цені на сонцы»), прыгодніцтва і рамантычнай экзотыкі («Нараджэньне чалавека»), сыходжаньне яго часам у роўніцу шаржу і схэматыкі.

Пралетарская мастацкая проза на этапе сацыялістычнай рэканструкцыі гэтак сама пасоўваецца наперад.

Адбываецца пэўны рост творчасьці Міхася Лынькова. Распрацоўваючы і далей ужо намечаную ім раней асноўную праблему перабудовы чалавека, пісьменьнік дае больш паглыбленае і пашыранае разьвязаньне гэтай праблемы. Лынькоў паказвае нам новага чалавека ў асяродзьдзі пралетарыяту: ён досыць шырока распрацоўвае фабрычна-заводзкую тэматыку; у яго творчасьці даецца вобраз рабочага транспартніка, які выказвае вялікі гераізм, адданасьць справе рэвалюцыі («Андрэй Лятун»), пісьменьнік малюе нам вобраз партыйкі, у якой пэўная перавага грамадзкага над асабовым («Радо»), ён зарысоўвае вялізную выхавальную ролю піянэрскага руху і камса-

молу («Журавель мой, журавель...»). Найбольш буйны твор Лынькова—аповесьць «Апошні зьверадавец», які мабілізуе савецкую прамадзкасьць на змаганьне са шкодніцтвам. Ня гледзячы на шырока разгорнуты змрочны малюнак распаду з прычыны засільля шкоднікаў, аповесьць у цэлым дае моцную аптымістычную зарадку: вобразам агентаў буржуазіі, якая ў сваёй агоніі чапляецца за шкодніцтва, Лынькоў супроцьстаўляе вобразы зматароў і будаўнікоў сацыялізму: раскрыцьцё сілы рабочай клясы ў змаганьні з клясавым ворагам зьяўляецца асноўнаю ідэёваю ўстаноўкаю аповесьці. У сваім творчым мэтадзе Лынькоў на гэтым этапе выявіў значную ступень авалоданьня мэтадам дыялектычнага матар'ялізму, у яго звычайна сацыяльная рэчаіснасьць падаецца ў яе складанасьці і супярэчлівасьці, раскрываецца сацыяльна-клясавая датэрмінаванасьць пэрсанажу, якія заззвычай падаюцца ў руху, у дынаміцы; чалавек бярэцца як дыялектычнае адзінства працілегласьці і г. д. Але і ў Лынькова ёсьць пэўныя адхіленьні ад мэтаду дыялектычнага матар'ялізму, ён ня цалкам яшчэ вызваліўся ад уплываў дробна-буржуазнай рамантыкі і зьвязанага з ёю эстэцтва, што асабліва вызначаецца ў яго заміланьні да вобразаў лятуценьнікаў, у рамантычным пэйзажы і прыёмах арнамэнтальнай прозы.

Значныя зрухі наперад адбываюцца гэтаксама і ў творчасьці Платона Галавача, якая ставіць цэлы шэраг надзвычайна складаных і актуальных праблем. Так, пісьменьнік спыняецца на раскрыцьці праблемы асабовага і калектыўнага, паказваючы нам вобразы сапраўдных пралетарыяў, у якіх асноўнай накіраванасьцю зьяўляецца служэньне грамадзкім задачам, і адначасова разгортваецца малюнак распаду «партыйца» пад уплывам буржуазнай нэпманскай стыхіі («Даляры»). У другім творы («Сьвежы вецер») Галавач закранае вялізарную праблему інтэрнацыянальнай ролі Кастрычніка: ён паказвае узьдзейнічаньне нашай пралетарскай рэвалюцыі на пераробку працоўнага чалавека ў капіталістычным сьвеце. У аповесьці «Вінаваты» Галавач ставіць праблему вінаватасьці дзяцей за учынкі бацькоў; паказваючы цэлую галерэю вобразаў сацыяльна-чужых людзей сярод вучнёўскай моладзі, ён робіць устаноўку на дапамогу партыі ў справе чысткі ВНУ. Але ўсе гэтыя творы ў паступовым разьвіцьці творчага шляху пісьменьніка зьяўляюцца толькі подступамі да яго найбольш буйнага твору «Спалох на загонах». У аснову аповесьці пакладзена ленінская ідэя аб тым, што калектывізацыя—ёсьць адзіны сродак вызваленьня сялянскіх мас ад матар'яльнага убоства і культурнай цемры. Пісьменьнік, даючы вобразы вясковага жыцьця ў мінулым, досыць сакавіта паказвае гэта ўбоства і цемру. Смутным і жахлівым вобразам прошласьці ён супроцьстаўляе шырока разгорнуты малюнак гаспадарчага і культурнага уздыму сучаснай вёскі, якая ўступіла на шлях сацыялізму. Працэсы калектывізацыі Галавач малюе ў абставінах напружанага клясавага змаганьня, зьвязанага з імі. У асноўным ён дае правільную расстаноўку клясавых сіл ў гэтым змаганьні: намечанае, хоць, праўда, дастаткова не

раскрыта, кіруючая роля партыі і пралетарыяту, вясковая беднага паказана, як асноўная апора калектывізацыі, адзначаны зрухі ў серадняцкім асяродзьдзі, зарысованы хістаньні серадняка, адначасова досыць шырока абмалёвана шалёнае супраціўленьне сацыялістычнаму будаўніцтву з боку кулацтва, выкарыстоўваньне ім розных сродкаў, у першую чаргу рэлігіі, у клясавым змаганьні. У сюжэтнай пабудове аповесьці перакрыжоўваюцца дзьве лініі: паказу вёскі і гораду; у гэтым перакрыжаваньні выяўляецца ідэя змычкі гораду і вёскі; гарадзкая рэчаіснасьць таксама ўзята ў супярэчнасьцях: з аднаго боку выступаюць рэшткі гінучага капіталістычнага сьвету, абывацельшчыны, мяшчанства, з другога боку—сьвет сацыялізму, палкі энтузіязм яго будаўнікоў.

Ня гледзячы на бясспрэчны рост, у творчасьці Галавача, у яго мастацкім мэтадзе ёсьць значныя зрывы: пісьменьнік не пазбавіўся яшчэ схэматызму і некаторых ухілаў у бок мэханіцызму; звычайна супярэчнасьці рэчаіснасьці падаюцца ім шляхам супроцьстаўленьня выключна дадатных і адмоўных зьяў, яму не ўдалося дастаткова раскрыць кіруючую ролю партыі ў сацыялістычным будаўніцтве, трапляюцца некаторыя нальоты шкоднага гуманізму, асабліва ў аповесьці «Вінаваты».

У творчасьці Мурашкі рух наперад выяўляецца ў паступовым вызваленьні, хоць яшчэ і не канчатковым, ад вузкіх асадак фізыялёгічнага матэрыялізму і ў заваёве ім пазыцый дыялектычнага матэрыялізму. Гэтыя дасягненьні найбольш выразна вызначыліся ў гістарычным рамане «Сын», прысьвечаным падзеям 1905 году на Беларусі. Каштоўнасьць дадзенага раману заключаецца ў яго палітычнай завостранасьці—твор цалкам накіраваны супроць шкоднай нацдэмаўскай канцэпцыі буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Імкнучыся ў мастацкіх вобразах разбурыць гэтую канцэпцыю, Мурашка паказвае, што ў рэвалюцыі 1905 году кіруючую ролю адыгрывала рабочая кляса і яе авангард—бальшавіцкая партыя, а не дробнабуржуазныя партыі. У асноўным пісьменьнік досыць правільна раскрывае рухаючыя сілы рэвалюцыі, але ў яго ёсьць і пэўныя адхіленьні ад ленінскага вучэньня аб падзеях гэтай рэвалюцыі, як напрыклад, недаацэнка рэвалюцыйнай ролі сялянства.

Далейшае разьвіцьцё творчасьці Лімаюўскага пададзена аповесьцю «Вецер з усходу», якая становіць сабою найбольш каштоўны твор пісьменьніка. Твор мае палемічную накіраванасьць; яго ідэёвая ўстаноўка заключаецца ў разбурэньні буржуазна-паклёпніцкай канцэпцыі Дудара, выяўленай у творы пад тэй-жа назвай: у процілегласьць Дудару Ліманоўскі паказвае, што «Вецер з усходу» гэта ёсьць братэрская дапамога, якую працоўныя Беларусі атрымоўвалі ад рускага пралетарыяту ў справе змаганьня за ўладу саветаў, а зусім ня гніль упадніцтва і распаду, як гэта намагаўся паказаць Ал. Дудар. У цэлым шэрагу вобразаў Ліманоўскі раскрывае контррэвалюцыйную ролю нацыянал-дэмакратызму, але твор не пазбаўлен яшчэ момантаў схэматызму і зрываў у голую публіцыстыку.

Выдатную зьяву беларускай пралетарскай літаратуры дае сабою узьняцьце на дадзеным этапе творчасьці Паўлюка Труса на вышэйшую якасна-новую ступень. Гэта творчасьць выяўляе сабою адлюстраваньне глыбокіх зрухаў, якія адбываюцца ў асноўных масах сялянства ў працэсе разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва. Паўлюк Трус, на папярэднім этапе прадстаўнік рэвалюцыйнага сялянства, у перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі выразна пераходзіць на рэйкі пралетарскай ідэалёгіі. У сваёй паэме «Дзесяты падмурак» песьняр шырока раскрывае антытэзу старой Беларусі з яе прымітыўнай гаспадаркай, матар'яльнай нэндзай, забабоннасьцю і новай Савецкай Беларусі, якая магутнай воляй пралетарыяту пераствараецца сапраўды «у край фабрык дымных і машын». Бадзёрае і радаснае успрыняцьце індустрыялізацыі БССР, глыбокае асэнсоўваньне яе працэсаў зьяўляецца ідэёвым стрыжнем паэмы.

Мы бачылі такім чынам, што шырокае разьвіцьцё атрымалі жанры пралетарскай лірыкі і эпосу: у гэтых жанрах знайшлі сабе адлюстраваньне працэсы клясавага змаганьня і сацыялістычнага будаўніцтва.

Параўнальна адсталым вучасткам зьяўляецца пралетарская драматургія, але і тут пэўныя дасягненьні. Значны уклад у гэтай галіне зрабіў Р. Кобец сваім творам «Гута». Кобец мастацкі разгортвае асноўны канфлікт п'есы, які завязваецца навокал рабочага вынаходніцтва, але ён не падыходзіць да тэтага канфлікту эмпірычна: драматург угрунтоўвае яго на клясавым змаганьні, ён паказвае на гуце сутычку буржуазных і пралетарскіх сіл, зарысоўвае кулацкія ўплывы на нясталае прапластаваньне рабочых і адначасна раскрывае вялізарную творчую энэргію пралетарыяту, які ў цэлым перамагае тэтыя ўплывы і наносіць зруйнавальныя удары шкодніцтву.

Пэўнае значэньне ў разьвіцьці беларускай пралетарскай драматургіі мела таксама п'еса Гурскага «Качагары»: п'еса дае сабою востры палітычны памфлёт, у форме якога выкрываецца контррэвалюцыйная сутнасьць беларускага нацыянал-дэмакратызму. Але пры ўсёй сваёй палітычнай завостранасьці п'еса не пазбаўлена і значных памылак, у ёй недастаткова паказана кіруючая роля партыі ў змаганьні з нацыянал-дэмакратызмам і ў арганізацыі вытворчасьці. У апошнім сваім творы «Новы горад» Гурскі ўжо ў вялікай ступені вызваляецца ад недахопаў свайго творчага мэтаду і уздымаецца на вялікшую ступень у працэсе аваloданьня мэтадам дыялектычнага матар'ялізму.

Вялізарнае значэньне для разьвіцьця пралетарскай літаратуры ў цэлым меў заклік рабочых ударнікаў. Гэты заклік моцна пашырыў кадры пралетарскіх пісьменьнікаў, даў прыліў у іх асяродзьдзе новых, сьвежых сіл; выяўляючы сабою выразную адзнаку сьціраньня межаў паміж фізычнай і разумовай працай, ён узбагаціў беларускую літаратуру ня толькі колькасна, але і якасна. Творчасьць рабочых ударнікаў мае бясспрэчныя вартасьці, якімі зьяўляецца каштоўная тэматыка, арганічнае успрыняцьце фабрычна-заводзкага жыцьця, паказ працэсаў індустрыялізацыі, зарысоўка сацыялістычных мэтадаў

працы і г. д. Бясспрэчна, дадатным бокам творчасьці рабочых ударнікаў зьяўляюцца іх актыўныя дачыненьні да рэчаіснасьці, падкрэсьленая партыйная ацэнка зьяў гэтай рэчаіснасьці. Але ў творчасьці ўдарнікаў ёсьць і істотныя недахопы: адсутнасьць глыбокага і шырокага сьветапогляду, якая цягне за сабою схэматычны і эмпірычны падыход да рэчаіснасьці, схэматыка ў сваю чаргу параджае ў іх свайго роду абязьлічку ў падачы пэрсанажных вобразаў. Праўда, у пазьнейшых творах пэўная частка рабочых ударнікаў (Швэйдэль, Малашэнка, Бацюшкоў, Шаўцоў) ужо ў значнай ступені перамагаюць гэтыя недахопы.

Такім чынам на этапе сацыялістычнай рэканструкцыі пралетарская літаратура мае вялікія посьпехі і дасягненьні; назіраецца ня толькі колькасны—павялічэньне пісьменьніцкіх кадраў,—але і якасны рост гэтай літаратуры. Пралетарская літаратура адыгрывае вядучую ролю, яна робіць вялікае узьдзеяньне на дробна-буржуазных спадарожніцкіх пісьменьнікаў. Але пры ўсім магутным росьце пралетарская літаратура мае і пэўныя недахопы ў сваім разьвіцьці: яна значна адстае ад тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, працэсы гэтага будаўніцтва яшчэ не знайшлі сабе ў ёй дастаткова-шырокага і глыбокага адлюстраваньня, беларуская пралетарская літаратура на сёньняшні дзень яшчэ ня здужала ва ўсёй велічы абмаляваць творчы энтузіязм шырокіх працоўных мас, на буйным палатнішчы даць вобраз героя пяцігодкі, паказаць працу, як сапраўды «справу гонару, адвагі, геройства». Адставаньне пралетарскай літаратуры ад задач сёньняшняга дню выяўляецца і ў тым, што недастатковая ўвага адводзіцца ёю абароннай тэматыцы, якая ў сучасны момант, калі буржуазія шукае выйсьця з крызісу капіталізму ў інтэрвэнцыі, набывае для нас асабліва важнае значэньне; абаронная тэматыка пераважна распрацоўваецца ў творчасьці БелЛАЧАФ, але і ў гэтай творчасьці яна не знайшла сабе шырокага раскрыцьця: да гэтай пары ў беларускай літаратуры ня дадзена яшчэ глыбокага адлюстраваньня вобразаў Чырвонай арміі, не паказана яе роля ў справе абароны краіны саветаў і ў сацыялістычным будаўніцтве, у дадзеным напрамку мы маем толькі абеглыя эскізы, буйныя палотны адсутнічаюць.

Побач з разьвіцьцём пралетарскай літаратуры і непасрэдна пад яе творчым уплывам наглядаецца ў беларускай літаратуры ў сучасны момант і значны рост сялянскай літаратуры. Асабліва выдатным творам сялянскай літаратуры на этапе сацыялістычнай рэканструкцыі зьяўляюцца «Межы» «Баранавых». У аповесьці адлюстроўваюцца працэсы калектывізацыі, досыць шырока пададзены вобразы серадняка, паказаны вялізарныя зрухі, якія адбываюцца ў асяродзьдзі сялянства, яго рашучы паварот у бок сацыялізму. Але да абрысоўкі працэсаў калектывізацыі Баранавых падыходзіць з крытэрыем дробна-буржуазнай абмежаванай іх ацэнкі і усьведамленьня; няздольны раскрыць дадзеныя процэсы ва ўсёй іх складанасьці і супярэчлівасьці, сялянскі пісьменьнік дае неправільную расстаноўку клясавых сіл: ён змазвае кіруючую ролю партыі і пралетарыяту;

серадняк выстаўляецца ім, як аснова калектывізацыі; сацыялістычные будаўніцтва ацэньваецца з пункту гледжаньня вузкага сялянскага утылітарызму. Сялянская накіраванасьць выяўляецца ва ўсіх кампанэнтах аповесьці «Межы»: пэйзаж у творы прадстаўляе сабою праэкцыю ў прыроду і сьвет сялянскай гаспадаркі і побыту; стылістычныя сродкі раскрываюць апэрцэпцыю зьяў рэчаіснасьці на грунце сялянскага рэчавага фэтышызму.

Гэтыя памылкі ў апошніх творах Баранавых усё больш перамагае і ўсё больш набліжаецца да пазыцыі пралетарска-калгаснай літаратуры. Гэта-ж можна сказаць і пра Сташэўскага. У іх апошніх творах разьвенчваецца сялянскі індывідуалізм, яны даюць паглыбленыя вобразы новай сацыялістычнай вёскі і яе будаўнікоў; да абрысоўкі калгасьнікаў дадзеныя пісьменьнікі падыходзяць не ўпадаючы ў дробна-буржуазную глянцоўку рэчаіснасьці, з пазыцый дыялектычнага матар'ялізму: яны бяруць калгасьніка ў яго супярэчнасьці, у працэсе перамаганьня індывідуалістычных тэндэнцый сацыялістычнымі. У гэтых дачыненьнях пісьменьнікі адлюстроўваюць вобразы калгасьнікаў адпаведна рэчаіснасьці. «Было-б памылкова думаць, што калі дадзены калгасы, дык дадзена,—зазначае т. Сталін,—усё неабходнае для пабудовы сацыялізму. Тым больш памылкова было-б думаць, што члены калгасаў ператварыліся ўжо ў сацыялістаў. Не, давядзецца яшчэ шмат папрацаваць над тым, каб перарабіць селяніна-калгасьніка, выправіць яго індывідуалістычную псыхолёгію і зрабіць з яго сапраўднага працоўнага сацыялістычнага грамадзтва» («К вопросам аграрной политики в СССР»).

Буйныя посьпехі і дасягненьні наглядаюцца таксама і ў разьвіцьці спадарожніцкай літаратуры. На этапе сацыялістычнай рэканструкцыі гэта літаратура перацярпела таксама істотныя якасныя зьмены, абумоўленыя зьменамі ва ўмовах клясавага змаганьня і пераможным разгортваньнем сацыялістычнага будаўніцтва. На дадзеным этапе назіраецца рэзкая дыфэрэнцыяцыя ў шэрагах спадарожнікаў: некаторая іх частка ў працэсе абвостранага клясавага змаганьня яшчэ больш моцна выяўляе ў сваёй творчасьці буржуазныя тэндэнцыі, якія перарастаюць ужо ў адкрыта-варожую контррэвалюцыйную ідэалёгію; некаторая частка пісьменьнікаў, якія на этапе аднаўленчага перыяду ў асноўным зьяўляліся спадарожнікамі, цяпер, у перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі, цалкам пераходзіць у лягер контррэвалюцыйнай буржуазіі (Дубоўка, Пушча, Жылка і інш.); другая частка спадарожнікаў, у асноўным займаючы савецкія пазыцыі, суб'ектыўна імкнучыся дапамагаць сацыялістычнаму будаўніцтву, у творчасьці, тым ня менш, яшчэ ня зусім канчаткова зжыла пэўныя хістаньні паміж буржуазіяй і пралетарыятам; нарэшце, значная частка спадарожнікаў, перамогшы гэтыя хістаньні, вызваліўшыся ад іх, з спадарожнікаў робіцца ўжо саюзьнікам пралетарыяту. Тав. Сталін у сваёй прамове на зьезьдзе гаспадарнікаў ахарактарызаваў працэсы глыбокіх зрухаў, якія на глебе пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва адбываюцца ў асяродзьдзі старой тэхнічна-вытворчай інтэлігенцыі, гэта характарыстыка

цалкам зьяўляецца правільнай і ў дачыненьні да пэўнай часткі пісьменьніцкай інтэлігенцыі, у яе асяродзьдзі таксама назіраецца рашучы паварот у бок пралетарыяту, у бок актуальнай дапамогі ажыцьцяўленьню яго мэтаў і задач.

На сёньняшні дзень спадарожніцкая літаратура прадстаўлена ў шэрагах пісьменьнікаў старэйшага пакаленьня творчасьцю Купалы, Коласа, Зьмітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Нёманскага і інш.

У творчасьці Купалы назіраецца рашучая перабудова. Такія яго вершы, як «Сыходзіш вёска з яснай явы», «Дыктатура працы», «Гімн будаўніцтву» і інш. паказваюць, што пісьменьнік сваю творчасьць ставіць на службу сацыялізму, імкнецца актыўна дапамагаць сацыялістычнаму будаўніцтву. У сваім аўтарскім лісьце Янка Купала заз[...]чае:

«Польскі імпэрыялізм хоча сарваць наша мірнае будаўніцтва новага сацыялістычнага ладу і затапіць у крыві вызваленчы рух Заходняй Беларусі.

«Я заклікаю да агульнае дружнае абароны СССР і да рашучых пратэстаў супроць дзікага прыгнечаньня працоўных мас Заходняй Беларусі.

«Ганьбячы здрадніцкую работу нацыянал-фашызму, я заяўляю, што адзіны шлях да канчатковага вызваленьня працоўных мас— ёсьць шлях камунізму.

З гэтага шляху я асабіста ніколі ня сыйду і заклікаю ўсіх змагароў за лепшую сьветлую будучыню ісьці па ім цьвёрда да канчатковае перамогі.

«Усе свае сілы і здольнасьці я аддаю і аддам на вялікую справу пабудовы сацыялізму і вызваленьня працоўных усяго сьвету».

У вялікім маштабе выразна выяўляецца перабудова ў творчасьці Якуба Коласа. Пісьменьнік парывае з устаноўкай на індывідуальную сялянскую гаспадарку, з тэндэнцыяй у бок забабоннай містыкі, ён перамагаючы ўстаноўку і тэндэнцыі «Новай Зямлі», «Сымона Музыкі», пераходзіць ужо на якасна-новыя ідэалёгічныя пазыцыі. Якуб Колас асэнсоўвае працэсы сацыялістычнага будаўніцтва і імкнецца адлюстраваць іх у сваёй творчасьці. Асабліва паказальным у дадзеных адносінах зьяўляецца яго вялікі твор «Адшчапенец». У творы даецца абмалёўка працэсаў пераробкі селяніна, пераходу яго на рэйкі калектывізацыі, у сваёй аповесьці пісьменьнік выразна ўсьведамляе, што адзіны шлях да вызваленьня вёскі ад гаспадарчай і культурнай адсталасьці—гэта ёсьць шлях калектывізацыі. Але на сёньняшні дзень Колас у сваім творчым мэтадзе, у сваім падыходзе да працэсаў сацыялістычнага будаўніцтва не пазбавіўся яшчэ некаторых момантаў аб'ектыўнага ідэалізму, ён ня здужаў раскрыць сацыяльна-клясавай дэтэрмінаванасьці працэсаў пераробкі селяніна, у яго дадзена замкнёная, абстрактная дыялектыка псыхалёгіі серадняка.

Зьмітрок Бядуля на этапе сацыялістычнай рэканструкцыі даў буйны твор «Язэп Крушынскі». У параўнаньні з аповесьцю «Салавей», якая напісана на рубяжы аднаўленчага і рэканструкцыйнага

пэрыяду, «Язэп Крушынскі» ёсьць пэўны крок наперад. У гэтай аповесьці Зьмітрок Бядуля, ужо ў значнай ступені адпіхваючыся ад абстрактнага псыхалёгізму і інтуітывізму, імкнецца адлюстраваць працэсы навакольнай рэчаіснасьці. Але ў гэтым адлюстраваньні ён дапускае часамі вялікія зрывы. У другой частцы «Язэпа Крушынскага» кулацтву пісьменьнік супроцьстаўляе батрацкія і бядняцкія масы, якія арганізоўваюць калгас, але, трэба сказаць, другая частка значна зьніжаецца ў сэнсе мастацкай каштоўнасьці. У дробных апавяданьнях Бядулі, прысьвечаных тэме сацыялістычнага будаўніцтва, ня зжыты яшчэ моманты рамантычнага прыгодніцтва («Ня звычайныя гісторыі»).

У значна большай ступені набліжэньне да пралетарыяту наглядаецца ў творчасьці Цішкі Гартнага. Праўда, у першыя гады рэканструкцыйнага пэрыяду пісьменьнік дапусьціў цэлы шэраг надзвычайна буйных памылках, у яго праглядвала пэўная змычка з контррэвалюцыйным беларускім нацыянал-дэмакратызмам, гэта змычка выказвалася ў публіцыстыцы, а таксама ў мастацкай творчасьці Цішкі Гартнага («Здарэньне з камісарамі»). Апошнія творы пісьменьніка паказваюць на яго выразную перабудову. У творы «Зялёны шум» пісьменьнік шчыльна падыходзіць да адлюстраваньня працэсаў калектывізацыі, у нарысе «Напевы сірэн» ён імкнецца авалодаць рабочай тэматыкай, але ў творчым мэтадзе Цішкі Гартнага маюць месца і на сёньняшні дзень яшчэ вялікія заганы: замест раскрыцьця рэчаіснасьці ў яе складанасьці і супярэчлівасьці наглядаецца тут упрашчэнцкае коўзаньне па паверхні зьяў, недастатковае разуменьне іх сутнасьці і г. д.

Найбольш выдатны прыклад рашучай перабудовы дае сабою творчасьць Кузьмы Чорнага. У працэсе пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва Кузьма Чорны зжывае свае памылкі, перамагае хістаньні паміж буржуазіяй і пралетарыятам і прыходзіць ужо на рэйкі савецкай літаратуры. У аповесьці «Вясна» пісьменьнік у мастацкіх, сакавітых вобразах раскрывае супярэчнасьці ў сучаснай вёсцы, ён паказвае змаганьне капіталістычнай і сацыялістычнай тэндэнцый ў вытворчасьці, побыце і псыхалёгіі селяніна і адзначасна выразна выяўляе перамогу вядучай сацыялістычнай тэндэнцыі. Але прычыны гэтай перамогі раскрыты ў творы недастаткова глыбока, у ім яшчэ заўважаюцца некаторыя ўхілы ў бок фізыялёгічнага матар'ялізму. Значна большае дасягненьне Кузьма Чорны выказаў у аповесьці «Бацькаўшчына». На вялікім палатне тут ахоплена нарастаньне сацыяльных супярэчнасьцяй у беларускай вёсцы напярэдадні імпэрыялістычнай вайны, зарысаваны падзеі самой вайны, паказана разгортваньне пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі сацыялістычнай рэвалюцыі, абмалёваны абставіны грамадзянскай вайны, з вялікім драматызмам зарысованы жахі польскай акупацыі. На шырока-разгорнутым сацыяльным фоне Кузьма Чорны паказаў, як у працэсе рэвалюцыйнай практыкі бядняцкія масы сялянства паступова зжываюць дробна-буржуазную ілюзію ўласнасьці і бацькаўшчыны і набліжаюцца да пралетарыяту.

Вялікага разьвіцьця дасягла таксама і творчасьць малодшага пакаленьня пісьменьнікаў. У гэтай творчасьці мы таксама назіраем пэўную дыфэрэнцыяцыю, якая выкліканы ўмовамі клясавага змаганьня. Спадарожніцкія пазыцыі ў асноўным на дадзеным сэктары дробнабуржуазнай літаратуры займаюць Таўбін, Астапенка, Зарэчны, Куляшоў, Скрыган, Мікуліч, Маракоў і інш. У творах гэтых пісьменьнікаў за звычай распрацоўваецца вельмі актуальная тэматыка, але ў ідэалёгічным пераламленьні, у творчым мэтадзе заўважаецца яшчэ вялікая хісткасьць.

Значная частка прадстаўнікоў малодшага пакаленьня пісьменьнікаў ужо выразна пераключылася на пазыцыі саюзьнікаў пралетарыяту. Такія пазыцыі назіраюцца ў творчасьці Ліхадзіеўскага, Хведаровіча, Звонака, Глебкі, Броўкі і інш. Для Ліхадзіеўскага характэрна моцная эмацыянальная зарадка, уздымна-творчы аптымізм, вялікае і шчырае захапленьне напружанай дынамікай нашых дзён, у Звонака і Хведаровіча ў апошніх творах назіраецца зжываньне дробнабуржуазнага індывідуалізму і паглыбленае ўсьведамленьне працэсаў сацыялістычнага будаўніцтва. Найбольш выдатнае месца ў саюзьніцкім сэктары беларускай літаратуры займае творчасьць Глебкі і Броўкі. Сваёю паэмаю «Арка над акіянам» Глебка рашуча парывае з пэўнымі нацыянал-дэмакратычнымі тэндэнцыямі, якія былі яму ўласьцівы на этапе аднаўленчага пэрыяду: гэтай паэмай, якая ставіць праблему разьмяжаваньня сярод тэхнічнай інтэлігенцыі, Глебка паказаў на сваё ўласнае адмяжаваньне ад былых памылак. Броўка сваім творам «Каландры» выявіў, што ён у значнай ступені вызваліўся ад памылак, уласьцівых яму на папярэднім этапе творчасьці. У сваёй аповесьці Броўка дае шырокі паказ змаганьня рабочых за выкананьне прамфінпляну, праца тут сапраўды выступае, як справа гонару. Дадзены шырокі паказ герояў і энтузіястаў сацыялістычнага будаўніцтва, шырока пададзены вобразы старых рабочых, разгорнута камсамольская тэматыка, фігурам клясавых ворагаў і шкоднікаў супроцьстаўлены малюнак перамогі рабочых над імі, дзякуючы правільнаму партыйнаму кіраўніцтву. Апошнія творы Хведаровіча і Броўкі паказваюць ужо на пэўныя тэндэнцыі перарастаньня іх з саюзьнікаў у пралетарскіх пісьменьнікаў.

Побач з вялікім ростам савецкай літаратуры ў працэсе абвастрэньня клясавага змаганьня назіраецца і пэўная актывізацыя на антысавецкім фронце. Рэшткі беларускай буржуазіі аказваюць і будуць аказваць актыўнае супраціўленьне сацыялістычнаму будаўніцтву, будуць выкарыстоўваць для сваіх мэт і мастацкую літаратуру.

Але магутны рост савецкае літаратуры за 15 год, рашучы паварот усяго лепшага, што ёсьць у савецкай беларускай літаратуры да актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, гаворыць за тое, што перамога ёсьць і будзе за літаратурай вялікай пралетарскай рэвалюцыі.

Алесь Салагуб

# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА „ГРАМАДЫ“

Беларуская Грамада праіснавала кароткі адрэзак часу, але яна здолела ўзьняць народную цаліну ад сну да дзейнасьці, да актыўнага ўдзелу ў палітычна-грамадзкай клясавай барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне акупаванай краіны з-пад ярма белапанскай Польшчы. Нацыянальна-вызваленчая арганізацыя сялянства і рабочых—Беларуская Грамада пакінула і пасьля разгрому яе фашызмам помнік аб сваім існаваньні. У дадзеным выпадку я маю на ўвазе мастацка-літаратурныя творы пэрыяду Грамады.

Нацыянальна-вызваленчая барацьба рабочых і сялян З. Б. супроць акупантаў набыла ў 1925—26—27 г. г. масавыя формы, вялікі магутны размах. Масавасьць—гэтая асноўная рыса грамадаўскага руху адлюстравалася і на літаратурна-мастацкіх творах. Праўда, мы не павінны разглядаць грамадаўскі пэрыяд творчасьці пісьменьнікаў, паэтаў, рабселькораў Заходняй Беларусі адарвана ад папярэдніх гадоў, ад таго магутнага, камуністычнага падпольнага рабселькораўскага руху, які праходзіць пад кіраўніцтвам КПЗБ, які кансалідуецца навакол бальшавіцкага друку.

Грамадаўскі рух—нацыянальна-вызваленчы, рэвалюцыйны рух моцна ўдарыў па фашысцкай Польшчы і нанёс сьмяротны ўдар польскаму інтэрнацыяналізму, польскаму імпэрыялізму, так званай «экспансіі на ўсход».

Грамадаўская прэса ў гэты часы была самай папулярнай сярод працоўных Заходняй Беларусі. Яе прасьледваў камісар гораду, чыноўнік гміны аж да паштовага бюракрата, але яе нельга было задушыць. Грамадаўская газэта была ня толькі інфарматарам падзей, фіксатарам таго, што робіцца на сьвеце. Яна з кожным днём станавілася калектыўным арганізатарам шматмільённых працоўных мас Заходняй Беларусі. Тыражы грамадаўскага друку растуць шпаркім тэмпам, ня гледзячы на прэсавыя дэкрэты, ня гледзячы на канфіскацыі і арышты рэдактараў. Калі газэта выходзіць запар 20—30 нумароў без канфіскацыі, дык рэдакцыя «сьвяткуе» юбілей, бо грамадаўская газэта зьяўлялася небясьпечным агітатарам, а таму польскі ўрад стараўся ўсімі сродкамі затарнаваць, ці зусім зачыніць грамадаўскі друк. У апошнія гады (1929) польскі фашызм так і зрабіў, зьліквідаваўшы ўсе радыкальныя беларускія газэты. Аднадзёнкі зьяўляюцца найлепшымі сьведкамі таго лютага тэрору, які ўжываў поль-

скі ўрад у дачыненьні да нацыянальна-вызваленчага друку Заходняй Беларусі. Пад час выбараў у сойм, у сэнат у 1928 годзе беларускія радыкальныя газэты па 9 дзён канфіскаваліся запар.

У грамадаўскую газэту пачалі пісаць ня толькі тыя, хто ўладаў беларускай мовай у пачатковай школе, а нават і 70-ці гадовыя дзяды прачыналіся ад векавога сну і каравымі пальцамі пісалі, поўныя ненавісьці да акупантаў, свае карэспандэнцыі ў грамадаўскую газэту. З глухіх мядзьведжых куткоў Заходняй Беларусі, у рэдакцыі грамадаўскіх газэт наплываюць сотні, тысячы допісаў аб зьдзеках паліцыянта, сэквестратара, асадніка-пана, аб хабарніцтве войта, старосты, аб зьверствах і ашуканстве чорнай сотні, якая носіць сутану (ксяндзы, папы), адным словам, закранаюцца самыя балючыя, штодзенныя справы рабочых і сялян Заходняй Беларусі пад белапанскім панаваньнем.

Цяжка гаварыць аб грамадаўскай літаратуры таму, што яе нельга пакласьці на паліцы, не замкнеш у шафу пад шкло.

Масавасьць грамадаўскага руху пераносілася і на рабселькораўскі рух, на літаратурны рух. Літаратура стала непасрэдным сродкам змаганьня ў руках Грамады. Літаратура, у старым значэньні слова, памерла. Вырасьлі новыя патрабаваньні ў мас да літаратуры. Замест пасыўна-сузіральнай паэзіі, замест анэкдотаў, жарту, рабочыя і сяляне патрабуюць баявога вершу, які заклікае на барацьбу з белапольскімі апрычнікамі, на барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне.

Грамадаўскі рух мае вялікае палітычнае і гістарычнае значэньне. Кіруючая роля пралетарыяту Заходняй Беларусі ў грамадаўскім руху (які ў асноўным зьяўляўся рухам сялянскім, нацыянальна-вызваленчым, прагрэсыўным рухам), паклала на гэты рух першыя адзнакі арганізаванасьці. А гэты факт у нацыянальна-вызваленчай барацьбе Заходняй Беларусі найбольш палохаў польскую і беларускую буржуазію, а таму ўсе яны разам, пачынаючы ад белагвардзейскага «Слова», ад «Дзеньніка Віленскага» і канчаючы «Сялянскай нівай» Ярэміча—Рагулі і бульварнай газэткай «Беларускай крыніцай»—усе яны цкавалі Грамаду і яе друк, яе правадыроў.

Майскі пераварот 1926 году разьбівае сярод працоўных мас ЗБ і ЗУ апошнія ілюзіі дабіцца бяз бою і крыві паляпшэньня свайго становішча, дабіцца самавызначэньня нацыі аж да аддзяленьня, дабіцца дыктатуры пралетарыяту. Расьце клясавая сьвядомасьць мас, расьце разуменьне таго факту, што толькі пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі магчыма дабіцца канчатковага сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня прыгнечаных нацый у Польшчы.

Уплыў кампартыі сярод працоўных мас Польшчы, ЗБ, ЗУ, быў вялікім штурхачом, магутным фактарам у нацыянальна-вызваленчым руху (на Украіне, у выглядзе «Сельроба», Беларускай сялянска-работніцкай Грамады—у Заходняй Беларусі, НПХ—у Цэнтральнай Польшчы). Нацыянальна-вызваленчы рух у гэтыя гады, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, пад яе ідэёвым уплывам набірае магутнага імпэту і сілы, узьнімаецца на такую вышыню, на такую сту-

пень, якой ня бачыў гэты рух ніколі да гэтай пары. Клясавыя супярэчнасьці ў польскай дзяржаве дасягаюць нябывалых памераў. Клясавая дыфэрэнцыяцыя адбываецца шпаркім тэмпам як у вёсцы, так і ў горадзе.

Творчая актыўнасьць мас у гэты перыяд расьце не па днях, а па гадзінах. Праўда, Грамада ня здолела выгадаваць «закончаных» пісьменьнікаў, паэтаў, бо праіснавала яна за ледзьве пару год ад свайго заснаваньня, але яна пакінула цэлыя томы пратэстаў у выглядзе вершаваных карэспандэнцый, у выглядзе апавяданьняў, фэльетонаў. Грамада выгадавала ў лепшай частцы рабоча-сялянскіх мас рэвалюцыйную гатоўнасьць да барацьбы з фашысцкім рэжымам, з капіталістычнай сыстэмай.

Гэтая тэма ў нашай публіцыстыцы і крытычнай літаратуры не закраналася, а між тым гэта цікавейшая тэма для дасьледчыка грамадаўскага руху.

У гэтым невялікім нарысе, не прэтэндуючы на шырыню ахопу гэтай тэмы, я толькі ў сьціплых выразах спынюся на галоўных момантах у літаратуры, якую тварылі самі масы, бязыменныя паэты, пісьменьнікі з-пад Белавежы, Вільні, Горандзі і Беластоку.

Аб чым пішуць у вершах, апавяданьнях грамадаўскія дапішчыкі— «бязыменныя», «пачынаючыя» паэты?

Яны пішуць аб тым, што ў фашысцкай Польшчы Пілсудзкага ёсьць прыгожая канстытуцыя, вельмі лібэральная, дэмакратычная, але ад гэтай лібэральнасьці і «дэмакратызму» працоўныя масы Заходняй Беларусі сьцякаюць крывёю, пры гэтай «дэмакратыі» ў рабочых і сялян высмоктваюць апошнія сокі павукі-крывасмокі: памешчыкі, буржуазія і кулацтва. Пішуць аб тым, што ня можа быць нацыянальнай волі, нацыянальнага вызваленьня без вызваленьня сацыяльнага, пры буржуазным панаваньні. Яны пішуць пра нялюдзкія адносіны да праяў нацыянальна-вызваленчага руху, да праяў нацыянальнай культуры прыгнечаных народаў (беларусы, украінцы, яўрэі, літвіны). Яны пішуць пра інквізытарскія мэтады задушэньня Беларускіх і украінскіх школ, пра зьверскую расправу з беларускімі школьнікамі, пра зьдзек над беларускай мовай, абвяшчэньне яе мовай «хамскай», мовай «мужыцкай». Той факт, што на гэтай мове народу нельга выказаць сваёй крыўды і смутку, гора і нядолі ў панскім судзе, той факт, што гэта мова выцясьняецца з пачатковай школы і прымусова ўводзіцца польская, той факт, што польскія фашысты прынесьлі з сабою і сацыяльную і нацыянальную няволю,—усё гэта не магло не хваляваць перадавых, адданых рэвалюцыйнай справе барацьбітоў з глухіх сутарэньняў, з-пад шэрай і цьмянай страхі сялянскай хацінкі.

Нацыянальны ўціск, каленіяльная палітыка, свавольства старастаў і войтаў, памешчыцкая эксплёатацыя, высмоктваньне крыві з вясковай беднаты кулакамі—вось тэматыка вершаў і паэм грамадаўскага перыяду.

Нехта Шумачэнка-Нядоля ў вершы пад назвай «Голас з Палесься» ў даволі сакаўных і красамоўных выразах адлюстроўвае сялянскія настроі і спадзяваньні таго перыяду. Зямельнае пытаньне,

зямельны голад цесна перапляліся ў Заходняй Беларусі з пытаньнем нацыянальнага вызваленьня:

Горка твая доля,
Бедны мужычок,
Калі ты дажджэшся
Зямліцы кусок?

Сялянская бедната, малазямельнікі і серадняцтва ЗБ нічога не атрымала ад «рэформ» Пілсудзкага. У выніку буржуазна-памешчыцкага землеўпарадкаваньня ўсе выгады ад гэтай рэформы былі на карысьць буржуазіі і кулацтву, а таму надзеі атрымаць «зямліцы кусок» упіраюцца ў асноўную прычыну прычын сялянскага гора і нядолі—капіталістычную сыстэму, упіраюцца ў той факт, што ўлада ў руках буржуазіі і памешчыкаў. А таму і няма нічога дзіўнага ў тым, што сяляне недаверліва ставяцца да дэмагогіі розных буржуазна-дэмакратычных партый, буржуазна-кулацкіх партый, якія толькі пацяшаюць бедны народ словамі («пачакайце, мы вам дадзім зямлю і волю, толькі не бунтуйцеся»). Сеючы сярод галодных і разьдзетых ілюзіі на дабрабыт, які прыдзе бяз крывавых сутычак за уладу, бяз зруйнаваньня капіталізму, гэтым самым яны думаюць адцягнуць працоўныя масы ад актуальнейшых задач, якія стаяць перад працоўнымі масамі Заходняй Беларусі і Польшчы:

Кожны пацешаець
Што йшчэ мо' дадуць...
Мы ж веры ня маем—
Па кішэні б'юць.

(„Беларуская справа“ № 2, 1926 г.)

Няма веры дэмагогам і палітычным прайдзісьветам з ППС і іншых буржуазна-кулацкіх партый, якія на словах—адно, а на справе—прадажніцтва, здрада рабоча-сялянскіх інтарэсаў. Працоўныя Заходняй Беларусі вераць толькі ў свае сілы і дапамогу міжнароднага пралетарыяту, які змагаецца пад сьцягамі камуністычных партый Камінтэрну. Адзіны выхад з-пад буржуазна-памешчыцкага ярма яны бачаць у рабоча-сялянскім яднаньні. Жыве сярод працоўных упэўненасьць і пераконаньне, што толькі згуртаванымі, рэвалюцыйнымі шэрагамі, рэвалюцыйным напорам можна перамагчы клясавага ворага і зьнішчыць сацыяльную і нацыянальную няволю:

Грамада—вось гэта сіла—
Грамада—жалеза гне

(„Народная справа“ № 4, 1926 г.)

Усьведамленьне сваіх задач, усьведамленьне тэй ісьціны, што кляса стаіць супроць клясы і змагаецца за ўладу—гэта дасягненьне нацыянальна-вызваленчага руху і тэй партыі, якая гэты рух узначальвае, кіруе ім, узьнімае яго на больш высокі ідэйны ўзровень і ставіць тычкі да канчатковых мэт рэвалюцыйнага змаганьня:

З аднэй думкай і жаданьнем
Пойдзем ўсе за Грамадой
І адзіным фронтам станем,
Як сталёваю сьцяной.
Прэч усіх тых, што між намі
Калацею засяюць,

Што змаўляюцца з панамі
І працоўных прадаюць.
Прэч і тых, што аддзяляюць
Ад работнікаў сялян,
Каб лягчэй па адзіночцы
Нас душыў буржуй і пан...
Дык цясьней аднэй сям'ёю,
Рабочы і селянін.
З беларускай Грамадою
Пойдзем ўсе так, як адзін.

Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада карысталася глыбокай сымпатыяй і пашанай сярод працоўных мас Заходняй Беларусі, бо яе праграма і статут давалі ўсе падставы спадзявацца, што ў цесным саюзе з пралетарыятам і працоўнымі масамі ўсяе Польшчы, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі працоўныя заваююць сабе права на вольнае жыцьцё, права на будаўніцтва таго жыцьця і ладу, што ёсьць у Савецкім саюзе, у Савецкай Беларусі.

Рост сымпатыі сярод працоўных мас Заходняй Беларусі да таго сацыялістычнага будаўніцтва, якое разгарнулася ў Савецкім саюзе, не на жарт напалохала польскую і беларускую буржуазію. Гэтыя сымпатыі станавіліся вялікай перашкодай на шляху экспансіі на Усход польскага драпежнага імпэрыялізму. А таму польскі фашызм прыклаў усе меры, каб гэтую адзіную масавую рэвалюцыйную арганізацыю сялян і рабочых Заходняй Беларусі зьліквідаваць.

Сацыяльная няволя-нядоля сялянства Заходняй Беларусі, падатковы прэс, зьдзекі і свавольства паліцыі над безабаронным сялянствам знайшлі сваё адлюстраваньне ў шматлікіх вершах, якія зьмяшчаліся ў грамадаўскай прэсе. Нехта пад псэўданімам «Селянін» у вершы «Скарга селяніна» ў выстарчальнай меры здолеў ахапіць і адлюстраваць асноўныя бакі цяжкай і жудаснай рэчаіснасьці Заходняй Беларусі:

Прышла вясна... Бясхлеб'е душыць...
Дзяцей галодных ня уняць.
А матка дзе? Няйначай мусіць
Пашла крапіўкі назьбіраць.
Даўно ўжо хлеб яны жавалі,—
Панадай ён ў ваччу стаіць,—
І крапіву адно хлябалі
Ні з чым, бо нечым падбяліць.
Кароўку мелі,—ну, з казіцу,
Дык за падаткі прадалі...
А што самім?—ты пі вадзіцу—
Вось да чаго мы дажылі.
Зямліцы маем: шнур—два крокі,
Што не праедзеш з бараной:
Па дзесяць хат на паўвалокі,—
Дык дзе-ж той хлеб тут, браце мой.
О, як-жа доўга мы чакалі,
Вось-вось зямліцы нам дадуць,—
Бо-ж гэтак моцна абяцалі,
Што ў раз рэформу правядуць.

Праходзіць год, другі... і пяты
„Асады“ ў нас, як мак, цьвітуць
А Беларусь?—ня выходзь з хаты,
Бо там паны з паноў жывуць.
Зямліцы досыць атрымалі
Яшчэ і грошай ім далі
За то-ж з нас падаткі бралі—
Вось да чаго мы дажылі.
Паслы мандатамі таргуюць,
Да сьмерці хочуць іх трымаць
І галасы сабе вярбуюць...
А беларусы? Ўсё маўчаць.
Цярпліва гэтая скаціна:
Яна век будзе ўсіх вазіць...
Ды хто-ж пачуе селяніна,
Калі ён часам закрычыць?
Урад урадам замяняюць,
Другія лепшыя снуюць,—
А ўсе ўсё нешта абяцаюць,
Але наўперад з нас дзяруць...
Адны бюджэт і скарб латаюць
Праграмы цудныя пяюць...
Другія „гонару“ шукаюць,
„Мараль“ з крыві людзей куюць.
А ты—галодны, голы, босы—
На іх „афэры“ пазірай,
Як там таргуюць тваім лёсам,
І новых ланцугоў чакай.
Але ідзе канец цярпеньням,
Вось хмара цёмная ўстае:
Магіла будзе ўсім мучэньням,
Іх бура страшная зьмяце.
(„*Народная справа*“ *№ 1 за 1926 г.*).

Вера ў перамогу пралетарскай рэвалюцыі жыла і жыве сярод працоўных Заходняй Беларусі, ніякімі дэкрэтамі і турэмнымі рэглямінамі ня выбіць гэтае веры. Рабоча-сялянскія масы перакаваліся, што такі стан рэчаў, пры якім магчымы малюнкі, апісаныя ў «Скаргах селяніна» грамадаўскімі пісьменьнікамі, паэтамі Заходняй Беларусі доўга існаваць ня можа. Працоўныя масы вераць у прыход рэвалюцыйнай завірухі, якая зьмяце вампіраў і тыранаў, што селі на шыю працоўнага народу і смокчуць з яго жыцьцёвыя сокі. Расьце ўсьведамленьне таго, што толькі рэвалюцыя да канца і назаўсёды зьнішчыць сацыяльна-нацыянальную няволю і прынясе магілу ўсім пакутам працоўных мас Заходняй Беларусі.

У пэрыяд існаваньня Грамады, побач з падрыхтоўкай сялянска-работніцкіх мас да актыўнага ўдзелу ў клясавым змаганьні за новыя формы дзяржаўнага ладу, была разгорнута шырокая праца сярод працоўных за частковыя патрабаваньні рабочых і сялян ад фашысцкага рэжыму. Шырокая хваля арыштаў, якая пракацілася па Заходняй Беларусі ў пэрыяд Грамады, вырвала дзесяткі, сотні лепшых змагароў і кінула іх у вастрогі, за жалезныя краты. Няма вёскі ў Заходняй Беларусі, якая-б не была сьведкай жудасных сцэн арыштаў, катаваньняў сялянскіх хлапцоў, якіх белапольскія апрычнікі

гвалтоўна вырывалі з родных вёсак, а таму сярод працоўных Заходняй Беларусі, амністыйная кампанія карысталася вялікім посьпехам у пэрыяд Грамады. Сотні, тысячы сялян і рабочых клалі свае подпісы пад пратэстамі за поўную амністыю палітзьняволеных, за вызваленьне з турам дзесяткаў тысяч палоньнікаў капіталу. У грамадаўскай паэзіі гэта таксама знайшло сваё адлюстраваньне:

Амністыя! Далоў вастрогі!
Даволі путаў-кандалоў.
Крычыць народ загнаны, убогі:
„Аддайце нам бацькоў, сыноў!
Зямелька наша стогне, плача.
Бо турмы ў ёй адной цьвітуць;
А той, хто праўду хоча бачыць,
У ланцугі таго куюць.

Праўда, трэба адзначыць, што з фармальна мастацкага боку гэтая паэзія слабаватая, не апрацавана, але яна даходзіць да сьвядомасьці шырокіх працоўных мас, мабілізуе іх да актыўнага ўдзелу ў клясавым змаганьні і робіць вялікую культурна-палітычную работу. Гэтая паэзія карыстаецца шырокімі сымпатыямі сярод працоўных Заходняй Беларусі, гэтыя вершы чытаюць на масоўках, на вечарох, бо гэта—вершы масы, бо гэта падняволная маса сама іх творыць, бо гэта крык яе сэрца, яе людзей.

Дык гром пратэстаў раздавайся,
Хто ж яго ў сілах заглушыць?
Народ працоўны адгукайся,
Пара ўжо турмы адчыніць.
*(„Беларуская справа" № 22. 1926 год).*

І гэты кліч «Пара ўжо турмы адчыніць» жыў у пэрыяд Грамады і быў актуальным, гэты кліч жыве, як і раней, і сёньня ў глыбіні сьвядомасьці працоўных Заходняй Беларусі, чые бацькі і сыны і сёстры томяцца за кратамі фашысцкіх казэматаў. Хутка будзе 6 год, як польскі фашызм бязьлітасна разбурыў Грамаду. Але грамадаўскі рух жыве і шырыцца, жыве нацыянальна-вызвалёнчае змаганьне працоўных мас Заходняй Беларусі за сваё канчатковае сацыяльна-нацыянальнае вызваленьне, жыве змаганьне за права нацый на самавызначэньне аж да аддзяленьня ад Польшчы, жывуць і шырацца лёзунгі камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Белапольскія акупанты за час свайго панаваньня на Заходняй Беларусі, сваёй каленіяльнай палітыкай прывялі Заходнюю Беларусь да руіны. Сялянства прыведзена да жабрацтва, апрача кучкі кулакоў ва ўгоду якім служыць зямельная палітыка фашысцкага ўраду. Сотні, тысячы беспрацоўных у горадзе, голад, жабрацтва, хваля самагубстваў на грунце недаяданьня, голаду. У выніку эканамічнага крызісу гаспадарка польскай дзяржавы развальваецца. Але ўвесь цяжар гэтага крызісу ляжыць на плячах працоўных мас. Фашысцкія ідэалёгі ўбіваюць у галовы рабоча-сялянскім масам тужэй падцягнуць паскі, рамні, як сродак заспакоіць голад, а побач

з гэтай агітацыяй ідзе рабаваньне працоўных мас. Народнае багацьце—лясы, пушчы бязьлітасна зьнішчаюцца, прадаюцца ў эксплёатацыю ангельскім і францускім фірмам. У пэрыяд Грамады разгром белапольскіх акупантаў на беларускіх землях знайшоў сваё адлюстраваньне ў грамадаўскай паэзіі. У вершы «На Вяльлі» аўтар выказвае жаль і смутак заходня-беларускага народу, апісваючы, як родны лес сплаўляюць за Буг, а сяляне з прыфрантовай паласы, дзе амаль 4 гады грымелі гарматы, дзе поле ўсеяна касьцьмі людзкімі, калючым дротам, бліндажамі, зямлянкамі, акопамі,—як дзікуны, прымушаны жыць у зямлянках, бо ўрад пілсудчыны не даў лесу на адбудаваньне зруйнаваных вайной сялянскіх сядзіб:

Плывець, плывець багацьце ў даль,
Плывець лясок і гай.
Нам, беларусам толькі жаль,
Дабро-ж ў чужацкі край.
(„Народная справа“ № 7, за 1926 год)

Урад памешчыкаў і буржуазіі прывёў на зямлю Заходняй Беларусі дзесяткі тысяч калёнізатараў, белы тэрор, сацыяльны і нацыянальны ўціск, які па сваёй жорсткасьці і нахабнасьці засьміў чорныя дні Новасільцава ў былой расійскай імпэрыі. «Лукішкі»—вядомая турма Заходняй Беларусі—стала сымбалем Бастыліі ў Заходняй Беларусі. Нехта пад ініцыяламі «Ул. Ун-цкі» ў вершы «Лукішкі» ў даволі трапных выразах адлюстраваў становішча заходня-беларускіх працоўных мас у пэрыяд росту Грамады:

Беларусы стогнуць, плачуць
Праклінаюць лёс мужыцкі,
І адну пацеху маюць
У бядзе—Лукішкі
„Нам зямлі“,—сяляне просяць
(У паноў не дык лішкі):
„Жыць няма на чым“,—галосяць.
Што-ж далі?—Лукішкі.
Там мужык з сям'ёй бядуе:
Пуста ў клеці, чысты міскі
Хто дасьць з'есьці, ратуе?
Што-ж далі?—Лукішкі
Ад падаткаў той галосіць:
„Ой, задушаць, канец блізкі“—
Хоць якой палёгкі просіць...
Што-ж далі?—Лукішкі.
„Мне работы дайце, хлеба—
У дзяцей аж сохнуць кішкі“,
Шле работнік скаргу ў неба,
Што-ж далі?—Лукішкі“
Дзетак той маленькіх мае,
Просіць школы роднай, кніжкі...
Дэкларацыі пасылае
Што-ж далі?—Лукішкі.)
Той газэту пашырае,
Той аб праўдзе піша кніжкі—
Ў роднай мове навучае,
І за гэта ім—Лукішкі.
(„Народная справа“ № 30, 1926 год)

Душэньне роднай беларускай школы, радыкальнай беларускай газэты, зямельны голад сялянства, беспрацоўе рабочых гораду і вёскі— вось што хвалюе маладых аўтароў пэрыяду Грамады. Гэтае хваляваньне—хваляваньне ня толькі адзінак, гэта рух шматтысячных рабоча-сялянскіх мас усёй Заходняй Беларусі і Польшчы. Гнеў рабоча-сялянскіх мас пераліваўся праз берагі чары цярплівасьці. І гэтыя кроплі палохалі польскую буржуазію і рабілі іх сон неспакойным. Фашысты ўзмацнялі тэрор, зьдзекі над грамадаўцамі, над грамадаўскім рухам. Але працоўных мас нельга ні чым запалохаць, бо вырасла клясавая сьвядомасьць, вырасла вера, што ніякімі сіламі фашысцкія дзяржыморды ня здолеюць

Рукамі мора утрымаць—
Людзкую крыўду ўгамаваць
Дубінай, стальлю і папругай.

І хай будуць пасаджаны лепшыя сыны рабочае клясы ў турмы, казэматы, але «наша возьме» і:

Дарма ўрачыстасьці сьвяткуюць
Усёй чорнай сотні груганы,
Дарма з трыумфамі сьвяткуюць
Зварот прагніўшай старыны.

бо вялікая хваля гневу народнага выйшла з берагоў:

Бурліць народная стыхія,
На бераг выйшаў акіян
Трашчыць старога сьвету шыя,
Канае згніўшай сілы пан.
*(Аднаднёўка „Наш водклік" 16 сакавіка, 1927 г.)*

Шалёная палітыка палёнізацыі працоўных мас Заходняй Беларусі выклікала гнеў і абурэньне ў паэтаў і пісьменьнікаў Заходняй Беларусі. Гэта знайшло сваё адлюстраваньне ў шматлікіх допісах у грамадаўскую прэсу. У Вільню ў рэдакцыі Грамады, у пасольскі клюб Грамады дасылаюць карэспандэнцыі, вершы, у якіх поўна ненавісьці да нацыянальнай палітыкі польскага фашызму. Цяжка правесьці мяжу між мастацкім апавяданьнем Грамадаўскай пары і карэспандэнцыямі з вёскі. Нехта з Ваўкавыскага павету пад псэўдонімам «Лявон Хмурны» дасылае «Сумны абразок», дзе паказвае, у якім стане знаходзіцца беларускае школьніцтва ў гэты пэрыяд:

«У нас, у Воўкавыскім павеце цяжкае жыцьцё беларуса,—ніяк думкі яго не зьдзейсьняюцца. Ад часу ўваходу польскай улады ў наш край прайшло ўжо 7 гадоў. І за гэтыя 7 гадоў край наш многа перацярпеў ад штучнай сыстэмы палёнізацыі. Аднак, ня гледзячы на гэта, беларуская нацыянальная сацыяльная сьвядомасьць сярод сялян расьце: дэкларацыя, прыгаворы аб адчыненьні сотак беларускіх школ—найлепшы доказ гэтага. Хоць улада адказала на гэта арыштамі і ўсялякімі іншымі рэпрэсіямі, але гэта нічога не дапамагло; наш сялянін яшчэ мацней загартаваўся». Далей аўтар паказвае і цяжкі

эканамічны стан селяніна-беларуса: «Гаспадар, выбіўшыся з фізычных сіл, цягнучы гэтую лямку матар'яльнага недахопу, бяручыся за якую небудзь работу—малацьбу, ці гараньне, думае аб адным:—ці ня ідзе ўжо солтыс да яго з наказам платнічым-маентковым, грунтовым, дарожным, ды й часамі з падатковым. Сумна тады нашаму гаротніку: як яму выквітазацца і пражыць з якімі 7 ці 9 дзяцьмі на дзьвюх дзесяцінах зямелькі?

«Мы, гаротнікі, аднак, пэўны, што Грамадзе ўсьміхаецца доля, бо яе шлях абыймае абодвух гаротнікаў: як селяніна, так і рабочага, ідучы гэтым шляхам, мы выйдзем з гэтага сумнага і цяжкага жыцьця» («Беларуская справа» № 6, 1926 г.).

Як бачым з гэтай выбрымкі, а таксама з папярэдніх вершаў, што і там і тут мы маем адну тэндэнцыю, адно імкненьне—паказаць, на колькі цяжкае, на колькі гаротнае жыцьцё рабоча-сялянскіх мас у фашысцкай Польшчы. Гэтыя допісы, гэтыя вершы, апавяданьні маюць вялікую культурную і палітычную каштоўнасьць. Яны паказваюць ступень клясавай і нацыянальнай сьвядомасьці працоўных Заходняй Беларусі гэтага пэрыяду.

У пэрыяд Грамады асабліва папулярнасьцю і посьпехам карыстаецца паэма маладога пісьменьніка-паэта Таўлая Валянціна «Непераможная», у якой малады паэт адлюстраваў грамадаўскі рух, разгром Грамады польскім фашызмам. Гэтая паэма асаблівым посьпехам карысталася ў камсамольскіх радох.

**Я. Ліманоўскі**

# ЗАБЛЫТАНАЯ ГІСТОРЫЯ

**(Пра артыкул А. Сянкевіча „Да гісторыі літаратурных арганізацый у БССР“)**

Клясавая барацьба ў беларускай літаратуры за мінулыя гады багата зьявамі, якія цікавы ў іх сувязі з агульным працэсам клясавай барацьбы ў краіне і—у паасобных фактах. Вывучэньне яе мае ня толькі вузка-акадэмічнае значэньне, але і вялікае значэньне для далейшай практыкі савецкіх пісьменьнікаў і нанава арганізаванага Саюзу савецкіх пісьменьнікаў. Марксысцкі аналіз клясавай барацьбы ў беларускай літаратуры за мінулыя гады будзе адным з фактараў, які дапаможа больш глыбока ўсьвядоміць савецкім пісьменьнікам паасобку і ўсяму ССП задачы літаратуры па стварэньні «Магнітабудаў літаратуры»,— яе актыўнага ўдзелу ў пабудове сацыялістычнага грамадзтва.

Да гэтага часу мы яшчэ ня маем ня толькі марксысцкай гісторыі беларускай літаратуры, але і артыкулаў, якія асьвятлялі-б больш грунтоўна клясавую барацьбу ў беларускай літаратуры за апошнія гады. Сэкцыя літаратуры Інстытуту Літаратуры і Мастацтва БАН у гэтым годзе выдае зборнік літаратурна-палітычных дакумантаў літарганізацый БССР за мінулыя дзесяць год (1921—31 гг.). Выданьне зборніка дапаможа вывучэньню клясавай барацьбы ў беларускай літаратуры за мінулыя гады. Затым працаўнікамі сэкцыі літаратуры Інстытуту Л. і М. і асьпірантамі літаратуразнаўцамі ўкладаецца падручнік па гісторыі беларускай літаратуры. Акрамя таго ў гэтым годзе мяркуецца выдаць зборнік крытычных артыкулаў, прысьвечаных творчасьці сучасных беларускіх пісьменьнікаў. У 1933 годзе мяркуецца выданьне беларускай літаратурнай энцыклёпэдыі (скарочанай). Рэалізацыя гэтых плянаў сэкцыі Літаратуры Інстытуту Літаратуры і Мастацтва павінна будзе запоўніць пустое месца на літаратурна-гістарычным фронце.

Тав. А. Сянкевіч у сваім артыкуле («Да гісторыі літаратурных арганізацый у БССР») рабіў спробу даць асьвятленьне працэсаў клясавай барацьбы ў беларускай літаратуры, на фоне існаваньня літаратурных арганізацый. Аднак спроба аказалася няўдалай, бо ў гэтым артыкуле ёсьць шэраг памылковых агульных сьцьверджаньняў, пераблытаных паасобных фактаў, якія варта выправіць, каб сапраўды зрабіць паслугу для правільнага высьвятленьня закранутага пытаньня.

Тав. Сянкевіч піша:

„У часы грамадзянскай барацьбы, часы змаганьня за дыктатуру пролетарыяту, за Савецкую Беларусь мы яшчэ новых песень, песень буры і штормаў ня чулі. Пралетарскай і сялянскай моладзі не да паэзіі—яна з вінтоўкай і кулямётам змагаецца за новы, працоўны лад жыцьця, за права на пралетарскую літаратуру, за пралетарскую культуру".

У сувязі з гэтым сьцьверджаньнем узьнікае пытаньне: чаму гэтая актыўная, адданая рэвалюцыі, пралетарская і сялянская моладзь ігнаруе паэзію? Няўжо баявая рэвалюцыйная пралетарская паэзія, якая заклікала-б да змаганьня з ворагам, якая ўзьнімала-б волю і энэргію працоўных да гэтага змаганьня, супярэчыла-б... вінтоўкам і кулямётам, а не дапамагала-б ім у якасьці сваясаблівай зброі клясавай барацьбы. Узьнікае яшчэ больш канкрэтнае пытаньне: якія, канкрэтна, пісьменьнікі (з ліку гэтай рабоча-сялянскай моладзі) ня пісалі тады, бо пакладаліся толькі на вінтоўку і кулямёт; хто гэтыя папярэднікі пазьнейшых «літфрантоўцаў», якія адмаўляюць за мастацтвам ролю зброі клясавай барацьбы? Чаму гэтыя пісьменьнікі з ліку сьвядомай рабоча-сялянскай моладзі ня лічылі патрэбным у клясавай бойцы скарыстаць усе віды зброі клясавай барацьбы?

Ужо ў гэтых разважаньнях мы можам прыйсьці да вывадаў, што або гэта рабоча-сялянская моладзь была ня досыць клясава сьвядома, калі ігнаравала паэзію як сродак клясавай барацьбы, або ня пісала «песен буры і шторму» па іншых нейкіх прычынах. Паводле Сянкевіча час нібы-та ня здатны, залішне напоўнены барацьбой «за новы працоўны лад жыцьця» і таму «моладзі не да паэзіі».

Гэтая думка найбольш яскрава выказана ў часопісе «Маладняк» у артыкуле П. Галавача «Пяць нашых год».

„Кастрычнікавая рэвалюцыя расчыніла шырокія прасторы для разьвіцьця беларускай літаратуры. Але першыя гады рэвалюцыі на Беларусі былі цалкам напоўнены жорсткай барацьбой працоўных за сваё вызваленьне.
„Калі—грымяць гарматы—тады маўчаць ліры".
І толькі з пачаткам мірнага будаўніцтва пачынаюцца рост, разьвіцьцё літаратуры".

Тав. Сянкевіч, які прачытваў матар'ялы спамянёнага вышэй зборніка і па ім пісаў свой артыкул някрытычна засвоіў гэтую памылковую думку Галавача (або можа і сам прышоў да гэткіх вывадаў). Рэальная рэчаіснасьць паказвае няправільнасьць паложэньня: «Калі грымяць гарматы—тады маўчаць ліры». Хіба ў часе імпэрыялістычнай вайны шмат якія буржуазныя пісьменьнікі ня пісалі твораў нацыяналістычных, шовіністычных твораў, якія якраз акампанавалі гарматам? Хіба ў часе імпэрыялістычнай вайны мала была напісана твораў, у якіх вайна,—на якой зьнішчаліся мільёны працоўных дзеля інтарэсаў кучкі капіталістых,—паказвалася як прыгожая, рамантыч-

-ная, патрыятычная справа? Варта ўспомніць як у першыя дні вайны, ап'янелыя ад чаду гэтай шавіністычнай прапаганды, пры дапамозе гучнай сымфоніі мастацкіх «лір» ішлі дабраахвотнікамі на фронт тысячы дробнай буржуазіі, інтэлігентаў, для якіх вайна не давала рэальнай карысьці. Хіба ў часы грамадзянскай вайны была мала напісана твораў, якія ўторылі гарматам, што былі скіраваны супроць пралетарскай рэвалюцыі? Хіба ў беларускай літаратуры ня было твораў, напісаных у часы грамадзянскай вайны і накіраваных супроць пралетарскай рэвалюцыі, твораў, у якіх Пілсудзкі называўся «вызвалiцелем», а бальшавікі «горнымі д'ябламі»?

З другога боку хіба пралетарскія пісьменьнікі, як Дзям'ян Бедны і інш. не адгукаліся сваёй творчасьцю, не мабілізавалі працоўныя масы на барацьбу супроць контррэвалюцыі? Рэчаіснасьць паказвае, што гарматы зусім ня прымушаюць маўчаць музы клясава-сьвядомых пісьменьнікаў. І калі сапраўды маўчаць ліры тэй нязначнай часткі пісьменьнікаў, якая ў часы вайны і асабліва ў часы грамадзянскай вайны нібы-та не знайшла свайго месца, ня вызначыла з кім ісьці (хоць і гэта зьява клясавага характару),—дык гэта нельга абагульняць на ўсю літаратуру.

Хіба пралетарскія пісьменьнікі і тыя савецкія пісьменьнікі, якія сталі канчаткова на пазыцыі пралетарыяту, у будучай сутычцы з контррэвалюцыйнай буржуазіяй, у магчымай інтэрвенцыі імпэрыялістаў супроць СССР, калі загрымяць гарматы ў гістарычнай спрэчцы—«хто каго»,—ня будуць сваёй творчасьцю актыўна ўдзельнічаць у гэтай барацьбе, ня будуць седзячы' нават у акопах з вінтоўкай ці з кулямётам, у перапынкі паміж гарматнымі грымотамі пісаць творы, якія ўзьнімалі-б энэргію і волю працоўных да барацьбы за сваю сацыялістычную краіну? Яны павінны гэта рабіць, яны будуць гэта рабіць.

Сьцьверджаньне: «калі грымяць гарматы—тады маўчаць ліры»—ня нашае. І хоць Францішак Мерынг у сваёй кнізе «Літаратура і пралетарыят» таксама прымае яе, дык і тут мы маем справу з памылкай кантыянскага паходжаньня, з якой марксысцкія літаратуразнаўцы не салідарызуюцца.

Можна было-б яшчэ згадзіцца калі-б т. Сянкевіч і Галавач сказалі-б, што ў часы грамадзянскай вайны, часы напружанага клясавага змаганьня былі менш спагадныя ўмовы і магчымасьці для культурнага будаўніцтва, былі пэўныя цяжкасьці і для шпаркага росту літаратуры, дык з гэтым можна згадзіцца; але гэта зусім іншае таму, што сьцьвярджаюць Галавач і Сянкевіч.

Чаму ўсё-ткі ў часы грамадзянскай вайны мы бадай што ня мелі баявых рэвалюцыйных, пралетарскіх твораў? Чаму, усё-ткі, гэта рабоча-сялянская моладзь, якая з вінтоўкаю і кулямётам змагалася на шматлікіх франтох грамадзянскай вайны, ня пісала гэтых «песен бур і штормаў»?

Таму, што яна ня ўмела іх пісаць. Таму, што пралетарская і тая рэвалюцыйная сялянская моладзь, якая стала на пралетарскія пазыцыі, да кастрычнікавай рэвалюцыі, ва ўмовах падвойнага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, ва ўмовах масавай няпісьменнасьці ня мела ў сваіх шэрагах (калі гаварыць аб гэтым як аб масавым зьявішчы) такіх падрыхтаваных кадраў, якія маглі-б хутка аўладаць мастацтвам, гэтай «ідэалёгіяй вышэйшага парадку». Наіўна думаць, што на другі дзень пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, дзякуючы нізкай культурнасьці, гэтай спадчыне царскага самаўладзтва, пралетарская і сялянская моладзь здолее ствараць мастацкія каштоўнасьці. І патрэбны быў пэўны час, каб пралетарская і сялянская моладзь паступова апаноўвала культурнымі вышынямі. Працэс апанаваньня гэтымі вышынямі пачаў адбывацца больш шпарка з разгортваньнем культурнага будаўніцтва. Кадры старэйшых пісьменьнікаў, якія належылі да дробнай буржуазіі і заможных пластоў вёскі і якія былі носьбітамі ў той ці іншай меры нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі, як вядома ў пэўнай сваёй частцы адгукнуліся тады творамі, скіраванымі супроць пралетарскай рэвалюцыі.

Гэтую канкрэтную зьяву, а менавіта, што ў дарэвалюцыйнай Беларусі дзякуючы шэрагу сацыяльна-клясавых умоў не выхаваліся рэвалюцыйныя, пралетарскія беларускія пісьменьнікі, якія сваім мастацкім словам дапамаглі-б клясавай барацьбе пралетарыяту ў часе грамадзянскай вайны нельга абагульняць і рабіць вывад, што нібыта ў нетрах капіталістычнага ладу немагчыма зараджэньне і пэўнае разьвіцьцё элемэнтаў пралетарскай культуры. Гэткі вывад супярэчыў-бы марксыцкаму палажэньню, што ў нетрах данага сацыяльна-клясавага ладу зараджаецца і разьвіваецца носьбіт іншага сацыяльна-клясавага ладу, які прыходзіць яму на зьмену, што ў данай нацыянальнай культуры, якая зьяўляецца культурай буржуазнай, ёсьць дэмакратычныя, сацыялістычныя элемэнты.

Калі мы зьвернемся да канкрэтных фактаў у разьвіцьці беларускай літаратуры, дык прыдзем да вываду, што пралетарскія беларускія пісьменьнікі і папутнікі пралетарыяту на літаратурным фронце пачалі пісаць пазьней, пасьля сканчэньня грамадзянскай вайны. У часы грамадзянскай вайны яны яшчэ пісьменьнікамі ня былі і большасьць з іх не змагаліся «з вінтоўкай і кулямётам за працоўны лад жыцьця, за права на пралетарскую літаратуру», а тыя, што змагаліся, пісаць мастацкія творы яшчэ ня ўмелі.

Далей т. Сянкевіч дае характарыстыку старэйшым пісьменьнікам:

„Адраджэнская ідэалёгія нашаніўства з яе тэорыяй адзінай бясклясавай беларускай нацыі, ідэалізацыяй мінулага і тэорыяй „самабытнасьці беларускага народу" прывяла гэтых пісьменьнікаў у варожы стан.

З гэтай ідэалёгіяй нашаніўскага адраджанізма беларускія пісьменьнікі сустракалі Кастрычнік на Беларусі, сустракалі, як мы ўжо бачылі, варожа".

Далей у артыкуле т. Сянкевіч кажа: «Старыя пісьменьнікі яшчэ значны час заставаліся ў коле ідэалёгіі адраджанізму».

Ї так т. Сянкевіч, характарызуючы нашаніўцаў, знайшоў у іх «адраджэнскую ідэалёгію і некалькі быццам роўназначных тэорый, а менавіта «бясклясавасьць беларускай нацыі», «ідэалізацыя мінулага», тэорыя «самабытнасьці». Што тут галоўнае, ідэалёгія, ці тэорыі, і якая тэорыя асноўная. Ідэалёгію нашаніўцаў ён называе ідэалёгіяй адраджэнцкай». Мабыць асноўнае ў нашаніўстве, гэта адраджанізм?

Тут т. Сянкевіч таксама памыляецца. Нашаніўская плынь (назавем яе так умоўна) зьяўляецца толькі адным з прытокаў таго грамадзка-палітычнага руху на Беларусі, які, ня гледзячы на тое, што ён быў у сваім складзе неаднастайным, можна назваць нацыянал-дэмакратызмам. Асноўнай праграмай дзейнасьці нацыянал-дэмакратызму зьяўляецца стварэньне беларускай буржуазна-дэмакратычнай дзяржавы. Адраджанізм, самабытнасьць, ідэалізацыя мінуўшчыны, бясклясавасьць беларускай нацыі, усё гэта толькі складаныя часткі, тактычныя лёзунгі, асобныя пункты агульнай нацыянал-дэмакратычнай праграмы, урыўкі з нацыянал-дэмакратычнай тэорыі, асобныя рыскі нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі. Некаторыя пісьменьнікі напрыклад захапляюцца капіталістычнай тэхнікай, як фактарам капіталістычнага прагрэсу; яны прысьвячаюць свае творы гэтай тэхніцы. Аднак, творчасьць гэтых пісьменьнікаў зьяўляецца толькі своеасаблівым адлюстраваньнем агульна-буржуазнай ідэалёгіі. Ї таксама як ідэалёгію гэтых пісьменьнікаў мы ня можам называць ідэалёгіяй тэхніцызму, бо гэта толькі своеасаблівая водцень буржуазнай ідэалёгіі, таксама мы ня маем ніякіх падстаў гаварыць пра ідэалёгію адраджанізму,—бо такой асобнай ідэалёгіі, адарванай ад агульнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі проста няма; ідэалёгія нашаніўства гэта толькі больш ці менш пасьлядоўная (у паасобных нашаніўцаў) нацыянал-дэмакратычная ідэалёгія. Тав. Сянкевіч не сказаў аб асноўным для нашаніўства, нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі і часткавае яе, адраджанізм і інш. падаў за асноўнае. Усе гэтыя «тэорыі» і «ідэалёгія адраджанізму» падначалены агульнай нацыянал-дэмакратычнай ідэі— стварэньню беларускай буржуазна-дэмакратычнай дзяржавы.

Ацэньваючы дэклярацыю і дакуманты «Маладняка» ў першыя гады адбудоўчага пэрыяду тав. Сянкевіч кажа:

> „Яшчэ многа сустракаецца і ў дэклярацыях і ў іншых дакумантах „Маладняка" нявыразнага, нявытрыманага (чаго толькі варт выраз „Рабоча-сялянская кляса", або разважаньне Бабарэкі ў дакладзе „Аб творчасьці на першым зьезьдзе „Маладняка", аб беларускай душы, разважаньні. якія ня сустрэлі, паміж іншым, жаднага рэагаваньня).

Чаму гэта т. Сянкевічу здалося нявыразным? Выраз рабоча-сялянская кляса» зьявіўся адлюстраваньнем тых кулацка-сялянскіх настрояў у «Маладняку», якія адмаўляючы кіруючую ролю пралетарыяту

дыктатуру пралетарыяту выяўлялі гэта ў форме зраўнаньня сялянства
з пралетарыятам як роўназначных фактараў кіраўніцтва ў рэвалюцыі.
А хіба Бабарэкінскае разважаньне аб «вызваленьні беларускай душы»,
яе далейшым удасканаленьні ня выразна супроцьставіцца ленінскай пра-
блеме культурнай рэвалюцыі? Хіба ажыцьцяўленьне Бабарэкінскай
праблемы,—«вызваленьне беларускай душы», мэтай якой зьяўляецца
стварэньне «шчырага, сьвядомага, беларуса», г. зн. нацыянал-дэма-
кратычнага працаўніка, не супроцьставіцца ленінскай задачы культур-
най рэвалюцыі,—перавыхаваньня працоўных, выхаваньня з іх кля-
сава-сьвядомых актыўных будаўнікоў сацыялістычнай грамады? Па
мойму ў гэтых «выразах»... усё даволі выразна. І наўрад ці можна
гаварыць аб іх як аб чымсьці «нявытрыманым», лепш проста ска-
заць, што гэта чужое, варожае для нас. Уплывы дробна-буржуазнай
стыхіі, уплывы нацыянал-дэмакратызму на дробна-буржуазную, ся-
лянскую частку «Маладняка» знайшлі свае адлюстраваньне як у та-
гочаснай творчасьці маладнякоўцаў, так і ў маладнякоўскіх дакумен-
тах. Гэта праява адной з супярэчнасьцяй у шэрагах «Маладняка»,
праява клясавай дыфэрэнцыяцыі, якая пазьней знайшла выйсьце ў
заснаваньні новых літаратурных арганізацый, у іх сацыяльна-клясавым
напрамку.

Кажучы аб гэтых супярэчнасьцях, аб існаваньні з моманту ўзьнік-
неньня «Маладняка» асобных сацыяльна-клясавых тэндэнцый у ім
тав. Сянкевіч сьцьвярджае:

„Уласна кажучы ў „Маладняку“ ўжо з самага пачатку
яго існаваньня намячалися дзьве тэндэнцыі. Пераважная
частка маладнякоўцаў цьвёрда стаяла на пазыцыях Кас-
трычніка і разам з пралетарыятам змагалася за далей-
шае сацыялістычнае разьвіцьцё гаспадаркі і культуры
ў БССР“.

Другая частка «Маладняка» паводлуг т. Сянкевіча: «Успрыймае
Кастрычнік праз прызму адраджанізму, як бунтарскае паўстаньне ся-
лянства; яна ўспрыймае рэвалюцыю ў той меры, паколькі апошняя
разьвязала нацыянальнае пытаньне і спрыяла аднаўленьню і пад-
няцьцю сельскай гаспадаркі».

Перш чымся сказаць наколькі правільны гэтыя ўстаноўкі падамо
іншыя месцы з артыкулу т. Сянкевіча, якія датычацца характарыстыкі
«Маладняка» на тым этапе:

...„Усё гэта гаворыць аб тым, што „Маладняк“ на
гэтым этапе зьяўляўся ў асноўным дробна-буржуазнай,
у пераважнай меры сялянскай арганізацыяй рэвалюцый-
ных пісьменьнікаў“.

Далей т. Сянкевіч характарызуе маладнякоўскае кіраўніцтва галоў-
ным чынам у галіне адносін яго да такога пытаньня, як аб'яднаньне
з ВАПП'ам:

„Гэтаму ўваходу былое кіраўніцтва, пачынаючы ад
першага зьезду „Маладняка“ рабіла пасыўнае і актыўнае
супраціўленьне“...

..."Гэтым супрацiўленьнем былога кiраўнiцтва „Маладняка" i тлумачыцца тое, чаму аб'яднаньне „Маладняка" з пралетарскiмi лiтарганiзацыямi саюзу адбылося з некаторым спазьненьнем. I таму зусiм слушна кажа рэзалюцыя памянёнага вышэй сходу Менскай фiлii, што „У выніку палiтыкi ЦБ апошнiх часоў, „Маладняк", як лiтаратурная адзiнка сваё пярэдняе i моцнае месца ў лiтаратуры, як барацьбiта за рэвалюцыйную, за пралетарскую лiтаратуру, страцiў".

Адразу кiдаюцца ў вочы супярэчнасьцi ў гэтых характарыстыках «Маладняка». Паколькi «Маладняк» на тым этапе «зьяўляўся ў асноўным дробна-буржуазнай, у пераважнай меры сялянскай арганiзацыяй рэвалюцыйных пiсьменьнiкаў»,—пастолькi «пераважная частка маладнякоўцаў» не магла цьвёрда стаць на пазыцыях Кастрычнiка. Дробнай буржуазii i, у асноўным, дробна-буржуазнай арганiзацыi (калi не гаварыць аб паасобных прадстаўнiкох дробнай буржуазii) на этапе пралетарскай рэвалюцыi ў пэрыяд дыктатуры пралетарыяту ўласьцiвы менавiта дробна-буржуазныя хiстаньнi. Дзеля гэтага нельга сьцьвярджаць аб тым, што такая арганiзацыя цьвёрда стаiць на пазацыях Кастрычнiка. Той, хто хiстаецца, значыць ня цьвёрда стаiць. I таму з гэтых двух супярэчлiвых характарыстык «Маладняка» я павiнен адкiнуць, як няправiльную, тую, якая сьцьвярджае, што «пераважная частка маладнякоўцаў цьвёрда стаяла на пазыцыях Кастрычнiка. Нават маладнякоўскi кiруючы актыў, найбольш рэвалюцыйная яго на тым этапе частка таксама мусiць ня цьвёрда стаяла на пазыцыях Кастрычнiка паколькi, як слушна адзначае т. Сянкевiч, аказвала пасыўнае i актыўнае супрацiўленьне ўваходу «Маладняка» у ВАПП. Гэты ўваход бясспрэчна ўзмоцнiў-бы пазыцыi рэвалюцыйнай пралетарскай часткi «Маладняка». I для тых, хто стаяў цьвёрда на пазыцыях Кастрычнiка павiнна быць зразумелым неабходнасьць аб'яднаньня «Маладняка» з пралетарскiмi лiтаб'яднаньням СССР. Але ня толькi гэтае характарызуе маладнякоўскае кiраўнiцтва. Па шэрагу iншых актуальных i прынцыповых пытаньняў яно таксама ня выказала пралетарскай цьвёрдасьцi, а значыць i не стаяла цьвёрда на пазыцыях Кастрычнiка.

Тав. Сянкевiч таксама некрытычна прыняў пастанову сходу Менскай фiлii, у якой сьцьверджалася, што «Маладняк» сваё папярэдняе i моцнае месца ў лiтаратуры, як барацьбiта за рэвалюцыйную, за пралетарскую лiтаратуру страцiў». Справа ў тым, што гэткай ролi, гэткага «моцнага месца» барацьбiта за рэвалюцыйную i пралетарскую лiтаратуру «Маладняк» на тым этапе i не займаў. Ён ня здолеў заняць гэтага месца дзякуючы таму, што ў працэсе дыфэрэнцыяцыi, у працэсе клясавай барацьбы ўсё больш узмацнялася ў «Маладняку» нацыянал-дэмакратычная плынь, пачала ўбываць кволая пралетарская плынь, усё больш падпадала пад уплыў нацыянал-дэмакртызму i кiруючая частка «Маладняка». Аналiз дакумантаў «Маладняка» таго часу (як i аналiз маладнякоўскай творчасьцi), таксама i iншыя канкрэтныя, вядомыя нам, моманты з жыцьця i дзейнасьцi «Маладняка»,

якраз сьцьвярджаюць аб тым, што «Маладняк» на тым этапе выдатнай ролі барацьбіта за рэвалюцыйную, за пралетарскую літаратуру ня здолеў адыграць. І нават сам т. Сянкевіч у іншым месцы свайго артыкулу сьцьвярджае:

> „Гэтай ролі барацьбіта за гегемонію пралетарскай літаратуры „Маладняк“, апынуўшыся ў такім стане ня мог зьдзейсьніць і ня мог зьдзейсьніць галоўным чынам таму, што заставаўся ізаляваным, ня зьвязаным з пралетарскімі літаратурнымі арганізацыямі ў самай Беларусі „Юнгер Арбейтэр“, не абапіраўся на пралетарскія літарганізацыі ўсяго саюзу“.

Тут т. Сянькевіч, крыху пераацэньвае ролю самае сувязі з пралетарскімі арганізацыямі СССР. Практыка пралетарскага літаратурнага руху паказвае, што яшчэ да ўтварэньня ВАПП'а былі асацыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў у паасобных саюзных рэспубліках (РСФСР, Закаўказьзе), якія ня былі зьвязаны паміж сабою, аднак актыўна змагаліся за гегемонію пралетарскай літаратуры. Той факт, што «Маладняк» не аб'яднаўся з пралетарскімі пісьменьнікамі нацменшасьцяй БССР і з ВАПП'ам на тым этапе, зразумела дае пэўную характарыстыку «Маладняку», але гэта не галоўная прычына, чаму «Маладняк» ня мог зьдзейсьніць тады ролю барацьбіта за гегемонію пралетарскай літаратуры. Прычына тут дробна-буржуазная, папутніцкая сутнасьць пераважнай часткі тагочаснага творчага актыву «Маладняка».

Невычарпальнай зьяўляецца з гэтага пункту гледжаньня і наступная ўстаноўка т. Сянькевіча:

> „Мы ўжо раней адзначалі, што „Маладняк“, дзякуючы палітыцы нацыянальнай абмежаванасьці, якая праводзілася Дударом і інш., в былога кіраўніцтва, сваёй ролі перадавога барацьбіта за пралетарскую літаратуру ня мог зьдзейсьніць“.

Зноў такі палітыка нацыянальнай абмежаванасьці, якую ў «Маладняку» нельга звужаць да палітыкі Дудара, сьведчыць, аб дробна-буржуазнай сутнасьці тагочаснага «Маладняка», аб тым, што «Маладняк» ня быў у асноўным пралетарскай арганізацыяй: Ізноў такі, не стаяў цьвёрда на пазыцыі Кастрычніка.

Ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі пры дапамозе пралетарскай грамадзкасьці, рэвалюцыйныя элемэнты «Маладняка», на тым этапе займалі кіруючае становішча. Гэта надавала рэвалюцыйную афарбоўку і ўсяму «Маладняку». Кіруючая роля рэвалюцыйных элемэнтаў у «Маладняку» палягчалася і тым, што тады яшчэ ня было такой абвостранай клясавай барацьбы, ня было досыць глыбокай сацыяльна-клясавай дыфэрэнцыяцыі, не вызначаліся яшчэ так выразна сацыяльна-клясавыя кірункі ў творчасьці паасобных папутніцкіх і сялянскіх пісьменьнікаў у шэрагах «Маладняка». Але ўжо і тады прымалі ўдзел

у кіраўніцтве, карысталіся ўплывам такія маладнякоўцы, як Бабарэка, Дубоўка, Пушча, якія паступова адыходзілі ўсё далей і далей ад рэвалюцыйных пазыцый. Пры ўмовах моцнага рэвалюцыйнага, пралетарскага ядра ў «Маладняку», пры ўмовах, калі-б гэта ядро ўсьвядоміла-б выразна мэты і задачы барацьбы за пралетарскую літаратуру і цьвёрда ішло-б у гэтым кірунку, вядучы за сабой дробна-буржуазныя, папутніцкія і сялянскія элементы, «Маладняк», мог-бы ўжо тады стаць на шлях пралетарскай літаратуры. Але гэта не адбылося, бо ўмоў, аб якіх мы гаварылі, ня было.

Заблытвае пытаньне т. Сянькевіч і ў тым месцы, дзе гаворыць пра дыфэрэнцыяцыю ў «Маладняку»:

> ...„З другога боку, левая частка „Маладняка" ўсё больш і больш і ў творчасьці, і наогул у сваёй працы ідзе пад знаком напастоўцаў, змагаецца за пралетарскі шлях беларускай літаратуры".

Заблытана пытаньне ў тым сэнсе, што на першым этапе «Маладняка» яшчэ няма гэтай «левай часткі», якая «ідзе пад знакам напастоўцаў і змагаецца за пралетарскі шлях беларускай літаратуры». Тав. Сянкевіч сам-жа сьцьвярджае, што маладнякоўскае кіраўніцтва, у склад якога ўваходзілі тады якраз найбольш рэвалюцыйныя элементы хоць-бы сабе на пытаньне аб'яднацца з ВАПП'ам—дае адмоўны адказ, г. зн. ідзе супроць напастоўства. Значыць не тагочаснае маладнякоўскае кіраўніцтва зьяўляецца гэтай «левай часткай». Паасобныя пралетарскія пісьменьнікі маладнякоўцы, як Чарот на пазьнейшым этапе Александровіч, ня ідуць увесь час прасьцейшым шляхам барацьбы за пралетарскую літаратуру пад знакам напастоўства. Яны робяць збочаньне ў бок нацыянал-дэмакратызму і ўжо на пазьнейшым этапе (1929-30 гг.) уключаюцца ў барацьбу за пралетарскую літаратуру. Што датычыцца таго, маладнякоўскага актыву, які ў 1928 годзе забясьпечыў паварот «Маладняка» на пралетарскі шлях, які далей змагаўся за пралетарскую літаратуру, дык гэтыя таварышы выступаюць як пісьменьнікі наогул ужо ў пазьнейшым этапе, пачынаюць пісаць у 1925-26 г. і ў самым «Маладняку» удзельная вага іх творчасьці, іх роля наогул у той час яшчэ невялікая. Значыць гэтая пазьнейшая напастоўская плынь выступае актыўна ўжо ў другой палове адбудоўчага пэрыяду. Выхад з «Маладняка» ў канцы 1928 году былога маладнякоўскага кіраўніцтва—Чарот, Зарэцкі, Александровіч, Дудар і іншыя—у значнай меры дапамог хутчэйшаму выяўленьню і росту гэтай напастоўскай плыні, забясьпечыў ёй кіруючае становішча, высунуў на вольнае зараз, пярэдняе месца.

Трэба мець яшчэ на ўвазе, што пачынаючы з 1928 г., калі «Маладняк» стаў на пралетарскі шлях і рэарганізаваўся ў БелАПП адбываюцца і значныя зьмены ў яго складзе. Значная частка маладнякоўцаў выключаецца з аб'яднаньня, як носьбіты нацыянал-дэмакратыч-

най ідэалёгіі (Ул. Жылка, А. Купцэвіч, Сымон Хурсік, М. Касьпяровіч, Ю. Гаўрук), або як прадстаўнікі літаратурнай богэмы (Ул. Хадыка, М. Нікановіч). Адначасова ў парадку кансалідацыі пралетарскіх сіл адбываецца павялічэньне белапаўскага актыву за кошт новых таварышоў, якія ня былі ў ранейшым складзе «Маладняка» (Іл. Гурскі, Р. Кобец, Я. Ліманоўскі, А. Салагуб, Бэндэ, Канакоцін, Сянкевіч і іншыя). Гэта значна зьмяняе суадносіны ўнутры «Маладняка»—БелАПП'а, узмацняе пралетарскі актыў, яго кіруючую ролю. Пазыцыя пралетарскай літаратуры вельмі ўзмацнілася і тым, што «Маладняк»—БелАПП увайшоў у склад ВАПП'а, выступаў адзіным фронтам з пралетарскай літаратурай СССР супроць клясава-варожых элемэнтаў. Так стаіць пытаньне з ростам калгастоўскай плыні ўнутры «Маладняка».

Ня зусім дакладна характарызуе т. Сянкевіч і другую плынь у «Маладняку», кажучы, што яна: «Успрымае Кастрычнік праз прызму адраджанізму, як бунтарскае паўстаньне сялянства» і прымае рэвалюцыю ў той меры, «паколькі апошняя разьвязала нацыянальнае пытаньне і спрыяла аднаўленьню і падняцьцю сельскай гаспадаркі».

Няправільна, папершае, таму, што адраджанізм для гэтай часткі ня быў асноўнай мэтай, а толькі адным са сродкаў для дасягненьня мэты. Няправільна, падругое, таму, што гэтыя элемэнты ня былі здаволены вырашэньнем нацыянальнага пытаньня так, як яе вырашыў пралетарыят пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі. Стварэньне Беларускай дзяржавы, як дзяржавы дыктатуры пралетарыяту, будаўніка беларускай культуры не магул, а культуры нацыянальнай па форме, пралетарскай, сацыялістычнай па зьмесьце не магло здаволіць прадстаўнікоў гэтае плыні, бо такое вырашэньне нацыянальнага пытаньня адпавядала інтарэсам пралетарыяту і асноўным бядняцка-серадняцкім масам сялянства, інтарэсам, якіх гэтая плынь не прадстаўляла. Што датычыцца «падняцьця сельскай гаспадаркі», дык гэтую плынь яно цікавіла пастолькі, паколькі нэп дае пэўную магчымасьць разьвівацца і заможніцкай, кулацкай гаспадарцы. Таму гэтую плынь у «Маладняку» мы можам характарызаваць, як плынь больш ці менш выразна, нацыяналь-дэмакратычную. На першым этапе «Маладняка» гэтая плынь яшчэ ня досыць выразная і моцная, паступова ўзмацняецца, прыходзіць пазьней да стварэньня «Узвышша», выяўляецца ў творчасьці большай часткі ўзвышэнцаў і некаторых маладнякоўцаў, накладае адбітак свайго ўплыву на маладняковскае кіраўніцтва (якое існавала да 1927 году). І т. Сянкевіч, ужо крыху ніжэй, выказваецца больш выразна, гаворачы пра нэп, які «адпавядаў настроям гэтай часткі «Маладняка», паколькі шоў на гэтым этапе ўздым усяе гаспадаркі, у тым ліку і капіталістычных элемэнтаў». Тут трэба папраўіць, перш за ўсё, самую фармуліроўку: «паколькі на гэтым этапе адбываўся ўздым усяе гаспадаркі ў тым

ліку і пэўны абсалютны рост капіталістычных элемэнтаў, пры зьменшаньні іх ролі ў параўнаньні з шпаркім ростам сацыялістычных элемэнтаў». Дык якому, спытаемся ў т. Сянкевіча, з гэтых супярэчлівых працэсаў росту спачувала гэтая частка «Маладняка»? Або яны спачувалі ўзьняцьцю і росту фабрык і заводаў, калгасаў і саўгасаў, камун,—росту, які вызваляў бядняцкія масы ад кулацкай залежнасьці і эксплёатацыі, дык тады яны не маглі спачуваць росту кулацкіх элемэнтаў гаспадаркі. Або яны наадварот спачувалі ўзмацненьню кулацкай гаспадаркі, узмацненьню капіталістычных элемэнтаў, дык гэта ізноў такі вызначае іх адмоўныя адносіны да дабрабыту бядняцкіх элемэнтаў вёскі. Спачуваць адначасова росту ўсяе гаспадаркі пры супярэчлівых тэндэнцыях гэтага росту немагчыма. Пытаньне патрабуе выразнага адказу. Праўдзівей, што гэтая частка маладнякоўцаў прымала палітыку савецкай улады—нэп у той яе частцы, у якой яна давала магчымасьць для ўзмацненьня і пэўнага росту кулацкай гаспадаркі.

Варта яшчэ разабрацца і ў гэткай ацэнцы дыфэрэнцыяцыі «Маладняка», якую дае т. Сянкевіч:

> „Сацыяльны склад „Маладняка“ быў значна разнародны. Гэтыя неаднолькавыя па сацыяльнай прыродзе элемэнты былі зьнітаваны суб'ектыўнай рэвалюцыйнасьцю, рамантыкай рэвалюцыйнай барацьбы,—як правільна адзначае тав. Галавач у артыкуле „Пяць нашых год“. Гэты склад хаваў у сабе патэнцыяльныя магчымасьці сацыяльнага на клясавых пазыцыях разьмежаваньня ў далейшым“.

І тут т. Сянкевіч некрытычна запазычыў думку ў Галавача. Дапусьцім, што тав. Сянкевічу і Галавачу былі добра вядомы «суб'ектыўныя» настроі маладнякоўцаў і яны сьцьвярджаюць, што гэта былі настроі якраз рэвалюцыйныя. Дык чаму гэтыя суб'ектыўна-рэвалюцыйныя настроі, якія зьнітоўвалі, г. зн. цесна аб'ядноўвалі маладнякоўцаў, не ператварыліся ў аб'ектыўна-рэвалюцыйную творчасьць і чыннасьць гэтых маладнякоўцаў? Ці можа былі такія аб'ектыўныя прычыны, якія ня далі магчымасьці гэтым суб'ектыўна-рэвалюцыйным настроям зьдзейсьніцца: «Суждены вам благие порывы, но свершить их вам не дано»,—як піша паэта пра дэкабрыстаў. Мне здаецца, што ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту ёсьць шырокія магчымасьці для разьвіцьця, для зьдзейсьненьня суб'ектыўна-рэвалюцыйных настрояў, для пераключэньня іх у аб'ектыўную рэвалюцыйную дзейнасьць. І калі ўжо ўступаць у спрэчкі аб «суб'ектыўным», якое не паддаецца досьледам,—паколькі яно ня мае пэўнага рэальнага аб'ектыўнага выяўленьня,—дык варта сказаць, што пэўна побач з гэтай «суб'ектыўнай рэвалюцыйнасьцю» ў маладнякоўцаў існавалі і суб'ектыўныя анты-рэвалюцыйныя, г. зн. у той ці іншай меры нацыянал-дэмакратычныя настроі, што паміж гэтымі супярэчлівымі настроямі адбывалася пэўная барацьба, што сацыяльна клясавыя пра-

цэсы, якія адбываліся ў краіне, рабілі ўплыў на маладнякоўцаў, што гэтым абумоўліваліся дробна-буржуазныя хістаньні іх, што дробна-буржуазная сутнасьць гэтых пісьменьнікаў, сувязь іх з дробна-буржуазным асяродзьдзем, а таксама вышэйадзначаныя прычыны, спрыялі, на далейшым этапе ўзросту антыпралетарскіх нацыянал-дэмакратычных настрояў, якія атрымалі і адпаведнае, аб'ектыўнае, рэальнае выяўленьне. Толькі згадзіўшыся з усімі гэтымі прычынамі клясавай дыфэрэнцыі ў «Маладняку», мы зразумелі ўсёткі чаму, ня гледзячы на «суб'ектыўную рэвалюцыйнасьць», якую чамусь ведаюць Сянкевіч і Галавач, значная частка маладнякоўцаў аб'ектыўна, на справе леньнем, справа даволі няўдзячная.

Ва ўсякім выпадку, апэрыраваць нашым дасьледчыкам чыста «суб'ектыўнымі» матывамі, па-за іх аб'ектыўным рэальным выяўленьнем, справа даволі ня ўдзячная.

Тав. Сянкевіч кажа, што: «Разгортваньне і абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне, абвастрэньне гэтае барацьбы на ідэалёгічным фронце вымагала ад «Маладняка» вядучай ролі ў гэтай барацьбе, вымагала актыўнага наступу на варожыя элемэнты». І, гэтую ролю «Маладняк» ня выканаў па прычынах, аб якіх тут ужо гаварыў ня досыць выстарчальна і дакладна тав. Сянькевіч. Перш чымся вымагаць ад «Маладняка» гэтай ролі т. Сянкевічу варта было-б адказаць на пытаньне: якім быў «Маладняк», як літаратурная арганізацыя, на першым этапе свайго існаваньня аж да 1928 году. Калі ён быў у асноўным пралетарскай арганізацыяй, дык тады сапраўды можна было-б сьцьвярджаць, што абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне: «вымагала ад «Маладняка» вядучай ролі ў гэтай барацьбе, вымагала актыўнага наступу на варожыя элемэнты». Але сам тав. Сянкевіч у адной з сваіх установак (праўда яна супярэчыць другой установцы таго-ж Сянкевіча), кажа, што «Маладняк» быў «... У асноўным, дробна-буржуазнай, у пераважнай меры сялянскай арганізацыяй рэвалюцыйных пісьменьнікаў». Паколькі гэта так, дык на такую арганізацыю нельга ўскладваць «вядучую ролю ў барацьбе з клясававарожымі элемэнтамі»—бо, калі-б «Маладняк» як папутніцкая ў асноўным арганізацыя і ўзяўся-б і пачаў змагацца, дык нельга быць упэўненым, што гэтую барацьбу ён павядзе ў патрэбным для пралетарыяту кірунку.

«Адгэтуль,—піша далей тав. Сянкевіч,—паўстала неадкладнае заданьне кансалідацыі пралетарскіх сіл на літаратурным фронце, адгэтуль і вышэйпамянёная рэзалюцыя Менскай філіі «Маладняка», якая падтрымана іншымі акруговымі філіяламі і прывяла да скліканьня канфэрэнцыі «Маладняка» і яго ўступленьня ў шэрагі ВОАПП». Дык ізноў-такі выходзіць, што толькі дзеля таго, што «паўстала заданьне» (такое заданьне існавала ўвесь час), дык «Маладняк» адной, другой рэзалюцыяй і вырашыў яе дадатна. Як быццам у «Маладняку» нічога не адбылося такога, што забясьпечыла магчымасьць

выкананьня гэтага «заданьня», менавіта ў 1928 годзе, а не раней і не пазьней. Прычыны гэткія аднак былі. Выхад з «Маладняку» былога маладнякоўскага кіраўніцтва на чале з Чаротам даў магчымасьць напастоўскай плыні ў «Маладняку» яшчэ даволі слабай у той час, узмацніць сваю ролю ў шэрагах «Маладняка», заняць кіруючае становішча і акрэсьліць выразна свае пралетарскія пазыцыі. Посьпехі пралетарскага літаратурнага руху ў СССР, выхады з «Маладняка», якія выяўлялі анты-пралетарскія нацдэмаўскія тэндэнцыі, дапамагло гэтай частцы маладнякоўцаў акрэсьліць больш выразна свае пралетарскія пазыцыі і моцна стаць на іх.

Калі (як я ўжо гаварыў вышэй) тав. Сянкевіч пераацэньвае ўваход «Маладняка» ў ВОАПП, як галоўную прычыну, як галоўную ўмову пасьпяховай барацьбы за гегемонію пралетарскай дыктатуры, дык у другім месцы ён сваясаблива змазвае ролю стварэньня БелАПП'а,—калі піша: «Наяўнасьць яўрэйскай групы пралетарскіх пісьменьнікаў, а таксама ўзьнікненьне групы польскіх пралетпісьменьнікаў ставіць у парадак дня пытаньне аб арганізацыі Беларускай Асацыяцыі Пралетарскіх пісьменьнікаў». Выходзіць, што «Маладняк» або новае маладнякоўскае кіраўніцтва толькі аформіла, зафіксавала тое, што ўжо існавала. Уявім сабе на хвіліну, што груп пралетарскіх пісьменьнікаў нацменшасьцяй яшчэ ня было. Значыць ня было-б і БелАПП? Зусім ня так. Новае маладнякоўскае кіраўніцтва стаўшы на пралетарскі шлях павінна было прыймаць захады, каб ператварыць «Маладняк» у беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў незалежна ад таго, існавалі ці не сэкцыі пралетарскіх пісьменьнікаў нацменшасьцяй. Тав. Сянкевічу ня варта забываць, што хоць не існавала арганізацыйна-аформленых груп латыскіх, літоўскіх і расійскіх пралетарскіх пісьменьнікаў, аднак «Маладняк»—БелАПП тады прыймаў захады да арганізацыі іх, як сэкцыі БелАПП'а. Нарэшце і сама арганізацыя БелАПП'а не адбывалася без барацьбы ў шэрагах тагочаснага «Маладняка». Варта толькі ўспомніць, што на першым зьезьдзе БелАПП'а адбывалася вакол пытаньня арганізацыі БелАПП'а даволі выразная барацьба, хоць тая частка, што выступала супроць стварэньня БелАПП'а маскавала свае погляды прыхільнасьцю да мінулых маладнякоўскіх традыцый, жаданьнем толькі нібы-та пакінуць надалей назву «Маладняка».

Далей характарызуючы ўжо БелАПП Сянкевіч піша:

> „У выніку заклiку рабочых ударнікаў у літаратуру значна зьмяняацца самы склад у арганізацыі—БелАПП ператвараецца ў сапраўды пралетарскую літарганізацыю з моцным асяродкам рабочых ударнікаў ад станка“.

Па Сянкевічу выходзіць, што да заклiку рабочых ударнікаў БелАПП быў не сапраўднай, а нібыта толькі ўмоўна пралетарскай арганізацыяй. Гэта няправільна. І да заклiку рабочых-ударнікаў

БелАПП па свайму напрамку, па творчасьці свайго асноўнага кіруючага ядра быў сапраўднай пралетарскай літаратурнай арганізацыяй. Той факт, што ў шэрагах БелАПП'а была значная частка яшчэ непралетарскіх пісьменьнікаў, пісьменьнікаў-папутнікаў, значная частка яшчэ ня досыць выяўленага літаратурнага «Маладняка», не зьмяняе становішча. Па-першае вядучая роля належыць у «Маладняку» і ў БелАПП'е пралетарскай часткі, якая вядзе за сабой і гэтыя папутніцкія элемэнты. Па-другое, ня трэба забываць, што яшчэ ў 1925 годзе пралетарская літаратура адкінула погляд тагочаснай «левай» часткі ВАПП'а, якая лічыла, што пралетарская літаратурная арганізацыя павінна складацца (па аналёгіі з партыяй) толькі з аднадумцаў. Пралетарская літаратура стала на шлях стварэньня масавых літаратурных арганізацый, якія павінны былі перавыхаваць у сваіх шэрагах літаратурны «Маладняк» унутраных папутнікаў. Заклік рабочых-ударнікаў, як адна з надзвычайна актуальных праблем пралетарскага літаратурнага руху, зразумела ўзмацняе пралетарскія літаратурныя арганізацыі, павялічвае рабочы асяродак. У іншым месцы і т. Сянкевіч дае на гэтае пытаньне правільны адказ:

> „Пралетарская арганізацыя беларускіх пісьменьнікаў (ня толькі беларускіх *Л. Я.*) БелАПП,—узмацніўшы свае рады заклікам ударнікаў у літаратуру, усё больш заваёўвае ролю гегемона на літаратурным фронце".

Тут, як бачым, ужо не гаворыцца, што толькі заклікам рабочых ударнікаў БелАПП становіцца сапраўды пралетарскай літаратурнай арганізацыяй, але «ўзмацніўшы свае рады», «больш заваёўвае ролю гегемона».

Характарызуючы творчы шлях нацыянал-дэмакратычных беларускіх пісьменьнікаў т. Сянкевіч кажа:

> „Гэты попыт даць кароткі нарыс гісторыі беларускіх літаратурных арганізацый паказвае, што падобна таму, як творчасьць паасобнага пісьменьніка, які не ідзе ў ногу за пралетарскай грамадзкасьцю, ахвяравана на выраджэньне, так і паасобныя пісьменьніцкія арганізацыі ўступіўшы на няправільны, варожы сучаснасьці шлях, ахвяраваны на нябыт і гніеньне".

Гэтая ацэнка цалкам мэханістычная. Яна нагадвае вядомую памылку люксэмбургіянцаў наконт сваясаблівага аўтаматычнага працэсу разлажэньня капіталізму. Зразумела, што ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, ва ўмовах росту пралетарскай літаратуры забясьпечаны спагадныя ўмовы да пасьпяховага змаганьня з варожымі пралетарскай літаратуры элемэнтамі. Аднак, заняпад і разлажэньне гэтых анты-пралетарскіх элемэнтаў не адбываецца так мэханічна, як яно ўяўляецца т. Сянкевічу. Пралетарская літаратура тут не зьяўляецца толькі ў

ролі таго далакопа, які падбірае нябожчыкаў са шляху, рашчышчае яго, закапваючы разлажыўшыхся ўжо нябожчыкаў.

Канкрэтная рэчаіснасьць, канкрэтныя абставіны клясавай барацьбы ў беларускай літаратуры паказваюць, што гэта ня так. БелАПП'у давялося вытрымаць жорсткую барацьбу з літаб'яднаньнямі «Узвышша», «Полымя», з нацыянал-дэмакратычнымі элемэнтамі (і ня толькі з імі) у літаратуры. Гэтыя нацыянал-дэмакратычныя і іншыя варожыя элемэнты захоўвалі сябе даволі ваяўніча, даволі актыўна, давалі нацыянал-дэмакратычныя анты-пралетарскія творы, якім нельга адмовіць у іх мастацкасьці. Арыентацыя на такое мэханістычнае разлажэньне і загніваньне варожых пралетарыяту элемэнтаў толькі зьмяншае клясавую пільнасьць, зьмяншае ўвагу, недаацэньвае неабходнасьць барацьбы з імі, зьмяншае шкоднасьць і небясьпеку іх. Варта мець на ўвазе, што нават сам працэс разлажэньня буржуазных элемэнтаў (вынікам якога між іншым, зьяўляюцца і праявы літаратурнай богэмы, упадніцтва і г. д.) таксама небясьпечны, паколькі можа аказваць пэўны ўплыў і на больш хісткія элемэнты з асяродку папутнікаў.

Зараз пяройдзем да іншых, больш дробных памылак у артыкуле т. Сянкевіча. Характарызуючы творчасьць маладнякоўцаў на першым этапе ён піша:

> „Песьні маладнякоўцаў, гэта поўныя веры ў перамогу, бадзёрыя песьні новага бурлівага жыцьця. Аб гэтым найлепш гавораць назвы зборнікаў з кніжніцы, выдаваныя „Маладняком“, такія як „Сьвітаньні“, „Песенны хмель“, „Камсамольская нота“, „Чорнакудрая радасьць“, „Сонечнымі сьцежкамі“, „Пела вясна“, „Суніцы“, „Веснаход“, „Радасьць“ і г. д.

Ніякім чынам нельга гаварыць, пра ўсе песьні маладнякоўцаў, як песьні «поўныя веры ў перамогу, бадзёрыя песьні новага бурлівага жыцьця». Зусім непераканальна т. Сянкевіч абгрунтоўвае гэтую думку толькі назовамі зборнікаў маладнякоўскай кніжніцы. Так падыходзіў да пытаньня, як вядома і Бабарэка, крытыкуючы старэйшых пісьменьнікаў: там, бач, «Безназоўная», «Трэскі на хвалях» і інш., а тут г. значыць з маладнякоўскага боку «Веснаход», «Сьвітаньне» ды іншае. Каб. т. Сянкевіч захацеў-бы глянуць у гэтыя зборнікі глыбей іх вокладкі, дык ён знайшоў-бы ў іх шмат песень упадніцкіх, дробна-буржуазных песень, якія сьведчылі-б якраз аб неразуменьні аўтарамі іх «новага бурлівага жыцьця». Да творчасьці маладнякоўцаў патрэбна падыходзіць улічваючы супярэчнасьці ў шэрагах «Маладняка» дыфэрэнцыяцыю, якая адбывалася ў ім. Гэтае становішча адбівалася і ў творчасьці і няма падстаў агульна сьцьвярджаць, што песьні маладнякоўцаў былі «поўны веры ў перамогу».

Тав. Сянкевіч, характарызуючы ролю пралетарскай літаратуры, піша:

> „Гісторыя літаратуры і літаратурных арганізацый за апошнія дзесяць год адначасова паказвае рост і пашырэньне ўплываў пралетарскай літаратуры. Апошняя заняла вядучую ролю ва ўсіх напрамках. Творчасьць маладых пралетарскіх пісьменьнікаў (Александровіч, Галавач і інш.) становіцца вядучай і ў мастацкіх адносінах„.

Тав. Сянкевіч павінен памятаць, як на пленуме ВОАПП'а ў маі 1931 году т. Бэндэ выступіў са сьцьверджаньнем, што беларуская пралетарская літаратура зьяўляецца вядучай ужо стасоўна да папутніцкай і ў мастацкіх адносінах. Тав. Бубноў, які пільна сачыў за працамі пленуму па стэнаграмах, спасылаючыся на сваё знаёмства з беларускай літаратурнай рачаіснасьцю, пры поўным спачуваньні ўсяго пленуму выступіў з абвяржэньнем гэтае думкі, разглядаючы яе як пераацэнку сваіх сіл, як праяву, сваясаблівага «пралетчванства». Прэзыдыуму пленуму давялося выручаць беларускую дэлегацыю рэплікай, што гэтых поглядаў ўся беларуская дэлегацыя не падзяляе. Праўда, т. Сянкевіч крыху «звузіў» гэтую думку заяўляючы, што становіцца вядучай у мастацкіх адносінах толькі творчасьць Галавача, Александровіча і інш. Мы ня можам сьцьвярджаць, што мастацкасьць у творчасьці беларускіх папутнікаў зьяўляецца не дасягнутай яшчэ пралетарскай літаратурай. Паасобныя пралетарскія пісьменьнікі ў мастацкіх адносінах стаяць вышэй за паасобных папутніцкіх пісьменьнікаў і наадварот. Але абагульняць гэта як робіць т. Сянкевіч і сьцьвярджаць, што творчасьць памянёных пралетарскіх пісьменьнікаў стаіць ужо на такой вышыні ў мастацкім сэнсе, што зьяўляецца вядучай для ўсёй літаратуры значыць рабіць памылку і аказваць кепскую паслугу самой пралетарскай літаратуры. Гэта фактычна няправільна, гэта зьяўляецца сваясаблівай праявай літаратурнага «пролетчванства» аб чым і гаварыў т. Бубноў.

Ня зусім набліжаецца да рэчаіснасьці т. Сянкевіч, калі ў іншым месцы свайго артыкулу сьцьвярджае, што «З самага пачатку існаваньня «Маладняка» поруч з пралетарскай плыньню (Чарот, Александровіч) плынь дробна-буржуазная, сялянская...» і г. д. Творчасьць Александровіча толькі значна пазьней можна залічаць да пралетарскай плыні. З самага пачатку існаваньня «Маладняка» яна яшчэ не зьяўляецца пралетарскай.

Няма выразнасьці і ў гэткім сьцьверджаньні, што нібы-та выхад з «Маладняка» кіруючай групы—Чарот, Зарэцкі, Дудар, Александровіч і інш.—прывёў да разлому ў радох. «Маладняка», які найбольш балюча адбіўся на жыцьці арганізацыі». У якім сэнсе мы можам гаварыць, што гэты выхад «балюча адбіўся», калі пасьля яго «Маладняк»

павярнуў рашуча на пралетарскі шлях, прышоў да стварэньня БелАПП'а. З якога пункту гледжаньня можна сьцьвярджаць, што выхад з аб'яднаньня тых таварышоў, якія збочылі з пралетарскага шляху, «балюча адбіўся на жыцьці арганізацыі». Зразумела было-б лепш, каб яны павярнулі-бы на пралетарскі шлях і разам з іншымі змагаліся за пралетарскую літаратуру. Але было-б горш, каб яны знаходзячыся ў шэрагах «Маладняка», займаючы кіруючае становішча, не дапушчалі-б да павароту на пралетарскі шлях усёй арганізацыі. Сам-жа Сянкевіч зазначае прычыны выхаду:

> „Трэба сказаць, што гэтыя прычыны былі больш глыбокага характару—яны былі ў тым, што мікробам нацыяналістычнай хваробы была заражона і частка сяброў былога кіраўніцтва „Маладняка" (Зарэцкі, Глыбоцкі, часткова Александровіч). Нацыяналістычныя тэндэнцыі ў гэтай групе асабліва рэзка выявіліся, калі паўстала пытаньне аб уступе „Маладняка" ў аб'яднаньне пралетарскіх пісьменьнікаў (ВОАПП)".

Дык пры такіх умовах было-б больш «балюча», каб гэтая частка заражаная мікробамі нацыяналістычнай хваробы, астаўшыся ў «Маладняку» пашырыла-б гэтую хваробу на большую колькасьць сяброў аб'яднаньня.

Сянкевіч у сваім артыкуле адзначае: «Значны ідэёвы і мастацкі ўзрост рабочых паэтаў, як Зарэцкі»... Тут гутарка ідзе, канечне, не аб Міхасю Зарэцкім, а аб Зарыцкім. Па мойму Зарыцкі, якраз не характэрны, ня тыповы, як рабочы паэта. Зарыцкі з дробна-буржуазнай, інтэлігенцкай сям'і нядаўна паступіў на Бабруйскі дрэваапрацовачны камбінат. Друкавацца Зарыцкі пачаў ва «Ўзвышшу» і меў, здаецца, нахіл залічыцца ў гэтае аб'яднаньне, але Бабруйская філія БелАПП пасьпяшалася яго залічыць у свой склад. Аднак у працы Бабруйскай філіі БелАПП'у Зарыцкі, ня гледзячы на патрабаваньне яе кіраўніцтва, бадай што ня прымаў ніякага ўдзелу. Нават у працы літгуртка на дрэваапрацовачным камбінаце. У гэткім сэнсе Зарыцкага і нельга высоўваць, як тыповага рабочага паэту. Магчыма т. Сянкевіч пра ўсё гэта ня ведаў, але тады нельга пісаць пра паасобныя факты гісторыі літаратурных аб'яднаньняў, ня ведаючы іх.

Заклікаючы аказаць асаблівую ўвагу літаратурнаму аб'яднаньню БелЛАЧАФ Сянкевіч кажа, што гэтая арганізацыя надзвычайна патрэбная: «асабліва ў БССР, дзе БелЛАЧАФ мае шырокія перспэктывы для свайго разьвіцьця». Мне здаецца, што і ў іншых саюзных рэспубліках БелЛАЧАФ мае ня менш шырокія перспэктывы, паколькі ёсьць там Чырвоная армія, ёсьць небясьпека імпэрыялістычнага нападу на СССР, ёсьць у шэрагах Чырвонай арміі і ў літаб'яднаньнях пісьменьнікі, якія сваёй творчасьцю дапамагаюць узмацненьню абароназдольнасьці краіны.

Ацэньваючы працу БелАПП'а, ягоную барацьбу за ўплыў на папутнікаў, т. Сянкевіч піша:

„Барацьба за нашых спадарожнікаў у мэтах ператварэньня ў саюзьнікаў пралетарскай літаратуры ўвесь час праводзілася БелАПП'ам. Шляхам бальшавіцкай сяброўскай самакрытыкі цэлы рад спадарожнікаў з правага лягеру, асабліва „Узвышша“, усё больш і больш пераключаюцца на пазыцыю рэвалюцыйнага папутніцтва, каб далей перайсьці на пазыцыі саюзьнікаў пралетарскай літаратуры“.

Што датычыцца «спадарожнікаў з правага лягера», правага лягеру ў літаратуры, дык па-першае, пісьменьнікаў правага лягера мы не залічваем у спадарожнікі, а па-другое ня было фактычна такога працэсу, каб «цэлы рад гэтых» пісьменьнікаў пераключыўся-б на пазыцыі рэвалюцыйнага папутніцтва. Наадварот, большая частка пісьменьнікаў правага лягера апынулася на пазыцыі беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму. Сёньняшнія папутнікі належылі якраз да левага крыла літаратурных аб'яднаньняў «Полымя» і «Ўзвышша».

Тав. Сянкевіч ня зусім самакрытычна падыходзіць да ацэнкі беларускай крытыкі, залічаючы яе цалкам да «бальшавіцкай сяброўскай самакрытыкі». Тав. Сянкевічу, як белаппаўцу, у парадку самакрытыкі варта было адзначыць, што ў белаппаўскай крытыцы мелі месца таксама і «левацкія», а значыць небальшавіцкія, не сяброўскія праявы самакрытыкі, а перагібы ў адносінах да папутнікаў, перагібы, якія ніяк ня спрыялі пераводу іх на пазыцыю саюзьнікаў пралетарскай літаратуры. Затым трэба мець на ўвазе, што гэты працэс пераходу адбываецца ня толькі ў выніку «бальшавіцкай сяброўскай самакрытыкі» памылак і хістаньняў у творчасьці папутнікаў. Сацыяльна-клясавыя працэсы, што адбываюцца ў нашай краіне, а менавіта пасьпяховы шпаркі рост сацыялістычнага будаўніцтва, пачэсная роля і шырокія магчымасьці для савецкіх пісьменьнікаў для тых пісьменьнікаў і культурных працаўнікоў, інтэлігентаў, якія шчыра хочуць удзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве на карысьць пралетарыяту. З другога боку крызіс і занепад буржуазнай культуры ў капіталістычных краінах прыніжаная роля культурных інтэлігенцкіх работнікаў, як наёмных служак буржуазіі, там у капіталістычных краінах. Усё гэта ня можа не рабіць уплыву на папутнікаў, ня можа ня штурхаць іх у кірунку пазыцыі саюзьнікаў пралетарскай літаратуры.

Ня будзем спыняцца на іншых неадкладнасьцях у артыкуле т. Сянкевіча. Гэтых недакладнасьцяй і памылак багата, дзякуючы чаму аўтар не зрабіў вялікай паслугі для правільнага высьвятленьня гісторыі літарганізацыяй БССР. Пры больш пільнай увазе т. Сянкевіч мог-бы сам заўважыць, як адны ўстаноўкі ягонага артыкулу супярэчылі другім.

Папраўкі, якія я зрабіў ня вычэрпваюць пытаньня. Яны павінны яшчэ раз напомніць, што гісторыя літаратурных арганізацый БССР патрабуе яшчэ вывучэньня і дакладнага высьвятленьня і ацэнкі. Гэта зьяўляецца неабходным дзеля правільнай ацэнкі мінулага, правільнага аналізу праяў клясавай барацьбы ў беларускай літаратуры, гэта дапаможа беларускім пісьменьнікам найбольш пасьпяхова выканаць задачы, што пастаўлены пастановамі ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка г. г. і ЦК КП(б)Б ад мая г. г.

Адказны рэдактар **П. Галавач.**

*Рэдкалегія:* **Бацюшкаў, Бронштэйн, Галавач, Гальперын, Жылуновіч, Залатухін, Клімковіч, Колас, Крапіва, Лынькоў, Платун, Чорны.**

*Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# ЗЬМЕСТ

